АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВЯСЕЛЛЕ

## ПЕСНІ

У шасці кнігах

КНІГА 1

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1980

Складальнік **Л. А. Малаш**

Музычны дадатак **З. Я. Мажэйка**

Рэдактары тома:
**М. Я. Грынблат, А. С. Фядосік**

В 99 **Вяселле.** Песні ў шасці кнігах. Кн. 1 /[Склад. Л. А. Малаш; Муз. дадат. З. Я. Мажэйка; Рэд. М. Я. Грынблат, А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1980.— 680 с., нот. іл.— (Беларус. нар. творчасць /АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У пер.: 3 р. 10 к.

У томе змешчаны беларускія вясельныя песні варучын і ад'езду маладога да маладой. Пераважная колькасць іх сабрана ў час фальклорных экспедыцый, пачэрпнута в архіваў і розных выданняў XIX—XX стст. Збору папярэднічае агульная прадмова, у якой даецца характарыстыка песень усяго вясельнага цыкла, а таксама ўступны артыкул да дадзенага тома. У канцы падаюцца каментарыі і музычны дадатак.

**В $\frac{70700—186}{М316—80}$ 144—80 4702120000**

**ББК 82. 3 Бел-6**
**Бел Ф**

# ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ

Вяселле — выключная з'ява ў беларускім фальклоры. Ні адна падзея ў сямейным жыцці селяніна не суправаджаецца такой паслядоўнай сістэмай абавязковых абрадаў і песень, як вяселле. Яго багацце і жывучасць тлумачацца вялікай значымасцю ў жыцці народа вясельнай абраднасці, звязанай з асноўнай умовай існавання народа — яго ўзнаўленнем. Вясельная паэзія беларусаў — самая багатая сярод вясельнага фальклору іншых славянскіх народаў. Яна суправаджае ўвесь абрад вяселля і тэматычна адпавядае кожнаму з яго этапаў, пачынаючы з заручын і канчаючы пярэзвамі. Па-за вяселлем, якое з'яўлялася юрыдычным актам зацвярджэння новай сям'і, вясельныя песні не маюць сэнсу і не выконваюцца, бо іх функцыя і тэматыка непадзельныя.

Беларускія вясельныя песні XIX і XX стст., якія ўваходзяць у гэты збор, захоўваюць шмат архаічных элементаў і вызначаюцца высокімі мастацкімі якасцямі. Вялікая колькасць старажытных рыс у іх тлумачыцца ў першую чаргу шырока развітым у беларусаў хатнім культам продкаў [1]. Багацце і развітасць беларускага вяселля вынікаюць з прававой сілы яго сімвалічных працэдур, якія павінны былі абавязкова выконвацца пры сведках (родзе, продках); такія дзеянні адыгрывалі функцыю дакумента аж да пачатку XX ст. Шлюб у народзе не з'яўляўся справай асабістай. «...Племя, род і іх установы былі свяшчэннымі і недатыкальнымі, былі той дадзенай ад прыроды вышэйшай уладай, якой асобны чалавек заставаўся безумоўна падпарадкаван у сваіх пачуццях, думках і ўчынках» [2]. Род даваў сваю санкцыю на шлюб пры дапамозе рытуальных дзеянняў, песень, прыгавораў, якія ўзаконьвалі маёмасныя, этычныя правы і адносіны, абавязкі маладых людзей. Вясельная паэзія з'яўлялася праяўленнем няпісанага звычаёвага права, бо даводзіла да ведама грамадскасці ход вяселля ад этапа да этапа, замацоўваючы новыя сямейныя адносіны паміж уступаючымі ў шлюб. Ужо самыя першыя песні беларускага вясельнага абраду — заручынныя, у якіх зацвярджаецца згода маладой на шлюб, выконваюць функцыю апавяшчэння і выступаюць «як сродак бытавога юрыдычнага змацавання грамадскага акта, які адбываецца» [3] «пры роду, пры племені, пры матцы, пры бацьку».

У беларускіх вясельных песнях выразна выказваюцца адносіны роду да

---

[1] Никольский Н. М. Происхождение белорусской свадебной обрядности.— Мн., 1956, с. 46.
[2] Маркс К., Энгельс Ф. Соч., изд. 2-е, т. 21, с. 99.
[3] Аникин В. П. Календарная и свадебная поэзия.— М., 1970, с. 82.

ўступаючых у шлюб, іх бацькоў, а таксама раскрываюцца ўзаемаадносіны паміж жаніхом і нявестай, якія ствараюць новую самастойную ячэйку роду. Каб быць прызнанай родам, новая сям'я павінна прыняць усе накладваемыя на яе абавязкі. Шматлікія творы маральна-дыдактычнага характару змяшчаюць настаўленні і парады маладым, як паводзіць сябе не толькі ў час вяселля, але і пасля яго ў адносінах да роду, у новай сям'і, з суседзямі і г. д. Вясельныя песні даволі падрабязна раскрываюць сваяцкія адносіны. Кожнаму сваяку маладых, згодна з рытуалам, дакладна вызначаюцца месца і роля ў вясельным дзеянні. У вясельнай паэзіі поўна прадстаўлен і народны маральны і этычны кодэкс. Культура ўзаемаадносін і паводзін простых людзей адлюстравана ў спецыяльных песнях і слоўных формулах — вітаннях, пажаданнях, благаславеннях і г. д. Так, амаль перад кожным этапам вяселля (заручынамі, караваем, зборнай суботай і г. д.) маладыя або іх бацькі ва ўстаноўлены рытуалам час прыходзяць да сваякоў або суседзяў і пры дапамозе такіх формул і паклонаў запрашаюць іх да выканання неабходнага абраду. Як патрабуе таго рытуал, паводзяць сябе і запрошаныя, якія адпаведнымі слоўнымі формуламі просяць у бацькоў, роду і ўсіх прысутных дазволу і благаславення пачаць неабходнае дзеянне. Наогул формуламі-пажаданнямі тыпу «Дай, божа, маладым добрую долю» часта заканчваюцца вясельныя песні.

Шырока і дэталёва апісан у вясельных песнях быт народа. І гэта зразумела, бо вясельны акт азначае пераход маладой пары да самастойнага жыцця і гаспадарчай дзейнасці. Сямейныя і земляробчыя матывы ў вясельнай паэзіі шчыльна пераплятаюцца паміж сабой, сімвалізуючы будучы гаспадарчы дабрабыт, які заключаецца ў дзетараджэнні і ўрадлівасці. Маладыя з моманту вяселля прызнаваліся самастойнымі членамі абшчыны, а такімі маглі быць толькі сталыя ў палавых адносінах людзі. У беларускім вяселлі гэты акт пасвячэння маладых у іншы стан захаваўся ў выглядзе даволі поўнага абраду пасаду і падстрыгання — рэштак старажытнага рытуалу ініцыяцыі. Апошні меў сацыяльна-эканамічнае значэнне для ўсяго роду, з'яўляўся пераломным момантам у жыцці маладых і адбываўся толькі аднойчы. Вяселле для селяніна было той таямнічай і важнай гранню, якая падзяляла яго жыццё на дзве часткі — да і пасля жаніцьбы і адпавядала дзіцячаму і даросламу стану. З гэтага моманту не толькі для маладых, але нават і для членаў роду адлік часу ішоў ад вяселля. Таму часта можна чуць у народзе: «Гэта было ў два гады пасля Грышкава вяселля», «Гэта было яшчэ да таго, як Еўку выдавалі».

У вяселлі песні выконвалі не толькі юрыдычную, але і магічную функцыю. На некаторых яго этапах яны мелі не меншую сілу, чым самі абрадавыя дзеянні, бо ў народзе існавала вялікая вера ў прагматычную сілу слова, якім можна было больш эмацыянальна і выразна выказаць волю калектыву. Без слова не адбывалася ніводнага руху на вяселлі, і сам абрад набываў большую сілу дзякуючы слову, песні. Без песні (слоў) і адпаведных дзеянняў, напрыклад, пячэнне каравая або віццё вянка страціла б рытуальны сэнс і не было б заўважана.

Спявалі і выконвалі вясельныя абрады блізкія маладым людзі. У народзе існавала перакананне, што забяспечыць дабро ўступаючым у шлюб можа толькі той, хто гэтага вельмі жадае. Згодна з павер'ем, яно (дабро) дасягаецца тады, калі выкананы ўсе ўстаноўленыя абрады і песні. Калі ж традыцыя парушалася і маладыя бралі шлюб без адпаведных рытуалаў і песень, у народзе гаварылі: «Абвёў вакол бярозы ды дамоў прывёў» або: «Вянчаліся вакол елі, а чэрці ім пелі». Прыказкі сведчаць аб тым, што вялікае значэнне надавалася рытуалу, песні і прысутнасці пры гэтым роду («чэрці пелі», а не род, маладых вадзілі не вакол стала, а вакол дрэва). У прыказках асуджаецца старажытны язычніцкі рытуал вянчання вакол дрэва. З пераходам да аселага жыцця маладых вадзілі вакол ачага, а пазней — стала. Нездарма печ (ачаг) і стол захавалі значэнне важных абрадавых месц, якія былі звязаны з культам продкаў. Песні з магічным зместам заклікалі ахоўваць маладых ад уздзеяння розных чараўнічых сіл, якія пагражалі ім у гэты адказны момант жыцця, а таксама павінны былі гарантаваць ім пладнасць і дабрабыт. Пры ўдзеле роду, грамады (хору) вясельны рытуал набываў звычаёва-прававую і магічную сілу.

Адначасова з юрыдычнай і магічнай важнай функцыяй беларускай вясельнай паэзіі з'яўляецца эстэтычная, якая пашырылася са стратай абрадам сувязей са старажытнымі формамі жыцця. Бытавыя рэшткі далёкай мінуўшчыны для самога народа на пэўным этапе гісторыі гублялі сваё першапачатковае значэнне і рабіліся паэтычным упрыгожаннем або сімвалам. Вяселле для працоўнага чалавека становіцца «не толькі вялікім актам гаспадарча-грамадскага значэння», але «самым высокім і ўрачыстым момантам, які мог яму падараваць жыццё». У шматлікіх вясельных песнях селянін меў магчымасць выказаць «пажаданні здароўя, багацця і шчаслівай долі маладым» і раскрыць паэзію сваёй душы, «побыту, жыцця і працы»[4]. Тут селянін бачыў блізкае яму, зразумелае і хвалюючае відовішча, мог праявіць свой мастацкі талент у гэтай «своеасаблівай народнай оперы, якая надзвычай багата насычана спевамі, музыкай, танцамі, вострымі дыялогамі, гумарам»[5].

Само вяселле наогул, як і іншыя мастацкія творы, мае завязку, кульмінацыю і развязку. Падобна драме вясельны сцэнарый падзяляецца на асобныя акты (этапы), сцэны (абрадавыя дзеянні). Але ў вясельным прадстаўленні кожны з яго ўдзельнікаў іграе ў першую чаргу сам сябе і толькі так, як патрабуюць таго народны светапогляд і традыцыя. Ды і гледачоў як такіх, па сутнасці, няма, бо яны самі пераважна непасрэдна ўдзельнічаюць у гэтым складаным народным відовішчы. Беларускае вяселле арганічна спалучае народную міфалогію, традыцыйна-магічныя, прагматычныя, гісторыка-прававыя, этычныя і мастацкія элементы. Шматфункцыянальнасць і разнастайнасць абрадавых дзеянняў вяселля стымулявала ўзнікненне

---

[4] Гілевіч Н. С. Лірыка беларускага вяселля.— Мн., 1979, с. 7.
[5] Беларускія народныя песні, т. 4. Вяселле. Запіс Р. Шырмы.— Мн., 1976, с. 5.

і развіццё розных відаў паэтычнага і музычнага мастацтва: песень, рытуальных танцаў, інструментальных найгрышаў і маршаў, дынамічных дыялогаў, зваротаў, рацэяў, прыгаворак і прымавак у адпаведным традыцыйным афармленні. У беларускім вяселлі, як ні ў якім іншым, поўна і яскрава праявілася ўласцівае фальклору гарманічнае спалучэнне элементаў славесна-паэтычнага, музычнага, харэаграфічнага і драматычнага мастацтваў. Увесь гэты складаны комплекс вынікае з народнага жыцця, з яго бытавых і грамадскіх інстытутаў, звычаяў і абрадаў. З'яўляючыся вялікай падзеяй у жыцці ўсёй грамады, фундаментам народнага жыцця, вяселле з яго абрадамі і песнямі выражае рысы нацыянальнага характару, адлюстроўвае развіццё розных грамадскіх уяўленняў, паняццяў, светапогляду і ідэалаў народа.

Асобныя кампаненты структуры вяселля — слова, жэст, мелодыя — развіваліся неадначасова і нераўнамерна. Узнікненне абрадавага дзеяння трэба аднесці да больш аддаленай эпохі, чым мастацкіх элементаў вяселля. У праславянскі перыяд абрад вяселля складаўся, можна меркаваць, з адносна невялікай колькасці магічных дзеянняў і рытуальных танцаў, сэнс якіх раскрывалі кароткія песні заклінальнага і эратычнага зместу. К XIII—XIV стст. беларуская вясельная паэзія сфарміравалася ў самых агульных рысах. Вобразна-тэматычны пласт асноўнага фонду вясельных песень склаўся і стылістычна аформіўся пад уздзеяннем канкрэтна-гістарычных умоў жыцця беларускага народа XIV—XVII стст. адначасова з утварэннем і развіццём беларускай народнасці і яе мовы [6]. У працэсе складвання асноўных рыс народнай культуры і мовы, меласу, пластычных знакаў выкрышталізоўваліся жанравыя і мастацкія сродкі беларускай вясельнай паэзіі. Стварэнне розных відаў вясельнай паэзіі, іх структурная і функцыянальная перабудова і ўскладненне ўсяго комплексу вяселля адбываліся адначасова з развіццём быту, сацыяльна-эканамічных умоў жыцця беларускага народа, грамадскай самасвядомасці і мыслення. Разлажэнне патрыярхальнай абшчыны і ўзмацненне класавай дыферэнцыяцыі, змяненне ў сувязі з гэтым светапогляду народа прывяло да паслаблення некаторых практычных функцый вясельнага абраду, страты першапачатковага значэння асобных яго рытуалаў, магічных дзеянняў або да іх пераасэнсавання і адпаведных змен у песенным складзе. Але такія змены адбываліся вельмі марудна. Песні ўтрымлівалі свой першапачатковы характар лепш, чым сам абрад. Гэта тлумачыцца ў першую чаргу вялікай роллю шматвяковай традыцыі і прагматычнасцю слова. Яшчэ больш павольна змянялася форма песень. Часцей за ўсё старая форма напаўнялася новым зместам, які, аднак, закранаў толькі перыферыю песні. У XIX ст. з развіццём капіталістычнага спосабу вытворчасці і распадам патрыярхальнай сям'і ў беларускіх вясельных песнях з'яўляюцца новыя тэмы і матывы: пратэст маладых супраць тагачаснага сямейнага ўкладу, іх асабістыя пачуцці, павышаная ўвага да пасагу і інш. У беларускай вясельнай паэзіі знаходзім сляды розных эпох — ад родаплемяннoй і перыяду яе раз-

[6] Жураўскі А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. 1.— Мн., 1967, с. 32—33.

лажэння да феадальнай і пачатку капіталістычнай. Яшчэ ў пачатку XX ст. беларускае вяселле з яго песнямі і абрадамі з'яўлялася дзеючай сістэмай. У нашы ж дні многія яго элементы выпалі, а само вяселле мае чыста ігравы характар. Але ў памяці старэйшых людзей песні і абрады беларускага вяселля захаваліся поўна. Зніклыя з абраду элементы часам зберагаліся ў тэкстах некаторых песень. Ступень захавання або трансфармацыі асобных вясельных абрадаў у розных рэгіёнах Беларусі праяўляецца па-рознаму ў залежнасці ад стану культурна-эканамічных і бытавых умоў жыцця. Таму вылучыць вясельны рытуал той або іншай мясцовасці ў якасці тыпавога, ці асноўнага, для ўсяго беларускага вяселля немагчыма. Тым не менш з усёй упэўненасцю можна гаварыць пра адзіны ў сваёй аснове традыцыйны агульнабеларускі вясельны цырыманіял і рэпертуар беларускай вясельнай паэзіі з уласцівымі ім характэрнымі рысамі.

Беларускі вясельны абрад у большасці момантаў супадае з вясельным абрадам іншых славянскіх народаў. Прычым асабліва блізкі ён да вясельнага абраду ўсходніх славян. Што датычыцца беларускіх вясельных песень, то яны выразна адрозніваюцца ад адпаведных песень іншых славянскіх народаў. Такія абставіны тлумачацца, на нашу думку, у першую чаргу тым, што асноўны фонд вясельных песень славян фарміраваўся ў больш позні, чым сам абрад, перыяд, які характарызаваўся рознымі сацыяльна-эканамічнымі, палітычнымі і культурнымі ўмовамі жыцця гэтых народаў. На адрозненні паэтычных тэкстаў і меласу беларускіх, рускіх і ўкраінскіх вясельных песень указваюць Ф. А. Рубцоў, Н. П. Калпакова, І. М. Калясніцкая [7]. Як заўважае Н. П. Калпакова, беларускія песні пры параўнанні з рускімі «знешне выглядаюць зусім да іх непадобнымі» [8]. Адрозненні вясельных песень праследжваюцца як у форме, так і ў змесце. Яшчэ больш адрозненняў знаходзім пры параўнанні беларускіх вясельных песень з польскімі і літоўскімі. Разам з тым звяртае на сябе ўвагу факт існавання вельмі блізкіх да беларускіх па зместу і форме рускіх, польскіх і літоўскіх вясельных песень на этнічным пагранíччы, што, на нашу думку, тлумачыцца выключным багаццем беларускай вясельнай паэзіі і шчыльнымі сацыяльна-эканамічнымі, палітычнымі і культурнымі ўзаемасувязямі гэтых народаў. Вельмі блізкія да беларускіх вясельных песень украінскія, што вынікае з умоў сумеснага грамадска-палітычнага жыцця беларускага і ўкраінскага народаў у XIV—XVII стст., у перыяд складвання вясельнай паэзіі.

Для беларускіх вясельных песень характэрна калектыўнасць іх выканання. Хор выступае як актыўная дзеючая асоба вясельнага музычна-дра-

---

[7] Рубцов Ф. А. Интонационные связи в песенном творчестве славянских народов.— М., 1962; Колпакова Н. П. Восточнославянская лирическая песня. (Сравнительный анализ поэтики).— У кн.: Исторические связи в славянском фольклоре. Русский фольклор, XI. М., 1968; Колесницкая И. П. Простейшие типы русских народных свадебных песен.— У кн.: Русский народный свадебный обряд. Л., 1978.

[8] Колпакова Н. П. Восточнославянская лирическая песня.— У кн.: Исторические связи в славянском фольклоре, с. 111.

матычнага прадстаўлення, якая вырашае, суправаджае і накіроўвае ход дзеяння. Хор складаецца з жаночай часткі вясельнікаў і староніх гледачоў. У беларускай вясельнай драме наогул жанчыны былі больш актыўнымі і прымалі жывы і непасрэдны ўдзел ва ўсіх важнейшых абрадах і сцэнах. Мужчыны ж не спяваюць і ў асноўным выконваюць рацэі і прыгаворы. Самі ж маладыя, а таксама іх бацькі, родныя, хросныя, сёстры і браты не спяваюць. Як правіла, хор складаецца з дзвюх груп — роду маладой і роду маладога або маладзейшых і старэйшых спявачак. Хор староніх спявачак (гледачоў вяселля) складаецца таксама з дзвюх груп, у кожную з якіх уваходзяць дзве або больш асоб. Спявачкі станавіліся тварамі адна да другой, браліся пад рукі і спявалі, «гледзячы ўзаемна на вусны, каб спевы гучалі аднародна, асабліва тады, калі неабходна было некаторыя словы або куплеты імправізаваць, дапасаваць да адпаведнай сітуацыі» [9]. Часта хоры спявалі папераменна адзін і той жа радок або куплет. Гэта было выклікана як дыялагічным характарам вясельнага дзеяння, так і яго дынамічнасцю і працягласцю. Наяўнасць двух хораў («груп», «тураў», «шораў») вымагаецца таксама песнямі-дыялогамі. Хоры спяваюць ад імя мужчын або хлопцаў, маладых, іх бацькоў, сваякоў і г. д. Жаночыя хоры як з боку маладога, так і з боку маладой складаліся з дзвюх узроставых груп — замужніх жанчын (свахі) і незамужніх дзяўчат (дружкі, баяркі, бальшанкі, шаферы і г. д.). Гэта адзін з відаў вясельных хораў. Другі ж від складаюць хоры, якія асобна прадстаўляюць род нявесты і род жаніха. Часта прадстаўнікі гэтых груп (замужніх і незамужніх, роду маладой і роду маладога) дэманструюць сваю «варожасць» адзін да аднаго, вядуць «спрэчкі» ў форме песенных дыялогаў, заступаюцца за інтарэсы свайго боку. У гэты момант выконваюцца пераважна абразлівыя і жартоўныя песні, якіх у арсенале беларускага вяселля вялікая колькасць.

Вясельныя спявачкі (хор) суправаджаюць песнямі ўвесь ход вясельнага відовішча, паведамляюць аб маючым адбыцца чарговым павароце дзеяння, каменціруюць, тлумачаць чакаемы вынік. Трэба адзначыць, што песні часта змяшчаюць больш абрадавай інфармацыі, чым самі рытуальныя дзеянні. Хор не толькі апісвае працэс абрадавай акцыі, але, па сутнасці, кіруе ўсім вясельным дзействам, напамінаючы выканаўцам пра іх абавязкі на кожным этапе вяселля. Больш таго, ён не проста бясстрасна канстатуе здзяйсненне якога-небудзь абрадавага акта, але і ў мастацкай форме паказвае жыццёвыя сітуацыі, з якімі прыдзецца сустракацца маладым, а таксама надае ім пэўную экспрэсіўную афарбоўку ў залежнасці ад зместу этапа вяселля. У задачу хору ўваходзіць таксама эмацыянальнае ўздзеянне на маладых, на вясельных гасцей і на староніх гледачоў, бо вяселле — гэта відовішча, якое не толькі забаўляе прысутных, але і глыбока ўзрушае яго ўдзельнікаў, трымае іх у адпаведным псіхічным напружанні. У беларускім вяселлі захаваліся

[9] Sielicki F. Białoruskie obrzędy i pieśni weselne ze wsi Mikulino b. gminy Dołginów, pow. Wilejskiego.— Acta Universitatis Wratislaviensis, nr. 472. Wrocław, 1979, s. 118.

сляды даўняй эпічнай ролі хору, які вызначаў драматычную форму ўсіх народных абрадаў. Падобна антычным камедыям і трагедыям, у якіх фабула раскрывалася толькі часткова ігрой акцёраў, а пра ўсе здарэнні і ўчынкі герояў апавядаў хор спевамі або рэчытатывам, у вяселлі хор таксама апавядаў і тлумачыў змест дзеянняў, што паказваюцца, ухваляюць або асуджаюць удзельнікаў гэтага своеасаблівага відовішча. Хор выяўляе і санкцыяніруе драматызаванае вясельнае дзеянне. Такая роля хору на вяселлі больш выразна праяўляецца ў паўночна-ўсходняй і паўднёвай частках Беларусі. У заходнім жа рэгіёне Беларусі больш прыкметная роля на вяселлі належыць вясельным чынам — свату, свацці, маршалку, бальшанцы, першай дружцы і інш., а песні, рацэі часта носяць сольны характар, хоць і тут не абыходзіцца без хору.

Актыўнасці хору на вяселлі супрацьстаіць пасіўнасць яго галоўных герояў — маладых. Індывідуальныя рысы галоўных дзеючых асоб — нявесты і жаніха, іх асабістыя перажыванні знікаюць у песнях пад покрывам драматызацыі вобраза грамады, якая выказваецца пры дапамозе хору, і разгорнутага сцэнічнага відовішча. Асабістае ў вясельных песнях як бы растае ў грамадскім. У іх няма месца адкрытым і шчырым выказванням пачуццяў маладых. Хоць яны і выступалі ў якасці галоўных дзеючых асоб, але раней не былі гаспадарамі свайго лёсу, а толькі выконвалі волю бацькоў (роду). Як адзначаў А. М. Весялоўскі, у першабытнай паэзіі каханне разумелася ў абмежаваных рамках фізіялагічнай абрадавай эротыкі, таму ў ёй яшчэ немагчыма было ўбачыць суб'ектывізм і паэзію асабістага пачуцця [10]. Матывы кахання сустракаюцца ў песнях больш позняга перыяду як вынік прагрэсу ў сямейных адносінах. Але і тут пачуцці кахання толькі мільгацяць. Маладая ў вясельных песнях выступае ў ролі ахвяры, хоць пазней яна часцей уступала ў шлюб па ўласнай волі. Такой «ігры» ад яе патрабавалі народны этыкет, традыцыя, грамадская думка. Эстэтычна-псіхалагічная інтэрпрэтацыя перажыванняў маладой даецца пераважна ў песнях дружак, якія нібы плачуць ад імя нявесты, суправаджаючы яе бязмоўны плач [11]. У некаторых месцах на Лепельшчыне, Віцебшчыне, Магілёўшчыне маладая прыгаворвае рэчытатывам, але «плач» яе нешматслоўны. Наогул галашэнне нявесты нехарактэрна для беларускага вясельнага фальклору. Асобныя інтанацыі галашэння ў беларускіх вясельных песнях зафіксаваны пераважна на беларуска-рускім этнічным пагранічны. У народзе лічыцца непрыстойным, каб маладая або яе бацькі спявалі або галасілі. Вясельны этыкет патрабаваў, каб нявеста сядзела, «апусціўшы галоўку ніжэй усіх». Такой жа пасіўнасцю вызнача-

---

[10] Веселовский А. Н. Историческая поэтика.— М.—Л., 1940, с. 251.
[11] М. В. Доўнар-Запольскі адзначае, што ў беларускім вяселлі «мы не сустракаем... так званых плачак, доўгіх, надрываючых душу рацэй, якія вымаўляюцца на велікарускім вяселлі самою нявестаю з рыдаючым лямантам. Нявеста нічога не спявае ў нашым вяселлі; за яе спяваюць іншыя пераважна аб тым, што адбываецца ў той ці іншы час абраду. Плач беларускай нявесты — ціхі, горкія слёзы, у якіх шмат адлюстроўваецца і натуральнага» (Довнар-Запольский М. В. Исследования и статьи, т. 1.— Киев, 1909, с. 97).

еццa і роля жаніха, які «стаіць за плячыма (дружкі або свата) і моргае вачыма». Яму і яго радні таксама прысвячаецца меншая колькасць песень, чым маладой і яе блізкім.

Самая актыўная роля з ліку блізкіх сваякоў маладых у вяселлі належыць матцы, брату і дзядзьку з боку маткі (свату, маршалку) маладых. Вядучая роля гэтых асоб асабліва была прыкметна ў адносінах да маладой. Таму пра іх і іх дзеянні выконваецца вялікая колькасць песень, хоць у XIX—XX стст. гэта пярэчыла тагачасным сямейным адносінам, дзе бацька лічыўся галавой сям'і. Такі факт перавагі жаночага пачатку сведчыць аб тым, што раней «маці выступала як жрыца, якая выконвала ахвярапрынашэнне, благаслаўляла і адпраўляла розныя сімвалічныя рэлігійныя абрады: гэта роля належала ёй таму, што яна — галава сям'і і пані дому» [12]. Тая невялікая колькасць песень пра бацьку, якая выконваецца ў беларускім вяселлі XIX—XX стст., адносілася раней да маткі. З цягам часу пад уплывам новых сямейных адносін у частцы песень бацька пачаў упамінацца побач з маткай або замяніў яе. Такім чынам, «спачатку былі толькі такія вясельныя песні, у якіх упамінаецца адна матка» [13], што сведчыць аб захаванні ў беларускім вяселлі вядучай ролі шматлікіх перажыткаў эпохі матрыярхату. Другой важнай асобай у вяселлі эпохі матрыярхату быў брат ці дзядзька маладых, які адыгрываў такую ж вялікую ролю ў вясельных абрадах і песнях, як і маці. Адзін і той жа абрад (напрыклад, расплятанне касы, вядзенне на пасад) у адной мясцовасці выконваўся маткай, а ў другой — братам або дзядзькам, адна і тая ж песня ў адной мясцовасці адносілася да брата, дзядзькі, а ў другой — да маткі. Замена брата або дзядзькі бацькам адбываецца вельмі рэдка і ў песнях больш позняга паходжання. У старажытных вясельных абрадах і песнях мы заўважаем выразныя супярэчнасці з рэальным жыццём: тое, што некалі было сапраўднасцю, пазней пераўтварылася ў сімвал, абрад, песню.

Устойлівае, паказное, зацверджанае з даўняй пары складае змест многіх песень. Апісаныя ў іх жыццёвыя сітуацыі, героі і іх дзеянні прадвызначаны і назаўсёды ўстаноўлены абрадам, падпарадкаваны этыкету. У гэтым сэнсе пастаянная і мова герояў, якая складаецца з усталяваных формул. Як і гэтыя ўстойлівыя слоўныя комплексы, самі вясельныя песні пастаянныя і ў сваім сюжэтным змесце, не паддаюцца звычайнаму вар'іраванню. Калектыўнае выкананне і трывалая прывязанасць песень да абраду таксама не дапускалі адхіленняў ад векавых традыцый. Усё гэта садзейнічала стварэнню агульнабеларускага вясельнага рэпертуару пры яго лакальных вар'іраваннях і асаблівасцях. Апошняе, паводле Я. Камароўскага, тлумачыцца тым, «што кожная культура ўнутрана значна дыферэнцыравана, і неаднаразова можна яшчэ наглядаць адрозненні ў культуры нават дзвюх блізкіх суседніх вёсак.

---

[12] Охримович В. Значение малорусских свадебных обрядов и песен в истории эволюции семьи.— Этнографическое обозрение, кн. XI, № 4. М., 1891, с. 74.
[13] Там жа, с. 80.

Гэтыя адрозненні з'яўляюцца звычайна вынікам складаных этнічна-гістарычных працэсаў, якія адбываюцца ў сацыяльна-культурных групах рэгіёнаў у рамках этнікума» [14].

Сярод песень, якія ўваходзяць у беларускі вясельны фонд, вылучаюцца тры вялікія групы. Першую складаюць песні, якія бытуюць без якіх-небудзь змен на ўсёй тэрыторыі. У другую групу ўваходзяць песні з варыянтнымі адрозненнямі зачынаў ці канцовак, але часцей вар'іруюцца канцоўкі, надзеленыя ў асноўным лакальнымі абрадавымі рысамі. Так, напрыклад, у песнях зборнай суботы пры агульнасці першай часткі (пра віццё вянка) другая частка мае варыянты: вянок рыхтуюць дзяўчаты (поўнач Беларусі), маці ці старшая сваццця (поўдзень і часткова ўсход), гатовы вянок прывозіць сам малады (захад). У дарожных, каравайных і іншых вар'іруецца месца або мэта пэўнага дзеяння: малады едзе ў заручыны, да шлюбу, па маладую; каравай нясуць у печ, у клець, з клеці — дзяліць яго, запрашаюць каравайніц учыняць, убіраць. Песні трэцяй групы характэрны толькі для пэўнага рэгіёна. У залежнасці ад рэгіёна Беларусі на вяселлі большая ўвага аддавалася тым або іншым этапам абраду і адпаведнымі ім цыклам песень. На поўдні Беларусі асабліва шырокім і «песенным» быў каравайны абрад, а на поўначы — зборнай суботы. Гэта тлумачыцца, відаць, у першую чаргу характарам працоўнай дзейнасці насельніцтва гэтых рэгіёнаў. На поўдні Беларусі, прыродныя і геаграфічныя ўмовы якой спрыялі ранняму і шырокаму развіццю земляробства, склаўся і больш развіўся абрад хлеба. На поўначы, дзе прэваліравалі жывёлагадоўля і паляванне, а земляробствам пачалі займацца пазней, шырока прадстаўлен абрад зборнай суботы, рэаліі якога былі звязаны з раслінным светам. На поўначы Беларусі абрад каравая выконваецца без песень і менш урачыста, а на большай частцы Магілёўшчыны абрад зборнай суботы і звязаныя з ім песні адсутнічаюць наогул, і нашы інфарматары нават пра іх і не чулі. Гэта датычыцца і іншых абрадаў і песень. Напрыклад, рытуал «калінкі» на поўначы існуе толькі ў скарочаным выглядзе, у той час як на поўдні ён вельмі шырокі і суправаджаецца значнай колькасцю песень. Адсутнасць вясельных песень пэўнага абраду ў той ці іншай мясцовасці ў наш час і раней, у XIX ст., не заўсёды можна тлумачыць іх знікненнем. Хутчэй за ўсё яны там проста не развіліся. Лакальныя асаблівасці наглядаюцца і ў эмацыянальным тоне вяселля. На поўдні і захадзе Беларусі песні больш мажорныя, на ўсходзе і поўначы мінорныя. Залежала гэта таксама ад этапа (каравай, зборная субота, пасад і г. д.) і месца дзеяння (у маладой або ў маладога). Песні ў доме маладога святочна-ўзнёслыя, у маладой канфліктна-драматычныя. Асабліва «жаласлівыя», «абідлівыя» песні спяваліся на сірочым вяселлі. Нягледзячы на кананічнасць і пастаянства вясельнага абраду, нярэдка асобныя рытуалы пераносіліся з аднаго этапа вяселля ў другі або скарачаліся, але поўнасцю з абраду выключаліся рэдка. Так, у розных мясцовасцях маладую завівалі або ў яе хаце перад

---

[14] Komorovský Ján. Tradičná svadba u Slovanov.— Bratislava, 1976, s. 9.

ад'ездам да маладога, або ў доме маладога перад шлюбнай ноччу, або пасля яе; «зводзіны» («злучэнне») маладых, або грамадзянскі шлюб, адбываліся да царкоўнага вянчання або пасля яго і інш.

Парушэнне паслядоўнасці выканання вясельных рытуалаў і адпаведных ім песень адбылося ў некаторай ступені і ў выніку прыняцця хрысціянства. З увядзеннем царкоўнага вянчання абрад шлюбу набыў дуалістычны характар: побач з бытавой (сямейнай, родавай, абшчыннай) санкцыяй шлюбу ў вясельнай абраднасці заняў сваё месца царкоўны рытуал. Але ён не здолеў зменшыць значэнне бытавога абраду і суіснаваў паралельна. У розных частках Беларусі і ў розныя перыяды яе гісторыі суадносіны бытавога і царкоўнага абрадаў былі неаднолькавымі. У Заходняй Беларусі, дзе меў месца вялікі ўплыў каталіцызму, царкоўны абрад вянчання адыгрываў некалькі большую ролю, чым на поўдні і поўначы Беларусі, дзе царкоўны шлюб нават у пачатку XX ст. не лічыўся правамоцным актам. На поўдні і поўначы больш выступае аграрная аснова старажытнага вясельнага рытуалу, і не толькі вясельнага, «бо ў асяроддзі беларускага сялянства,— як адзначае М. М. Нікольскі,— учэпіста трымалася традыцыйная рэлігія з яе каляндарнымі святочнымі абрадамі» [15]. Пранікненне хрысціянскіх абрадаў у беларускае вяселле стрымлівалася таксама існаваннем на Беларусі розных веравызнанняў [16] і абыякавасцю беларускага сялянства да царквы. Аб гэтым сведчыць даволі значная колькасць антыпапоўскіх песень, якіх, дарэчы сказаць, мы зусім не сустракаем у іншых славянскіх народаў. Што датычыцца песень пра царкоўны «вянец», то яны ўзніклі ў больш позні час пераважна на аснове старых песень бытавога абрадавага шлюбу (аб чым гавораць іх форма і змест) і не вызначаюцца арыгінальнасцю. Абрадавы шлюб («звядзенне маладых») на большай частцы Беларусі выконваўся пасля царкоўнага вянчання, якое народ лічыў толькі фармальным і вымушаным актам. З царквы маладыя ехалі кожны да сваёй хаты, і вяселле, па сутнасці, пачыналася спачатку. Народны абрад шлюбу мог адбывацца праз тыдзень пасля царкоўнага вянчання, а то і пазней.

Большасць вясельных песень пабудавана ў выглядзе драматычных сцэн з некалькімі дзеючымі асобамі, якія праяўляюць сябе ў рухах і размовах. Песні вызначаюцца дынамікай апавядання і дыялогам, які нярэдка з'яўляецца тут асноўным канструктыўным элементам. Прычым даволі часта назіраецца нечаканы пераход ад аўтарскага апавядання да дыялагічнай формы

[15] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности, с. 38.

[16] «Егда убо бых в польском и литовском государстве и многия в них видя несогласия церковные в самех тех христианех, еже суть белорусцы в них нарицаются и во едином убо дому у них у отца з детьми и у мужа с женою, и у господина с рабы, веры тры или четыре: ов держит в них веру християнскую, ин же папежскую, и ин люторскую, и ин арианскую. И в купе убо на единой трапезе едят и п'ют и браком совокупляются, а иные в купе молитву творят».— Филорет. Книга глаголемая потребник мирский. М., 1636, с. 50 (Цыт. па кн.: Снегирев М. Русские простонародные праздники и суеверные обряды, вып. 3.— М., 1838, с. 163).

або ад расказу адной асобы без усякага на гэта ўказання да апавядання ад імя другога персанажа. Таму ў такіх песнях цяжка зразумець, чые словы паглынаюцца ўступаючым у размову персанажам. Унутраны свет герояў часта раскрываецца праз акаляючыя іх абставіны, дзеянні, сутыкненні і размовы. Паказу светаадчування герояў дапамагаюць вялікая сэнсавая ёмістасць сімвалічных вобразаў, апісанні флоры і фауны, якія ў песнях знаходзяцца ў безупынным руху. Гэтаму таксама садзейнічаюць сімвалічныя карціны, якія будуюцца па прынцыпу кампазіцыйнага паралелізму. Беларускім вясельным песням характэрны тры тыпы паралелізму: а) песні распадаюцца на дзве роўныя часткі (першую займае сімвал, а другую — змест песні); б) сімвалічная карціна падаецца не адразу, а вар'іруецца праз усю песню; в) песня распадаецца на дзве няроўныя часткі (першая ўяўляе сабой кароткі зварот да сімвала або простае ўпамінанне аб ім, а другая, большая,— «рэальная»). У песнях апошняга тыпу нярэдка сімвалічная частка страчвае сувязь з асноўным рэальным зместам, не падпарадкоўваецца яму і пераўтвараецца ў штамп. Такія песні складаюць значную колькасць беларускай вясельнай паэзіі. Нямала вясельных песень пачынаецца адразу з «рэальнай» часткі без іншасказаў і сімволікі. Яны, відаць, больш позняга паходжання. Для беларускага вяселля характэрна таксама наяўнасць песень-формул (тры — шэсць радкоў) нярэдка з заклінальным зместам. Яны адносяцца да самых старажытных; да іх прымыкаюць невялікія па форме, простыя па зместу, з ярка выражанай кампазіцыяй сюжэта песні з элементамі ахоўнай і прадуцыруючай магіі.

Вяселле з усімі яго кампанентамі звычайна разглядаюць як народную драму, якая ўвабрала ў сябе элементы эпікі і лірыкі. Аднак вясельная паэзія з прычыны ўласцівага ёй прагматызму па-свойму адлюстроўвае рэчаіснасць. Яна асаблівая з'ява ў фальклорнай традыцыі таму, што сумяшчае ў сабе адначасова абрадавую, бытавую і паэтычную функцыі. Такога спалучэння паэзіі і жыцця няма ні ў адным з родаў вуснай народнай творчасці — ні ў эпіцы, ні ў лірыцы, ні ў драме. Эпічныя элементы знаходзім у прыгаворах, рацэях, прамовах свата, сваццi, так званых «стаўбавых песнях» і інш. Тым не менш лічыць іх цалкам эпічнымі было б неправамерна. Лірычныя элементы ўласцівы пераважна велічальным, дакаральна-кплівым і іншым відам вясельных песень. Але і яны не падобныя да бытавых лірычных песень. Як бачым, вясельны паэтычны цыкл складае своеасаблівую суцэльную сістэму жанраў, якія ўяўляюць сабой разнастайныя тэматычныя групы фальклорных твораў. У беларускім вяселлі вылучаюцца іх наступныя тыпы.

Апавядальныя песні канстатуюць, тлумачаць і каменціруюць абрадавае дзеянне, выяўляюць адносіны да яго з боку роду (хору). Асноўнае іх прызначэнне — апісанне і тлумачэнне ўсіх дзеянняў, якія адбываюцца ў час вяселля, давядзенне да ведама ўсёй грамады, што вяселле пачалося і працягваецца згодна з традыцыяй, а таксама юрыдычнае зацвярджэнне факта злучэння дзвюх асоб у свядомасці ўсіх прысутных. Галоўная ўвага ў гэтай шматлікай групе песень звяртаецца не на тое, што думаюць, адчуваюць вясельныя персанажы, а што яны згодна з абрадам выконваюць. Кам-

пазіцыйна гэтыя песні часта складаюцца з сімвалічнай і рэальнай частак. Часам да іх далучаецца маналог або дыялог. Апавядальныя песні разам з імператыўнымі складаюць самую вялікую частку беларускай вясельнай паэзіі.

Імператыўныя песні змяшчаюць заклік, загад, наказ, параду, просьбу аб пэўным дзеянні, яны павучаюць і напамінаюць пра існуючы этыкет, устаноўлены звычаямі вясельнага абраду. Хор, выконваючы гэтыя песні, нібы «рэжысёр», накіроўвае, указвае ўдзельнікам вяселля іх месца і ролю ў абрадзе. Сюжэт гэтых песень разгортваецца ў канкрэтнай і выразнай форме. Яны ўстойлівыя па зместу, форме, па месцы ў абрадзе, самі маюць значэнне абраду.

Заклінальныя песні з'яўляюцца заклёнамі-заклікамі, скіраванымі да звышнатуральных магічных сіл (святой нядзелькі, добрай гадзіны, язычніцкіх божастваў, бога і святых), да з'яў прыроды (сырой зямелькі і г. д.), просьбамі-зваротамі да бацькоў, роду, прадметаў-сімвалаў (каравая і інш.), для таго каб яны спрыялі шчасліваму шлюбу, далі добрую долю маладым. Гэтыя песні маюць выразны магічны характар і выступаюць у выглядзе формул, вызначаюцца ўстойлівым зместам і формай, пастаянным месцам у абрадзе. Заклінальнымі песнямі ў беларускім вяселлі пачынаюцца ўсе яго важнейшыя этапы і нават іх асобныя элементы. Напрыклад, з самага пачатку вяселля просяць Кузьму-Дзям'яна, каб ён скаваў моцную «свадзебку», а Сулуку — злучыць маладых. Звяртаюцца да роду, бацькоў, багародзіцы, бога благаславіць пачаць (згуляць) вяселле. У каравайным абрадзе нават кожны працэс прыгатавання рытуальнага хлеба пачынаецца з заклінальных песень, якія складаюцца са звароту да звышнатуральных сіл і кароткага маналога-просьбы. На старажытнасць заклінальных песень указвае Ю. Г. Круглоў, адзначаючы, што ў рускім фальклоры «яны складаюць адзінкавыя з'явы» [17].

Велічальныя песні ўшаноўваюць, «падвялічваюць» асноўных удзельнікаў вяселля, асабліва маладую і маладога і іх блізкіх. Па сваму паходжанню яны магічнага характару і выконваліся ў розныя, але ўстаноўленыя традыцыяй моманты (калі маладых апраналі, пасля зводзін, пасля клеці, у гонар цнатлівасці маладой і інш.). Песні гэтыя часта не вызначаюцца сталым зместам, дапускаюць імправізацыю. Колькасна ў беларускай вясельнай паэзіі яны складаюць значна меншую групу ў параўнанні з жартоўна-сатырычнымі песнямі.

Жартоўна-сатырычныя песні, як і велічальныя, магічнага паходжання і выконваюцца на розных этапах вяселля. Па сваёй жа функцыі яны супрацьлеглыя велічальным песням, бо кпяць са свата, свацці, дружак, а часам і маладых, паказваюць іх у камічным выглядзе, высмейваюць іх рысы характару, знешні выгляд, адзенне і г. д. Вызначаюцца кароткай, часта дыялагічнай формай і імправізацыяй.

Элегічныя песні выяўляюць пачуцці маладых, асабліва нявесты,

---

[17] Круглов Ю. Г. Русские свадебные песни.— М., 1978, с. 107.

яе бацькоў і блізкіх. Яны раскрываюць унутраны свет герояў, іх узаемаадносіны, перажыванні, адносіны да падзей, якія адбываюцца ў ходзе вяселля. У іх апісваецца развітанне нявесты з дзявоцтвам, бацькамі, сяброўкамі, родным домам і г. д. Гэтыя песні пазнейшага паходжання і больш распеты, чым песні папярэдніх груп. Песням гэтай групы ўласцівы глыбокая лірычнасць, эмацыянальнасць, дыялог і маналог. Формаю і зместам яны падобны да лірычных бытавых песень, але са слаба развітым любоўным сюжэтам. Змест гэтых песень вызначае іх месца ў вясельным абрадзе.

Прыпеўкі да танцаў і ў час застолля. Прыпеўкі да танцаў маюць самы разнастайны змест. Іх спяваюць, танцуючы паасобку, «не злучаючыся ў пары. Жанчыны і мужчыны дробнымі крочкамі ідуць перад музыкантамі, паварочваючыся на ўсе бакі» [18]. Пэўная група прыпевак мае эратычны змест [19] і выконваецца са скокам, асабліва калі маладых «вядуць у клець». У канцы вяселля яго ўдзельнікі, пераапрануўшыся ў «цыганоў», «дзядоў», «салдатаў», «ксяндза», «яўрэя» і інш., ходзяць па хатах, скачуць і спяваюць. Прыпеўкі застольныя спяваюць пра гарох, капусту і г. д., пра напіткі (мёд, гарэлку, піва), гаспадыню, кухарку і інш.

Прыгаворы, рацэі, зычэнні — гэта прамовы празаічнага або рыфмаванага характару, з якімі сват звяртаецца да прысутных на вяселлі з просьбай рыхтавацца да благаславення, ад'езду да шлюбу, пячэння каравая і г. д. Па зместу яны падобныя да заклінальных песень. Зычэнні маюць кароткую зарыфмаваную форму і выконваюцца ў час адорвання маладых.

Вылучаныя намі жанравыя тыпы вясельных песень вызначаюцца ўласцівым ім зместам, кампазіцыйнай пабудовай і характэрнымі мастацкімі сродкамі. Так, апавядальныя, заклінальныя і імператыўныя песні лаканічныя па зместу, невялікага памеру, з ярка выражанай кампазіцыяй і сюжэтам. Характарызуюцца прастатой формы, стройнай метрычнасцю (рыфмы і рытму). Аднак названыя песні ў чыстым выглядзе складаюць меншую частку беларускай вясельнай паэзіі. Раней, як можна меркаваць, іх было значна больш. Але ў выніку аслаблення ў вясельным абрадзе прававой і магічнай функцый і павелічэння ў ім ролі эстэтычнага элемента гэтыя песні падвергліся кантамінацыі. Таму ў пачатку іх, напрыклад, знаходзім экспазіцыю апавядальнага або заклінальнага тыпу, затым ідзе маналог-парада імператыўнага характару або дыялог ці маналог з лірычным струменем, а ў канцы — заклінальная формула. Гэта прыводзіць да сцірання жанравых асаблівасцей песні. І таму цяжка, а часам зусім немагчыма аднесці яе да якога-небудзь з вылучаных намі жанравых тыпаў. Акрамя таго, беларускія вясельныя песні падвяргаюцца ціску з боку абраду. У многіх вясельных песнях слаба развіта вобразна-паэтычная аснова, і таму іх змест раскрываецца праз абрад, які часта з'яўляецца адзіным фактарам пры тлумачэнні песень і вызначэнні іх

---

[18] Беларускія народныя песні, т. 4, с. 14.
[19] Гура А. В. Символика зайца в славянском обрядовом и песенном фольклоре.— У кн.: Славянский и балканский фольклор. М., 1978, с. 162.

функцыянальнай прыналежнасці. Нават сама ідэя песні ў цэлым можа аказацца незразумелай, калі не браць пад увагу звязанага з ёй абраду. Адначасова акалічнасці пазбаўляюць магчымасці правесці дакладную класіфікацыю ўсіх вясельных песень толькі па вылучаных вышэй жанрава-тэматычных прыкметах. Улічваючы гэтыя фактары пры класіфікацыі вясельных песень, мы ў першую чаргу аддаем перавагу іх адносінам да абраду, да пэўнага яго этапа. Вось чаму большая частка песень класіфікуецца намі паводле функцыянальнага прынцыпу. Сутнасць яго заключаецца ў падзеле ўсіх песень на вялікія групы, якія адпавядаюць пэўным этапам вяселля. Унутры кожнай з груп песні размяркоўваюцца намі па тэматычных падгрупах.

Але і пры класіфікацыі песень паводле функцыянальнага прынцыпу мы сутыкнуліся з некаторымі цяжкасцямі, звязанымі са складанасцю вясельнага рытуалу. Многія яго элементы і адпавядаючыя ім песні не толькі інтэнсіўна вар'іруюцца ў функцыянальным і фармальным планах, але і пераходзяць з аднаго этапа вяселля ў другі. Розныя рытуалы маюць адно і тое ж функцыянальнае значэнне. Так, пасад, сумесная яда, звязванне рук і некаторыя іншыя абрады маюць значэнне злучэння маладых. Рытуалы дароў, расплятання касы, благаславення, абсыпання зернем і іншыя паўтараюцца на розных этапах у адным і тым жа значэнні. Бывае і так, што той самы рытуал в адным і тым жа значэннем (напрыклад, расплятанне касы, завіванне, зводзіны і інш.) у розных мясцовасцях (часам нават у суседніх вёсках) выконваецца на розных этапах. Пэўныя цяжкасці пры класіфікацыі стварае і вясельная тэрміналогія. Так, заручынамі ў адных мясцовасцях называюцца абрады, якія адбываюцца за некалькі тыдняў да вяселля, у другіх — напярэдадні вяселля, а ў трэціх — у першы дзень вяселля. Такі тэрміналагічны разнабой сустракаецца нярэдка і ў назвах вясельных чыноў, абрадавага хлеба і інш.

Нягледзячы на тое што функцыянальны прынцып найбольш выразна раскрывае спецыфіку беларускага вясельнага фальклору, правесці паслядоўна класіфікацыю ўсіх песень па гэтаму прынцыпу немагчыма. У беларускім вяселлі маюцца і такія песні, якія страцілі сваё абрадавае прызначэнне і выконваюцца безадносна да рытуалу на розных этапах вяселля. Так, не суправаджае пэўных абрадавых дзеянняў асноўная частка велічальных і жартоўна-сатырычных песень і ў сувязі з гэтым не ўмяшчаецца ў рамкі функцыянальнай класіфікацыі. Таму мы іх размяркоўваем па адпаведных жанрава-тэматычных групах. Раней, як нам здаецца, яны былі замацаваны за пэўнымі абрадамі. Нават у нашы дні невялікая колькасць гэтых песень мае абрадавую прывязку, што дазваляе ўключыць іх у адпаведныя функцыянальныя групы. Не паддаюцца функцыянальнай класіфікацыі і вылучаюцца намі ў асобную жанрава-тэматычную групу прыгаворы, рацэі, зычэнні і прыпеўкі. Нарэшце, выключнае становішча ў беларускай вясельнай паэзіі займаюць шматлікія сіроцкія песні, якія сваім зместам, а часта і формай адрозніваюцца ад іншых вясельных і функцыянальна ахопліваюць усе этапы вяселля. Вось чаму яны вылучаюцца ў дадзеным зборы ў самастойны раздзел.

Выкарыстаная намі методыка—спалучэнне функцыянальнага, жанравага і тэматычнага прынцыпаў пры вядучай ролі першага — дазволіла стварыць, як нам здаецца, дастаткова стройную і паслядоўную класіфікацыю беларускай вясельнай паэзіі і вылучыць канкрэтныя групы і падгрупы песень, блізкія па свайму зместу і прызначэнню. У выніку ўсе вясельныя песні падзелены на шэсць асноўных вялікіх груп, кожная з якіх складае асобную кнігу:

1. Заручынныя. Малады збіраецца і едзе да маладой.
2. Каравайныя. Зборнай суботы. Пасадныя.
3. Сірочыя. Малады прыязджае да маладой. Шлюбныя.
4. Пасля шлюбу ў маладой.
5. Пасля шлюбу ў маладога.
6. Велічальныя. Жартоўна-сатырычныя. Прыпеўкі. Прыгаворы, рацэі, пажаданні.

Кожная кніга змяшчае ўступны артыкул, у якім характарызуюцца ўключаныя ў яе песні, раскрываюцца іх абрадавыя і жанравыя асаблівасці, а таксама мае музычны дадатак. У каментарыях адзначаны толькі тыя натацыі мелодый, якія зроблены не самім збіральнікам. Песні падаюцца па першакрыніцах, перадрукі не ўлічваюцца. У апошняй, 6-й кнізе, будуць змешчаны пасляслоўе і слоўнік малаўжывальных слоў і архаізмаў. Асобную кнігу складуць вясельныя мелодыі (напевы і найгрышы).

*Л. А. Малаш*

# ПЕСНІ ЗАРУЧЫН І АД'ЕЗДУ МАЛАДОГА ДА НЯВЕСТЫ

Заручыны — адзін з важнейшых вясельных абрадаў, у часе якога хлопец і дзяўчына аб'яўляюцца жаніхом і нявестай, урачыста дамаўляюцца («заручаюцца») аб шлюбе. Амаль паўсюдна ў Беларусі перад заручынамі адбывалася сватанне, а ў многіх раёнах — яшчэ запоіны (запівіны, барышы, малая гарэлка, вялікая гарэлка). Ва ўсе гэтыя назвы ў розных месцах укладваўся неаднолькавы змест. У пачатку XIX ст. у Барысаўскім павеце Мінскай губерні, напрыклад, заручынамі называліся «малыя» запоіны. Дамоўленасць аб шлюбе пасля іх яшчэ не лічылася канчатковай. Толькі пасля «вялікіх» запоін нельга ўжо было адмаўляцца ад дадзенага слова, «як пасля вельмі ўрачыстай прысягі» [1]. Але ў большасці выпадкаў запоіны адбываліся пасля сватання перад заручынамі. Нярэдка сватанне і запоіны або запоіны і заручыны аб'ядноўваліся. Часам жа, каб дамовіцца аб шлюбе, збіраліся некалькі разоў. Пашыраным быў таксама перадвясельны звычай агледзін (сугляды, разглёды, даведкі, выгляды, угледзіны), які адбываўся ў пэўны дзень, часцей за ўсё пасля сватання або першых запоін. Асноўнай мэтай гэтага звычаю быў агляд хаты і гаспадаркі жаніха, знаёмства з пасагам нявесты. Беднейшыя сяляне нярэдка вымушаны былі ісці на падман: каб гаспадар здаваўся больш заможным, насыпалі зерне на бочку, перавернутую дном уверх, пазычалі ў суседзяў рэчы, жывёлу. Ад вынікаў агляду гаспадаркі і пасагу залежала канчатковая згода на шлюб.

Вясельныя абрады пачыналіся са сватання. У сваты хадзілі звычайна некалькі чалавек, адзін з якіх быў гаваркі і дасціпны. Па традыцыі ён лічыўся старэйшым сватам і вёў асноўную гаворку.

Звычай сватання, як і іншыя вясельныя звычаі, меў розныя формы. Здаралася, што ў сваты не ездзілі, а бацька жаніха сам выбіраў яму нявесту. «Бывалі выпадкі,— адзначае А. Шлюбскі,— што маладыя да шлюбу ў царкве ніколі адзін другога не бачылі» [2].

Песні, прыгаворы, прамовы, дыялогі, якія гучалі на падрыхтоўчым этапе беларускага вяселля, нярэдка мелі алегарычны характар і адлюстроўвалі розныя старажытныя звычаі. Найбольш ярка адбіліся ў гэтых творах старажытныя формы шлюбу — умыканне і купля-продаж нявесты.

---

[1] Вяселле. Абрад. Уклад., уступ. арт. и камент. К. А. Цвіркі.— Мн., 1978, с. 42.

[2] Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. 2.— Мн., 1928, с. 81—82.

Часта замест прамой прапановы бацькам даць згоду на шлюб дачкі сваты «дыпламатычна» пыталіся: «А ці не маецца цялушкі на продаж?» [3]; «У вас, гаварылі, прадаецца цялушачка, а мы здалёку, людзі нам параілі, мы і прыехалі. Карова добрая, ад яе і цялушачка добрая. І будзем мы купляць яе...— Ну й прадаецца,— у адказ ужо,— але ж каму і за якія грошы» [4].

Паводле запісу Е. Р. Раманава, у час сватання пры згодзе на шлюб бацька жаніха прыносіць паўвядра гарэлкі, а «бацька нявесты пасылае каго-небудзь клікаць «на магарыч» [5], якім звычайна замацоўваецца «торг».

У песні, якая спявалася ў час запоін або заручын, бацька гаворыць дачцэ:

Мой двор пры дарозе,
У мяне госці пры парозе;
Купчыкі заязджаюць,
Тавару пытаюць,
Тавару дарагога,
Дзіцяці маладога.

Па апісанню Р. Друцкага-Падбярэзскага, на заручынах брат нявесты таргаваўся з жаніхом за касу сваёй сястры: «Ён узлазіць на лаву ззаду яе і, закасаўшы рукавы па локаць, з прытворна суровым выглядам, быццам бессардэчны валадар, хапае леваю рукою касу дзяўчыны, якая плача, а праваю — нож і пагражае зараз жа адрэзаць цудоўныя валасы, калі жаніх не заплоціць яму выкуп. Доўга і ўпарта яны таргуюцца, але, нарэшце, справа ўладкавана, брат злазіць з лавы, а нявесце надзяваюць на галаву мужчынскі каўпак» [6].

Звычай куплі-продажу нявесты М. М. Нікольскі адносіць да родаплемяннай эпохі, але лічыць, што ён існаваў доўгі час і пазней у рабаўладальніцкім і раннефеадальным грамадстве [7].

Як слушна падкрэсліла Э. В. Памяранцава, «гандлёвы характар сватання і пастаянства матыву продажу нявесты ў вясельнай паэзіі тлумачыцца не толькі наяўнасцю перажыткаў шлюбу — куплі-продажу, які існаваў у эпоху разлажэння радавога ладу, а яшчэ і тым, што вяселле ў патрыярхальнай сям'і з'яўлялася перш за ўсё гаспадарчай здзелкай, было звязана са стварэннем новай эканамічнай адзінкі» [8]. Даследчыца зрабіла правільны вывад, што на аснове гэтага матыву «стварылася цэлая сістэма вясельнай сімволікі: сваты, жаніх — купцы; нявеста — тавар; шлюб — гандлёвая здзелка».

У многіх апісаннях беларускага вяселля рысы звычаю куплі-продажу нявесты адсутнічаюць. Паміж сватам і бацькамі нявесты часцей за ўсё ад-

---

[3] Запольский М. Белорусская свадьба и свадебные песни.— У кн.: Этнографическое обозрение. Киев, 1888, с. 4.
[4] Вяселле. Абрад, с. 511.
[5] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8.— Вильна, 1912, с. 452.
[6] Вяселле. Абрад, с. 93.
[7] Никольский Н. М. Происхождение и история белорусской свадебной обрядности.— Мн., 1956, с. 44.
[8] Померанцева Э. В. Семейная обрядовая поэзия.— У кн.: Русское народное поэтическое творчество. М., 1956, с. 244.

бывалася прамая размова аб мэтах прыходу сватоў або дасціпны і гаваркі сват выкладаў сваю прапанову ў алегарычнай форме без усякіх намёкаў на куплю-продаж нявесты: «Наш бык да да вашай цялушкі прывык, каб даў бог даждаці вашую цялушку да нашага быка загнаці»; «Ну што, сватка, трэба намяшаць жыта з пшаніцаю»; «Наша куніца ды забегла ў вашу пшаніцу. Трэба яе выгнаць да пшаніцу агледзець» [9]; «Ці не забегла к вам наша цяліца ці кабыліца?» Яму адказвалі: «А глядзіце, шукайце, можа і забягала» [10]. Асабліва доўгая алегарычная размова вялася са сватамі, якія выдавалі сябе за падарожных [11].

Існавала нямала звычаяў, якія сімвалізавалі згоду або нязгоду дзяўчыны на шлюб. Калі адмаўлялі сватам, сяброўкі нявесты ўтыкалі ў іх воз галень (дзяркач), жаніху ці свату непрыкметна прычэплівалі нітку ці прышпільвалі кавалачак тканіны. Часам дзяўчаты надзявалі «жаніху» вянок з гароху або з сена. Такі вянок маглі таксама зачапіць на доўгую палку і паставіць на двары жаніха, каб усе бачылі, што ён атрымаў галень [12]. Калі дзяўчына прымала хлеб ад сватоў, выпівала чарку гарэлкі і перадавала яе сватам, гэта азначала згоду на шлюб. Калі ж нявеста на запытанне бацькі аб яе згодзе маўчала і пасля прапановы падмесці хату пачынала месці ад стала да дзвярэй, дык тым самым яна паказвала, што адмаўляе жаніху [13].

У шматлікіх беларускіх вясельных песнях таксама пакінуў след звычай умыкання нявесты. Але гэты след з цягам часу ўсё больш і больш сціраўся і ў перыяд запісу вясельных песень ужо не ўсведамляўся ні выканаўцамі, ні слухачамі. Адлюстраванне гэтага звычаю ў песнях успрымаецца як цікавы паэтычны малюнак:

Ды дымна поле, дымна,
Да нічога не відна.
Не само яно дымна —
Там Пятрочка ваюе,
Па ім матка бядуе.
— Не бядуй, мая мамачка,
Да не адзін я ваюю,
Усё войска ваюе.
Сівы конь пада мною,
Сам гасподзь нада мною;
Да як рой высыпае,
Да як мак зацвітае,
Як чырвоная роза.
Памажы яму, божа,
Цесцеў двор зваяваці,
Сабе Марыльку ўзяці.

У гэтых песнях гаворыцца пра «вайну» за нявесту, у якой удзельнічае ўвесь род. У песні «Расхадзіўся ясны месяц па небу» жаніх заклікае ўсіх

---

[9] Вяселле. Абрад, с. 215.
[10] Шейн П. В. Материалы для изучения языка и быта русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 2.— СПб, 1890, с. 295.
[11] Вяселле. Абрад, с. 123.
[12] Там жа, с. 523.
[13] Там жа, с. 418.

родзічаў сабрацца і ісці «да цесценькі на вайну, звяваць яго ў даму», выбіць «сцяну-краміну кубочкам» і ўвяць «маладу Надзечку з вяночкам». Дружына часта называецца «войскам». Жаніх звычайна едзе на кані, які нярэдка персаніфікуецца. Конь размаўляе з героем (або «як салавейка шчабечыць»). Ён пераконвае жаніха:

Не бі мяне, Антоська, па галоўцы,
Я ж табе надобен буду ў дарожцы.
Я ж цябе перад цесцікам узвялічу,
Я цясцёву вулку хвосцікам вымету,
Я цясцёвы вароцікі ножкамі адчыню,
Я цясцёў дворычак капыткамі утапчу,
Я вушкамі далёка войска пачую,
Я вочкамі на небе зоркі палічу,
Я цясцёў ганачак грыўкай накрыю,
Бокам пад ваконца падвязу,
Я губкамі кубачкі віна перайму,
Я сілкай тваю дружынку павяду.

У шматлікіх песнях перадвясельных этапаў выказваюцца глыбокія пачуцці маладых, калі яны бралі шлюб не па прымусу. Перажыванні жаніха ярка раскрываюцца з дапамогай псіхалагічнага паралелізму, дзве карціны якога трапна суадносяцца па зместу: лятае па садзе і марыць аб зязюлі салавей — «на адным сучку сядзелі б, адну думачку думалі б, адну песенку пялі, адну б ягадку клявалі»; ходзіць па цераму Міколка і марыць аб шлюбе з Аксюткай — «за адным сталом сядзелі б, адну думачку думалі б; адну песенку пялі, адну б чарачку пілі». У іншым варыянце жаніх з нявестай «адной бы ложачкай наеўся, з адной ба чарачкі напіўся, на адной бы пасцельцы лажыўся і адным бы знізачкам накрыўся».

Адбіліся ў гэтых песнях і даўнія патрыярхальна-сямейныя адносіны, калі звычайным было «павучаць» жонку, для чаго служыла «раменная плець». Жаніх пахваляецца, што ў яго, малайца, ёсць «новая клець, а ў клеці за дзвярамі — раменная плець». «Як секану маладу меж белых плеч, вось тагды розуму дапытаюся, дыхання даставеруся» — так бачыцца яму, як само сабой зразумелае, будучае сямейнае жыццё.

Песні папярэдніх этапаў вяселля па свайму функцыянальна-эстэтычнаму прызначэнню павінны былі апаэтызаваць усталяваныя абрады і звычаі, спрыяць шчасцю маладых, ідэалізаваць і ўслаўляць іх, садзейнічаць стварэнню пэўнай атмасферы — весялосці або смутку. Разам з тым яны адлюстроўвалі юрыдычна-бытавое замацаванне новых узаемаадносін маладых, іх пачуцці ў час, калі вырашаўся іх лёс.

На гэтым этапе асабліва выразна выяўляецца утылітарная функцыя абрадаў і паэтычных твораў. Заклёны і заклінальныя песні павінны былі садзейнічаць дабрабыту сям'і, яе росту, добраму ўраджаю, прыплоду ў хлявах. Паводле запісаў М. Федароўскага, «калі п'юць за здароўе заручоных, выкрыкваюць: «Віват! Дай жа божа, каб нашыя маладыя заўсёды вясёлыя былі, каб скакалі, гулялі, пладзіліся, як пчолы ў улею альбо авечкі

ў хляве, а любіліся, як галубкі ў гняздзе!» [14] Перш за ўсё ў гэтых песнях адлюстраваліся гаспадарчыя клопаты селяніна. Калі прыязджалі сваты, гаварыцца ў некаторых песнях, нявесты часцей за ўсё ў хаце не было: яна пасвіла валоў або збірала суніцы, брусніцы, каліну, маліну, грыбы і інш. Нявеста дакарае маці за тое, што яна за «адну вечарынку» прапівае дачку, а потым будзе горка раскайвацца: выйдзе ў «чыстае поле буйнае жыта жаць», але не будзе «з кім пажынаць», некаму будзе снапы «панасіці», сціры «завяршыці» і г. д.

Чуллівым шкадаваннем бацькоў прасякнута песня «Ой, добра, добра табе, татулька», у якой дачка-нявеста напамінае бацькам, як цяжка ім будзе без яе:

Ой, як пойдзеш ты, а мой татулька,
Да на ток малаціці,
Цапочкам махнеш, цяжанька ўздыхнеш,
Сільненька заплачаш:
— Ой, няма, няма майго дзіцяці,
Няма яе работачкі.
Ні работкі яе, ні паходкі яе,
Ні самое маладое.

Аналагічныя перажыванні ўласцівы і маці, якая таксама аплаквае дачку.

На ўсіх этапах вясельнай абраднасці важнае месца належыць велічальным песням. Як і ў рускім вяселлі, дзе «велічальная песня спадарожнічае вяселлю з самога пачатку» [15], таксама і ў беларускай шлюбнай абраднасці велічальныя песні выконваюцца ўжо на заручынах. Праўда, дыяпазон адлюстравання падзей у іх вузейшы, чым у песнях, якія спяваюцца на галоўным этапе вяселля. Велічальныя песні заручын малююць вобразы нявесты, жаніха, бацькоў, сватоў з поўнай доляй ідэалізацыі: жаданае нярэдка выдаецца за рэальнае. У песні «Наляцела галубоў поўны двор» для стварэння прывабнага вобраза жаніха скарыстан прыём выключэння. З сямі «заручнікаў» нявеста пазнае жаніха: гэта не той, што «на лаўцы ў камілаўцы», не той, што «на куце ў сівым кажусе», не той, што «ля прыпечку грае ў скрыпачку», не той, што «ля печы ды трэ плечы», не той, «што ў парозе ўвесь у марозе», і не той, што «на ўслоне да трэ далоні», а той, «што ля ваконца зззяе, як сонца, гэта ж мой!»

У песні «Аддавайце, не бойцеся» сваты імкнуцца схіліць нявесту і яе бацькоў да згоды на шлюб, ідэалізуючы будучае жыццё маладой у новай сям'і:

Аддавайце, не бойцеся,
Каяцца не будзеце.
У нас маладухам добра:
Бочкамі ваду возяць.
Бочкамі ваду возяць,
А катламі есці вараць.
А дзевяры таўкуць, меляць,
А заловіцы прадуць, шыюць.

---

[14] Вяселле. Абрад, с. 127—128.
[15] Аникин В. П. Календарная и свадебная поэзия.— М., 1970, с. 114.

Народныя погляды на вартасці нявесты выразна раскрываюцца ў песнях-павучаннях маці сыну. Рэгламентуючы паводзіны сына ў час сватання, маці раіць яму глядзець не золата і серабро, а дзяўчыну. І першае яе пытанне пасля звароту сына — якая нявеста? У многіх песнях дзяўчына «бела, румяна», скора «на хадню», працавіта, «людзі хваляць».

Як і ў іншых вясельных песнях, у песнях заручын паўстае ідэальны вобраз нявесты. Некалькімі трапнымі, выразнымі штрыхамі малюецца партрэт любай дзяўчыны, засмучанай нязведанай будучыняй:

У мае Марылькі па плечах коскі,
Па плечах коскі, пад вачыма слёзкі.
Па плечах коскі да парассцілаліся.
Пад вачыма слёзкі да паразліваліся.
Па плечах коскі, як лён бяленькі,
Пад вачыма слёзкі, як мак драбненькі.

Псіхалогія дзяўчыны, якой трэба пакінуць родную сям'ю, бацькоўскую хату і пайсці жыць да чужых людзей, дзе за кожным яе крокам будуць прыдзірліва пазіраць неласкавыя свёкар і свякруха і ўся радня мужа, раскрываецца традыцыйнымі выяўленчымі сродкамі. Вобраз падстрэленай «вутачкі», якая «нізенька ляціць, не далятаець, нам крыллейкам не махаець», асацыіруецца з вобразам заручонай дзяўчыны, якая прадчувае свой бязрадасны лёс: як падстрэленая птушка, яна «смутненька ходзіць, цяжанька ўздыхаець. А дзе станець, прыхінецца, слявьмі абальецца».

Адна з найбольш характэрных асаблівасцей вясельнай лірыкі ўсходнеславянскіх народаў — наяўнасць багатай сімволікі — у беларускай вясельнай паэзіі выяўляецца ўжо ў песнях, якія выконваліся ў час перадшлюбных абрадаў. Невялікая песенька:

Наша Таццянка, наша,
Паймала сабе пташа
Да ў зялёным жыце,
У чырвоным аксаміце,[16]

— уся суцэльная алегорыя, напоўненая сімвалічнымі вобразамі, якія для ўдзельнікаў вяселля добра зразумелыя.

Сімвалам горкага расставання нявесты з матуляю бывае бярозка з лісточкам. Яны вядуць паміж сабой размову [17], напоўненую глыбокім лірызмам: «А мой лісточак, мой зялёненькі, як жа мы расстанемся? Ветрык павее, цябе пакаце, а я тут застануся, дажджом аблiюся». Сэнсавая паралель — размова матулі з дачкой: «Дачушка мая, мая родненькая, як жа мы расстанемся? Сваты прыедуць, цябе павязуць, а я тут застануся, слёзкамі абальюся».

---

[16] Рукап. аддз. б-кі Варшаўскага ун-та, сігн. 469, № 31; I (запіс Г. Траяноўскага).

[17] Бяроза паэтычна персаніфікуецца і ў песні «Ішла бярозушка па дарозе, грымела», дзе гэты вобраз з'яўляецца адной паралеллю сінтаксічнага паралелізму, па сэнсу не звязанай з далейшым зместам песні.

Падобныя сімвалы часта сустракаюцца ў вясельнай лірыцы. Так, каліна сімвалізуе дзявочую чысціню, яе маральна-духоўную прыгожасць. Вобраз каліны ў вясельных песнях мае і магічнае значэнне. Песні з гэтым сімвалам павінны былі замацаваць каханне і прынесці шчасце сям'і. Як падкрэслівае В. І. Яроміна, народнай лірычнай песні ўласцівы толькі асацыятыўныя сімвалы, абрадавай — толькі магічныя, а вясельнай паэтыцы — абодва тыпы сімвалаў. Яна піша: «Там, дзе лірычны струмень пераважае, сустракаемся з сімваламі асацыяцый (каліна ў песнях не ёсць нявеста, але тэма нявесты нязменна выклікае пэўны славесны сімвал). Там, дзе ў вясельных песнях моцны абрадава-магічны момант, сімвал будзе дакладным (сімвалічнае дзеянне і звязаныя з ім словы-сімвалы — абсыпанне зернем, хмелем — абазначаюць жаданы дастатак, весялосць)» [18]. Аднак думку В. І. Яромінай нельга лічыць правільнай для ўсіх эпох. Многія лірычныя песні вычлeніліся з абрадавай паэзіі і, магчыма, раней выконвалі і магічную функцыю. У пазнейшую эпоху, да якой адносяцца творы, што разглядае Яроміна, нават у абрадавай паэзіі магічна-утылітарная функцыя паступова ўступала сваё дамінантнае месца эстэтычна-мастацкай.

Каліна часам персаніфікуецца і ў паэтызаваным малюнку прыроды, дзе яна асацыіруецца з падзеямі, якія адбываюцца на заручынах:

Хвалілася калінaчка за ракой:
— Ніхто ж мяне не высячэць за вадой.
Абазваўся буен ветрык на яе:
— Ды я ж цябе хоць не высеку, дак зламлю.
Ды я ж цябе хоць не высеку, дак зламлю,
Да я ж тваё веццейка паламлю.

Гэта паралель адпавядае эпізоду з рэчаіснасці — з заручын: маладая Маруська пахваляецца, што яе ніхто «не дастаніць за сталом», малады ж Міколка запэўнівае: «Ды я ж цябе, хоць не вазьму, заручу, ды я ж цябе ад дзевачак адлучу, ды я ж цябе і к жоначкам прылучу».

У прыведзеных песнях вобраз каліны выклікае ў асноўным светлае, радаснае пачуццё. Але ў вясельнай паэзіі каліна можа сімвалізаваць і сумны настрой, гора. У песні «Загарэлася каліна» [19], напрыклад, вобраз каліны асацыіруецца з журботным настроем нявесты, якая няўцешна аплаквае непазбежнае расставанне з роднай маці. Тут вобраз каліны дасягае асаблівай паэтычнай дасканаласці: яна гарыць чырванню, «перад зорынькай стоючы», ветрык спрабуе патушыць яе, але яшчэ больш раздзімае іскры... Расплакалася Настулька, а спробы «мамухны» ўцешыць дачку паддаюць ёй яшчэ больш жалю. Чырвань каліны сімвалізуе тут каханне дзяўчыны, якое яшчэ больш разгараецца ў час вяселля. Гэты сімвал мае і пэўнае эратычнае адценне. Аднак у шэрагу песень каліна характарызуецца як нешчаслівае дрэва.

[18] Еремина В. И. Поэтический строй русской народной лирики.— Л., 1978, с. 133—134.

[19] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 2, с. 55.

У некаторых песнях адшуканне каліны сімвалізуе пачатак заручын. Дзяўчына пасылае свайго бацьку ў «цёмны луг па каліну». Але бацька «ўвесь лужок сышоў, каліначкі не знайшоў» і засмучае дачку: «Быць табе, дочачка... без вяночка». Не знайшла каліны і маці. Тады пайшоў малады Колечка — «увесь лужок сышоў і каліначку знайшоў.— Быць табе, дзевачка, быць табе, маладая, быць табе ў вяночку: вецер павеяў, сонца прыгрэла — і каліна паспела». Апошнія радкі сімвалізуюць сталасць дзяўчыны: пара ёй браць шлюб.

Вобразы-сімвалы ў вясельнай паэзіі ў большасці выпадкаў уваходзяць у паралелізм і так жа, як вобразы жаніха і нявесты, часта вызначаюць асноўны сэнс песень.

У якасці сімвалаў у песнях фігуруюць яшчэ бяроза, рабіна, сасна, явар, яліна і інш. Пры гэтым яліна і рабіна сімвалізуюць няшчасце, сасна, явар, наадварот,— удачу, шчасце. У песні «Едзь, паедзь, сыночак, жаніцца» рабіна—«дзераўцо нешчаслівае: зверху рабіну пташкі клююць, а пасярод рабіну чэрві точуць, з камля ў рабіны кроў цячэць». Рабіне супрацьпастаўляецца явар: «зверху ў явары пташкі пяюць, а пасярод у явары пчолкі звіняць, а з камля ў явары мядок цячэць». Аналагічна проціпастаўляюцца яліна і іншыя дрэвы.

Паэтычнымі сімваламі ў песнях нярэдка выступаюць птушкі, жывёлы. Сокал — жаніх; галубы — сваты, дружкі; перапёлка — маці. Аднак значэнне гэтых вобразаў не заўсёды ўстойлівае.

Сэнс і значэнне народных сімвалаў часта раскрываюцца ў саміх песнях. У песнях з матывам «дзіўны сон» матка або сястра разгадвае сон дзяўчыны, тлумачыць сэнс сімвалічных вобразаў. У песні «А ў суботу проці нядзелі заснула Галечка пад кудзеляй» прысніўся дзіўны сон маладой:

Наляцела галубоў поўненькі двор.
Каля тых галубоў сіза паванька,
Каля той паванькі ясен сокал,
Каля таго сокала бочка віна,
Каля той бочкі залаты замочак.

Дасціпна разгадвае гэты сон маці: «Галубы — сваты твае, сіза пава — твае сваціhaькі, ясен сокал — твой Іванька, бочка віна — слёзкі твае, залаты замочак — твой вяночак».

У іншым варыянце песні («З суботкі на нядзельку») сокалы — сваты, золата — слёзкі. Такая няўстойлівасць сэнсавага значэння сімвалаў сведчыць аб страчванні абрадавымі песнямі сваёй першапачатковай функцыі і разбурэнні сімволікі ў беларускай народнай вясельнай паэзіі.

Сярод магічна-абрадавых дзеянняў важнае месца на заручынах і іншых этапах вяселля займаў звычай абдорваць сватоў, маладых, бацькоў жаніха. Як пісаў С. І. Карскі, пасля сватання пры развітанні нявеста давала ў падарунак жаніху бутэльку, напоўненую жытам. Пры гэтым яна загортвала бутэльку ў кавалак саматканага палатна і абвязвала поясам сваёй работы. Калі ж хлопец перадумваў жаніцца, ён павінен быў вярнуць дзяўчыне яе

падарунак. Калі ж ён не рабіў гэтага, дзяўчына навечна праклінала яго. С. І. Карскі тлумачыць такое стаўленне да падарунка яго значэннем: «Не аддаў жыта, не будзе жыцця»,— кажуць у народзе. З гэтым падарункам звязана ўсё шчасце дзяўчыны» [20]. Дарэчы, жыту, хлебу надавалася асаблівае значэнне на ўсіх этапах вяселля, і таму звычаі з выкарыстаннем жыта або печанага хлеба дайшлі аж да нашага часу, аб чым сведчаць пасляваенныя запісы [21]. Але функцыянальнае значэнне гэтых дзеянняў успрымалася ў розныя эпохі неаднолькава. Калі ў далёкі дарэвалюцыйны час людзі верылі ў магічную сілу гэтых звычаяў і ставіліся да іх як да свяшчэннадзеяння, дык савецкія працоўныя ўспрымаюць іх як цікавую вясельную традыцыю, для якой характэрна стаўленне да хлеба з асаблівай пашанай.

У песнях пачатковага этапа вяселля дэталёва паказана, як маладая рыхтуе падарункі і як абдорвае імі радню жаніха. Дары нявеста рыхтавала задоўга да вяселля — «не за дзень іх выпрала, не за два дні выткала». Але іх так многа трэба, што ў многіх песнях маладая плача і цяжка ўздыхае, непакоіцца, ці хопіць падарункаў. Яе супакойвае жаніх: «Я ж сваю радзіну на дагодзе упрошу, я ж табе, маладзенькай, падаркаў уменшу». У некаторых песнях нявеста вядзе размову з дарамі, як з жывымі істотамі: «Ой, дары ж мае, дары, каб я сёе ведала, што мне падарачкі трэба, то б я ранenька ўставала, я б танюсенька прала, я б гусценька ткала, я б бела да бяліла, свякроўку да надарыла». У другой песні пералічваецца радня жаніха, якую павінна абдорваць маладая: «Свёкру, як бацьку, а свякрові, як мамцы, а дзевяратку, як братку, а залвіцы, як сястрыцы».

У некаторых песнях у паэтычнай форме не толькі гаворыцца аб падрыхтоўцы падарункаў і аб іх раздачы, але і тлумачыцца, дзеля чаго гэта маладая робіць:

Каціўся гарошак па сенажаці,
Хваліўся Колечка Надзечку ўзяці.
Яна, маладая, яго жалавала,
Выняла хусцінку да й падаравала:
— Дарую хусцінку, бялым-бяленьку,
Глядзі, Колечка, каб доля дабрэнька.
— Яе хусцінка шоўкам пашыта,
Глядзі, Колечка, каб не была біта.

Падрабязна пералічваюцца ў песнях дары нявесты і жаніха. Нявеста тчэ тонкія абрусы з дзівоснымі ўзорамі, але жаніх не дае «абрусаў даткаці» і просіць яе «з сабой сядаці». Жаніх жа прывозіць сваёй нявесце чорныя чаравічкі, белыя панчошкі, залаты кубак, залаты пярсцёнак. Але самы лепшы падарунак — сам жаніх:

Першы падарак — пярсцёнак,
Другі падарак — вяночак,
Трэці падарак — конь вараны,
Чацвёрты падарак — сам малады.

[20] Вяселле. Абрад, с. 263.
[21] Там жа, с. 494—522.

Для жаніха ж найлепшы падарунак — нявеста[22]: «Адзін падарак — залаты персцень, другі падарак — шаўковая хустка, трэці падарак — красная Агатка. Залаты персцень на мянянне, шаўковая хустка на ўціранне, а красная Агатка на каханне».

У песнях пра абдорванне ўдзельнікаў заручын услаўляюцца працавітасць, умельства маладых. Напрыклад, у песнях «Казалі, Машачка не ткаха», «Мала ніванька» і іншых «нявесты раненька ўставалі», «таненька ўпрадалі», «беленька бялілі» і шмат дароў нарабілі, што «ўсіх абдарылі». Сур'ёзнае стаўленне да абдорвання спалучался з вясёлымі жартамі. У песні «Наша Агатка хоць невялічка — разумна» іранічна «славіцца» нявеста за падарункі: яна «ўсім сваточкам па коніку дарыла, а старшаму свату сляпую кабылу ўбіла. Усе сваточкі на коніках грыцуюць, а старшы сват з сляпой кабылай гаруець».

Гумарыстычныя песні развейвалі смутак і стваралі вясёлую атмасферу з самага пачатку шлюбнай урачыстасці. Знарок, для смеху ганьбілі падарункі жаніха: «Лепша наша Маруся, ніж вашы чаравічкі з бураковай ічкі, паперам падбіты, па салому хадзіці».

Яркім паэтычным харастом вызначаюцца песні, у якіх адлюстроўваюцца зборы маладога ў дарогу — да нявесты. Ён каня «расіцай умываець, у яго праўданькі пытаець: А ці маеш, косю, у ножках моц?» Характэрна, што конь паўстае з песні ў казачным абліччы: ён чалавечым голасам гаворыць з маладым і просіць яго накарміць «аброкам», напаіць вадою, і тады ён паедзе, «капытом дарожку пішучы, вочкамі места свецючы».

Далёкасць і цяжкасць дарогі гіпербалізуюцца: маладому трэба ехаць у чужую зямлю, дзе «пясок да камень, конічак ступіць — падкоўку зломіць» («А ў садзе, садзе, да ў вінаградзе»). Маладая ўпрыгожвае дарогу, паляпшае яе: пакрывае лясы намётачкамі, сцеле дарожку ручнікамі, масты мосціць пярсцёначкамі, каб конікі не падбіліся і г. д. («Мой брацетка хоць маленькі — разумненькі»).

Малады ў некаторых песнях баіцца нязведанай дарогі і нават плача, але яго суцішае маці абяцаннем, што пашле не аднаго, а з дружынай («Ці ў моры гуслікі граюць», «Не гусі іграюць на моры» і інш.).

Песні асвятляюць асноўныя вясельныя звычаі, рэгламентуюць, што і калі гаварыць маладому, маладой. У песні «Стаіць дубочак, як арабочак» малады «слёзанькі ўцірае» і ў бацькі просіць парады, «што ў дзеўкі гаварыці». У гэтай, як і ў многіх іншых песнях, бацька раіць сыну не гаварыць нічога — «ёсць... дружанька да тога». Песні вучаць маладога не піць першую чарку, а выліць каню на грыву, «каб была грывачка кудрава, каб была дзевачка слухмяна» («Не забывайся, жанішка»). Магічна-утылітарная функцыя гэтых дзеянняў відавочная, але іх сэнс пашыраўся: «каб у каня грывухна да пазалацела, каб твая Полечка да памаладзела» («Будзець цябе, Іванька, цешча вітаці»).

---

[22] У песні «А ў цераме за дзвярыма тры браты сядзелі» браты вырашаюць: «Падорым зяця, падорым зяця роднаю сястрою».

Нямала ўвагі ўдзяляецца ў песнях падбору дружыны маладога. Склад дружыны называўся па-рознаму ў залежнасці ад мясцовых асаблівасцей вяселля. У дружыну ўваходзілі маршалкі, баяры, дружкі і інш. Сам малады называўся нярэдка князем. У песні «Конь капытом пазваніў» «князь» будзіць бацьку і наказвае яму: «садзі старасту мавісту, дружку рачысту, сваткі пеўчыя, а музыкі галасістыя». Такі падбор дружыны ў песнях тлумачыцца важнасцю паездкі. Маладому раяць:

Бяры дружыну вяліку,
Паедзем мы ў чужу старану,
Каб нам не было сараму.
Ні за таго музыку-разаку,
Ні за тую сваццінъку-пявунню,
Ні за тых маршалак вымоўных.

Склад дружыны не абмяжоўваўся пэўнай лічбай. У многіх песнях колькасць дружкаў, баяр не называецца, а ў тых, дзе называецца, яна бывае рознай: «дванаццаць каней верхавых, ды восем каней вазкавых, ды два музыкі ігрыстых, ды два маршалкі мавістых, ды тры сваццейкі-пяюнні» («А ці конь капытом заэваніў»); «дзесяць конікаў вараных, да трэба дзесяць малайцоў удалых; трэба восем дзевачак маладых, ды шчэ трэба пяць музыкантаў вясёлых» («Да не нудзі, малады Яначка, не нудзі») і інш.

У адпаведнасці з мясцовымі звычаямі ў дружыну ўваходзілі не выпадковыя, а пэўныя людзі. Напрыклад, у вёсках Пабярэжжа і Скупліне Барысаўскага павета ў першай палавіне XIX ст. дружына жаніха складалася з [illegible] чалавек: трох свах — старшай (хрышчонай маці) і дзвюх малодшых (сясцёр або блізкіх сваячак); двух дружкоў, двух іх намеснікаў і хрышчонага бацькі жаніха[23]. Цікава, што хрышчонага бацьку шанавалі менш, чым хрышчоную маці: яго саджалі ў канцы стала, а маці займала самае ганаровае месца — на куце.

Коні для маладога і дружыны рыхтуюцца, як у вялікую дарогу або на вайну. Іх не толькі добра кормяць, даглядаюць, але і «абучаюць», гавораць з імі, як з разумнымі істотамі. Тыя ж просяць гаспадароў не біць, а шанаваць іх, тады яны выканаюць наказ («Стучыць-гручыць у Колечкі пад акном»).

Выкарыстанне персаніфікаваных вобразаў і памяншальна-ласкальных суфіксаў садзейнічае стварэнню ў песні надзвычай яркіх паэтычных малюнкаў, эмацыянальнасць якіх асабліва павышаецца ў дыялогах каня і маладога. Конь часам дакарае свайго гаспадара, што ён не разумее прычыны яго смуты:

Ой, цяжка мне, цяжка
Гэта цёмная ночка,
Гразная дарожка.
Ты сам сядзеш за столікам,

---

[23] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 2, с. 73.

Мяне прывяжаш да колiка.
Ты п'еш вiн-мядочак,
А мне нету саломiнкi.
А як сядзеш — паглянеш,
На мяне й не падумаеш,
А я бягу, пабягаю,
Твой сорам пакрываю.

Сядлаючы каня, каб ехаць па маладую, цяжка ўздыхае i «сiльненька плача» i малады. Прычына хутка высвятляецца: бярэ ён «каралеўну — сабе не роўну». Вобраз маладой узвялiчваецца i iдэалiзуецца. Яна «на двор уз'едзе — увесь двор асвеце, у сенi ўвойдзе — чаравiчкам стукне, у хату ўвойдзе — шубачкаю шасне, за столiкам сядзе — ключыкамi лясне» («За лесам, лесам сонейка iграе»). У гэтых песнях паказваецца i прыгажосць нявесты: «яе галоўка — як садова макоўка, яе вочкi — як на небе звёздачкi» («Стучыць-гручыць дарожанька за сялом»).

Змешчаны ў томе i песнi, у якiх паказваецца малады ў дарозе. Яму даводзiцца ехаць «чатыры мiлi борам, пятую — зялёнымi лугамi, шостую — зялёнымi мастамi, сёмую — чысцюсенькiмi палямi, восьмую — зялёнымi садамi, дзевятую — мяцёнымi вулкамi». Шчасцю маладога радуецца ўсё навакола, прырода: «ён борам едзець — пташкi спяваюць яму, ён лугам едзець — луг зелянеець ад яго, ён мостам едзець — масты зыблюцца, ён полем едзець — поле млеець ад яго, ён садам едзець — сад расцвiтаець ад яго» («Раззеляніўся зялёны явор у гародзе»).

Тэматыка вясельных песень пра ад'езд жанiха да нявесты разнастайная: у iх апяваюцца «конiкi», што ля стаенкi стаяць, «сiвыя, буланыя, ў дарожку прыбраныя», «свашачкi», што за столiкам сядзяць, «белыя, румяныя, ў дарожку прыбраныя»; гiпербалiзуецца высокая гара каля сватняга двара, што «нi ўзыйцi, нi ўз'ехаць, сакалом нi ўзляцець»; раскрываюцца мэты збораў дружыны маладога — са «сваёй радзiнай цесцетку звяваць, Агатку ■ сабе ўзяць» i iнш.

Ад'езд поезда маладога да маладой адбываўся з рознымi цiкавымi, часцей за ўсё жартоўнымi звычаямi. У Барысаўскiм павеце хлопцы садзiлiся на коней (з iмi быў абавязкова скрыпач), дзяўчаты i жанчыны размяшчалiся на вазах. У гэты час мацi маладога ў кажуху, вывернутым поўсцю наверх, тры разы абходзiла поезд, пасыпаючы яго аўсом. Дружка адганяў яе бiзуном [24]. Падобныя звычаi, магчыма, мелi ў далёкiм мiнулым утылiтарна-магiчнае прызначэнне, але ў канцы XIX ст., калi яны фiксавалiся этнографамi i фалькларыстамi, магiчная функцыя ў iх выразна не выяўлялася i гэтыя абрады не ўспрымалiся сакраментальнымi.

На першапачатковых этапах вяселля выконвалася нямала песень, якiя не былi непасрэдна звязаны з абрадам i падзеямi. Многiя з iх iмпанавалi настрою ўдзельнiкаў абраду, нiбы прадказвалi будучы лёс маладой, яе жыц-

[24] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 2, с. 81—83.

цё ў новай сям'і і г. д. У песні «Чаго бярозка схілілася», напрыклад, выказваюцца перажыванні гераіні ў сувязі з адыходам адных сватоў і прыходам другіх. Яна просіць маці аддаць яе туды, дзе хораша ў хаце, «дзе свякруха — гаваруха, як родная маці, дзе залвіцы, як сястрыцы, дзе ятроўкі — чарнаброўкі, дзе дзевярочкі, як браточкі...» Прадчувае яна і «нагайку»: «нагаечка драцяная, высока лятае, рубашачка бела, перкалёва ў цела ўліпае».

Такім чынам, ужо на пачатковых этапах шлюбнай абраднасці раскрываюцца надзвычайнае багацце ідэйна-тэматычнага зместу беларускіх вясельных песень, іх паэтычнае хараство, мастацкая дасканаласць.

У першым томе вясельнай паэзіі змешчаны песні, якія спяваліся на запоіны і заручыны, а таксама песні пра зборы маладога да ад'езду да маладой і пра маладога ў дарозе — песні заручынныя і дарожныя. У адпаведнасці з паслядоўнасцю абрадаў і звычаяў, якія выконваліся ў гэты час, і сістэматызаваны тэксты. Аднак гэта сістэматызацыя ўмоўная: змест многіх песень не абмяжоўваецца адной тэмай, таму іх можна аднесці і да іншых груп.

Навукова-тэхнічную работу пры падрыхтоўцы матэрыялаў тома да друку выконвалі Л. І. Павецьева, С. Т. Асташэвіч, А. М. Акунькова, В. І. Скідан.

*А. С. Фядосік*

# ПРЫЕХАЛІ НА ЗАРУЧЫНЫ

## 1

— Баславі, маці,
Ды свайму дзіцяці.

Ды свайму дзіцяці
Заручынкі зайграці.

То ў час, то ў гадзіну
Добраму чалядзіну.

— Я яе баславіла,
Як я яе радзіла.

Я ёй долю дала,
Як я яе спавівала.

Я ў бога шчасця прасіла,
Як я яе насіла.

Тады я ёй долю давала,
Як я яе раджала.

## 2

Запіта Марынка, запіта,
Шоўкам хустанька нашыта.
Запіваў яе ўвесь род,
А яе баценька найперш.
Да папытаймо Марынку
І Марынчынае матаньку,
Ці вяліць, ці благаславіць
Нашыя песенькі спяваці.
А ў нашага сакала́
Дробныя калакала́.
Хоць яны драбненькі,
Абы галасненькі.

А ў нашае Марынкі
Маладыя сватанькі.
Хоць яны маладзéнькі,
Абы яны маўцéнькі:
Адмовілі Марынку ад бацанькі.

3

— Ой, хадзіце на заручыны,
Там Маруся заручаецца.

Там Маруся заручаецца
Да й ад роду адлучаецца.

— Сядзьце, пасядзіце, мае дружачкі,
На маіх белых лаўках.

Селі-паселі, песню запелі,
А Марусечка заплакала.

4

— Павянь, павянь, рута-мята.
— А як жа мне павянуць:
Буйны ветры павяваюць,
Дробны дажджы паліваюць?
— Гуляй, гуляй, Мар'юшка.
— Я ж бы рада пагуляці —
На двор сваты ўз'язджаюць,
Мяне, младу, заручаюць,
Гарэлачкай запіваюць.

5

Кудраўчэ малойчэ,
Чаму на двор заязджаеш,
Ці ты мае маткі не знаеш?
Пазнаеш да маю матку
Да ў таргу, да на рыначку,
П'ючы мёд да гарэлачку,
Мяне, маладзеньку, ў таночку
Да ў руцьвяненькім вяночку.

## 6

— Ідзі, дачушка, дадому —
Наехала сватоў поўны двор.
Наехала сватоў поўны двор —
Выбірай, дачушка, на выбор.
— Адпраўляй, татка, без мяне —
Гэта сваточкі не мае.
Як будуць ехаць да мяне —
Будзе калінка шумеці,
Будзе дарожка звінеці.

## 7

А мы з поля шлі,
Падружку нашлі,
Праз ваду няслі,
Сюды прывялі.
Табе яна жадана,
Табе яна аддана,
А ты нас памяні
За нашы за труды.
А мы ж ножкі трудзілі,
За ёй ў поле хадзілі.
Не дарма ж трудзіліся,
Не дарма ж радзіліся.
Дай нам сладкага віна,
На закуску пірага,
Сыр на талерцы ў паўпуда.

## 8

Ой, на моры на сінюсенькім,
Ой, на моры на сінюсенькім,
На камені на бялюсенькім.

На камені на бялюсенькім,
На камені на бялюсенькім,
Там стаялі два янголы.

Там стаялі два янголы,
Там стаялі два янголы,
Яны стаялі да гаварылі.

Да гаварылі,
Яны стаялі да гаварылі:
— Пабярэмся да за ручанькі.

Да за ручанькі,
Пабярэмся да за ручанькі,
Пабяжым на заручанькі.

На заручанькі,
Пабяжым на заручанькі,
Там дзевачка заручаецца.

Заручаецца,
Там дзевачка заручаецца,
Ад бацюхны адлучаецца.

Адлучаецца,
Ад бацюхны адлучаецца
І к свякратку прылучаецца.

Прылучаецца
Ад бацюхны і к свякратку,
Як і к роднаму бацьку.

9

Завуць мяне на запоіны,
Там дзверы закроены,
Завуць мяне.

Завуць мяне на заручыны,
Там дзверы закручаны,
Завуць мяне.

А мы дзверы адкруцім,
А мы дзверы адкруцім
Да Галечку заручым.

Завуць мяне на запоіны,
Няма ў мяне да жуковіны,
Завуць мяне.

Ой вы, дзевачкі, знайце,
Ой вы, дзевачкі, знайце,
Мне жуковіну дайце.

## 10

Пойдзем, дзеўкі, на заручыны.
Ва ўсіх сені пазакручаны,
Вароцікі пазавалены.
Сядзем, дзеўкі, на заваліны,
Пакуль сені паадкруцім,
А Томачку заручым.

## 11

Пойдзем, дзеўкі, на заручыны,
А там сенцы закручаны.

Пойдзем, дзеўкі, на запоіны,
А там сенцы закроены.

Пакуль сенцы адкруцілі,
Дзевачку заручылі.

Пакуль сенцы адкраілі,
Дзевачку запаілі.

## 12

Пазвалі на заручыны,
Аж дзверы да закручаны.

Пака дзверы адкруцілі,
Дак дзевачку заручылі.

Каб я ведала, не пашла б,
Ці я сабе работы не нашла б?

Напрала б ручáйку з качалку,
Аснавала б красёнцы на кручок.

Аснавала б красёнцы на кручок,
Выткала б спаднічку й хвартучок.

## 13

Прыехалі заручоны
Агрыпінку заручаці.
Аж яе дома няма.

А куды ж яна пашла?
Ці ў бор па ягодкі,
Ці ў луг у каліну,
Ці на сяло па радзіну?
Каб у бор па ягодкі —
Лубочкі б не віселі,
Каб у луг па каліну —
Усе б лугі гаварылі
Праз яе, маладую.
На сяло па радзіну.
Радзіна прыбывае,
Песенькі спявае.

## 14

Прыехалі два заручнічкі.
Каго будзем заручаць?
Маланкі дома няма.
А куды ж яна пайшла?
Ці ў бор па брусніцы,
Ці на межы па суніцы,
Ці ў лугі па каліну?
Каб у бор па брусніцы —
Усе б бары зашумелі,
Каб на межы па суніцы —
Усё б поле задрыжала,
Каб у лугі па каліну —
Усе б лугі забялеліся
Ад яе, маладое, русае касы.

## 15

У нас сягоння заручынкі. *
А каго мы заручаць будзем?

А каго мы заручаць будзем,
А каго замуж аддаваць будзем?

Анечкі дома няма.
А куды ж яна пашла?

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ці ў крыніцу па вадзіцу,
Ці ў клець па мучыцу?

Не ў крыніцу па вадзіцу,
А ў клець па мучыцу.

## 16

Прыехалі заручнічкі
Усё па белы ручнічкі.

Усё па белы ручнічкі —
Некага заручаці.

Некага заручаці,
Няма Зіначкі ў доме.

Няма Зіначкі ў доме,
А пайшла ў цвяточкі.

А пайшла ў цвяточкі,
Ў сінія васілёчкі.

У сінія васілёчкі
А сабе на вяночкі.

А сабе на вяночкі,
А Віцечку на цвяточкі.

## 17

Прыехалі заручоначкі,
Каго ж яны заручаць будуць?

Евачкі дома нету,
У садзе вішні шчыплець.

У садзе вішні шчыплець,
На талерачкі сыплець.

— Гніся, вішанька, гніся,
З каранём вон вярніся.

Мне ў мамкі не жыці,
Па саду не хадзіці.

Па саду не хадзіці,
Вішань не шчыпаці.

Вішань не шчыпаці,
Красачак не рваці.

Красачак не рваці,
Вяночка не віці.

Я ж адзін была звіла,
Я й той не знасіла.

Я й той не знасіла,
Сястрыцу папрасіла:

«Сястрыца мая родная,
Данасі мой вяночак,

Дагуляй мой таночак,
Даламай мой пярсцёнак».

## 18

Прыехалі запіўнікі.
Каго яны запіваць будуць?
Уллянкі дома нету,
Уллянка ў садочку
З каранём вішню ломіць.
— Гніся, вішня, гніся,
З каранём вярніся.
Мне ў таткі не быць,
Вішанек не шчыпаць,
Вяночак не віці,
Дзеўкай не слыці.
Я адзін была звіла,
Я таго не знасіла,
У каморы павесіла,
У каморы, ў куточку,
На жалезным пруточку,
На шаўковым шнурочку.

Туды мой татка ходзіць,
Белыя ручкі ломіць,
Дробныя слёзкі роніць:
«Нет майго дзіцяці,
Не з кім загадаці,
На работку паслаці».

## 19

Прыехалі заручоннічкі.
Каго ж яны заручаць будуць?
Раечкі дома нету,
У саду вішні шчыплець,
На талерачку сыплець.

Ай, раз таму быці,
Мне ў таткі не жыці.
Ай, раз таму стаццa,
Мне з таткам расстацца.

## 20

І прыехалі па заручона,*
І тае ў сене закручона.

І каго ж мы заручаць будзем?
Манечкі дома нет.

І пайшла яна ў ягодкі,
І ў чорныя смародкі.

І бярэ, бярэ ягодачкі,
І чорныя смародачкі.

І спелыя ў рукавочак,
Зялёныя ў прыпалочак.

Спелыя — мамулечцы,
Зялёныя — свякрованьцы.

— І еш, еш, мамулечка,
І ты ж імі не дзівіся.

Ты ж мяне выхавала
І ў людзі пусціла.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— Еш, еш, свякрованька,
Ты ж імі ўдавіся.

Ты ж мяне не хавала,
Хавалую брала.

## 21

Прыехалі да заручнічкі.
Каго яны заручаць будуць?
Пайшла ў ягóдкі, чорныя смарóдкі.
Ягаданькі ж мае, я ж вас бяру
Да не ведаю каму.
Свякроўка ягодкі любіць,
А мяне не галубіць.
Спеленькія ў рукавочак,
А няспелыя ў прыпалочак.
Спеленькія — то мамульцы,
А няспелыя — то свякроўцы.

## 22

Ехалі на заручыны.
Няма каго заручаці,
Да заручаці.

Няма каго да заручаці.
Маладая Кацечка,
Кацечка.

Маладая Кацечка
Пагнала да валы пасціць,
Пасціць.

Пагнала да валы пасціць.
Пасучы, да пагубіла,
Да пагубіла.

Пасучы, да пагубіла,
Шукаючы, заблудзіла,
Заблудзіла.

Шукаючы, заблудзіла,
Прыблудзіла к клеці,
К клеці.

Прыблудзіла к клеці,
К свякрушнінай свечы,
Свечы.

К свякрушнінай свечы.
Пытаецца ў мацеры,
Мацеры.

Пытаецца ў мацеры,
Ці ёсць места легчы,
Легчы.

— Ці ёсць места спаці легчы?
— Ёсць места, да маленькае,
Маленькае.

Ёсць места, да маленькае
Для цябе ж, маладзенькая.

## 23

Паехалі заручнікі.
Каго ж яны заручаць будуць?

Манечкі дома нетуці,
Пагнала караў у поле.

Гонючы, заблудзілася,
Прыблудзіла к таму сялу.

Прыблудзіла к таму сялу,
К свёкраваму двару.

— Ці тут мае валы, валы,
Ці тут мае каровачкі?

А тут-там мае валы,
Тут жа і мае каровачкі.

Тут жа і мае каровачкі,
Тут мае дзевяры й заловачкі.

## 24

Дзевачка ў мамкі на адыходзе,
Пасадзіла арэшка ў гародзе.

— Расці, расці, мой арэшаньку,
Маёй мамцы на пацешаньку.

Прыехалі купцы-дзямідаўцы
Арэшаньку купаваці.

Арэшаньку купаваці,
А дзевачку ды й заручаці.

Арэшаньку да й не купілі,
А дзевачку да й заручылі.

## 25

Зялёна па лугах трава.
Хоць яна зялёна,
Касіць будзем,
На канях, на сіўцах
Вазіць будзем,
У пуню, ў трысцень
Валіць будзем.
Маладзенька княгінька ў бацькі.
Хоць яна маладзенька,
Будзем заручаць,
Горкай гарэлкай
Будзем запіваць,
Звонкімі гуслямі
Будзем заігрываць.

## 26

Зязюлька-кукушка,
Няпраўдзівая птушка.
Няпраўду казала,
Як я ягадкі брала.

Да казала мне
Сем год жыці,
А на восьмы
Замуж выйсці.

Аж пашла я
Да гасподы —
Ажно мяне там
Да запіваюць.

Матка мая
Пірагі саджае,
Сястра мая
Хусткі качае.

Сястра мая
Хусткі качае,
Брацейка мой
Коніка сядлае.

— Ля каго ты, бацюшка,
Да піва варыш?
Ці для мяне,
Ці для суседзей?

— Не для цябе,
Не для суседзей,
А для любага зяця,
Што хоча дачку браці.

## 27

Во прыйшла я з вячорак,*
Аж у мяне сваты ў хаце.

Аж у мяне сваты ў хац[е],
Я не знаю, што ім казац[і].

Я ж думала, што яны смяяцца,
Аж яны за стол садзяц[ца].

Я ж думала, што яны [не] нарокам,
А ў іх пляшкі пад бок[ам].

## 28

Як ■ у зеллечкі пайшла, **
Зязюльку шэрую знайшла.
Зязюлька кукавала,
Ой, яна мне вяшчала
Сем гадоў замуж не ісці.
А як я дамоў прыйшла —
Увесь парадачак знайшла.
Татулечка віно гоніць,
Мамулечка дары кроіць,
Брацетка каня строіць,
Сястрыца сталы сцеліць.
— Татулечка мойродненькі,
Нашто віно гоніш?
— Дачушка мая родная,
Гэта ўсё к твайму вяселлейку.
— Мамулечка мая родная,
Нашто дары кроіш?
— Дачушка мая родная,
Гэта ўсё к твайму вяселлейку.
— Брацетка мой родненькі,
Нашто каня строіш?
— Сястрыца мая родная,
Гэта ўсё к твайму вяселлейку.
— Сястрыца мая родная,
Нашто сталы сцелеш?
— Сястрыца мая родная,
Гэта ўсё к твайму вяселлейку.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

## 29

Ой, кукулька-зяўзюлька,
Непраўдзівая пташка,
Мне няпраўду казала,
Як я ягадкі брала.
Да казала сем год быці,
А на восьмы да вянок звіці,
На дзевяты да данасіці,
На дзесяты да замуж выйсці.
Прыйшла ж я да дамовачку —
Ужо ж мяне да запіваюць:
Татачка да піва варыць,
Мамачка да пірагі пячэ.
— Татачка ж мой родненькі,
Нашто ж ты піва варыш?
— Дзіця ж маё маладзенькае,
К нядзелі, к васкрасеннейку,
Ужо к твайму да к вяселлейку.
— Мамачка ж мая родная,
Нашто ж ты пірагі пячэш?
— Дзіця ж маё радне́нькае,
К нядзелі, к васкрасеннейку,
Ужо к твайму да к вяселлейку.

## 30

Ты, зязюлька мая родна,
Непраўдзівая птушка.

А як я ў лесе была,
То ты мне накавала:

Сем лет дзеўкаю быці,
З руты вяночка насіці.

А як я дадому прышла,
То сваткі дома нашла:

Каснікі па падвор'ю,
Сватачкі па застоллю.

## 31

Скора я з ягадак прыйшла —
П'юць, запіваюць,
Ручанькі прыбіваюць.
— Ты ж, зязюлька няпраўдзіва,
Ты ж кавала і казала,
Што сем лет у бацькі буду
І замуж не пайду.
Аж яны п'юць, запіваюць,
Перад баценькам шапанькі знімаюць:
— Баценьку, пі мёд-гарэланьку,
Аддай сваю дзеваньку.

## 32

Ты заўзулька рабая,
Ты няверная пташка:
Ты ж няверна кавала,
Мне няпраўду казала.
Як жа я па краскі ішла,
Я ж цябе да запытала,
А ты мне закавала:
Яшчэ сем лет у бацькі быці,
А на осьмым да замуж пайсці.
Як прышла я з красак,
Аж мяне да запіваюць:
Мёд-віно на стол носяць
І майго бацюхна просяць.

## 33

Выгаралі лясы, бары.
Пасеялі тры бярозы пры дарозе,
На тых бярозах па лісцейца,
А на тых лісцейках па зязюльца.
Кавалі яны дзень і ноч,
Скавалі яны тры радасці.
Першая радасць — каваны пояс,
Другая радасць — руцвяны вянец,
Трэцяя радасць — залаты персцень.
Каваны пояс — заручаннейка,
Руцвяны вяночак — вянчаннейка,
Залаты персцень — прывязеннейка.

4*

34

— Ты, зязюлька, зязюлька,
Ты няверная пташка.

Ты ж кавала-казала,
Што сем лет у бацькі буду.

Што сем лет у бацькі буду,
На васьмом да замуж пайду.

Мая маманька родная,
Што ж бо мне да за сон спявала:

Голубы ўсей двор укрылі,
Чорны шоўкі распусцілі.

Чорны шоўкі распусцілі,
Золата рассыпалі.

— Мае ж дзіцятка роднае,
Яно ж бо ці недагадліва:

Голубы — сваццi твае,
Чорны шоўкі — коскі твае.

Чорны шоўкі — коскі твае,
Золата — слёзкі твае.

У гэту да нядзеленьку,
Шчасліву да гадзіначку.

35

А Ганечка маладая
Ранюсенька ўстала,
Па сянёх пахадзіла
І мамачку разбудзіла:
— Ой, мамачка родная,
Разгадай мой дзіўны сон:
Галубы наляцелі,
На варотах паселі.
На варотах паселі
І жоўты шоўк развесілі.

Жоўты шоўк развесілі,
Золатам абсыпалі.
— Галубы — сваты твае,
Жоўты шоўк — дарогі твае,
Золата — слёзкі твае.

## 36

З суботкі на нядзельку
Дзеўка сон сасніла.
Дзеўка сон сасніла,
Сама ж яна не пазнала,
Сваей мамачцы сказала:
— Ды мамачка родная,
Што за сон сасніла?
Галубоў наляцела.
Галубы наляцелі,
Па застоллю паселі,
Чорны шоўк развярцелі,
Золата рассыпалі.
— Ды дзіцятка роднае,
Я твой сон разгадаю:
Галубы — сваты твае,
Чорны шоўк — дары твае,
Золата — слёзкі твае.

## 37

У суботу на нядзелю
Галубы наляцелі.
Княгінька не ўвазнала,
У мамкі папытала:
— Мамухна мая, родная мая,
Што ж гэта за галубы,
Што ж гэта за сізыя?
Бел кужаль паклычылі,
Гарошак рассыпалі.
— Дачухна мая, родная мая,
Яшчэ ж ты дурненька:
Бел кужаль — косы твае,
Гарошак — слёзы твае,
Галубы — сваты твае.

38

Да з суботы да на нядзелю
Гануля сон сасніла
Да матачцы да спавясціла:
— Ой, мамачка мая родная,
Ой, што ж бо я за сон сніла:
Сівы голубы да паляцелі,
Белы жэмчуг развярцелі,
А золата пасыпалі.
— Ганулька, маё дзіцятка,
Дурны ты розум маеш,
Свайго сну не разгадаеш:
Сівы голубы — то сваты твае,
Белы жэмчуг — коскі твае,
А золата — слёзкі твае.

39

З суботкі на нядзельку
Кастуля сон відзела,
Сама не спазнала,
Нікому не сказала.
Да сказала, сказала
Сваёй роднай матулі:
— Матулька мая родная,
Што я за сон відзела:
Сокалы прыляцелі,
За столік селі,
Чорны шоўк развярцелі,
Золатам пасыпалі,
Бел кужаль пацягалі.
— Маладая Кастулька,
Малады розум маеш,
Малады розум маеш,
Сну не спазнаеш:
Сокалы — сваты твае,
Чорны шоўк — дары твае,
Золата — слёзкі твае,
Бел кужаль — коскі твае.

## 40

А ў суботу проці нядзелі
Заснула Галечка пад кудзеляй.
Сасніўся моладзé дзіўненькі сон:
Наляцела галубоў поўненькі двор,
Каля тых галубоў сіза паванька,
Каля той паванькі ясен сокал,
Каля таго сокала бочка віна,
Каля той бочкі залаты замочак.
— Маманька родная, разгадай мой сон.
— Дачушка Галечка, сама разгадаеш:
Галубы — сваты твае,
Сіза пава — твае сваценькі,
Ясен сокал — твой Іванька,
Бочка віна — слёзкі твае,
Залаты замочак — твой вяночак.

## 41

Дзеванька матульцы сон казала:
— Разгадай ты, мамунька, гэты сон:
Наляцела галубоў цэлы двор,
Каля таго голуб'я ясны сакол,
Каля таго сакола шэра паванька,
Каля тыя паванькі белыя лябёдкі,
Каля тых лябёдак белы замшэн,
Каля таго замшэна бочка віна.
— Я табе, дачушка, разгадаю:
Шызыя галубы — сваты твае,
Ясны сакол — жаніх твой,
Шэрая паванька — сама маладзенька,
Белыя лябёдкі — свацці твае,
Белы замшэн — то каса твая,
Бочка віна — то сляза твая.

## 42

З суботы на нядзелю
Дзеўка сон відзела,
Нікому не сказала,
Толькі мамцы сказала:
— А мамачка родная,
Мне сягоння дзіўны сон прысніўся:

Быццам на наш двор
Сакалы налятали,
Чорны шоўк расцягалі,
Золата рассыпалі.
— А дзіцятка маё,
Ты не ўвесь розум маеш,
Свайго сна не адгадаеш:
Сакалы — сваты твае,
Чорны шоўк — коска твая,
Золата — слёзкі твае.
— Два сокалы шэранькія
На куце пасядзелі.
Ластаўка крылатая
Па хаце паляцела.
— Два сокалы шэранькія —
Два дзевяры міленькія.
А ластаўка крылатая —
Свякроўка праклятая.

## 43

А ў нядзелю рана
Дзевачка сон відзела.
Сястрыцы гаварыла:
— Дзіўны сон я відзела,
Што на нашых варотах
Ясен сокал сядзіць
І на мяне прыстальна глядзіць
Із-пад правага крыльца,
Із-пад залатога пярца.
— Сястрыца, не ёсць то ясен сокал,
А малады сужанька.
Ён на коніку сядзіць,
На цябе толькі глядзіць
Із-пад правай рукі,
Із-пад залатога персня.

## 44

Пашачка матушцы сон кажаць: *
— А разгадай, матушка, дзіўны сон,
Што я ўва сне відзела:

* Кожны радок паўтараецца.

Налецела поўны двор галуб'я,
А ў вароціках — рэчанька,
Па той рэчаньцы — плавунок,
З-пад таго плавунка — чаўначок,
З-пад таго чаўначка — букаўка,
З-пад той букаўкі — ягадка,
З-пад той ягадкі — красачкі,
З-пад тых красачак — макаўкі.
— Я ж табе, дочанька, рассужу:
А што галуб'я — сватоўя,
А што рэчанька — дарожанька,
А што плавунок — то канёк,
А што чаўначок — вазочак,
А што букаўка — Васечка,
А што ягадка — Пашачка,
А што красачкі — дзевачкі,
А што макаўкі — свашачкі.

## 45

У нядзелечку рана
З неба іскрачка пала.
Анечка рана ўстала,
Па сянёх пахадзіла,
Мамачку пабудзіла.
— Мамачка мая родная,
Разгадай мой сон дзіўны:
Праз дварок цякла рэчачка,
А ў той рэчачцы чаўначок,
А ў тым чаўночку селязень,
А ля селязня — вутачка,
А ля вутачкі — дзетачкі.
— Дачушка мая, Анечка,
Да твой сон разгаданы:
Гэта не рэчачка, а дарожка,
А на дарожцы вазочак,
А ў тым вазочку Пётрачка,
А ля Пётрачкі — Анечка,
А дзетачкі — бальшаначкі.

## 46

З суботы на нядзелю
Марыська сон сасніла,
Да нікому не сказала,
Толькі свайму ойчаньку:

— Ойчанька мой,
Што то я за сон сніла,
Што па двару хадзіла
І голубы лічыла.
Наланулі, сіне мора скаланулі.
Сіне мора скаланулі,
Чорны шоўк паблуталі.
— Марыська, мая дзетка,
Малады розум маеш,
Чы таго да не згадаеш:
Сівы голубы — сваты твае,
Сіне мора — слёзы твае,
Чорны шоўк — валасы твае.

## 47

З суботы на нядзелю
Дзевачка сон відзела.
Нікому не сказала,
Сваёй матцы сказала:
— Як бы ў небе была,
Звёздачкі ўкруг мяне,
Месячык напроціў.
— Дзіцятка роднае,
Я ж той сон разгадаю:
У нядзельку рана
Сядзеш ты на пасадзе,
Дзевачкі кругом цябе,
Будзе твой мілы
Напроціў цябе.

## 48

У нядзельку раненька
Анечка мамуньцы сон кажаць:
— Відзела я, мамунька, дзіўны сон:
Прыляцеў сакол к нам на двор,
На вароцікі сеў ды запеў,
На вароцікі крыллі распусціў,
Па двару пер'ейка рассыпаў.
— А не сон ты кажаш — праўдачку:
Не сакол прыляцеў — Мішачка,
Не на варотах сеў — за сталом,
Не крыллі распусціў — касачкі,
Не пер'е рассыпаў — слёзачкі.

## 49

— Белая да бярозанька,
Чаму бела, да не зялёна?
— О як жа мне, да бярозаньцы,
Як жа мне да зялёнай быць?
Што ў бога дзень — купцы едуць,
На каранёх да агонь кладуць,
Карэннейка падсмальваюць.

Маладая да дзевачка,
Чаму хмурна, да невясяла?
— Як мне, маладзенькай, быць весяленькай?
Штосуботы сваты едуць,
Матушцы перапой вязуць,
Мяне, моладу, падмаўляюць.
— Матушка мая родная,
Не пі іх да перапою,
Іх перапой упол з вадою:
Каля луга яны ехалі,
Лугавую да ваду бралі,
З перапоем мяшалі.

## 50

— Белая да бярозанька,
Зачым бела, да не зелена?
— Як жа мне зялёнай быці?
Да штодзень купцы едуць,
На карэнні агонь кладуць,
Пад карчы дымы ідуць,
Пад галлё іскры сыплюць.
Голлейка пасыхае,
Лісцейка спадае.

— Красная дзевачка,
Чаму, малада, да невесяла?
— Як жа мне вясёлай быць?
Да штодзень сваты едуць,
Штонядзелі перапоі возяць,
Майго войчанька пояць,
Маю матачку годзяць,
Мяне, маладзенькае, просяць.

## 51

— Бяроза, чаму бела, да не зялёна?
— Як жа мне зялёнаю быць, пры дарозе да й стоячы?
Да штодня да купцы едуць,
На карэнне да агні кладуць.
Пад голле да дымы ідуць.
Голлечка да пасыхае,
Лісцейка да спадае.

— Чаму, Марыська, смутна, невясёла?
— Як жа мне вясёлаю быці?
Да штодня да сваты едуць,
Маю матку да падпаіваюць,
Мяне, маладу, да падмоўліваюць.
Маю матку да падпаілі,
Мяне, маладу, да падмовілі.

## 52

— Белая бярозачка,
Чаму бела, не зялёна?
— Як жа мне зялёнай быць,
Пры дарозе стоячы?
Да штодзень купцы едуць,
Штоночку начуюць,
На карэнні агонь кладуць.
Карэннічкі папалілі,
А лісточкі пасмалілі.
— Маладая дзяўчыначка,
Чаму смутна, невясёла?
— Як жа мне весяліцца?

Што ў суботу запоіны,
А ў нядзелю запаведзі.
Маго татульку падпаілі,
А мяне, младу, абманілі.

## 53

— Бяроза, бяроза, чаму бела, не зялёна?
— Як жа мне зялёнаю быць,
Калі штодзень купцы едуць,
На каранях агні кладуць,
А ў вярхі дымы ідуць.
Голлейка пасмутнела,
А лісце абляцела.
— О дзеванька, дзеванька, чаму смутна, невясёла?
— Як жа мне вясёлаю быць,
Калі штодзень сваты едуць,
З двара не з'язджаюць
І майго ойца пытаюць.
Мой ойцец на рыначку
Да п'е мёд-гарэлачку.

## 54

— Ой ты, да бярозанька,
Чаму ты не зялёная?
— Як жа мне зялёнай быць?
Паўз мяне, да бярозаньку,
Бітая дарожка ляжыць,
Паўз мяне купцы едуць
І з мяне дубцы рэжуць,
Капытамі карэнне б'юць,
Шапкамі голле ламаюць,
Пада мною агні кладуць,
А на мяне дымы ідуць,
А маё голлейка вяне
І лісточак ападае.
— Маладая Валечка,
Чаму ты невясёлая?
— Як жа мне вясёлай быць?
Каля мяне Ванечка сядзіць
Да за маю ручку дзяржыць.
Як на маё лічка гляне —
То маё сэрдачка вяне.

## 55

Заручона дзевачка, заручона,
Белым ручнічком накрыта,
Дробнымі слёзанькамі абмыта.
— Бела бярэзінка, зачым ты не зялёна?
— Як жа мне вясёлай быць?
Штодня да купцы едуць,
З мяне да кару дзяруць,
Пад пяньком агонь кладуць.
— Дзевачка малада, ўчора была весяленька,
А сягоння сядзіш хмурненька.
— Як жа мне да быць вясёлай?
Штодня да сваты едуць
З вялікімі перапоямі,
З нізкімі да паклонамі.

## 56

— Белая бярозачка,
Чаму ты не зялёна?
— Як жа мне зялёнай быць?
Ды штодзень купцы едуць,
Маё голлейка ломяць,
На карэннях агні кладуць,
Вышэй яе дымы ідуць.

— Маладая дзеванька,
Чаму ты невясёла?
— Як жа мне вясёлай быць?
Ды штодзень сваты едуць
Па трое, па чацвёра,
А ў суботу пяцёра.
Галоўку маю турбуюць,
Коску маю таргуюць.

## 57

— Ды чаму ты, яліначка, не зялёная?
— А як жа мне, яліначцы, быць зялёненькай?
Ды пада мной тры купчыкі начавалі,
Яны маё сучча-веццє абламалі,
Яны маё карэннейка патапталі.

— Ды чаму ж ты, дзяўчына, невясёлая?
— Ды як жа мне, маладзенькай, быць вясёлай?
Ды ў мяне трое сватоў начавалі,
Яны маю галованьку збунтавалі.

## 58

— Кучаравая бярозанька,
Ой, чаго ж ты не зялёная?
— Ой, як жа мне зялёнай быць?
Ноч у ноч да купцы едуць,
На карэнні да агонь кладуць.
Карэннейка да адгарвае,
А лісцейка да адпадвае.

— Маладая дзяўчынанька,
Ой, чаго ж ты невясёлая?
— Як жа мне вясёлай быць?
Ноч у ноч да сваты ў хаце,
Не даюць бацьку спаці.

## 59

— Белая бяроза, чаго бела, не зялёна?
— Як жа мне зялёнай быць?
Каля мяне купцы едуць,
Вецце ломяць, агонь кладуць.
— Маладая дзевачка, чаго смутна, невясёла?
— Як жа мне вясёлай быць,
Калі ў мяне сваты сядзяць?
Майго татку ўпаілі,
А мамку ўгаварылі,
Мяне маладу заручылі.

## 60

Кругла мала балоценька.
Хоць жа яно малюсенька,
Але пташак у ім паўнюсенька.
Адны пташкі адлятаюць,
А другія прылятаюць.

Маладая Веранька.
Хоць жа яна маладзенька.
А ў яе censored сватоў паўнюсенька.
Адны сваты ад'язджаюць,
А другія прыязджаюць.

## 61

Кругла мала балоціца.
Ды хоць яно малюсенька, але ягодліва.
Наляцела пташак многа.
Усім пташачкам па ягодцы,
А салавейку — зязюленька.

Нізка, мала Альбіначка.
Хоць яна малюсенька, але яна шчаслівая.
Наехала сватоў многа.
Усім сваточкам па дзяўчыначцы,
А Альбінцы — Антосенька.

## 62

— Пашугай, рута, пашугай,
Пашугай, рута, пашугай.
— А рада б я пашугаці —
Ка мне ветры не заходзюць,
Ка мне ветры не заходзюць,
Жарка сонца запякаіць.
— Пагуляй, дзяўчоначка, пагуляй,
Пагуляй, дзяўчоначка, пагуляй.
— А рада б я пагуляці —
Ка мне дзеўкі не прыходзюць,
Ка мне дзеўкі не прыходзюць,
Толькі хлопцы заязджаюць,
Мяне, млоду, заручаюць.

## 63

Бедаваў зялёны лён,
Пры дарозе стоячы:
— Ой, бяда ж, мая бяда,
Што сцюдзёная вясна:

Не дала мне вырасці,
Майму семю выспеці.
Бедавала дзяўчына,
У таткі гуляючы:

— Ой, бяда ж мая, бяда
Ды з частымі сватамі:
Не далі мне вырасці,
Русы коскі выплесці.

## 64

Апала раса на лён,
Апала халодная.
Бедавала дзяўчыначка,
Ды што дом пры дарозе,
Ды што дом пры дарозе,
Часта госць на парозе:
Што дзянёчак, то гасцёчак,
Што ночачку, то сваточак.
Не далі мне вырасці,
Русы косы выплесці,
Дзеўкаю пабыці,
Куфра налажыці.

## 65

А на лён раса пала, (2)
А на лён зялёненькі.
Не даець лянку расці
І ні семечку спеці.
Маладая Алінка, (2)
Многа сватоў наехала,
Не далі ёй вырасці: (2)
Ні на ножкі падняцца,
Ні розуму набрацца.

## 66

Да гаворыць лён зялён,
Пры дарозе стоячы:
— А бяда мая, бяда,

Што буйныя ветры,
Што дробныя дожджы
Не даюць мне вырасці,
Сінім кветам зацвісці.
А гаворыць Агата
Сваей роднай мамцы:
— А мамухна мая родная,
Калі мяне выдасце?
А бяда мая, бяда,
Што гэтыя сваты:
А будзень дзень па пяць, па шэсць,
А святы дзень — па дзесяць.
А будзень дзень з іскрыпкамі,
З маладымі баярамі.

## 67

А на лён раса пала,
На Алёнку таска ўспала —
На яе, маладую,
На коску на русую,
А што ў яе сватоў многа:
То па двое, то па трое,
Штонядзельку — п'юць гарэлку,
Штосуботачку — заручыны.

## 68

Па старанах да дажджы не ідуць,
А ў нас часта бываюць.

А ў нас часта бываюць,
Усенькі лугі да пазаліваюць.

Па старанах да сваты не едуць,
А ў нас часта бываюць.

А ў нас часта бываюць,
Усенькі дзевачкі да павыбіраюць.

## 69

Ой, у полі, полі
Вятры вяваюць,
Да па чужых сёлах
Да сваты бываюць.
А нашыя Лявонавічы
Да ўсе мінаюць,
Да ў нашых дзевачак
Да не папытаюць.
Каб яны пыталі,
То б мы ім казалі:
За дзве нядзелі —
Тры-чатыры вяселлі.

## 70

Дажыданка наша Манечка,
Дажыдала сватоў багатых.
Багатыя сваты не едуць.
Асмелься, беднячок, асмелься,
Багатаму мужыку насмейся.
Багаты жэніцца з кашаля,
А бядняк жэніцца з мазаля.

# ТАРГУЮЦЬ НЯВЕСТУ

## 71

Кавала зазулька, кавала.
— Што табе, Алеська, казала?
— Казала, баценьку, вестанькі,
Прыедуць да мяне госценькі,
Таргаваці мае косанькі.
Даражы, баценьку, даражы,
Яшчэ бо мяне ў сябе падзяржы:
Багатай восені дажджэма,
Стадолы пшаніцы нажнема,
Харошы каравай спячэма.

## 72

Кавала зазулька, кавала.
— Што табе, дзецетка, казала?
— Казала, бацюхна, казала:
Прыедуць госцікі да нас
Да будуць пытацца мяне ў вас.
Даражы, бацюхна, даражы,
Хоць адно лецечка падзяржы.
— Як мне, дзецетка, даражыць:
Стапталі конікі падвор'е,
Заселі госцікі ў застолле.

## 73

Кавала зязюлька, кавала.
— Што табе, Надзечка, казала?
— Казала, баценьку, казала,
Што заўтра будуць госці ў нас,
Што прасіць будуць мяне ў вас
Ды даваць будуць таляры,
Ды ты, баценьку, не бяры,
Лепша ж я ў вас, як яны.

## 74

Перапёлка-ластаўка,
Не лятай па дуброве,
Не садзісь на дубочку.
Па дуброве стральцы ходзяць,
Застраліць цябе хочуць.
А красная дзевачка,
Не хадзі па рыначку,
Не садзісь на лавачку.
Па рыначку купцы ходзяць,
Таргаваць цябе хочуць.

## 75

Ці знаеш ты, дзевачка,
Што цябе людзі таргуюць?
Яшчэ ўчора з вечара
Пачалі таргаваць.
Аддае цябе мамачка,
Бярэ за цябе, родная,
Чарку піўную,
За цябе, маладую.

## 76

— А ці ведаеш ты, дзевачка,
Што ў цябе за госцейкі начуюць?
Яны табой, маладой, таргуюць.
Твой цябе татулька прадае,
За цябе грошыкаў не бярэ.
— Таргуйся, татулька, таргуйся,
А папрасі горад стаўлёны,
Каб дзе было ўстаць, коней ўзяць,
Маладым баярам пагуляць.

## 77

— Ці ты тое, Ганначка, не чуеш,
Што ў цябе за госці начуюць?
Яны цябе, маладу, таргуюць.

— Даражыся, брацетка, даражыся,
Стаўлёны горад запрасі,
Тады мяне, маладу, аддасі.
— Стаўлёны горад — не грошы,
Абы твой Іванька харошы.
А стаўлёны горад недзе ўзяць,
А мяне цябе, моладу, нада аддаць.

## 78

— Да ці ведаеш ты, Людачка,
Што ў цябе за госці начуюць?*
Яны цябе ў мамачкі таргуюць.
А цябе мамачка не дае,
За цябе грошыкаў не бярэ.
— Даражы, мамачка, даражы,
Семсот чырвонцаў залажы.
Семсот чырвонцаў не грошы,
Аддалі Людачку не ўзросшы.

## 79

— Ці чуеш, дзяўчына, ці чуеш,
Што ў цябе за госці начуюць?
Яны тваю мамачку турбуюць.
— Турбуйся, мамачка, турбуйся
Ды за маю коску таргуйся.
Стое мая коска тысячы дзве,
А я дзяўчына — не ўдава.
Стое мая коска чырванец,
А мой мілы — не ўдавец.

## 80

— А ці чуеш, Мар'ечка,
Што ў цябе госці начуюць?
Што ў цябе госці начуюць,
Цябе, маладу, таргуюць?
Цябе, маладу, таргуюць,
Твайго татку турбуюць?
— Турбуйся, татка, турбуйся,
За мяне, маладу, таргуйся:

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

За маю коску — чырванца,
А мне, маладой, малайца.
За маю коску — тры злоты,
Выправіш мяне за вароты.

## 81

— Ці ведаеш ты, дзевачка,
Што ў цябе госці начуюць,
Да цябе ў матачкі таргуюць,
А цябе матачка аддае,
За цябе грошы не бярэ?
— Даражы, матачка, даражы,
Трыццаць чырвонцаў запрасі.
Трыццаць чырвонцаў — не грошы,
Што ты мяне аддаеш няўзросшы.
Ці хлеба-солі не стала,
Што ты мяне выдаеш? Я мала.
І хлеба, і солі даволі,
Што ты мяне выдаеш з няволі.
Ці я табе кашулькі не прала,
Ці я табе пасцелькі не слала?
Прала кашульку бяленька,
Слала пасцельку мякkенька,
Звала матачкай радненькай.

## 82

Ці знаеш ты, Мар'ечка,
Што ў вас людзі начуюць,
Цябе, маладую, таргуюць?
Цябе ацец прадаець,
Ні шэлега не бярэць,
Толькі бярэць чару залатую
За цябе, маладую.
Мілей атцу чара залатая,
Чымся ты, маладая.

## 83

— Ці ты, дзевачка, не чуеш,
Як цябе купцы таргуюць?
— Яны таргуюць, таргуюць,
Да ні шэлега не даюць.

Толькі даюць віно ў чару
За маю русу касу.
За дзявоцкую красу.
Тады красы жалела,
Як у татачкі сядзела,
А цяпер яна не трэба мне,
Ні рута, ні мята,
Ні ружа чырвона.

## 84

На заручынах, на запоінах
Цешча з зяцем гаварыла:
— Зяця мой любы,
Не будзь ты скупы,
Калі зяця мой будзеш,
Кладзі талера на талерачку,
Каб пілі гарэлачку.
Кладзі другога ўсё залатога,
Каб дзевачкі пелі.
Кладзі трэцяга па канец стала,
Што Марыначка твая.

## ЗАРУЧАЮЦЬ МАЛАДЫХ

### 85

А белая бяляначка *
А з рыжыкам гаварыла:
— А, рыжычак, бяры мяне,
А ■ бору зялёнага,
Я й палёту вясёлага.

А маладая Марфачка
З Ванечкам гаварыла:
— А, Ванечка, бяры мяне,
А я роду вялікага,
А я бацькі багатага.

### 86

Гаварыла сыравежка
Баравому рыжыку:
— Бяры мяне, мой рыжычак,
А ■ бору вялікага
І колеру чырвонага.

Гаварыла Жэнечка
Маладому Іваньку:
— Бяры мяне, мой Іванька,
А я роду харошага,
А я бацькі багатага,
А я маткі прыгожай.

### 87

Прасілася суравежка
Да ў чырвонага рыжка:
— Мой рыжку, мой рыжку,
Вазьмі мяне, сыраежку:

---

* Кожны радок паўтараецца.

Я й роду вялікага,
Я й роду высокага,
Я й на ліцо красівая,
Будзем, рыжку, шчаслівыя.

### 88

Рыпіначка да Архіпачку
Усё на скуку нагнала.*

— Архіпачка да малодзенькі,
Вазьмі ж ты мяне замуж.

А ў мяне ж то, маладзенькай,
Да дужа ж дабра многа.

А ўсё скрынкі ды пярынкі,
Да пуховыя падушкі.

Не едзь, не едзь, Архіпачка,
А ў пятніцу рана.

Прыедзь, прыедзь, да Архіпачка,
А ў суботу позна.

А я буду дажыдаці
Да кубачкі налівці,

Да кубачкі віном налівці,
А столікі засцілаці.

А кубачкі на стол,
Мае госцікі на двор.

А кубачкі мае налітыя,
А госцікі мае дарагія.

А кубачкі са стала,
А госцікі мае са двара.

### 89

Я ў цябе, мой татка, загавела,
Штоб твая лазнейка згарэла.
Я ў цябе, мой татка, залетавала,
Штоб цябе хіньця запетавала.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 90

Заручае мяне татка,
Заручае.

Ох, чаго ж ён у суседзяў
Не пытае?

Кажуць людзі, што ў том доме
Свёкар горды.

Будзе мною, маладою,
Гардаваці.

## 91

Ой, у каморы за дзвярэчкамі
Гаварыла дзеванька з таварышэчкамі:
— Ой, дзевачкі мае, падружкі мае,
Ужо мяне татачка п'е, прапівае,
П'е, прапівае, людзей не пытае.
Можа ён п'яніца, можа ён разбойнік?
Ой, калі ён п'яніца, то конік не вы́браны,
А калі разбойнік, то й не асе́дланы.

## 92

Шла Ярыначка гаём,
За ёю Іванка сівым канём:
— Ой, дай жа, божа, наганіці,
Наганіўшы, намовіці.
— Хоць нагоніш — не намовіш,
Пакуль бацьку не ўпросіш.

## 93

Гніся, калінка, гніся,
Ты, Іванька, не тужыся.
Мы каліну наломіма,
Ганначку намовіма,
З табою пасадзіма.

## 94

Чырвона, чырвона да ў лузе каліна,
Чырваней таго да Манечка ў бацюхны.
Па двару хадзіла — увесь двор красіла,
Прыйшла ў сені — сені зазвінелі,
Прыйшла ў хату — баяры сядзяць:
Ад кута да парога да ўсё жаніхі.
Да кубачкі наліваюць,
Да Манечку змаўляюць.

## 95

Усе дзевачкі ў краскі ідуць,
А я, молада, із красак іду.

Я думала, што ў сяле граюць,
Аж яно мяне запіваюць.

Мёд-віно на стол носяць,
Бацька маго хораша просяць.

Мой бацька да жаласлівы:
Дзе стане, то й заплача.

А дзе сядзе, то й абальецца:
— Дзіця маё да не вернецца.

Дзіця маё да раджонае,
Да другое да суджонае.

## 96

Марусьчына мамка (2)
Да па садзіку ходзіць,
Ходзіць.

Да па садзіку ходзіць,
У прыполе вішні носіць,
Носіць.

У прыполе вішні носіць,
З вішнямі гаворыць,
Гаворыць.

З вішнямі гаворыць:
— А вішні мае, вішні,
Вішні.

А вішні мае, вішні,
Да бяруць мяне мыслі,
Мыслі.

Да бяруць мяне мыслі,
Што адну дачку маю,
Маю.

Што адну дачку маю
І тую прапіваю,
Прапіваю.

І тую прапіваю
Да на горкай гарэлцы,
Гарэлцы.

Да на горкай гарэлцы,
На салодкім мядочку,
Мядочку.

На салодкім мядочку
Прапіла маці дочку,
Дочку.

**97**

Ой, Марынчын бацейка,
Ой, Марынчын бацейка
Па заметачках ходзіць
І з вішнямі гаворыць:
— Ой, вішні ж мае, вішні,
Што я маю на мыслі?
Ой, адну дачку маю
І ту замуж да́ю,
Рабіці не наўчыўшы,
Розуму не давёўшы.
— Табе, бацейку, жаль будзе,
Як учыцімуць мяне людзі.

## 98

Пеце, сваты, гарэлку,
Запівайце дзеўку.
Няхай наша дзевачка
І ў касах не ходзіць,
Няхай яна, маладзенькая,
Дзяцінкаў не зводзіць.
Няхай гэты дзяцінкі
Да варот не ломяць,
Да варот не ломяць,
Парогаў не абіваюць.
Нашыя вароты із срэбра, із злота,
Ды нашая дзевачка — вялікая цнота.

## 99

Пасадзілі капусту — трэба паліваць,
Пасаджалі госцікі — трэба частаваць.
Дай, божа, маладым добрую долю.
П'юць людзі гарэлку, прапіваюць дзеўку,
Няхай наша дзеўка ў косах не ходзіць,
Дзецюкоў не зводзіць.
Няхай яны варотаў не ломяць.
Нашы варота — срэбра-злота:
Як іх стаўлялі, па тысячы давалі,
Як іх насілі, ўвесь двор красілі.

## 100

Зяляне́нькі гарошак, да добра цябе сеяці,
Да добра цябе сеяці да пры лузе, пры лугу,
Да пры лузе, пры лугу, да пры шырокай дарозе,
Да пры шырокай дарозе, да пры беленькай бярозе.
Маладая Кацярынка, да добра цябе прапіваць,
Да добра цябе прапіваць да пры роду-племені,
Да пры роду-племені, да пры родненькім татульку.

## 101

Гарошу мой, гарошу,
Сеялі цябе харошу,
Што пры жаркім соўнышку
Да пры буйным ветры.

Ты красная дзевачка,
Змаўлялі цябе харашо:
Усё пры роду да пры племені,
Да пры родным бацюшку,
Да пры ўсёй радзіначцы.

## 102

Хвалілася каліначка за ракой:
— Ніхто ж мяне не высячэць за вадой.

Абазваўся буен ветрык на яе:
— Ды [redacted] ж цябе хоць не высеку, дак зламлю.

Ды я ж цябе хоць не высеку, дак зламлю,
Ды я ж тваё веццейка паламлю.

Хвалілася малада Маруська за скам'ёй:
— Ніхто ж мяне не дастанець за сталом.

Абазваўся малады Міколка на яе:
— Ды я ж цябе хоць не вазьму, заручу.

Ды я ж цябе хоць не вазьму, заручу,
Ды я ж цябе ад дзевачак адлучу.

Ды я ж цябе ад дзевачак адлучу,
Ды я ж цябе і к жоначкам прылучу.

## 103

Ты ж, маладзенькі Петрачок,
Ці любіш ты нашу Хвенечку?
Калі любіш, дык бяры за пірог,
А не любіш, дык дзяры за парог,
Па 'дной масніцы з хаты вон.
Не кажы людзям, што ў нас быў,
Нашыя Хвенечкі не злюбіў,
Кажы ты людзям: коніка паіў.

## 104

Прыехалі запівалачкі
Мар'ечку запіваці.
Ой, прывезлі бочку мядочку
Бацeньку частаваці,
А гарэлкі дзве барылкі
Для усёй радзінанькі.

## 105

У суботу позненька
Кавалí кавáлі грозненька.
Скавалі чарачку залатую
Запіваць дзевачку маладую.
Сватка-сватачка, нябожка,
Прывёз гарэлкі нямножка,
Прывёз гарэлкі адзін брыль,
Захацеў напаіць увесь мір.

## 106

Ой, у кузні кавалі кавалі,
Ой, у кузні кавалі кавалі,
Скавалі чарачку медзяную
Прапіваць дзевачку маладую.
— Я ету чарачку паламаю,
Шчэ гадок з дзеўкамі пагуляю.

## 107

Борам, лугам блудзілі,
Свой пярсцёнак згубілі,
Сем вёрст прахадзілі,
Хадзілі, шукалі — другі паднялі.
Прыйшлі да вас запытаць:
Ці нельга ў вас памяняць?

## 108

Дзевачка пшаніцу палола,
Палола пшаніцу, заснула,
Ехаў дзяцінка — не чула.

Махаў хусткамі — не выцяў,
Кінуў пярсцёнкам — не трапіў,
Злез з конічка — абудзіў:
— Устань, дзевачка, не ляжы,
Паднімі пярсцёнак на мяжы
Да на белу ручку узлажы,
Панясі матачцы пакажы.

### 109

Пятрова ночка невялічка,
Ды не выспалася дзевачка.

Ягадкі збірала — драмала,
А перабірала — заснула.

А перабірала — заснула,
Да прыехаў міленькі — не чула.

Ён махнуў платочкам, не дамахаў,
Пакаціў пярсцёнка, не дакаціў.

Пакаціў пярсцёнка, не дакаціў,
Злез з коніка, пабудзіў:

— Устань, ўстань міле́нька, не ляжы,
Падымі пярсцёнак на мяжы.

Падымі пярсцёнак на мяжы
І на праву ручку налажы.

### 110

Драмліва поле, драмліва,
На ягадачкі ўрадліва.

Хто ж тое полечка знаць будзе,
Хто ж тыя ягадкі браць будзе?

Наша Ганначка полюшка тое знала
І тыя ягадкі ўсе брала.

Беручы ягадкі, заснула,
Прыехаў Ванечка, не чула.

Ён хусткай махаў, не дамахаў,
Пугаю сцябаў, не дасцябаў.

Калечка каціў, не дакаціў,
З коніка злез, пабудзіў:

— Устань, мая Ганначка, прачніся,
На ж табе яблычка, хмяліся,

На ж табе вадзіцы, умыйся,
На ж табе палаценца, утрыся.

### 111

А ў чыстым полі ягады,
А там жа Ганначка ягады брала,
А браўшы ягады, заснула
І пад'езду Якуша не чула.
Ён мусіў з коніка саскачыць,
Мусіў Ганначку пабудзіць.
— А ўстань, Ганначка, прасніся.
На табе вадзіцы — памыйся,
На табе ручнічок — абатрыся,
На табе кніжачку — памаліся,
І яшчэ яблычак — пахмяліся.

### 112

Драмліва поле, драмліва,
На ягадкі ўрадліва.

А там Лілечка хадзіла,
Ягаданькі збірала.

Збіраўшы ягадкі, заснула,
Прыехаў Вовачка, не чула.

Ён махнуў платочкам, не дамахаў,
Ён каціў калечка, не дакаціў.

Сам ён з коніка саскачыў,
Ён сваю Лілечку разбудзіў:

— Устань, мая Лілечка, прасніся,
На табе вадзіцы, памыйся.

На табе ручнічок, утрыся,
На табе чарачку, пахмяліся.

На табе яблычак медавы,
А я ж і з табой малады.

## 113

А [redacted] суботанькі на нядзельку,
У нядзелечку рана
Сядзіць Ганначка ў канцы стала,
Дзяржыць віно зялёнае.
Віно зялёна, віно зялёна,
А хустачка шаўкова.
— Калі пайду не за любага,
Яму — віно зялёнае,
А калі пайду за любага,
Яму — хустачка шаўковая.

## 114

А не цясён явар, не цясён,
Толькі харашо пасаджон,
Напроці каліны пастаўлён.

Не вучон сужанька, не вучон,
Толькі харашо прыбярон,
Напроціў дзевачкі пасаджон.

А яму дзеўка хусту дала,
Да вакол шоўкам вышывана,
А ў сярэдзіне золата паклана.

## 115

А ў полі садок не мяцён,
Рутаю-мятаю ўтрасён.
Ніхто ў тым садзе не бываў,

Толькі малады Йванька ў скрыпку йграў.
Там яго Сахвейка гуляла,
Яна яму хустаньку даравала.

## 116

Маладая дзевачка,
Паднясі вадзіцы,
Вадзіцы крынічныя.
Вадзіцы крынічныя,
Платочак шаўковы,
Хустачку беленькую.

## 117

Каціўся гарошак па сенажаці,
Хваліўся Колечка Надзечку ўзяці.
Яна, маладая, яго жалавала,
Выняла хусцінку да й падаравала.
— Дарую хусцінку бялым-бяленьку,
Глядзі, Колечка, каб доля дабрэнька.
Яе хусцінка шоўкам нашыта.
— Глядзі, Колечка, каб не была біта.

## 118

У нас сёння навіна была:
Там Хвенечка ручку дала,
Шаўковаю хустачку перапілá,
Ткацкі платочак ў ручку дала:
— Бел мой платочак пабялее,
Міл мой суджанька памілее.

## 119

А чыя рута ды не полата?
Томчына рута ды не полата.
— Чаму, Томачка, руты не полеш?
— Ой, дзевачкі, некалі руту палоці:
У мяне ўчора сваты былі,
А сягоння барышы пілі.

## 120

Вішанька з яблынькай паламаліся, *
Ніначка з Васечкам падушаліся.
— Васечка, ей-богу, люблю цябе.
— Ніначка, дадушы вазьму цябе.

## 121

А ў нас сянні заручынкі,
Бог нам даў.
Шылі дары на ўсе сталы,
Бог нам даў.
Елі падаркі, круты баранкі,
Бог нам даў.

## 122

Сённейка нам заручыны,
Бог нам даў. **
Заручылі дзеўку проці панядзелку.
Пашлі дары на ўсе двары.
Рэзалі падаркі з тонкай кітайкі.

## 123

А чые ж гэта да заручыны
Раненька,
Чые ж гэта да падарачкі
Бяленькі?

Ванечкавы да заручыны
Раненька,
Анечкіны да падарачкі
Бяленькі.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 124

Каб я знала да я ведала,
Што скорыя да заручыны,
То я б рана ўставала,
Рана ўставала
Да танюсенька прала.
Вы ж мае, да баярачкі,
Не дзівіце на падарачкі.
Матка стара да не напрала,
Я, малада, не спадзявала,
Падарачак не ўгатавала.

## 125

У нас сягоння суглядзінкі,
    Бог нам даў. *
Пайшлі дары на ўсе сталы,
А ўсім сватам па падарачку,
Аднаму Яхімку два падарачкі:
Першы падарачак — бела хустачка,
Другі падарак — красна дзевачка.
Белу хустачку ён насіць будзе,
З краснай дзевачкай ён жыць будзе.

## 126

Заручыны раненька,
Пабраліся дзетачкі
За ручачкі раненька.
То сяму, то таму
Па падарачку раненька.
Маладой Ганначцы
Тры падаркі рана:
Першы падарак —
Залаты кубак,
А другі падарак —

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Бела хустачка,
А трэці падарак —
Залаты персцень.

## 127

Няслі сталы цераз двары
Раненька.
Кроілі падаркі тонкае кітайкі
Раненька.
То сяму, то таму па падарачку,
Бог ім даў.
Маладому Кольку тры падарачкі,
Бог яму даў.
Першы падарак — бела хустачка —
Заручацца,
Другі падарак — залаты персцень —
Памяняцца,
А трэці падарак — маладая Анечка —
Павянчацца.

## 128

Да сягоння ў нас заручынкі,
Бог нам даў. *
Да то сяму, то таму па падарачку,
А нашаму Карольку тры падарачкі:
Першы падарак — бела хустачка,
Другі падарак — залаты персцень,
Трэці падарак — красна Кастуська.
Белая хустачка ўцерціся,
Залаты персцень вянчаціся,
А красна Кастуська ўцяшаціся.

## 129

А ўчора ў нас заручынкі былі,
Бог нам даў. *
Заручылі дзеўку проці панядзелку.
Ішлі дары на ўсе двары:

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Рэзалі падаркі із тонкай кітайкі.
Каму шырынку, каму халсцінку,
А свайму любку із новай трубкі.

## 130

Да часала Гапачка белы лён,
Да ганіла сваццейкі з хаты вон:
— Ох, ідзіце, сваццейкі, [illegible] хаты вон.
Ох, ідзіце, сваццейкі, ідзіце,
Адно мяне за падаркі не судзіце.

## 131

У нас сягоння да заручынкі,
  Бог нам даў. *
Залаты персцень да на ручанькі.
Піва з півам да зліваецца,
Іван з Таней заручаецца.
Мяккія сыры да на талерачцы.
Мяккія сыры калупаць будзем,
Маладога зяця частаваць будзем:
То ў рот, то ў кішэні, то за пазуху.
Нож уламіўся, зяць падавіўся.

## 132

Да ўжо ж нам да заручынкі,
Бог нам даў.
Пабраліся дзеткі да за ручанькі,
Бог ім даў.

## 133

А ў нас, а ў вас ды заручынкі,
  Бог нам даў. **
Наша Зіначка заручаецца,

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
** Кожны радок з прыпевам паўтараецца.

З яе мамулька ўцяшаецца.
А ў нас, а ў вас ды заручынкі,
Наш Пецечка заручаецца,
З яго татачка ўцяшаецца.
А ў нас, а ў вас ды заручынкі.
Заручылі Зінку із Пецечкам.

134

Прапіла маці дочку
На салодкім мядочку.
Не за год згадавала,
А за тры дні прагуляла.

135

Не гневайся, Валечка,
Не мы цябе прапілі.
Прапіў цябе ўвесь народ,
Твой татачка — напярод.
Увесь народ — па чарцы,
А твой татачка — паўгарца.

136

На гарэ новы двор,
А ў тым двару змовіны.
А там брат сястру змаўляе,
Змаўляючы, пытае:
— Хто цяперыча табе міл?
— Да і міл мне татачка,
Да родная мамачка,
Да малады хлопчык.

137

Ой, пі, матка,
Ой, пі, матка,
Горкую гарэлачку,
Горкую гарэлачку.
Прапіла дачку,
Як маліначку,
За малую вечарыначку.

## 138

Ай, што й гэта за зеллечка,
Што макава і насеннечка.

Ай, што й гэта за матачка,
Што прадала і дзіцятачка.

За горкую й водачку
Прапіла малодачку.

Лёгка было й прапіваці,
Цяжка будзе й забываці.

## 139

Прапіла маці дочку
На салодкім мядочку.
Упіўшыся, скачыць,
Праспаўшыся, плачыць.

Добра было, добра
Мёд з гарэлкай піць,
А цяпер ці добра
Дачкою плаціць?

## 140

Ці не жаль таму бацьку,
Што прапіў сваю дачку
На салодкім мядку
Да й горкай гарэлцы?
А ўпіўшыся, скачаць,
А праснуўшыся, плачаць,
А што была дзіцятанька
Руса каса да паяса,
Чорным шоўкам пераплецена,
Чыстым золатам зазведзена.

## 141

Ой, прапіла й да маці дочку *
За мёду да квацерачку.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Да й напіўшыся, скача,
А праспаўшыся, плача:

— Бедна ж мая да галованька,
Што й чужая да старонанька.

### 142

Прапіла матка дочку
За цёмную ночку
На салодкім мядочку.
А ўпіўшыся, скачыць,
А праспаўшыся, плачыць,
Што дачушкі не бачыць.
— Добра было, мая матулька,
Салодак мядок піці?
Даведайся, мая матулька,
Як без дачушкі жыці.

### 143

І да прапіла да маці дачку
Да на салодкім мядочку.
Да не за грош, не за капейку,
Да за чарку гарэлкі.
Як напіўшыся, скача,
А праспаўшыся, плача.
Да не вяліка шчарбіна,
Да няма ў хаце да сем'яніна.

### 144

Прапіла маці дочку
На салодкім мядочку.
Напіўшыся, скача,
А праспаўшыся, плача:
— Была хата, як святліца,
А цяпер — як цямніца.
Была хата, як панская,
А цяпер — як цыганская.

145

Прапіла маці дочку,
Прапіла маці дочку.

На салодкім мядочку,
На салодкім мядочку.

Да ўпіўшыся, скачаць,
А як праснецца, плачаць.

— Ці не жаль табе, маці,
За пірог дачку даці?

Ці пшанічкі не мее,
Ці ўпячы не ўмее?

146

Прапое, прапое,
А прапіў бацька дочку
А за цёмную ночку
На салодкім мядочку,
На горкай гарэлачцы,
На белай талерачцы.

147

Ой, прапою, прапою
Да Ганначчын бацюхна.

Да прапіў бацька дачку
Да ні за грош, ні за капейку,

Да за чарку гарэлкі.
Да шкада да было дзеўкі,

Было каго прапіваці,
Да не з кім будзе да пасылаці.

## 148

Як не жаль да таму бацьку, *
Што прапіў да сваю дачку
А за цёмную ночку
На салодкам мядочку,
На горкай да гарэлачцы,
На белай да талерачцы.
Добра было да прапіваці,—
Кім будзеш да пасылаці
Ў дуброўку да па кароўку,
У крыніцу да па вадзіцу,
Ў шчыры бор да па ягадку?

## 149

На новым ганачку
Прапіла маці дачку
За гарэлачкі чарачку.
Зачым было прапіваці,
А каго будзеш пасылаці
У луг па каліну,
У сад па маліну?

## 150

Да прапою, прапою
Да прапаў я з табою.
Да прапіў сваю дочку,
Да не ў лаўках седзячы,
Да ў парозе стоячы.
Добра было прапіваці,—
Кім будзеш пасылаці
Ў шчыры бор па брусніцы,
Ў цёмны луг па каліну
І па салодкі маліны?
А шкода было дзеўкі
Да за кварту гарэлкі,
А шкода было роду
Да за кубачак мёду.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 151

Ой, прапою, прапою, *
Да прапаў і з табою.
Ой, прапіў бацька дочку
На салодкім мядочку.
Добра ж было прапіваці,—
З кім жа будзеш пасылаці
У сіні бор да за грыбамі,
У цёмны лес за ягадамі,
У глыбоку крыніцу
Па халодну й вадзіцу?

## 152

Прапоўя, прапоўя,
Да прапіў бацька дачку
У Слуцку да на рыначку.
Да напіўшыся, скача,
А праспаўшыся, плача:
— Добра было да прапіваці,—
Кім я буду да пасылаці,
У дуброўкі да па кароўкі,
У цёмны лес да па волікі,
У шчыры бор да па конікі?

## 153

Прапоўя, прапоўя,
Да прапіў бацька дочку
Да за цёмную ночку
На салодкім мядочку.
Добра было прапіваці,—
Кім будзець пасылаці
У крыніцу па вадзіцу,
У шчыры бор па брусніцу,
У цёмны луг па каліну,
Па салодкую маліну,
У лужок па волікі,
На сенажаць па конікі?

---

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

### 154

Ці не жаль жа таму бацьку,
Што прапіў да сваю дочку
На салодкім мядочку,
На белай талерачцы,
На горкай да гарэлачцы.
Добра было прапіваці,
Да кім будзеш пасылаці
У шчыры бор па калінку,
У цёмны лес па ягадку,
У вішнёвы сад па вішаньку?

### 155

Пойдзем мы да на вуліцу,
Два двары да мінуючы,
Два двары да мінуючы,
У трэці двор да паслухаючы.

Ой, тама людзі гамоняць,
Майго татачку ўсё гудзяць:
— Ох, прапой бацька горкі,
Прапіў на гарэлцы горкай.

Ой, прапіў сваю дачку
На салодкім мядочку.
Да напіўшыся, скача,
А прапіўшыся, плача:

— Ой, штоб мяне да ліха ўзяла,
Куды ж маё да дзіця папала:
Да ці ў лес па ягодачкі,
Ці ў людзі ў малодачкі?

### 156

Ой, п'яніца, прапойца
Да й Дунечкіна матка:
Прапіла сваю чаду
На горкай гарэлцы,
На салодкім мядочку.
Як пайду я па вуліцы,

Два двары да й мінуючы,
У трэці двор зайду,
Зайду, паслухаю,
Што людзі гавораць:
— Ой, п'яніца, прапойца
Да й Дунечкіна матка:
Прапіла сваю чаду
Без ўсякага нараду
На горкай гарэлцы,
На салодкім мядочку.

## 157

У садочку на крэслечку
Там Марылька русу косу часала,
Часаўшы, гаварыла:
— Цяпер жа я бацьку няміла,
Міла яму горка гарэлка,
Да не я, маладзенька.
Што ўсё пілі, гаварылі,
А мной заплацілі,
А мной, маладзенькаю,
А касой залаценькай.

## 158

Прапой, прапой, прапой
От Кацечкін татка.

А прапіў жа ён дачку
На салодкім мядку.

Як упіўшыся, скачаць,
Як прачнуўшыся, плачаць.

— А татка ты мой родненькі,
Чым я табе надакучыла?

— Дачка мая ты каханая,
Надакучыла ты мне сваімі сватамі.

Усе парогі паадбілі,
Лаўкі падламілі,

Па парогах ходзячы,
А па лаўках седзячы,

А па лаўках седзячы,
А на цябе, маладу, гледзячы.

## 159

— Татулечка ты мой родненькі, *
Казаў мяне не 'ддам, не 'ддам,

Як прышлі сваты — аддаў.
Чым я табе надакучыла?

Ці паходачкай сваёй,
Ці работачкай сваёй?

— Нічым ты не надакучыла.
Надакучыла сватамі,

Вароцікі адчыняючы,
Цябе, млода, ды пытаючы.

## 160

— Родная мая маманька,
Чым я табе надакучыла?

Чым я табе надакучыла,
Што мяне заручыла?

Ці сваім дзеваваннейкам,
Раненькім сняданнейкам?

Пажджы, маці, да нядзеленькі,
Гэй, да нядзеленькі.

Не пабачыш ані дзеванькі,
Гэй, ані дзеванькі.

Пажджы, маці, за другонькае,
Гэй, за другонькае.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

7. Зак. 1454

Не пабачыш ні аднонькае,
Гэй, ні аднонькае.

Хіба катора да спамыліцца,
Пад аконечка падзівіцца.

## 161

Да прапіла маці дочку
На салодкім мядочку.

Напіўшыся, скача,
Праспаўшыся, плача.

— Куды да маё дзіця пайшло?
Ці ў крыніцу да па вадзіцу,
Ці ў бор да па ягады?

Каб у крыніцу да па вадзіцу,
То б вядзёрца пабрала б.
Каб у бор да па ягады,
То дзевачак пазвала б.

## 162

А прапойнічак татка
Прапіў сваё дзіцятка,
Дзіцятка.

Прапіў сваё дзіцятка
Да й на горкай гарэлцы,
Гарэлцы.

Да й на горкай гарэлцы,
На салодкім мядочку,
Мядочку.

На салодкім мядочку.
Як напіўся, скача,
Скача.

Як напіўся, скача,
Як праспаўся, плача,
Плача.

Як праспаўся, плача:
— Куды маё да дзіця пайшло?
Пайшло.

Куды маё да дзіця пайшло?
Ці ў бор па ягодкі?
Ягодкі.

Ці ў бор па ягодкі,
Ці ў крыніцу па вадзіцу?
Вадзіцу.

Каб у бор па ягодкі,
Брала б каробачкі,
Каробачкі.

Каб у крыніцу па вадзіцу,
Брала б вядзёрачкі,
Вядзёрачкі.

### 163

Прапіла мамка дочку *
На салодкім мядочку.

А напіўшыся, скача,
Да праспаўшыся, плача.

Да праспаўшыся плача:
— Куды маё да дзіця пашло?

Куды маё да дзіця пашло?
Ці ў лес да па ягадкі?

Ці ў лес да па ягадкі,
Ці ў крыніцу да па вадзіцу?

— Ні ў лес да па ягадкі,
Ні ў крыніцу да па вадзіцу,
Да к свёкарку ў святліцу.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 164

Ой, прапою, прапою,
Да й прапаў я з табою.

Ды й прапіў бацька дочку
На салодкім мядочку.

А напіўшыся, скача,
А праспаўшыся, плача:

— Да дзе маё дзіця дзелася?
Ці на возе павязёна?

Ці на возе павязёна,
Ці ў чаўне паплыўлёна?

Каб на возе павязёнае,
То б дарожка пыліла,

Каб у чоўне паплыўлёнае,
То б вадзіца шчурыла.

## 165

Прапіла матка дочку
На салодкім мядочку,
На салодкім мядочку.
Упіўшыся, скачаць,
Прачнуўшыся, плачаць.
А на рэчку пойдзець,
Пранічкам махаець,
Цяжанька ўздыхаець,
Цяжка ўздыхаець.
Кашульку памыець
І воўкам завыець:
— Дзе ж мая дачушка,
Дзе ж мая кукушка?

## 166

Прапіла матка дачку
На салодзенькім мядку. *

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

А ўпіўшыся, скачаць,
А праспаўшыся, плачаць.

Укалола матцы ў грудцы,
Што аддала дочку ў людцы.

Укалола матцы ў пяткі,
Што некаму месці хаткі.

Укалола матцы ў плечы,
Што некаму цепліць печы.

Укалола матцы ў ножкі,
Што некаму памыць ложкі.

## 167

Прапіў бацька дочку,
Прапіў бацька дочку
На салодкім мядочку.
Як уп'ецца — скачыць,
Як уп'ецца — скачыць,
Як праспіцца — плачыць.
А матцы галава баліць,
А матцы галава баліць,
Што некаму кароў даіць:
— А мае ж вы цялушачкі,
А мае ж вы цялушачкі,
Нет маёй дачушачкі.

## 168

— Добра было, мая матухна,
Да запоінкі піці,
Як вы будзеце без мяне
Дзела рабіці?
Пойдзеш у поле жыта жаці,
Займеш постаць шырокую,
Да некаму падганяці.
Усё гнешся, азірнешся,
Слёзкамі абальешся.
Жоначкі ідуць
І мяне завуць.

Пастаць мая ж — не дажатая,
І снапы мае — не паношаны,
Хата мая — не топлена,
Ложкі мае — не памытыя.
— Дзе ж пайшло, дзе падзелася
Дзіця маё нараджонае?

### 169

Прапіла матка дочку
На салодкім мядочку.

Да ўпіўшыся, скачаць,
А праспаўшыся, плачаць.

Добра было прапіваць,
Цяжка будзець аддаваць.

Коліць матцы ў грудзі,
Павязуць дачку ў людзі.

Коліць матцы ў пяткі,
Павязуць дачку з хаткі.

— Аддавайце, не бойцеся,
Каяцца не будзеце.

У нас маладухам добра:
Бочкамі ваду возяць,

Бочкамі ваду возяць,
А катламі есці вараць.

А дзевяры таўкуць, мелюць,
А заловіцы прадуць, шыюць.

### 170

І вот пайду я каля рэчкі
Да наламлю й каліначкі,
Пакідаю й па дарозе,
Сама сяду пры бярозе.

І будзе ехаць мой бацюхна,
Да й каго ён пажалее:
І ці каліны чырвонае,
Ці дачушкі маладое.
— Вот, не жаль мне каліначкі,
Да жаль жа ж мне й дачушачкі.
Да яна ж, малада, й заручана,
Пры постацях замучана.
Пры вялікіх прыганятых,
Пры халастых, нежанатых.

## 171

Пайду на радзіму,
Выламлю смарадзіну.

Шкада, шкада смародзіны,
Што зелена паломлена.

Што зелена паломлена,
Па дарозе пакідана.

Шкада, шкада, мне дзіцяці,
Што молада заручана.

Што молада заручана,
Молада замучана.

## 172

Да й пайду ж я ў цёмны лес,
Да й наламаю смуродзіны,
Да й пакідаю на дарозе,
А сама ж сяду пры дарозе,
Ці не йціме мой бацюшка
Да й ці не ўзніме смуродзіну,
Да й ці не ўзніме, паспытае:
— Горка тая смуродзіна,
Да й што зялёна й адламлёна.
Бедна тое дзіцяя ж мае,
Што маладое заручона.

Пайду я дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Дуброваю зялёнаю.
Наламлю калiначкi
I спелае i зялёнае.
Пакiдаю па дарозе,
Сама стану пры бярозе.
Будзе ехаць мой татанька.
Каго ён пажалуе:
Цi тае калiначкi,
Што зелена паломлена,
Па дарозе пакiдана,
Цi свайго дзiцяцi,
Што молада заручана,
Ля постацi замучана?

## 174

У нас сёння заручыны.
Бог нам даў, бог нам даў.
Заручылі дзеўку
Проці панядзелку,
Пасадзілі за цісовы стол.
Марыначка галовачку схіліла,
У матушкі сардэчка заўныла.

## 175

Запіта Надзечка, запіта,
Золатам косанька абліта.
Хто ж яе, маладую, запіваў,
Золатам косаньку абліваў?
Запіваў яе ўвесь род,
Малады Колечка найпярод.
Запівалі яе дзявочкі,
Аддалі Колечцы за ручкі.

## 176

Запіта Манечка, запіта,
На канцы хустанька вышыта.
Хто ж ёй хустаньку вышываў?
Вышывалі яе малодцы,
Водзячы конікі на ночы.
Ой, прышлі, прышлі запівальнічкі
Манечку запіваці.
А мы думалі, а мы гадалі,
Што яны жартавалі.
А тыя жарты вышлі на праўду
У нядзельку рана.

## 177

Да запіта Олечка, запіта,
А на ей хустачка расшыта.

Нашываў жа табе ўвесь род,
А твой Мішачка напярод.

Да казалі людзі, гаварылі людзі,
Што з нашай Олечкі да людзі не будзе.

А на яе абразе пісары пісалі,
Пісары пісалі, чытачы чыталі.

Пісары пісалі, не дапісалі,
Чытачы чыталі, не дачыталі.

## 178

Запіта дзеванька, запіта,
Шоўкам хустанька й нашыта.
Хто ж яе, маладу, запіваў,
Хто ж ей хустаньку вышываў?
Запівала яе ўся яе радня,
Вышывала яе ўся яе дружына.

## 179

Не гневайся, дзевачка,
Што мы цябе прапілі.
Прапіў цябе ўвесь народ,
Твой татачка напярод.
Усе пілі чарачкай,
А твой татачка шкляначкай.

## 180

Ой, у полі да й бярозанька накрыта,
Бо ўжо наша Ганначка запіта.

Ой, у полі да й дубочак накрыты,
Бо ўжо наш Ванечка запіты.

А хто ж тую да й бярозаньку накрываў,
А хто ж тую парачку запіваў?

Накрываў бярозаньку гасподзь бог,
А запіваў парачку ўвесь род.

### 181

Прапіла маці дочку
На салодкім мядочку.
Ўсе пілі й гаварылі:
Свёкар нявестку перапівае,
Сто злотых абяцае.

### 182

Заручыны і запоіны
Бог нам даў, бог нам даў.
Не завідуйце, добрыя людзі,
Будзе й вам, будзе й вам.

### 183

Заручылі дзеўку
Проціў панядзелку,
Бог нам даў.

Пілі гарэлку
За красную дзеўку,
Бог нам даў.

### 184

Чаго, Лёнечка, позна спаў,
Чаму галоўкі не ўчасаў,
Нам і скрыпачкі не прыслаў?
Наша Манечка не ўдава —
Без скрыпачкі пражыла.

### 185

Прыехалі заручнічкі
Без скрыпкі, без дудачкі.
А што ж яны іграць будуць?
Каго яны заручаць будуць?
Ці не тую сірацінку,
Што сядзіць на зачынку?
Коскамі апусцілася,
Слёзкамі залілася.

### 186

Разрубілі дуду на ляду,
Прапілі дзевачку на мяду.
Нашто было дудачку разбіваць,
Нашто было дзевачку прапіваць?
Хай бы дудачка іграла,
Хай бы дзевачка гуляла.
Іграла дудачка да зары,
Гуляла дзевачка да пары.

### 187

Як мяне заручалі,
У чатыры дудкіігралі.
А пятая скрыпка скрыпела,
А ў хлопцаў сэрца кіпела.

### 188

Ой, дудзе, дудзе, да вяселле будзе,
Нашая дзевачка весяленька будзе.
Весяленька будзе ды й замуж пойдзе.
Замуж пойдзе, а нашая вулачка весяленька будзе.

### 189

Харабёр Мішачка на коніку, *
Ссек, зрубіў бярозу пры дарозе,
Ай, пабраў ягадкі ў шчырым бару,
Заручыў Раечку ў новым даму.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ай, не даў бярозе раскінуцца,
Ай, не даў ягадкам і ўвазрэці,
Ай, не даў Раечцы ўразумеці.
Раскінься, бяроза зрублёная,
Ўвазрэйце, ягадкі пабяроныя,
Ўразумей, Раечка заручоная.

## 190

Харабёр Віценька на коніку, *
Сек, рубаў бярозу пры дарозе,
Ягадак з яе, ай, набраў,
Леначку ў новым дамку заручаў.
Бярозе пашумеці, ай, не даў,
Ягадам ўвазрэці, ай, не даў,
Леначцы ўразумеці, ай, не даў.
Ад бярозы зрубленай прырастак адрасце,
Ягадкі пабяроныя ўвазрэюць,
Леначка, за мной жывучы, ўразумее,
Ай, за мной, малойцам, ўразумее,
Ай, за мной, малойцам, расквітнее.

## 191

Наце вам, сватове,
Недапітую чарачку.
Наце вам, сватове,
Недарошчаную дзевачку.

Вазьміце яе, расціце яе,
Недарошчаную дзевачку.
Вазьміце яе, дапіце яе,
Залатую чарачку.

## 192

Калі б жа я ведала
Блізкія заручынкі,
Я б і тын праламіла,
Тавару б напусціла:

* Кожны радок паўтараецца.

Няхай бы таптаў маю руту-мяту,
Няхай бы не аставалась
Бацюшку на жаласць,
Матушцы на слёзачкі,
Сястрыцам на пакрасы.

## 193

Ой, каб я знала, каб я ведала,
Што мае́ заручыны.*

Расчыніла б я, растварыла б я
У зелен сад вароцечкі.

А ўвагнала б я, а ўпусціла б я
Стада коней вараненькіх.

А няхай коні, хай вараныя
Руту-мяту паламаюць.

Ай, няхай рута не будзе тута,
Ай, няхай не лялеець.

Няхай Наташку мамка аддаець,
Ай, няхай не жалеець.

## 194

Каб я знала, каб я ведала,
Што сягоння заручыначкі,
Адчыніла б я, адтварыла б я
У вішнёў сад вароцечкі,
Упусціла б я, увагнала б я
Два коні вараныя.
Няхай патопчуць, няхай паядуць
І руту, і лялею.
Няхай гэта рута не будзе тута,
Мне, маладзе, жаль не будзе.
А няхай лялея не зелянее,
Мне, маладзе, павесялее.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 195

Каб я знала, каб я знала,
Ды каб я ведала,
Што ўвечары сваты будуць.
А я б шкоду зрабіла,
Да штоб маці набіла,
Да сватам нагаварыла.

## 196

Каб я знала, каб я ведала,
Што і мае заручыны,
Замуж бы не йшла,
У чарнушкі б пашла
Маладою дзяўчонкаю.
А ў чарнушачках дзела не робяць,
Толька хораша ходзяць,
Нітачкі прадуць, чулочкі вяжуць —
Гэта іх работачка.

## 197

Спазнаць вутачку па палётачку,
Што яна падстралёна:

Нізенька ляціць, не далятаець,
Нам крыллейкам не махаець.

Спазнаць Танечку па паходачцы,
Што яна заручона:

Смутненька ходзіць,
Цяжанька ўздыхаець.

А дзе станець, прыхінецца,
Слязьмі абальецца.

## 198

Горда была гардовіца,
У гародзе стоячы,
А як толькі сашчыпалі,

Так борздзенька і звяла,
Сваё лісцейка зеляненька
У баразёначку склала.

Горда была, пышна была
Дзевачка ў мамкі,
А як толькі заручалі,
То пакорненька стала.
Сваей мамачцы, сваей родненькай
Да да ножачак пала,
Слёзкамі дробненькімі
Зямліцу ўкрыла.

### 199

Як у мястэчку на рыначку
Сядзіць саколік на ганачку,
Усе кватыранькі аблятае,
На ўсе дзеванькі паглядае.
Усе дзеванькі вясёленькі,
Адна дзеванька засмучана,
Напэўна, яна заручана.

### 200

— Сіне маё балоцечка,
Чаго рана ўтанула?
— А як жа мне не ўтануці?
Наляцелі шэры гусі,
Усё балоцечка ўкрылі,
Крыллем ваду памуцілі.
— Маладая ты Зіначка,
А чаго ты горка плачаш?
— А як жа мне не плакаці?
Наехалі чужы людзі,
Увесь двор таткаў укрылі,
Майго татку упаілі,
Маю мамку ўгаварылі,
Мяне, млоду, заручылі.

## 201

А ў нядзельку параненьку
Маруська хату мяце.
Што разок махне, так цяжанька ўздыхне,
Галосна плача.
А мамачка яе ўсё каля яе
Стала разважаці:
— Чаго ты так жаласна плачаш?
— Мамачка мая, родная мая,
Як жа мне не плакаць?
Кажуць жа людзі, усе суседзі,
Што я заручоная.
Дзевачкі сядзяць, вяночкі дзяржаць,
Мяне не прымаюць.
Жоначкі сядзяць, сыночкаў дзяржаць,
Мяне падзываюць.

## 202

Што зрубіў бярозку зеляненькую,
Што скасіў мядыню саладзенькую,
Сасватаў Аксінню маладзенькую.
— Ты раскінься, бяроза, хоць зрубленая,
Ты расцвіці, мядыня, хоць падкашоная,
Ты запей, Аксіння, хоць заручоная.
— Не раскінусь я, бяроза, зрублёная,
Не расцвіту я, мядыня, падкошаная,
Не запяю я, Аксіння, заручаная.
Як я маю запеці, што й к чужому вязуць
татку?
Не вязуць мяне на год, на два,
А вязуць мяне на ўвесь век.

## 203

Прышло к Полечцы да трое сватоў
У суботу і ўвечары. *
Адны сталі ў вароцечках,
Другія сталі пасярод двара,
Трэція селі за цісовы стол.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

8. Зак. 1454

Што ў вароцечках — тым адказала,
Пасярод двара — тых адправіла,
Што за столікам — тым руку дала,
Тым руку дала, чару прыняла.

## 204

Цераз зелен сад
Ляжыць дарожка пратароная,
Плачыць дзёўчына заручоная:
— Завязаў мой друг буйну галаву,
А сам паехаў у чужу старану.
— Не плач, дзявіца, не плач, красная,
Шчэ наплачашся.
Калі жыў буду, дык дамоў вярнуся,
А памру — пісьмо прышлюць.
Пісьмо прышлюць, падарачак:
Залато кальцо, шаўковы платочак.
Залато кальцо — павянчацца,
А шаўковы платочак — уціраццa.

## 205

Да у нас сёння ўсё заповінкі бывалі,
Да й мы сёння да й таварышку прапілі.

Не будзе з намі па кірмашыку хадзіці,
Не будуць яе кавалерыкі любіці.

Не будуць яе кавалерыкі любіці,
Не будуць яе й абаранкамі карміці.

І абараначкі ўсё падманачкі падмануць,
Мяне, маладую, і ад татачкі павядуць.

## 206

А мы сёння на заручынах былі,
А мы сваю падружаньку прапілі.

Не з кім будзе на вечарыначку хадзіці,
Не з кім будзе кавалерчыкаў любіці.

Не з кім будзе кавалерчыкаў любіці,
Не з кім будзе канфетачкі паесці.

Канфетачкі, баранечкі —
Усе дзевачкі абманачкі.

Абманулі красну дзевачку, абманулі,
Ад татулечкі, матулечкі кранулі.

## 207

І цяпер мая пабедная галава, *
За адзін вечар сваю сястрыцу прапіла.
І з кім да я буду па кірмашыках хадзіці,
З кім жа я буду карагодзікі вадзіці?

## 208

Ой, кувала зазуленька на грушы,
Высваталі нявестачку па душы.
Пакацілі, павалілі дубовую бочку,
Высваталі, высваталі ў Архіпа дочку.
А мы ж яе не кацілі, сама кацілася,
А мы ж яе не сваталі, сама набілася.

## 208

Ужо Цімошка на воз сядае,
Сваёй Матронцы дабранач дае.
— Дабранач, Матронка, маё сардэнька,
Не тужы па мне вельмі цяжэнька.
Няхай цябе бацька рана не будзіць,
не пасылаець,
Ужо ён да цябе волі не мае.
Няхай, куды пашле — памаленьку,
Няхай, што скажа — паціхеньку.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## БАЦЬКІ ПРОСЯЦЬ ЗАРУЧОНУЮ ПАДАЦЬ ВАДЫ

### 210

— Да заручоначка Верачка,
Да перайдзі сені, святліцу.

Да перайдзі сені, святліцу
Ды падай мамачцы вадзіцу.

— Да дзевачкі мае, сястрыцы,
Ужо ж я ў мамачкі не слуга.

Ужо ж я ў мамачкі не слуга,
Ужо ж мая вадзіца дарага.

Да даражэй мёду і віна,
Да саладжэй цукру-патакі.

У ціхім Дунаі чэрпáла,
На залатым крэсле стаўляла.

На залатым крэсле стаўляла,
Шаўковым абрусам накрыла.

Шаўковым абрусам накрыла,
Дробнымі слёзкамі абліла.

### 211

— Заручоная Мар'ечка,
Перайдзі сені і хату,
Падай бацьку вадзіцы
Ад сцюдзёнай крыніцы.
— Не падам, дзевачкі, не падам:
Ад жалю ручак не ўзніму,
За слёзкамі не ўвіджу,
А куды ж сцежачка к крыніцы.

## 212

— Заручоначка дзевачка,
Падай мамачцы вадзіцы
Ды з халодненькай крыніцы.
— Не падам, мамачка, не падам,
Бо гэта вадзіца дарагая,
Даражэй мёду і віна.
Я твая, мамачка, не слуга,
А слуга таго пана,
З кім заруча́на.

## 213

— Заручоначка Наташка,
Перайдзі сені-хатачку.

Перайдзі сені-хатачку
Да падай вадзіцы татачку.

— Мая вадзіца — сыціца,
Да сыцей мёду і віна.

Да сыцей мёду і віна,
Я ж табе, мой татка, не слуга.

Я ж дагэтуль табе служыла,
Па начлегах конікі вадзіла.

А ў полі валы ганяла,
Пакуль Міколу прыждала.

## 214

— Заручанка Анюта,
Перайдзі сені-хатачку
А падай вадзіцы татачку.
— Мая вадзіца — сыціца,
Саладзей мёду і віна,
Я табе, татачка, не слуга.
Тады была слугою,
Як хадзіла з табою.
А й слуга, слуга свякратку,
А й, жана, жана Мішачку.

## 215

— А заручоначка Хвенечка,
Перайдзі сені і хату
А падай татачку вадзіцы
Із сцюдзёныя крыніцы.
— Не падам, татачка, не падам,
Мне ж гэта вадзіца дорага,
Даражэй мёду і віна.
Я ж табе, татачка, не слуга,
А слуга буду свёкарку,
А жана буду сýжаньку.

## 216

— Да заручоная дзевачка,
Да перайдзі хату і сені.

Да перайдзі хату і сені
Да падай бацюшку вадзіцы.

Да падай бацюшку вадзіцы
З халоднае крыніцы.

— Да мая вада салодка,
— Слажэй мёду і віна.

Слажэй мёду і віна,
Што заручоная вады падала.

## 217

— Да заручоная дзеванька,
Да падай бацюхну вадзіцы
Із дальняга калодзезя,
Із крыніцы.
— Ужо я табе, бацюхна, не слуга,

Ўжо мая вадзіца дарага,
Да даражэй мёду і віна —
Пяць залатых ад вядра.

## 218

— Заручоначка дзевачка,
Падай татачку вадзіцы
А з сцюдзёнае крыніцы,
Каб твая ручачка лёгка была,
Каб твая вадзіца салодка была.
Лягчэй ручачка за пяро,
Саладзей вадзіца за віно.
— Цяпер я, татачка, не твая,
Падаўшы вадзіцы — не слуга.
А ў цябе дзетачкі меншыя,
Яны табе служачкі лепшыя:
Яны табе вадзіцы packet пададуць,
Яны цябе татачкам назавуць.

## 219

А заручоначка дзевачка,
Перайдзі сені новыя,
Падай свёкарку вадзіцы,
Штоб твая ручка лёгка была,
Штоб твая вадзіца халодна была.
Лягчэй ручачка за пяро,
Саладзей вадзіца за віно,
За пшанічнага піражка,
За таго яблычка мядовага,
За таго жанішка маладога.

## 220

— Заручоначка дзевачка,
Прайдзі сені новыя,
Падай свёкру вадзіцы
З халоднай крыніцы.
— Нявехна, мая лябёдка,
Мне ж твая вадзіца салодка,
Саладзей за мёду, за віна,
За пшанічнага пірага.

Сядзіць свёкарка на куце *
А ў шалковенькай барадзе.
Просіць Марфачку вадзіцы:
— Падай, Марфачка, вады мне.
Твая вадзіца салодка,
Саладзей мёду і віна,
Саладзенькага яблычка.

* Кожны радок паўтараецца.

## ЗА СТАЛОМ У ЧАС ЗАРУЧЫН

### 222

А ў каго ж там зелен садзік пад акном,
А ў каго ж там любы госці за сталом?
А ў Ванюшы зелен садзік пад акном,
А ў Ванюшы любы госці за сталом.
Любы госці не прастыя малайцы,
Гэты госці ўсе баяры да купцы.

### 223

Да, ой, судзі, божа,
Мне суботы даждаці. *

Ой, паслаў бы я
Свайго баценька ў сваты.

Ох, а сам бы пайшоў
Пад акенца слухаці.

Вой, да што будзе
Тая дзеўка казаці.

Ох, а тая дзеўка
Да па хатачцы ходзіць,

Свае белы ручкі
Каля сэрцайка ломіць.

— Вой, маці, маці,
Да парадніца ў хаце.

Ой, парадзь, маці,
Што тым сватам казаці.

Ой, ці мне, маці,
Да настольніцу слаці?

* Кожная страфа паўтараецца.

Ці мне, маці,
Тых сватоў адаслаці?

— Вой, хавай, доню,
Да настольніцу ў скрыню.

Вой, зімуй, доню,
Да на гэтую зіму.

## 224

Як прыехаў да мой міленькі з поля,
Прывязаў ён да каня край парога,
Сам заплакаў, ля коніка стоячы:
— Засватаная ўжо дзяўчоначка мая.
Ой, дай божа да нядзелечкі даждаці,
Пашлю людзей к дзяўчоначцы ў сваты,
А сам пайду ж пад акенца слухáці.
Ой, што будзе ж яна маці казаці.
Ажно маці да па святліцы ходзіць
Да свае белыя ручкі ломіць.
— Парай,маці, да што людзям казаці:
Ці мне, маці, да платочкі даваці,
Ці мяне людзям да да восені ждаці?
— Лучшай, донька, да платочкі даваці,
Чымся людзям да да восені ждаці.

## 225

Ой, як жа вячора даждаці?
Пойдуць людзі дзяўчыну сватаці.
Пойдуць людзі дзяўчыну сватаці,
А я пайду пад вокны слухаці.
А я пайду пад вокны слухаці,
Ды й што будзе дзяўчына казаці.
Дзеўка ходзіць ды ўсё пахаджае,
Белы ручкі да сэрца складае:
— Маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь, маці, што свату казаці.
Парадзь, маці, што свату казаці:
Ці ісці замуж, ці з год пагуляці?
— Ой, раджу я табе, не параджу —
Яшчэ з год на цябе я пагляджу,
Але ж, донька, галоўку ты маеш,
Сама бачыш, каго выбіраеш.

## 226

Майго татулькі сад над ракою,
Сад над ракою, ліст над вадою.

— Пусці, татулька, ў сад пагуляці,
Не буду тваіх вішань шчыпаці.

Толькі сашчыпну вінаградачку,
Пайду к мамцы на парадачку:

— Парай, мамка, што мне рабіці:
Ці замуж ісці, ці дома быці?

Замуж пайшоўшы — бальшое гора,
А не пайшоўшы — людская мова.

## 227

У нядзельку рана сонейка ўсходзе,
Маладая Верачка па падвор'ю ходзе.

Па падвор'ю ходзе, дзевачак просе:
— Дзевачкі-сястрыцы, да радзьце мне раду.

Да радзьце мне раду, што мне рабіці:
Ці замуж пайсці, ці дзеўкай быці?

Замуж пайшоўшы — бедная галоўка,
А дзеўкай быці — людская абмоўка.

## 228

Ходзіць вутачка па беражочку
І сама сабе размышляе:

— Ці ў мора плысці, *
Ці на беражочку сесці?

У мора паплыўшы,—
Да нечага жыраваці будзе.

* Першы радок кожнай страфы, акрамя 1-й і 5-й, паўтараецца.

А на беражку сеўшы,—
Да нечага папіваці будзе.

Ходзіць Манечка па новых сенцах
І сама сабе размаўляе:

— Ці замуж ісці,
Ці ў мамачкі быці?

Замуж пашоўшы,—
Бедная да галовачка.

Замуж не йшоўшы,—
Людская абмовачка.

## 229

Досыць каліне, досыць маліне *
А ў лузе стаяці.
А ўжо каліну, а ўжо маліну
Усе пташкі абклявалі.
Не так тыя пташачкі,
Як тыя верабейкі.
Як тыя верабейкі,
Што клююць канапелькі.

Досыць дзеваньцы, досыць маладой
А ў дзеўках гуляць.
А дзеваньку, а ту маладу
Усе людзі абсудзяць.
Не так тыя людзі,
Як тыя суседачкі.
Як тыя суседачкі,
Што хочуць бяседачкі.

## 230

— Чаму не прышоў ды не прыехаў
На мае заручыны?
Ці каня не меў, ці сам не хацеў,
Ці мамка не пусціла?

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Я ж коніка меў, сам жа ■ хацеў,
Маць мяне адпраўляла,
У мяне сястра лет не дарасла,
Вот тая не пусціла:
«Не едзь, мой братка, не едзь, мой родны,
На яе заручыны.
А ты уп'ешся, з каня звалішся,
Па гразі уваляешся.
Будуць людзі йсці, будуць смяяцца
А з цябе, мой браточак,
Што за п'яніца, за няўдаліца
Па гразі валяецца?»

## 231

Ой, чый жа то сын горкі п'яніца,
Паначы шатаецца?
Якубаў жа сын горкі п'яніца,
Па начы шатаецца,
Напіўся віна, зваліўся з каня,
Ля яго людзі смяюцца.

## 232

Сакатала курка, сакатала,
Чула вяселле, не сказала.
А я тую курку на юшку,
А пер'ейка у падушку.

## 233

Да й не паглядайце, саколле,
Да на нашы сады зялёны:
Да не вы нам сады садзілі,
Да не вы нам яблычка расцілі.
Садзілі сады мы самі,
Расцілі яблычка дажджамі.
Да не паглядайце, сватоўе,
Да на нашы сені новы:
Да не вы нам сені будавалі,
Да не вы нам Кацечку гадавалі.
Будаваў жа сені татачка,
Гадавала Кацечку мамачка.

## 234

— А бяроза шумлівая,
Чаго рана зашумела?
— А як жа мне не шумеці:
А ветрыкі пашурхваюць,
А дождж<ыкі памочваюць.
— Маладзенькая Любачка,
Чаго рана заплакала?
— А як жа мне не плакаці:
У мяне ўчора сваты былі.
А мой татка ліхі, ліхі —
Ён сватам не адказвае,
А яшчэ горай прыказвае:
«Не едзьце вы у суботу,
А прыедзьце вы ў нядзелю,
А ў нядзелю — з гарэлкаю,
А ў панядзелак — за дзеўкаю».

## 235

Да часала дзеванька белы лён,
Выганяла сваціццу з хаты вон:
— Ідзіце, сватайкі, дадому,
Не заляцайцеся нікому.

## 236

Цёмная ночанька ўжо ідзець,
Малая дзеванька сватоў жджэць.
Багатый не едзець,
А беднячок-худачок не смеець.
Асмелься, худачок, асмелься,
Багатаму дураку насмейся.
Дам табе, худачок, ручнічок.
Багатаму дураку скулля ў бок.

## 237

У чужым баку дажджы йдуць,
А ў нашым не. *

К чужым дзеўкам сваты едуць,
А к нашым не.

Прайдзі, прайдзі, хоць дробненькі
Дожджычак.

Прыедзь, прыедзь, хоць дрэнненькі
Сваточак.

## 238

Дзе ж мы былі, дзе ж мы былі, **
Што ж мы відзелі,
Каб матка дачкою набівалася:
— Колечка, сыночак мой,
Вазьмі дачку маю.
Пашыю табе штаны й сарочку
З тонкага, з белага кужалёчку.

* Кожная страфа паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

## 239

Зялёны кабат разлагаецца,
Маці дачкою набіваецца:
— Да й, зяцю, зяцю, вазьмі маю дочку,
Дам табе палатна хоць на сарочку
І мех мякіны хоць на пярыны,
А куль саломы пакрыць харомы.

## 240

Па бары чабор развіваецца,
Багатыр дачкой набіваецца:

— Вазьмі, вазьмі ж маю дачушку,
Дам пасагу бычка, цялушку.

— На чорта ж мне бычок, цялушка,
Няхай сядзіць твая дачушка.

## 241

Хмель на тычыну да навіваецца,
Бацько дачкою да набіваецца:
— Ой, зяцю, зяцю, да бяры маю дачку,
Даю табе вена — да тры капы сена,
Даю табе цялушачку да на паляваннейка,
Даю табе донечку да на пагуляннейка.

## 242

Ў саду роза развіваецца,
Багаты дачкой набіваецца:
— Ой, вазьмі, зяцю, ты маю дочку,
Дам табе ў пасаг белу авечку,
Замеж пярыны — мяшок мякіны,
Гароху міску і сабаку Лыску.

## 243

Ой, хмелю, хмелю да павіваецца,
Багатыр дочкаю набіваецца:
— Убогі, ўбогі, бяры маю дочку,
Падарую я табе чырвонцаў бочку
Да шчэ каробачку пшаніцы
Да на паляніцы,
Ой, шчэ куль саломы пакрыці харомы.

## 244

Лясок апранаецца,
  Ой, люлі, рана, апранаецца. *
— Канюшкі-дзецючкі, бярыце дачку,
Бярыце дачку-багатырачку,
Я дам пасагу — кажух ды сярмягу,
Я дам прыборы — лапці ды аборы.

## 245

Сынку Йванку, бяры маю дачку,
Дам табе пасагу — сена вязачку,
А яшчэ прыдатку — бобу лапатку,
Карову Жучку, рабую сучку.

## 246

Як сваталі, тады хвасталі,
Што каровачак многа.
А як заручылі, ў кучу злучылі —
Адзін бычанёначак.
Як быка даіць, дык не стаіць.
Я яго пад бака:
— Дай, бык, малака,
Каб цябе ваўкі з'елі.

## 247

Як запівалі, заручалі —
Сем кароў, казалі,
А як прышлося, у месца сышлося —
Адзін бычанёначак.

* Прыпеў «Ой, люлі, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Як пайду даіць,
Адзін бык стаіць,
Я да яго з даёначкай,
Ён да мяне з капыцікам.

## 248

Як запівалі, як заручалі,
Казалі, кароў многа. *

Як пайшлі даіць, адзін бык стаіць,
Каб яго бог пасціў.

Бычка прададзім, кароўку купім,
Малачко есці будзем.

## 249

Як заручалі, тады казалі,
Што ў свата коней многа.
Прыйшлі ў хлявочак,
Глянулі ў куточак —
Аж там адзін жарабочак.

Як заручалі, тады казалі,
Што кароў многа.
Прыйшлі ў хлявочак,
Глянулі ў куточак —
Аж там адзін бычаночак.

Як заручалі, тады казалі,
Што ў свата авец многа.
Прыйшлі ў хлявочак,
Глянулі ў куточак —
Аж там адзін бараночак.

Як заручалі, тады казалі,
Што ў свата свіней многа.
Прыйшлі ў хлявочак,
Глянулі ў куточак —
Аж там адзін кабаночак.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Як заручалі, тады казалі,
Што ў свата курэй многа.
Прыйшлі ў хлявочак,
Глянулі ў куточак —
Аж там адзін петушочак.

## 250

Як заручалі, тады казалі:
У мілога кароў многа.
А як я пайшла,
Толькі адну знайшла.
А вывела ў поле, з'еў воўк і тое,
Вот мая нядолечка.

## 251

Як заручалі, тады казалі:
Сем кароў.

Як заручылі, праўду адкрылі:
Сем дзевяроў.

Як заручалі, тады казалі:
Сем цяліц.

Як заручылі, праўду адкрылі:
Сем залувіц.

## 252

Да й у нашай рэдзеньцы
Вяселлейка пачынаецца.

Вяселлейка пачынаецца,
Верачка заручаецца.

Як заручалі, то казалі:
Сем дзевяроў.

Як заручылі — толькі чатыры,
Божа ж мой.

Як заручалі, то й казалі:
Сем залувіц.

Як заручылі — толькі чатыры,
Некаму рабіць.

## 253

Да заручынкі, да запоінкі,
Пабраліся дзетачкі да за ручанькі.

Як заручаліся, тады казалі: сем валоў.
Як заручыліся, тады палічылі — сем дзевяроў.

А бацька восьмы ходзіць у сенях па нізу:
— Пастой, нявехна, я табе парады дам.

Загадаю, мая нявехна, сем дзялоў:
Першае дзела — па суседачках не хадзіць.

Другое дзела — свае хатачкі не судзіць,
Трэцяе дзела — пасцель белую паслаць.

Чацвертае дзела — вымывацiся беленька,
Пятае дзела — выціраціся чысценька.

Шостае дзела — уставаці раненька,
Сёмае дзела — паварочвацца скоранька.

## 254

Цешчухна-мамухна,
Я твой зяць буду. *

Я тваю дачушку
Навучаць буду

То кнутом, то кнутом,
То нагайкаю,

Каб была Томачка
Ды хазяйкаю.

---

* Кожная страфа, акрамя апошняй, паўтараецца.

То кнутом, то кнутом,
То лазінкаю,

Каб не была Томачка
Ды разінкаю.

255

Цябе, Мішачка, дзеўкі да не любілі,
Дзяркач ззаду прычапілі.
Адна дзеўка да палюбіла,
Дзяркач ад барады адчапіла.

### 256

— Ці я ў цябе, мой татухна, не гарую,
Што ты мяне выдаеш маладую?
Прадай, прадай, татусечка,
Зеляненькі сад
Да й справ ж ты, мой родненькі,
Увесь панарад:
Саяны зеляныя мушкаваны,
Чырвяцовы паясочкі із махрамі,
Казловыя чаравічкі з гаплікамі.
— Лукерачка, дзіця дарагое,
Пападзецца табе жыццё нялюбае,
Саяны зеляныя пылам прыпадуць,
У чырвяцовых паясах махры адпадуць.

### 257

— Ці я ў цябе, мой татачка, ды не гарую,
Што ты мяне выдаеш маладую?
Іспраў жа мне адзежачку дарагую:
Шаўковыя сукеначкі да долу,
Шчыразлотны паясочак на станочак,
Чырвоныя чаравічкі ды на ножачкі,
А добрыя каралечкі на шыечку.
— Ох ты, маё дзіцятка дарагое,
Як і здасца дружыначка нялюбая,
Запрападзе адзежачка дарагая:
Шаўковыя сукеначкі ізлежацца,
Шчыразлотны паясочак іржа пераесць,
Чырвоныя чаравічкі пылам западуць,
Добрыя каралечкі і так прападуць.

## 258

— Даеш мяне, матулька, у чужы край,
Спраў мне, матулька, дарагі тавар:
Зялёну сукенку да долу,
Шчыра злота паясок да стану,
Шаўковыя панчошкі на ножкі,
Замшовыя чаравічкі невялічкі.
— Нашто табе, дзіцятка, дарагі тавар?
Ёсць у цябе, дзіцятка, мілы гаспадар.
Зялёна сукенка зляжыцца,
Шчыра золата паясок моль праесць,
Шаўковы панчошкі цвілом упадуць,
Замшовы чаравічкі так прападуць.

## 259

Пахілілася да дзераўца ялінка,
Сы горачкі ялiначка, ой, пахілілась,
Пахілілась.

Спакорная да дзіцятка, ой, дзевачка,
Дзевачка,

Яна свайму да татачку пакарылась,
Пакарылась.

Да нізенька й ў ножкі пакланілась,
Пакланілась:

— Закладай-ка, да мой татка, ой, сад-вінаград,
Сад-вінаград.

Да спраў-ка, да мой татка, ой, увесь нарад,
Увесь нарад:

Зялёная сукеначка, ой, да долу,
Да долу.

Чаразлоты паясочак, ой, з трапачкамі,
З трапачкамі.

Саф'яныя чаравічкі, ой, з заплічкамі,
З заплічкамі.

— Не прасі-ка, дзіця маё, ой, нарад.
Нарад.

Папрасі-ка, дзіця маё, ой, у бога долі,
У бога долі.

Пападзецца дружыначка, ой, нелюбая,
Нелюбая.

Прападзе твая адзежа, ой, дарагая,
Дарагая:

Зялёная сукеначка, ой, паліняе,
Паліняе.

Чаразлотны паясочак, ой, моль паесць,
Моль паесць,

Казловыя чаравічкі, ой, падзяруцца,
Падзяруцца.

## 260

— Заручаеш, мой, баценьку, маладую,
Іспраў мне суконечку дарагую,
Шчыразлоты паясочак на станочак,
Чырвоныя чаботанькі на ножкі.
— На што ж табе, дзіця маё, дарагі нарад?
Як удасца твой мілы да раўнівы,
Дарагая суконечка ізлежыцца,
Шчыразлоты паясочак да памнецца,
Чырвоныя чаботанькі падзяруцца,
Бацькавы раскошанькі памянуцца.
Як палажыла белу руку на заруку:
— Ручка ж мая беленькая ў баценькі,
А чы будзеш така бела ў свёкаркі?
— Ой, як будзеш ты, Марысю, пакорненька,
Будзе твая ручанька шчэ й беленька.
Палажыла белу руку на заруку:
— Ручка ж мая беленька ў матунькі,
А чы будзеш така бела ў свякрухі?
— Ой, як будзеш ты, Марысю, пакарнейша,
Будзе твая ручанька шчэ бялейша.

## 261

— Прадай, прадай, пан-отчаньку, свой
сад-вінаград,
Да праў мне, пан-отчаньку, дарагі парад:
Зялёну да суконку да долу,
Шчыразлоты паясочак на станочак,
Жамчужнага намісцечка на шыечку,
Сап'янавы чаравічкі на ножачкі.
— На што ж табе, дзіця маё, дарагі нарад?
Ой, як будзе твой міленькі да раўнівы,
Зялёна суконечка ізлежыцца,
Шчыразлоты паясочак паламаецца,
Жамчужнае намісцечка рассыпіцца,
Сап'яновы чаравічкі папыляцца,
У маладой шынкаркі апыняцца.
Маладая шынкарка прыбярэцца,
Дзіця ж мае слёзанькамі абальецца.
Маладая шынкарачка насіць будзе,
Табе, дзіця мае, да жаль будзе.

## 262

Прадай, прадай, мой татачка.
Свой сад, ой, вінаград,
Спраў мне, мой родненькі,
Ой, дзявоцкі нарад:
Чырвоныя чабоцікі,
Ой, да на ножачкі,
Зялёную спаднічаньку,
Ой, сляды замятаць,
Залатыя калечкі,
Ой, на ручачкі,
Дарагія маністачкі,
Ой, да на шыечку,
Расцяжны паясочак,
Ой, на станочак.
Чырвоныя чабаточкі,
Ой, пылам прыпадуць,
Зялёная спаднічанька,
Ой, і злежыцца,
Расцяжны паясочак,
Ой, і збежыцца,

Дарагія manістачкі,
Ой, рассыплюцца,
Лета мае маладыя
Марна прападуць.

## 263

— Ці я ў цябе, мая мамка, не гарую,
Іспраў мне адзежаньку дарагую.
— Ты ў мяне, мая донька, не гаравала,
І я табе дарагую адзежаньку спраўляла.
Ідзі, мая донька, і мадзей,
Жыві, як добрыя людзі,
Так і добра табе будзе.

## 264

А гатуець татка Альжбетку, гатуець, *
Для Альжбеткі сівога каня гадуець,
Для Альжбеткі татка золата складаець.
На сівым кані будзець Альжбетка паязджаць,
За золата будуць Альжбетку ўважаць.

## 265

Ай, зборка сасонка,
Сабірала збор на ўвесь бор.

Выбрала сасоння на выбор,
Пасадзіла сасоння ўкруг сябе.

Сама села вышы ўсіх,
Павесіла веццейка ніжы ўсіх.

Ай, зборка, зборка Аўдуська,
Сабірала збор на свой двор.

Выбірала баярак на выбор,
Пасадзіла баярак круг сябе.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Сама села вышы ўсіх,
Думала-гадала большы ўсіх.

А многа, многа надобі:
Сорак саракоў ручнікоў,

Пяцьдзесят лакоў намётак,
Штоб было чым дарыць заловак.

## 266

Апошняя нядзелька —
Не ві вяночка з барвенька,
Не пляці косанькі ў бацюшкі,
Но гатуй ручнічкі пад ножкі.
— Не журыцеся, падружкі,
Маімі ручнічкамі:
Альбы мая мацёнка здарова была,
То будуць гатовы ручнічкі,
Будуць ручнічкі пад ножкі.

## 267

Як жа нашай Ганначцы
Многа падаркаў трэба.
Ей дарыць, усіх дарыць:
Свёкра са свякроўкаю,
Дзядзей дарыць
Да ўсё з залоўкамі,
А жаніха-маладца
З усім поездам —
Шаўковым поясам.

## 268

Да перад дзвярмі да стаялі вербы,
Да на тых вербах па галіначцы,
Да на тых галінках па лісцінaчцы,
А на тых лісцінках па заўзулечцы.
Вышла-выбегла малада дзеванька,
Выламала дзве галіначкі
Да прынесла да да матанькі:
— Да гадай-думай, мая матанька,
Колькі тута лісцінaчак,
Колькі трэба мне падарачкаў.

## 269

Ля новага, ля калодзежа *
Стаіць яблынь каранiстая.

Стаіць яблынь каранiстая,
На ёй лісце пазлацістае.

Туды йшла маладая Ганначка,
Выламіла тры галіначкі.

Выламіла тры галіначкі
Ды панесла ды да мамачкі.

Ды панесла ды да мамачкі:
— Нашто, мамачка, тры галіначкі?

Нашто, мамачка, тры галіначкі?
Перабяры ды лісціначкі.

Колькі тут лістоў будзе,
Столькі мне да дароў трэба.

А дары мае, да дарочкі,
А не год я вас прала.

А не год я вас прала,
Не нядзелечку ткала.

А не нядзелечку ткала,
А не адзін дзень бяліла.

А не адзін дзень бяліла,
А да абеду рашыла.

## 270

За гарой рутачка, за гарой,
А зарасла травой-муравой.
— Чаму ты, Аксенька, не ходзіш,
Зялёну рутачку не полеш,
Белыя ручачкі не колеш?

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— Хадзіце, дзевачкі, хадзіце,
Зялёну рутачку паліце,
Белыя ручачкі каліце.
А ўжо мне, моладзе, не хадзіць:
Прыехаў Андрэйка у сваты,
А йшчэ мае рушнічкі не ткаты.
Пастой, Андрэйка, у кутку,
Пакуль рушнічкі я патку.

## 271

За гарой, за гарой ружачка,
Зарасла яна лебядой.

— Чаго ты, Тонечка, не палола?
— Не дакучайце, дзевачкі.

Зайшлі клопаты — не да лебяды,
Прыехаў Шурачка й у сваты.

Яшчэ ж мае ручнікі не пра́ты,
Сорак саракоў ручнікоў.

Сорак саракоў ручнікоў,
Сорак карабок намяток.

## 272

А чыя ж то да рутачка за гарою
А зарасла дробнай траўкай-лебядою?
— А чаму ж ты, Домначка, не палола,
Чы ты свае белы ручкі пакалола?
— А паліце вы сабе, дзевачкі, паліце,
Хоць жа вы сабе па красачцы сарвіце,
Хоць жа вы сабе па вяночку савіце.
А ужо мне не да руткі,
Бо прыехаў Якаўка ўзалеткі.

## 273

Ой, ляцелі галубяты,
Ой, ўсе малыя,
Чэраз мае сені,
Ой, цісовыя,

Пыталіся ў Харыціны,
Ой, ці гатова.
— Не гатова, галубяты,
Ой, не гатова:
У таржочку не бывала, падарачкаў,
Ой, не купляла.
Ой, ляцелі галубяты.
Ой, усе малыя,
Чэраз мае сені,
Ой, цісовыя,
Пыталіся ў Харыціны,
Ой, ці гатова.
— Ужо гатова, галубяты,
Ой, ужо гатова.
У таржочку пабывала, падарачкаў,
Ой, пакупляла.

## 274

Да за варотамі крыніца,
Крыніца.

Да на той крыніцы вадзіца,
Вадзіца.

Да на той вадзіцы дошчачка,
Дошчачка.

Да на той дошчачцы Ганначка,
Ганначка.

Да бяліла ручнічкі беленька,
Беленька.

Прыйшла ж да яе матка яе,
Матка яе:

— Бялі, бялі, дзіцятка, беленька,
Беленька.

Ужо ж твае сватоўе блізенька,
Блізенька.

— Да няхай едуць хоць цяпер,
Хоць цяпер.

Ды мае ж ручнічкі, як папер,
Як папер.

Ды няхай едуць сватовы,
Сватовы.

Гатовы ж мае ручнічкі,
Гатовы.

## 275

Да ў вароцечках яліна,
Там дзевачка ручнікі бяліла.
Прыйшла да яе мамка яе:
— Бялі, мая дачушачка, бяленька,
Ужо ж твае заручнікі блізенька.
— Да няхай жа едуць здаровы —
Ужо мае ручнікі гатовы:
Сорак саракоў ручнікоў,
Трыццаць локатаў намётаў —
Таней лісціны кляновай,
Бялей паперы лістовай.

## 276

Ой, у полі даліна,
Там дзяўчынанька ручнікі бяліла.

Белячы ручнікі, заснула,
Прышоў яе бацюхна, яна не чула.

— Устань, устань, дочанька, годзе спаць,
Бо ўжо твае баяры даўно стаяць.

— Няхай стаяць, падаждуць,
Пака мае ручнічкі высахнуць.

Няхай стаяць здаровы,
Ужо мае ручнічкі гатовы.

## 277

Ой, на нашай рэчачцы кладачка,
А на той жа кладачцы дзевачка.

Што ж яна там рабіла?
Тонкія ручнікі бяліла.

— Бялі, бялі, дзевачка, бяленька,
Ужо тваe баяры блізенька.

— Ой, няхай ідуць здаровы,
Ужо мае падаркі гатовы.

Ой, няхай ідуць багаты,
Ужо мае падаркі раздаты.

## 278

Да бяліла Гапачка ручнічкі.
Пабяліўшы, спаць легла.
Прышла да яе маць яе:
— Да годзі, дзіцятка, спаць,
Ужо тваё сватоўе ў полі.
— Да няхай, матка, у полі,
Ужо мае ручнічкі гатовы.
Да сарака саракоў
Яна ўткала ручнічкоў.

## 279

Лугамі вадзіца валіла,
Зялёнага дуба падмыла.

Зялёнага дуба падмыла,
Галечка падаркі бяліла:

— Бяліцеся, падаркі, бяленька,
Ужо мае сваточкі блізенька.

Ужо мае сваточкі на дварэ,
Бяленькія падаркі на стале.

Ужо ж мае сваточкі на парог,
Белыя падаркі на пірог.

## 280

За гарою, за камяною рублёна крынічка.
Хоць рублёна, хоць не рублёна,
То вада халодна.
Там Домначка падаркі бяліла,
З богам гаварыла:
— Ой, божа, божа, мілы мой божа,
Дай мне добру долю.
Мне татка дае, што ў доме мае,—
Долечкі не ўгадае.

## 281

Праз Дунай, праз ціхі Дунай
Ляжыць дашка́, дашка цёсаная.
На тэй дашцэ ляжыць пра́йнічак,
Прайнічак, прайнічак маляваненькі.
Алёна, Алёна там дары мыла,
Маладзец Дзяніска там каня паіў.
— Ці адмёрзлі, Алёна, у цябе ручанькі,
Ці празяблі, Алёна, у цябе ножанькі?
— Хоць адмёрзлі, празяблі — не твае, а мае.
— На ручкі, на ручкі я існодкі звяжу,
На ножкі, на ножкі чаравічкі сашыю.

## 282

Праз Дунай да й ціхенькі
Там ляжыць дошка цёсаная.
На той дошцы ляжыць пранічак маляваненькі,
А ручка залоцівана.
Там наша Ганначка дары мыла,
Мыўшы дарочкі, гаварыла:
— Мыйцеся, дарочкі, бялёшанька,
Не я вас, дарочкі, тонка выпрала,
Не я вас, дарочкі, часта выткала,
А маці мая старая тонка выпрала,
А сястра мая маладая часта выткала,
А я, млада, бела выбеліла,
У ціхі Дунай ды й памаківала,
Між гор, між азёр ды й высцелівала.

10. Зак. 1454

## 283

Бяліцеся, ручнічкі, беленька,
Бо ўжо ж мае баяры блізенька.
Ужо баяр'е ў двор увайшло:
— Наша дзевачка, наша.
Яна ж устала, ім адказала:
— Шчэ ж бо я не ваша,
Шчэ ж бо я баценькава.

Ужо ж баяр'е ў хату ўвайшло:
— Наша дзевачка, наша.
Яна ж устала, ім адказала:
— Шчэ ж бо [redacted] не ваша,
Шчэ ж бо я матусіна.

Ужо ж баяр'е ў хату ўвайшло,
За стол пасела:
— Наша дзевачка, наша.
Яна ўстала, ім адказала:
— Ужо ж бо я ваша.

## 284

Каціліся калёсы ды па ранняй расе.
Заплакала дзевачка да па русай касе.

Да не так па касе, як па стужачцы.
Як зачуў малойчык, па коніка йдучы.

Як зачуў малойчык, па коніка йдучы:
— Чаго ты, дзевачка, да сільненька плачаш?

— Як жа мне, маладзенькай, сільна не плакаць?
А ў цябе, маладога, да радзіны многа.

А ў цябе, маладога, да радзіны многа,
А ў мяне, маладой, падарачкаў мала.

— Я сваю радзіну на дагодзь упрошу,
Я ж табе, маладзенькай, падаркаў умéншу.

Закавалі зязюлечкі,
Ой, у гору летучы.
Заплакала Парутачка,
Ой, сені метучы.
Зачуў, пачуў Іванька,
Ой, коні ведучы:
— Ой, чаго ты плачаш,
Парута малада?
— Ад таго сільна я плачу,
Што ў цябе, маладога,
Братоў многа,
А ў мяне, маладой,
Падаркаў няма.
— Не плач, не плач,
Ой, Парута маладая,
Я роду ўменшу,
Табе падаркаў куплю,
І яшчэ цябе, маладую,
Да за сябе вазьму.

## 286

Плакала Марыська, па воду ідучы,
Зачуў Казуська, коніка пасучы:
— Чаго, Марыська, сільненька плачаш,
А сільней яшчэ ўздыхаеш?
— Як жа мне не плакаць, не ўздыхаць?
У цябе, Казуська, пляменя многа,
У мяне, беднай, дароў нямнога.
— Пайдзі, Марыська, у агарод,
Палічы-пералічы ў кропе насенне:
Колькі ў кропе насення,
Толькі ў мяне племення.
Я сваё пляменне пераяднаю,
Табе, маладзенькай, дароў памалю.

## 287

Чуці, чуці ў зялёнай руце,
Плакала Надзечка, вяночка ўючы.
Пачуў Колечка, па каня ідучы:

— Чаго, Надзечка, горка плачаш?
— Я таго плачу, што сама бачу:
У цябе, маладога, радзіны многа,
У мяне, маладой, падарункаў мала.
У цябе радзіны, як у лесе ляшчыны,
У мяне падарункаў, як у лесе гаёчкаў.
Блізкую радзіну ўсю абдарыці.
Дальнюю радзіну перапрасіці.

## 288

Ой, чуці, чуці ў зялёнай руце,
Плакала дзеванька, вяночкі ўючы.
Да зачуў жанішок, па коніка йдучы:
— Чаго, дзеванька, так плачаш?
— Сама ■ знаю, чаго сільна плачу:
У цябе, маладога, радзіны многа,
У мяне, маладзе, падарачкаў мала.
Колькі ў лесе сухіх дубочкаў,
Столькі ў мяне ўсіх падарачкаў.
— Колькі ў лесе сухой ляшчыны,
Столькі ў мяне ўсёй радзіны.

## 289

Ў агародзе, ў зялёнай руце
Плакала дзевачка, вяночкі ўючы.
Зачуў дзяцінка, па коня йдучы:
— Чаго, мая дзевачка, сільна плачаш,
Сільна плачаш, цяжка ўздыхаеш?
— Як мне, маладой, быць весяленькай?
Ў цябе, маладога, племечка многа,
У мяне, маладой, падарачкаў мала.
— Не плач, дзевачка, не плач, маладзенькая,
Я шапачку зніму, племечка спрашу,
Для цябе, маладой, падаркаў прынясу.

## 290

Ой, чуці, чуці ў зеляненькай руце,
Плакала Насцечка, вяночкі ўючы.
Зачуў Іванка, па конікі йдучы:

— Што ж ты, мілая, сільненька плачаш,
Сільненька плачаш, цяжанька ўздыхаеш?
— Ой, як жа мне, маладзенькай, быць
весяленькай?
У цябе, маладога, роду-племя многа,
У мяне, маладой, падаркаў нямнога.
— Сваё племя я сам перапрашу:
Меншае залувіцы не будзеш дарыці,
А старшая залувіца не будзе дзівіцца.

### 291

Святая нядзелька
Да святы дзянёчак.
Раскаціла Ганначка
Свой кужалёчак.
Раскаціўшы, да моцненька плача.
Да пачуў Іванка,
Па коніку ідучы.
Ён думаў, маладзенькі,
Што утачка крача,
Ажно яго Ганначка
Па падарках плача.
— Не плач, Ганначка,
Не плач, маладая.
Я сваю радзіначку
Сам перапрашу,
Табе, маладзенькай,
Падарачкаў умяньшу.

### 292

Чуці-зачуці ў зялёнай руце,
Плакала Параскімка, вяночка ўючы.
Зачуў Якаўка, каня ведучы:
— Чаго, сэрданька, плачаш сільненька?
— Ой, як жа бо мне та й не плакаці?
У цябе, маладога, радзіны многа,
У мяне, маладой, падаркаў мала.
— Не журысь, Параскімка, падарачкамі,
Нанясуць падружкі сулавочкамі,
Далёкі госці мёдам папаю,
Блізкі суседзі гарэланькаю.

## 293

Ой, чуці, чуці ў зялёнай руце,
Плакала дзеванька, вяночка ўючы.
Зачуў жанішок, па каня йдучы.
Па каня йдучы, каня ведучы:
— Чаго, дзеванька, так сільна плачаш?
— Як мне, жанішок, так не плакаці?
У цябе, маладога, радзіны многа,
А ў мяне, маладой, дароў мала.
— Будзем, дзеванька, бацькоў прасіці,
Штоб нам нямножка дароў дарыці.
Далёкія госці мёдам напоім,
Блізкія суседзі так перапросім,
А сваіх бацькоў нізкім паклонам,
Нізкім паклонам, харошым словам.

## 294

За сеньмі, сеньмі, у зялёнай руце
Плакала дзеванька, вяночкі ўючы.
Зачуў дзяцінка, па коніка йдучы:
— Чаго ж ты, дзеванька, так сільна плачаш,
Так сільна плачаш, цяжка ўздыхаеш?
— Як мне не плакаць, цяжка не ўздыхаці,
Калі ў цябе, маладога, радзімы многа,
А ў мяне, маладое, падарункаў мала.
— Не плач, дзеванька, не плач, маладзенька.
Ты будзеш дарыці, а буду плаціці,
Ты ручнікамі, а я талярáмі.

## 295

Ой, чуці, чуці на зялёнай руце,
Плакала Жэнечка, ды й вяночкі ўючы.
Як зачуў Віцечка, ды й каня пасучы:
— Да не плач, Жэнечка, да вяночкі ўючы.
Тады будзеш плакаць, да мой род дорачы.
У мяне, маладога, ды й роду многа,
У цябе, маладзенькай, ды й і дароў нямнога.

## 296

Пятрова ночка маленька —
Не выспалася паненка.
Ягадкі брала — драмала,
Перабірала — заснула,
Прыехаў дзяцінка — не чула.
Махнуў ёй хустачкай — не дамахнуў,
Злез із коніка і пабудзіў:
— Уставай, дзевачка, доўга спіш,
Чым свае сватове надарыш?
—Што табе, дзяцінка, да таго,
Ёсць у мяне падаркі для таго
У матчынай скрыні замкнёнай,
У бацькавай клеці зачынёнай.
У бацькаву клецю ўвайду,
Тонкіх падаркаў набяру,
Тады свае сватове надару.

## 297

Пятрова ночка маленька,
Не выспалася паненка.
Ягадкі брала, драмала,
Перабірала й заснула.
Прыйшоў міленькі — не чула:
— Чаго, міла, доўга спіш,
Чаму падаркаў не глядзіш?
— А што табе, мілы, да таго,
Ёсць у мяне матка для таго.
Мяне маленьку гадавала
І мне падаркі гатавала.

## 298

Санліва поле, драмліва,
Зарадзіла ягады сільныя.
Пайшла нявеста ягад браць,
Браўшы ягады, заснула.
Прыехаў жаніх — не пачула,
Кнуцікам сцягнуў — не папаў,
Пярсцёнкам махнуў — не папаў,
Злезшы з каня, прыльнуў:

— Спі, мая нявеста, высыпайся.
Нямнога табе надабна:
Сорак саракоў ручнікоў,
Пяцьдзесят локаць намётак,
Штоб было чым даравацъ:
Кожнай залоўцы — па намётцы,
Кожнаму дзеверу — па платку.

## 299

Драмліва поле, драмліва *
Ды на ягодкі ўрадліва.
Брала дзевачка ягодкі,
Ой, брала-брала, заснула,
Ехаў малойчык — не чула.
Махнуў платочкам — не дастаў,
Кінуў пярсцёнак — не лучыў,
Злез з коніка — пабудзіў:
— Не спі, дзевачка, да зары,
Ды трэба строіць падары:
Сорак лакотак намётак,
Сорак саракоў ручнікоў,
Яшчэ на столькі драбніцы
Падараваці залвіцы.

## 300

Драмліва поле, драмліва.
    Ой, раным-раным, драмліва. **
У полі ягадак радзілась.
Брала ягадкі Зоя, брала.
Браўшы ягадкі, прыснула.
Наехаў на яе большы брат.
Каня шыбка гнаў, не стаптаў.
Плёткай махнуў, не сцягнуў.
Слова згаварыў — прабудзіў:
— Ой, ўставай, сястра, не ляжы,
А табе, сястра, многа нада:
Сорак саракоў ручнікоў
Свёкра з свякроўю дарыці,
Красных заловак, ох, заловак,
Маладых маладцоў, дзевяроў.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Прыпеў «Ой, раным-раным» паўтараецца в другой часткай кожнага радка.

## 301

У цёмным лесе на верасе,
Там пчолка мядок брала.

Там пчолка мядок брала,
Пчолкам слала.

У каморы на крэслечку,
Там дзевачка дары кроіць.

Там дзевачка дары кроіць,
Дары кроіць, племя дарыць.

Добра дзевачка — дары добры,
Тонкі, бяленькі — тонка прала.

Густа ткала, бела бяліла,
Бела бяліла, племя дарыла.

## 302

Ой, да ў каморы,
Ды у новенькай
Дзве сястрыцы плачуць.
Кітай краяць,
Кублікі поўняць,
Харашэнька гавораць:
— Добра табе, мая сястра,
Ў сваём доме дамаваць.
А як жа мне, маладзенькай,
На чужыне прывыкаць.

## 303

Па канец стала свяча гарэла,
Наша Танечка падаркі краіла:
— А падаркі мае недабялёныя,
А касіца мая недарашчоная.
К свякрові перайду — падаркі дабялю,
А к свёкру перайду — касу дарашчу.

## 304

На двары дажджы йдуць,
А ў каморы свечы гараць,
Там Мар'ечка дары кра́е
І з дарамі размаўляе:
— Дары ж мае, дары,
Я вас тонка прала,
Звонка ткала
І беленька бяліла
Да свёкрам наравіла:
Свёкру, як бацьку,
А свякрові, як мацеры,
А дзеваратку, як братку,
А залвіцы, як сястрыцы.

## 305

На двары дожджы йдуць,
У каморы свечы гарацъ,
Ганначка дары кра́е,
З дарамі размаўляе:
— О, дары ж мае, дары,
Да каб я сёе ведала,
Што мне падарачкі трэба,
То б я раненька ўставала,
Я б танесенька прала,
Я б гусцесенька ткала,
Я б бела да бяліла,
Свякроўку да надарыла.

## 306

На стале чаркі бразчаць,
У каморы да нажы звіняць —
Дзевачцы да дары рэжуць.
А дзевачка мамкі просіць:
— Мамачка мая родная,
Не ўкараці мне падарачкаў:
Я ж пайду ў чужыя людзі —
Свякруха ўпікаць будзе.

## 307

А гула пчолка, гула
Кала новага вулля.
А плакала дзевачка
Кала новага кухра:
— Мамачка мая мілая,
Не ўкарачай падарачкі,
Не ўкарачай падарачкі.
Не астаўляй меншай сястры.
Меншая шчаслівейшая,
Меншая шчаслівейшая.
Сястрыцу падгадуем,
Падаркі падгатуем.

## 308

Там між гор да каморачка,
Там свяціла ясна зорачка.
Там не зорачка свяціла,
Малада дзяўчына хадзіла
З залатымі ключамі,
З васковымі свячамі.
Скрыначкі адмыкала,
Падарачкі выбірала.
А за ёю, маладою,
Яе мамачка з сястрою:
— Мая дочка, мая родная,
Да не выбірай ўсе падарачкі,
Да й застаўляй меньшай сястрэ.
— Мамачка, мая родная,
Пакуль сястру падгадуеце,
І іншых падарачкаў нагатуеце.

## 309

Ой, прышла ж ужо гадзінанька тая,
Што маці свойчыкі з кубла выцягае.
Клікнуўшы свае кумачкі,
Рэжуць тонкія падарачкі.

## 310

Не шчабячы, салавейка, не шчабячы,
Ты мае галованькі не клапачы,
Бо мая галованька клапатна́:
Не хватае ў маменькі палатна.

## 311

Ой, бразнула ў каморы.
Млада дзеванька да тонкі кужаль
Заткала.

Ой, заткаўшы, госпада бога
Прахала:

— Ой, каб жа мой да тонкі кужаль
Удаўся,

Маёй свякроўцы на падарачкі
Здаўся.

## 312

А ў сенцах, а ў сенцах
Ганначка ткала кросенцы,
Пярсцёнкам прашэстку самшыла,
Слёзкамі палаценца змачыла.
А ў яе дзеванькі пыталі:
— Чаго ты, Ганначка, плакала:
Ці ў бога долі прасіла,
Ці добрага замужжа,
Ці любімага падружжа?
— Плакала, дзеванькі, плакала,
Я ў бога доленькі прасіла:
І добрага замужжа,
І любімага падружжа.

## 313

— А пыха, сваты едуць,
А пыха, няхай едуць.
А пыха, прадуць кужаль.

А пыха, на што кужаль?
— Дзевачцы на падаркі,
Дзевачцы на падаркі.

## 314

На горушцы, на круценькай
Гогаль-пашніца.
Пад гарою, пад крутою
Дуб'ё зеляное.
Штоб пад тымі, пад дубочкамі
Дарачка гуляла,
Малада гуляла.
Яна гуляла, кару калупала,
Дары вышывала,
Свёкарку дарыла.
— Ты свёкарка, мой бацюшка,
Прымі мае дары.
Мае дары дарагія,
Кругі залатыя.
Я за гэтымі за дарочкамі
Сама скора буду.
Я ў пятніцу не паспею,
У суботу не смею,
Ў васкрасення пад панядзелак —
Як буду, так буду.

## 315

На гарэ два браценькі ячмень жнуць,
Да ў даліне да Кацярына — пшаніцу.
Дзевачка вумна вышла із гумна, гукнула:
— Прынясі, божа, паніча, што люблю,
Дарую яму хустачку, што рублю.

## 316

Хадзіла дзевачка па дварцу,
Сушыла хустачку на шнурцу,
Прасіла ветрыка, сонейка,
Каб высахла хустачка скоранька,
Бо прыедзе Ванечка заручацца,
Трэба яму хустачкай уціраццца.

Не налятайце, галубы,
Ды на нашы сені новыя,
Бо не вы сені будавалі,
Бо не вы нам дзевачку гадавалі.
Будавалі сені цяслямі,
Гадавалі дзевачку мы самі.

## 317

Купі, купі, матулечка, залатую голку,
Буду шыці, вышываці міламу кашульку.
Шоўкам шыла, шоўкам шыла, золатам рубіла,
Не прышлося таму знасіці, каго любіла,
А прышлося таму знасіці, каго не любіла.

## 318

Вось звонка-звонка каліна,
Каліна.

Да па масту ішла, званіла,
Званіла.

З мосту сышла, стукнула,
Стукнула.

Пад акенца прышла, гукнула,
Гукнула:

— А ці дома, дома дзевачка,
Дзевачка?

Ці шыла, шыла кашулю,
Кашулю?

— Вось шыла, шыла ўсё дротам,
Усё дротам.
Да па беражэчку ўсё злотам.

## 319

Да ніхто таго не чуў, не відзеў,
Як заінька рэчаньку пераплыў,
Пераплыўшы рэчаньку, страхнуўся.

Толькі чула, відзела Наталка,
На высокім беразе седзючы,
Тонку кашульку шыючы:
З тонкага кужаля станочак,
З белае бялі каўняры,
З чорнае кітайкі рукаўкі.

### 320

Цёмная ночка, цёмненькая,
Калі табе, ночка, дзень будзе?
Мне, маладзенькай, дакучна
У новай каморы сядзеці,
Тонкія падаркі рэжучы,
Белыя кашулі шыючы.
Я шыю, шыю, штабную —
Для свайго мілага гатую.

### 320

Заручоначка Марынка
Заручылася ў суботу,
У вялікую работу.
Вялікую работу работала,
Шаўковую хустачку вышывала,
Пад акенцам седзячы,
На ясну зару гледзячы.
Як тая зорачка зарала,
Так наша Марынка вышывала.
Зарала зорачка ясненька,
Вышывала Марынка красненька.

# ГАТУЮЦЬ ЕЖУ, ПІТВО, ПРЫБІРАЮЦЬ ХАТУ ДА ВЯСЕЛЛЯ

## 322

— Ой, зора, зора, асвяці поле,
Дзе мая нявеста пшаніцу поле.
Ой, поле, поле, перабірае
Да куколь-імбрыцу вон выкідае,
Перабор-пшаніцу на загон саджае.
Да куколь-імбрыцу да курам клявацi,
Перабор-пшаніца — шышкі гібацi.
— Да, куколь-імбрыца, плынь ты з вадою,
Перабор-пшаніца, едзь ты са мною.

## 323

А ў лесе, лесе круглае поле,
Там наша малада да пшаніцу поле.
Яна поле, поле і перабірае,
Куколь-мятліцу вон выкідае:
— Вот табе, зямліца, куколь-мятліца,
А мне, маладзенькай, перабор-пшаніца.
Куколь-мятліца бацьку на насенне,
Перабор-пшаніца — то мне на вяселле.

## 324

Ой, за лесам, лесам,
За борам, борам
Маладая дзяўчынка
Пшанічку поле.

Яна ўсё поле й перабірае,
Куколь з пшаніцы вон выкідае.
Тудой ехаў хлопец.
Ён ёй:— Дзень добры!

Ён ёй:— Дзень добры!
Яна яму — нічога.
Ён ёй:— Памагай бог!
Яна яму — ні слова.

— Пачакай, гордая,
Пачакай, ціхоня,
Спомню табе
На сваём двара.

Будзе мая нагайка
Па гары лятаць,
Будзе твая матка
Слёзкі раняць.

Будзе твая матка
Слёзкі раняць,
З плечак кашульку
Шпількамі вымаць.

## 325

Ай, што ў сенюшках за дзвярмі
Ткала Аўдотачка красенцы,
Слёзкамі прашостку змачыла,
Залатымі персямі замшыла.
Ой, туды ішоў Пятрушка:
— Божа табе памажы, Аўдотка.
Аўдотка Пятрушку — ні слова.
— Горда Аўдотка, да не гардуй,
Да не гардуй мною, маладцом,
Быць табе, дзявіца, за мною,
Маёй вернаю слугою.

## 326

Ой, за лесам, лесам
Да на круглым полі
Маладая дзевачка
Да лянок палола.

Да тудэю ехаў
Малады дзяціна.
Ён ёй:— Памагай бог.
Яна яму — нічога.

Ён ёй:— Памагай бог.
Яна яму — нічога.
Ён ёй — чаравічкі,
Яна яму — дзве хвічкі.

— Пастой, гардная,
Пастой, пышная,
Спамянеш ты мяне
Да на маём дварэ.

Як будзе нагайка
Высока лятаці,
Да твая кашулечка
К плечкам прыліпаці.

## 327

А на сіняй вадзе,
Там наша Агапка бель беліць.
А прыйшоў да яе Зіноўка:
— А беленька табе, Агапка?
Яна яму малада — ні слоўка.
— Ой, гарда, гарда, Агапка,
Хоць колькі гардуй ты мною,
А быць жа табе за мною,
А быць маёю жаною.

## 328

— Не сядзі, татачка, на лавачцы,
Сабірай бяседу да Манечцы.
Ай, і сем бочачак піва ва́ранага,
Восьмую бочачку зеляно віно.
— Не сядзі, мамачка, на лавачцы,
Сабірай бяседу да Манечцы.
Ой, і сем печачак хлеба печана,
Восьмую печачку пірагоў пяклі.

## 329

— Не сядзі, Мішачка, на лавачцы,
Не сядзі, Мішачка, на лавачцы.

Сачынай, Мішачка, бяседаньку,
Сачынай бяседу вясёлую.

— Жоначкі-ягадкі, сачыненая,
Жоначкі-лябёдачкі, сачыненая.

Дзевяць бочак, дзевяць бочак піва варанага,
А дзесятая бочачка — зеляно віно.

### 330

Бабра, у крутых берагах не сядзі,
Гары рыці ўжо пара.
— Сямёнка, у бяседзе не сядзі,
Вяселле суражаці ўжо пара.
— Маё вяселле суражонае:
Дзевяць печ пірагоў напечана,
Дзесятая пячэ ўсё прайнічкі.
Гэта майму Стахваньку на падарачкі,
Гэта маёй Ганульцы на пахвалачкі.

### 331

Пайграй, скрыпанька, ад сяла да сяла,
Каб наша Васечка была весяла.
Не стой, вярбіна, развівайся,
Не сядзі, Лукашка, размышляйся.
Навары піва дзевяць вароў,
А дзесяты вар — гарэлкі стан.
Хадзіла каля бровара Васечка:
— Татанька родненькі, што ты дзелаеш?
— Дурачка Васечка, піва вару.
— Нашто піва, татанька?
— Наш двор пры дарозе, госці на парозе:
Першы госць — сватанька,
А другі — то ўжо зяценька.

### 332

Не стой, вербанька, развівайся,
Развівайся, ты не стой.
Размышляйся, Хірапонька, не сядзі,
Размышляйся, Хірапонька.

Ты вары півушка
Дзевяць вароў,
Дзесяты вар —
Да гарэлкі стан.
Не сядзі, свякрова, размышляйся,
Размышляйся, свякрова.
Пякі пірагі
Дзевяць печы,
Дзесятую печ —
Пранічкаў,
Штоб было чым дарыць
Паязджаначкаў...

## 333

— Не ляжы, бабрыца, на крутым берагу,
Церабі дарожку ў шчыры бор.
— Ужо мая дарожка працярэблена,
Усё віцьвё у груд зложана.
— Не сядзі, хазяін, у бяседзе,
Суражай свадзебку княгінькіну.
— Ужо мая свадзебка суражона:
Я ўжоварыў піва дзевяць вароў,
Дзесяты вар гарэлкі мал.

## 334

Не сядзі, бабрышча, у крутым беразе,
Вынасі трусочак на беражочак.
— Не сядзі, Якубка, у бяседзе,
Суражай свадзебку Кулінкіну.
— Мне не век векаваць —
Свадзьбу суражаць.
Навару я піва дзевяць вароў,
Дзесяты вар — гарэлкі стан.
— Не сядзі, Алёнка, у бяседзе,
Суражай свадзебку Кулінкіну.
— Мне не век векаваць —
Свадзебку суражаць.
Напяку пірагоў дзевяць пячэй,
Дзесятую печ — перапечынку.

## 335

Дзе калі то з нашай Аўдулькай бывала —
У нядзельку ранюсенька ўстала,
Сваю галоўку слізюсенька ўчасала,
Сваю родную мамку будзіла:
— Устань, устань, мая мамухна, доўга спіш,
А нашто ж ты рана дзяжу ўчыняла?
— А як жа мне, мае дзіцяткі, не ўчыняць?
Будуць госцікі небывалыя бываць,
Будуць цябе, маладзенькія, пытаць,
А ў мяне ўсе тыя мыслі, што аддаць.

## 336

Цякла рэчачка праз каменнейка шумючы,*
Ішла Рэнечка каля бровара плачучы:
— Там мой татачка гарэлку гоніць, ой, не мне.
— Ой, не табе, мая дачушка, не табе,
Толькі тваім любым сваточкам праз цябе.

Цякла рэчачка праз каменнейка шумючы,
Ішла Рэнечка каля каморы плачучы:
— Каму, мамачка, падаркі рэжаш, ці не мне?
— Ой, не табе, мая дачушка, не табе,
Толькі тваім любым сваточкам праз цябе.

## 337

Ніхто ж так не гуляець,
Як Мар'юхна ў татулькі:
Кожан дзень на рыначку.
— Татулька мой родненькі,
Нашто ж ты салады расціш,
Нашто ж ты піва варыш?
— Мар'юхна-дзіцятухна,
Да мой двор на дарозе,
Госцікі на парозе.
Мар'юхна, дзіця мае,
Выйдзі ты ў чыста поле,
Глянь жа ты пад ручачкі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А з-пад цёмнага лесу
Да ці мак зацвітаець,
Эй, ці рой высыпаець?
— Татулка мой родненькі,
Да не мак зацвітаець,
А ні рой высыпаець,
Міша выяэджаець
Да з-за цёмнага лесу,
Да з вялікага сяла,
Да з багатага двара
А з вялікай дружынай,
Да з іграхкай-дудачкай,
А з пяялай-свацціцай.

## 338

Гаварыла жыта ў полі, *
Што некаму мяне жаць.

Што некаму мяне жаці
Ні сёлета, ні налета.

Ні сёлета, ні налета
Ні на тое, ні на гэта.

Гаварыла Рыпінка бацьку,
Што не аддай дачкі замуж.

Што не аддай дачкі замуж
Ні сёлета, ні налета.

Ні сёлета, ні налета,
Ні на тое, ні на гэта.

— Ты, татачка мой родненькі,
А на што ты піва варыш?

А на што ты піва варыш,
Да гарэлачку сыціш?

— Дочка мая да Рыпінаčка,
Як мне піва не варыць?

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Як мне піва не варыць,
Гарэлачкі не сыціць?

Мой двор пры дарозе
Да пры белай бярозе.

Да пры белай бярозе
У мяне госці ў парозе.

У мяне госці ў парозе
Да гарэлачкі просяць.

Да гарэлачкі просяць,
Да не так гарэлкі.

Да не так гарэлкі,—
Рыпіначкі, краснай дзеўкі.

## 339

Перахожая зорка Маланка ў мамачкі,
Перайшла сені, хату, села сабе край караваці,
Села сабе край караваці і з мамачкай размаўляці:
— Мамачка мая родная, нашто ж ты піва варыш,
Нашто ж ты піва варыш і гарэлачку гоніш?
— А Маланка-дзіцятка, малады розум маеш,
Малады розум маеш, ты ж таго не знаеш:
Мой двор пры дарозе, у мяне госць на парозе,
Купчыкі заязджаюць, тавару пытаюць.
А тавару пытаюць — Маланкі маладыя,
Купчык — Іпалітка, а тавар — Маланка.

## 340

— Татачка мой родненькі,
Да нашто ты піва варыш,
Гарэлачку гоніш,
Ці ты мяне да й аддаць хочаш?
— Да, дзіцятка дзевачка,
Малады розум маеш.
Ці ты таго не знаеш,
Што мой двор пры дарозе,

У мяне госці на парозе,
Просяць мёду й гарэлачкі?
Гарэлачкі саладзенькае
Да дзевачкі маладзенькае.

## 341

Кукавала зязюлька,
Абнімая дзерава,
Тонкае, высокае,
Лісцікам шырокае.
Плакала Гапулька,
Абнімая мамухну:
— Мамухна мая родная,
Ты ж казала: не аддам.
Нашто ж ты піва варыш,
Нашто ж ты гарэлку гоніш?
— Я ж цябе падманівала,
Штоб ты не плакала,
Галоўкі не трудзіла,
Ясоных воч не сляпіла,
Белых рук не ламала.

### 342

Рута-мята зеляненька
Не саджоная,
Маладая дзяўчынка
Заручоная.
Прыбралася, заплялася,
На рынак пайшла.
Палюбілі дзяўчыначку
Да тры малайца.
Адзін вядзе за ручаньку,
А другому жаль.
Трэці стаіць, сэрца баліць:
Любіў, ды не ўзяў.

— Піце, людзі, гарэліцу,
Пастаўлю мёду.
Я да цябе, міленькая,
Скора прыеду.
— Прыедзеш ці не прыедзеш,
Не трапіш на двор:
Выгародзіць мой татачка
Новы частакол.
Да замкнець жа мой ойчанька
На сем замкоў двор,
Будзеш ехаць, мой міленькі,
Адамкнуцца ўсе.
Уставай, маці, бяда ў хаце,
Засцілай жа стол:
Наехалі чужаземцы
На наш новы двор.
Бацька плача, маці горай,
Не хочуць аддаць.
Коні мае враныя,
Трэба іх прадаць.
Коні мае вараныя,
Я іх не прадам.
Дзіця маё маладое
Яшчэ не аддам.

## 343

— Чаго, селязень, так сташніўся?
— А як жа мне тошнаму не быць?
Учора звячора за вутачкай плаваў,
А сягоння рана адпужан.
Не жаль бы было, каб далёка,—
Цераз тры кусты ў чацвёрты.
А яшчо наругаецца,
У маёй выградцы купаецца.

— Чаго, Марачка, так сташніўся?
— А як жа мне тошнаму не быць?
Учора звячора дзевачку запіў,
Сягоння рана адгуджана.
Не жаль бы было, каб далёка,—
Цераз тры двары ў чацвёрты,
Цераз мой дварэц
Вадзіцу нясець.

## 344

Сівы селязень
Смуцен, невясёл.
Смуцен да й невясёл
І не радасцен.
— Ой, як жа мне жыці,
Вясёламу быці?
Што і ўчора звячора
Утанька была,
А цяпер слышна,
Што ўбітая.

Хлопец малады
Смуцен, невясёл.
Смуцен, невясёл
Да й не радасцен.
— Ой, як жа мне жыці,
Вясёламу быці?
Што ўчора звячора
Дзеўчына была,
А цяпер ужо слышна,
Што заручона.

Штоб цераз сяло,
Так жалю б не было,
А то ж цераз двор,
Узяў тавaрыш мой.
Узяў таварыш мой,
Што гуляў са мной.
Па вадзіцу йдзе,
Дзень добры дае,
А з вадою йдзе,
Распрашчаецца,
То ж мне сэрданька
Разрываецца.

## 345

Плыла-паплыла шэра вутачка па моры,
За ею, ею сінь селязенька ў пагоны.
— Да агляніся, шэра вутачка, на мяне.
— Не аглянуся, сінь селязенька, на цябе,
Ці ты не найдзеш лепшай вутачкі ад мяне?
— Да я пераплыў да ўсе моры, вазёры,
Не нашоў сабе такой вутачкі вясёлай.

Ходзе-паходзе малада Кацярынка ў каморы,
За ею, ею Грышачка ў пагоны.
— Да агляніся, малада Кацярынка, на мяне.
— Не аглянуся, мой ты Грышачка, на цябе.
Ці ты не найдзеш лепшай дзевачкі ад мяне?
— Я й пераехаў да ўсе месты і сёлы,
Не нашоў сабе такой дзевачкі вясёлай.

## 346

Вылятала шэра зязюля з бору,
За ёй ззаду салавей ў пагон:
— Пастой, пажджы, шэра зязюля, ты мяне,
Ды я табе ўсю праўданьку скажу:
Я абляцеў дзевяць бароў радзі цябе,
Не нашоў такой зязюлі, як цябе.
Ды выхадзіла малада Анелька з касцёлу,
За ёй малады Яначка ў пагон:
— Пастой, пажджы, малада Анелька, ты мяне,
Ды я табе ўсю праўданьку скажу:
Ды я аб'ездзіў дзевяць касцялоў радзі цябе,
Нідзе не нашоў такой паненкі, як цябе.

## 347

Лятала сізая пава па полю,
А за ёй сізы селязень удагонь:
— Стой-пастой, сізая пава, ты мяне.
— Што табе, сізы селязень, да мяне,
Есць у цябе лепшы пташачкі за мяне.
— Аблятаў чатыры сады, яшчэ й тры,
Не нашоў такой пташачкі, як і ты.

Гуляла млада Мар'ютка па саду,
А за ёй млады Іванька ўдагонь:
— Стой-пастой, млада Мар'ютка, ты мяне.
— Што табе, млады Іванька, да мяне,
Есць у цябе лепшы дзевачкі за мяне.
— Абхадзіў чатыры сялы, яшчэ й тры,
Не нашоў такой дзевачкі, як і ты.

## 348

Ляціць, ляціць чорна галачка чэраз бор,
А за ёю чоран воран на ўсю гонь:
— Пажджы, пажджы, чорна галачка, не ўлянеш.
— Пахвалішся, чоран воран, як паймеш.

Бегла дзеванька чэраз вуланьку ў вішнёвы сад,
Да за ёю малады жанішок, шапку зняў:
— Зажджы, пажджы, маладая дзеванька, не ўцячэш.
— Пахвалішся, малады жанішок, як паймеш.
— Ой, выездзіў я чатыры сялы, пяты цесць,
Не нашоў жа такой панны, як ты есць.

## 349

Ляціць чорная галка нізенька,*
Прывярнуўся ясен сокал блізенька.
— Адвярніся, ясен сокал, ад мяне!
— Не адвярнуся я, галачка, ад цябе:
Я ўсе махі і балоты пааблятаў,
Чарней цябе, галанька, не напаў.
Сядзіць маладая Клаўдзенька ціхенька,
Прывярнуўся да яе Іванечка блізенька.
— Адвярніся, Іванечка ад мяне.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Не адвярнуся, мая Клаўдзенька, ад цябе:
Я ўсе сёлы, гарады пааб'ездзіў,
Лучшы цябе, Клаўдзенька, не напаў.

### 350

Віхор вiраю паваліў,
Чэраз Дунай кладзінку намасціў.
А там ішла дзяўчыначка,
А за ёй ззаду хлапчыначка.
На чорны саян наступаець,
З ёю гаворыць, чапаець.
— Ты за мной, хлапчыначка, не хадзі,
На чорны саян не ступай.
На чорны саян не ступай,
Са мной не гавары, не чапай.
Есь ў цябе дзеўкі лучшы мяне.
— Няпраўда твая, дзяўчыначка.
Я й тры вуліцы абайшоў,
Лучшы цябе не найшоў.

### 351

Панізу зязюлька, панізу,
А за ёй салавейка паблізу.
— Не лятай, салавейка, за мною,
Не маю шчабятання з табою.

Панізу Ганулька, панізу,
А за ёй Васілька паблізу.
— Не хадзі, Васілька, за мною,
Не маю размовы з табою.
Я естэм паненка, а ты пан,
Шукай сабе панны, які сам.

### 352

Лятала галубка й па ламу,
Па ламу, й па ламу.
А за ёй галубчак у сляду,
У сляду, у сляду.
— Што табе, галубчак, да мяне,
Да мяне, й да мяне?

Гуляла Алёнка й па саду,
Па саду, й па саду.
А за ёй Ванюшка ў сляду,
У сляду, у сляду.
— Што табе, Ванюшка, й да мяне,
Да мяне, й да мяне?
Лучшы дзеўкі ёсць за мяне,
Ёсць за мяне, ёсць за мяне.
— Колькі па саду я й ні гуляў,
Ні гуляў, ні гуляў,
Лучшы я дзевак не відаў,
Не відаў, не відаў.

## 353

Ходзіць куна па сенажацях, па нізу,
А за ею сівы селязень паблізу:
— Пастой ты, сівая куна ты мая,
А яна стала, адшчабятала:— Не твая,
Бо ■ ў бару адна куна, а ты птах:
Шукай такой сабе пташкі, як ты сам.
— Пералець чатыры лясы, а ў пятым ўстрэць.
Не нашоў жа такой пташкі, як ты есць.

Ходзіць Матронка па новых сенях, па нізу,
А за ёю малады Цімошачак паблізу:
— Пастой, пажджы, маладая Матронка ты мая,
А яна стала, адказала:— Не твая,
Бо я ў бацькі адна дочка, а ты пан:
Шукай сабе такой панны, як ты сам.
— Пераехаў я чатыры сялы, а ў пятым ўстрэць,
Не нашоў жа я такой панны, як ты есць.

## 354

Ходзіць дзевачка па новых сенях, па нізу,
За ёй малойчык, гаворачы, паблізу:
— Пастой, дзевачка, ты маладая ты мая.
Яна стала, адказала:— Я не твая.
Ты, малойчык, ты маладзенькі, пышны пан,
Шукай сабе такой паненкі, як ты сам.
— Я пераехаў чатыры бары, пятую — весь,
Не знайшоў такой паненкі, як ты есць.

355

Ішла Мар'ечка па садочку,
За ёй Ванечка па слядочку:
— Пастой, пастой, Мар'ечка:
А ўжо ж ты мая.
Стала і адказала:
— Яшчэ я не твая —
А я ў бога сіротачка,
А ты сабе пан —
Шукай сабе паненачкі,
Які жа ты сам.
— А выездзіў я ўсе гарады,
Не нашоў сабе паненачкі,
Якая й ты.

356

Хадзіла дзевачка
Па садочку,
За ёй Іванечка
Па слядочку.
— Жджы-пажджы, Варачка,
Ужо ж ты мая.
Яна яму адказала:
— Няпраўда твая,
Богава-сударава,
Бацькава слуга.
Я ў свеце сіратачка,
А ты сабе пан,
Шукай сабе паненачкі,
Такія, як сам.
— Выездзіў Украіну,
Увесь белы свет,
Не знайшоў такія,
Як ты, макаў цвет.

357

— Ай, гарда, гарда Дунечка,
Да не гардуй ты мною.
Ой, будзеш ты за мною,
Будзеш вернаю слугою.

— Ой ты, Ванечка, да ты — пан,
Чапай паненачку, як ты сам.
Ой, ты — пан, а я — сірата,
Бяры сабе паненку, як ты сам.

## 358

Хадзіла Варачка па садочку,
А за ёй Іванечка па слядочку.
— Не ступай ты, Іванечка, да на мой саян.
Я ў бога сіротачка, а ты сабе пан.
Шукай сабе паненачкі, які ты і сам.
— Выездзіў я, Варачка,
Усе дарогі і царскія гарады,
Не знайшоў паненачкі такія, як ты.

## 359

Пайшла Арынка у садок,
А за ёй Грышачка ў слядок.
На зялёны саян ступаець,
Ён гаворыць, яе чапаець.
— Ты ж мне, Грышачка, не вялік пан,
Шукай сабе паню, які сам.
— А я выездзіў ўсю краінку,
Лучшы цябе не знайшоў кралінку.
Выездзіў белы свет,
Лучшы цябе не знайшоў цвет.
А ўсе выездзіў гарады,
Лучшы цябе не знайшоў малады.

## 360

— Ой ты, каліна, чырвона журавіна,
Ой, чаго ты плачаш, малада дзяўчына?
— Ой, я плачу да сама тое знаю,
Што ты мяне бярэш — я тавару не маю.
Ой, няма ў мяне ні тавару, ні авец
Да няма чаго заганяці ў хлявец.

# МАЛАДЫ
# ЗБІРАЕЦЦА
# І ЕДЗЕ
# ДА МАЛАДОЙ



## 361

Захацеў Рыгорка ажаніціся,
Задумаў нікому не хваліціся.
— А ці ж ты, Рыгорка, гэта не знаеш,
Што вяселля ў мяшок не схаваеш?
Нашы дзевачкі не маўклівыя,
Нашы жоначкі тараплівыя.
Дзевачкі жоначкам сакрэт сказалі,
Жоначкі каравай нарыхтавалі.
А мы гэтым караваем
Усіх сваточкаў запрашаем.
Запрашаем, запрашаем,
Разам з вамі пагуляем.

## 362

— Да што ж ты, Мішанька, не жэнішся,*
На каго, Мішанька, надзеешся?
Ці ў цябе, малайца, таткі з мамкай нет,
Ці ў цябе, малайца, сястрыц, братоў нет,
Ці твая сужаная не вырасла?
— А ў мяне, малайца, татка з мамкай ёсць,
А ў мяне, малайца, сястра з братам ёсць,
А ў мяне сужаная даўно вырасла,
А я сам, маладзец, не жанюся.

## 363

Ляцелі гускі рад па раду,
Крыкнулі гускі раз па разу:
— Чаго, Іванька, не жэнішся?
На каго, Іванька, надзеешся?

* Кожны радок паўтараецца.

12*

— Як жа я буду жаніціся —
Хмель каля тыну не абавіўся,
Авёс на ніўцы не ўрадзіўся,
У гародзе пшонка не выспела,
Яшчэ мая дзевачка не вырасла,
Красаты сваёй не вынесла,
Русую косачку не выплела.

Ляцелі гускі рад па раду,
Крыкнулі гускі раз па разу:
— Чаго, Іванька, не жэнішся?
На каго, Іванька, надзеешся?
—Ай, буду, буду жаніціся —
Хмель каля тыну абавіўся,
Авёс на ніўцы ўрадзіўся,
У гародзе пшонка ўжо выспела,
А мая Манечка ўжо вырасла,
Красату сваю ўжо вынесла,
Русую косачку ўжо выплела.

### 364

— Чаму, верабейка, ды не жэнішся?
Прыйдзе пара — дзе ты дзенешся?
— Ды мне ў гэтым бары ды мне пары няма:
Узяў бы сінічку — дык сястрычка мая,
Узяў бы зязюльку — ў яе бацькі няма,
Узяў бы сароку — шчабятлівая яна,
Узяў бы варону — у яе нос даўгі.
— Во там у бары перапёлачка —
Для верабейкі была б жоначка.
Верабеечка як лятаць, дык лятаць,
Перапёлачку як шукаць, дык шукаць.
Перапёлачка ж у пшаніцы была,
Для верабейкі ды дачушачку дала,
Для мілага зяця пірагоў напякла.

### 365

Гаварыла гарэлка:
— Як вы мяне не вып'еце,
То я сама разальюся,
По сенечках раскачуся.

Гаварыў Іванька:
— Як вы мяне не жэніце,
То я сам ажанюся.

366

Да ішлі дзяцінкі ды цяром рубаці,
Цябе, маладога, да бяруць гуляці.
— Да гуляйце, дзецючкі, я не маю часу,
Пайду шукаці, каго нету ў хаце.
Ой, нету, нету ціхае размовы,
Матка старая, сястра малая.
Да няма мне ночы ані апаўночы,
Да маёй мацеры няма памочы.

367

Ляцела сава цераз шчыры бор
Дый заляцела Валодзьку на двор.
А там Валодзька калёсцы точыць,
Калёсцы точыць, жаніцца хочыць.
— Валодзька-паніч, будзем гаварыць,
Куды паедзем дзевак выбіраць:
Ці за горачку па ўдовачку,
Ці за рэчачку па дзевачку?
— За горку калёсцы не коцяцца,
Мне ўдоўкі браць не хочацца.
А за рэчачку самі коцяцца,
А мне дзевачку браць хочацца.

368

Пакаціўся крышталь да па сенажаці,
Да задумаў дзяцінка да дзевачку ўзяці.
Да мая дзевачка, як лебедзь бялее,
Як я ж яе ўгледжу, маё сэрца млее.

369

Хадзіў саколік па сенажаці,
Захацеў Юзічак Манечку ўзяці.
Малады Юзічак у ружовым цвеце,

Ды няма такога на цэлым свеце.
А наша Манечка, як квет бялее,
Як ён не ўвідзіць, дык сэрца млее.

## 370

А пытаўся месячык
У яснага соўнейка:
— А соўнейка яснае,
Ці пара мне ўсходзіць?
— Пагадзі ды не ўсхадзі,
Дай за лес закаціцца.
Дай за лес закаціцца,
Хмаркамі апусціцца.

А пытаўся маладзец
У роднага татачкі:
— А татачка родненькі,
Ці пара мне жаніцца?
— Пажджы, сынок, не жаніся,
Розуму набярыся.
Розуму айцецкага,
Гонару шляхецкага.

## 371

А на тыне, на тыночку
Сядзела галубачка.
Там сядзела галубачка,
Залатая галовачка.
Там ехаў Куземка,
Зняў тую галубачку,
Залатую галовачку.
Панёс да татухны,
Да роднае мамухны:
— А мамухна мая,
Родная мая,
Пазволь жа мне жаніціся
Да з гэтай галубкай,
Залатой галоўкай.
— А з той, сынку, не жаніся,
Едзь да круля найміся,
Розуму набярыся.

А розуму крулеўскага,
А паязду паненскага.
А з розумам круляваць будзеш,
А з паяздам паязджаць будзеш.

## 372

— Татушка мой родненькі,
Паеду я жаніціся.
— Едзь жа, сынок, едзь, галубок,
Запрагу табе да дзевяць коней,
Дзесятага да варанога.
Да спяку табе да дзевяць булак,
Дзесятую да пшанічную.

## 373

— Салодзенькі пастарнак,
Ці ты ў гародзе зімаваў,
Ці ты сабе маркоўку злюбаваў?
— Я, салодзенькі пастарнак,
Я ў гародзе зімаваў,
Я й маркоўку злюбаваў.
— Маладзенькі жанішок,
Ці ты ў цешчы пабываў,
Ці ты нявесту злюбаваў?
— Я маладзенькі жанішок,
Я й ў цешчы пабываў
І нявесту злюбаваў.

## 374

— Не спі-тка ты, не гуляй,
Жаніхова мамачка,
Гатуй нам вячэрачку,
Паедзем па дзевачку.
— А я ж, кажацца, не гуляю,
Свайго сыночка, свайго роднага
Ў дарожку выпраўляю.

## 375

— Ці ты мяне, мамка, не любіш,
Чаму мяне рана будзіш?
— Каб я цябе не любіла,
Я ж бы рана не будзіла.
А ўстань, сынок, ранюсенька,
А ўмыйся бялюсенька —
А ў шчасную дарожаньку,
Па красную дзяўчыначку.

## 376

А ў садзе, садзе да ў вінаградзе,
Там наш Іванька з пахмелля ляжыць,
У галавах яго матушка стаіць.
Матушка стаіць, яблычка дзяржыць:
— Устань, сыночак, устань, дзецітка,
Ўстань, дзецітка, скушай яблычка,
А мінецца табе ўсё пахмеллейка,
Усё пахмеллейка, ўсё вяселлейка.
Ой, табе ехаць ў чужую зямлю,
А ў чужой зямлі пясок да камень —
Конічак ступіць, падкоўку зломіць.
Ой, табе ехаць па шчырым бару,
Па шчырым бару, па сырым караню.
Бор будзець шумець, падкоўкі — звінець.
Людзі пачуюць — дзівіцца будуць.
Грыпіначка пачуець — гатовіцца будзець.
Нашаму паязду весяленька будзець.

## 377

Мала малайцу спалася,
Многа ў ва сне відзелася:
У варот рачушка працякла,
Па той рачушцы — плавыня,
За плавыняю — лісточак,
За лісточкам — макаўка,
За макаўкай — ягадка.
— Я ж табе, сыночак, раскажу:
Гэта рачушка — дарожка,
Гэта плавыня — конь вараны,

Гэты лісточак — вазочак,
Гэта макаўка — ты ў мяне,
Гэта ягадка — Кацечка.

## 378

Пятрушка бацюшку
Сон гаварыў:
— Разгадай, бацюшка,
Ты мой сон:
Што ў нашых у варот
Быстра рэчушка працякала,
А ў той рэчушцы плавунец,
А за плавунцом лодачка,
А ў той лодачцы макаўка.
— Разгадаю, сыночак,
Я твой сон:
Быстрая рэчушка — дарожка,
А плавунец — конічак,
Лодачка — вазочак,
Красная макаўка — Аўдотка.

## 379

Пара, мацi, ды й вячэрацi,
А ўжэ ж свет,
Мы паедзем к каралю ў горад
На абед.
Ды й праб'ем мы каменну сцяну
Стралою.
Ды й возьмем мы дзеўку Насцечку
З сабою.

## 380

Па бару кляновы лісток паслаўся,
У дарожаньку мой брацітка сабраўся.
— Выпі кубачак мёду, два віна,
Каб цябе пахмельніца не брала.
Каб цябе твая дзяўчына пазнала,
Каб яна цябе сваім мілым назвала.
Пакуль ён віна-мёду напіўся,
Ён, малады, у дарожаньку спазніўся.

381

Ой, суляцелі янгелачкі су неба, *
Селі ж яны ў татачкі на куце,
Сталі ж яны ў Толечкі пытаці:
— А ты, Толечка, разумнае дзіцятка,
А хто ж цябе на гэты свет сатварыў,
А хто ж табе жаніціся дазволіў?
— Сатварыў мяне на гэты свет сам пан-бог,
Маленькага гадавала мамулька,
Жаніціся пазволіў мне татулька.

382

Высока, высока
Салавей гняздо ўець,
А павышы таго
Іванечка цяром строіць:
На вулку ваконачкі,
Каб была паглядачка
На дзеўку красівую,
На цесця багатага,
На цешчу ласкавую.

383

А высока, высока
Салавейка гнядзо ўе,
А яшчэ найвышэй
Наш Ванечка церам робе:
Праразае аконца
Насупраць яснага сонца,
А ганачак на рыначак —
Выбіраць паненачак.
А выбраў паненачку
Белую, румяную,
Дзевачку каханую.

---

* Кожны радок паўтарвецца.

## 384

У бары, бары, ў барочку
Вісела калыска на суку.
А ля той калыскі баяры,
А ў той калысцы хлопчычак:
— Баяры мае, баяры,
Калыхніце мяне вышэй гор,
Каб я ўбачыў цесцяў двор,
Дзе мая Ганечка й гуляе,
Садовы яблычак сшыбае
Ды й арэшкамі частуе.
Да ці то цотачка ў арэшку,
Да ці то дзевачка ў дварочку?
— Ды й арэшкі мае поўныя,
Мы з табой, хлопчычак, роўныя.

## 385

А ў бару, ў бару на кляну
Да вісіць калыбель на шаўку,
А ў тым калобле Ванечка:
— Да баяры мае пышныя,
Ускалыхніце мяне далёка,
А не так далёка, што высока,
Што б я ўвідзеў цсцёвы двор.
На цсцёвым дварэ паненкі
Калёныя арэшкі цатаюць:
— Да ці цот, ці лішка, Ванечка?
Да не руш жа, будзець цотачак.
— Как гэты арэшкі поўненькі,
Мы з табой, Дунечка, роўненькі.
— Мы гэты арэшкі біць будзем,
Мы з табою, Ванечка, жыць будзем.

## 386

А ў бару, бару на кляну
Вісіць карабаль на шаўку,
А ў тым караблю Якаўка,
Пад тым караблём баяры.
— Баяры мае мілыя,
Калыхніце мяне высока,

Каб [redacted] бачыў далёка:
Я сця і цешчу на дварэ,
А сваю Ганначку ў цераме.
А сця і цешчу шынкуя,
А сваю Ганначку танцуя.
А сця і цешчу, мёд-віно п'я,
А сваю Ганначку, слёзы лля.

### 387

Ой, ў бару на дубу калыска,
Там калыхаецца малады Касцік:
— Калышыце мяне высока,
Каб [redacted] бачыў далёка.
Каб я бачыў цесцяў двор,
А ў цесцевым двары вяселле.
Там мая Лілечка гуляе,
Краснае яблычка качае,
Залатыя пярсцёнкі мяняе,
Яна мяне, маладога Касціка, ўглядае.

### 388

Баяры мае мілыя,
Гушкайце мяне
Высока, высока,

Штоб я заглядзеў
Далёка, далёка.

Дзе маёй Ганначцы
Вянкі ўюць, вянкі ўюць,

Па мяне, маладога,
Паслы шлюць, паслы шлюць.

### 389

Яснае сонейка ды за бор заходзіць,
Маладзенькі хлопчык ды за стол заходзіць.
За стол заходзіць лісты пісаці,
Лісты пісаці да да цесця слаці:

— Будзь, мой цесцятка, да напагатове,
Я ў цябе буду на тысячу люду,
А меж таго люду я і сам там буду.
Да я табе крыўды ніякай не зраблю,
Я тваё падвор'е капытамі саб'ю,
Я тваё застолле мёдам-віном залью.
Мёд-віно пап'ём і кубачкі паб'ём,
Маладую дзевачку ды з сабою вазьмём.

### 390

Ясён месячык па небу бродзіць,
Малады Януська за стол заходзіць,
Бярэ лісты пісаці да да цесця слаці:
— Ой, цесцю, цесцю, да не будзь гардзенькі,
Да не будзь гардзенькі, будзь весяленькі:
Прышлю я к табе вяліку грамаду,
А ў той грамадзе і я сам там буду.

### 391

Ужо сонейка за бор заходзіць.
Малады жаніхно за стол заходзіць,
За стол заходзіць да ў бацюхна просіць:
— Да падай, бацюхно, пяро і бумагі,
То я буду пісаці да да цесця слаці,
Штоб былі брамы ды паадчыняны,
Штоб былі сталы ды пазасціланы,
Штоб мая дзеванька наражона была,
Штоб на пасадзе пасаджона была.

### 392

У лужку, ў лужку калінка ў кружку,
На той калінцы семсот салаўёў —
Калінку клююць, песенькі пяюць.
Адзін салавей смуцен, невясёл —
Калінку не клюець, песень не пяець.
А ў хаце, ў хаце столікі ў радок,
За столікамі семсот малайцоў —
Гарэлачку п'юць, песенькі пяюць.
Адзін Юрачка смуцен, невясёл —
Гарэлкі не п'ець, песень не пяець.

## 393

А не знаць месяца да за звяздамі,*
Толькі знаць за тое, што ён ясненькі.

А не знаць Цімашка́ да за сватамі,
Толькі знаць за тое, што ён смутненькі.

Перад ім чарачка наліта стаіць,
А яму галоўка з думачак баліць.

Перад ім чарачка й віна стаяла,
А яго галоўка з думачак п'яна.

## 394

— Зялёненькі падалешнічак,
Калі рос, калі раскідаўся,
Калі ў лісце ўвабраўся?
— Я і рос, я і раскідаўся,
Я і ў лісце ўбіраўся.

— Маладзенькі Іванька,
Калі рос, калі красаваўся
І жаніцца прыбраўся?
— Я й рос, я й красаваўся,
І жаніцца прыбраўся.

## 395

Мой брацейка́, хоць маленькі, разумненькі,
Выбраў сабе багатырачку, раненька, **
Пакрыла лясы намётачкамі,
Дарожку слала ручнічкамі,
Масты масціла пярсцёначкамі,
Коні ляйцала паяскамі.
Лясы пакрыла для сваціцы,
Каб сваціца не бросіла,
Каб сваты не пыліліся.
Масты масціла для конікаў,
Каб конікі не падбіліся,
Коні ляйцала для вазніцы.

* Кожны радок паўтараецца.
** «Раненька» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

## 396

На дварэ дожджык перахаджываець,
Кузёмка татухну пераказываець:
— Татухна родненькі, не па-нашаму
Змардаваў коніка гарцуючы,
Патаптаў боцікі танцуючы,
А знашу хустачку уціраючы,
Збузаваў шапачку кланяючы.

## 397

Сядзіць сокал на вярбе,
Спусціў крыльцы да зямлі.
— Саколіку малады,
Падбяры свае крыльцы.
— Тады крыльцы падбяру,
Як у цёмны лес залячу.
Сядзіць жаніхна на кані,
Спусціў шубку да зямлі.
— Маладзенькі жаніхна,
Падбяры сваю шубку.
— Тады шубку падбяру,
Як к цесю ў двор заеду.

## 398

А сядзеў петушок на вярбе,
Спусціў косанькі і к зямле.
— Чаму ты, петушок, не ляціш,
Чаму сваіх косачак не падымеш?
— Калі я захачу, палячу,
Я ж свае косанькі падыму.

А сядзеў Арцёмка за сталом,
Спусціў суканькі з плеч далоў.
— Чаму ты, Арцёмка, не едзеш,
Чаму сваіх суканек не надзенеш?
— Калі я захачу, паеду,
Я ж свае суканькі надзену.

## 399

Ходзіць вечар па вуліцы,
Дзе яму спаці-начаваці?
Спаці-начаваці ў канцы сяла,
Напроці Яськавага двара.
Там вулачка мяцёная,
Та Волечка заручоная.
У іх піва наварона,
У іх водкі нагонена,
У іх сыціцы насычана.

## 400

Гароша мой, гароша,
Табой пасеена хароша
І пры полі, і пры бору,
І пры бітаму гасцінцу.
Стаў гарох схадзіці,
Стаў сваіх таварышаў
На вяселле прасіці:
— Таварышы мае, мілыя госці,
Я прашу на вяселле.
Адазваліся грыбове:
— Мы вельмі панове,
Мы не пойдзем, не паедзем
На гарохава вяселле.
Адазваліся сыраежкі:
— Мы голыя, без адзежкі,
Мы не пойдзем, не паедзем
На гарохава вяселле.
Адазваліся маслючкі:
— Мы ў бога блізнючкі,
Мы не пойдзем, не паедзем
К гароху на вяселле.
Адазваліся апенькі:
— Мы ў бога гатавенькі,
Мы прыдзем, мы прыедзем
На гарохава вяселле.

## 401

Гарох жэніцца, сачыўку бярэць.
Ды каго ж нам сабраць, у прыданкі паслаць?
Грыбоў сабяром, у прыданкі пашлём.

Баравік кажаць: «Я б паехаў ба —
Салодак, смачан — мяне праглоцяць».
Абабак кажаць: «Я б паехаў ба —
Шапачка крыва, ножка чарвіва — мяне
загудзяць».
Падасінавік кажаць: «Я б паехаў —
Чырвонен, прыгож — мяне палюбяць».
Ваўнёнка кажаць: «Я б паехала б —
Горка, нясмачна — мяне прагоняць».
Сыраежка кажаць: «Я б паехала —
Чырвона, красна — мяне сурочаць».
Апенькі кажуць: «Мы ж паедзем:
Тонкі, стройны — нас, мусіць, прымуць».

### 402

Да на моры гарнастайка купаўся,
Не гарнастайка, не беленькі купаўся,—
Бела малодчык умываўся,
Да дзевачкі ўбіраўся.

### 403

— Ой, віся, хмелічак, віся,
А ў сад пахіліся.
А ў сад цецівою,
А на кут галавою.

— Убірайся, Іванька, убірайся,
Сам жа ты — у золата,
Сватоў — у сéрабра,
Свашачак — у дамашачкі.
А залатая наша песня,
А сярэбраны голас,
Што вясёлы поезд.

### 404

— Прыбірайся, Сямёнка,
То ў атлас, то ў золата,
То ў чырвоную шапку,

Каб ад цябе вулачка ззяла,
Каб цябе дзевачка знала.
— Вулачка ад сонца ззяе,
Дзевачка даўно знае.

## 405

Маманька Васеньку прыбірала,*
Гладзенька галоўку зачасала,
Штоб яго цёшчанька не ўзнала.
А яго цёшчанька даўно знаець,
А яго Любачка даўно любіць.

## 406

Саколю Іванька, саколю,
Перапёлка — мамка яго.
Радзіла яго ў лужочку,
Пад ракітавым кусточкам,
Умывала яго калінай,
Уцірала яго шырынай,
Каб яго суроцы не бралі,
Ні цёшчыны вітанні,
Ні Зоечкіны ўгляданні.
Цёшча вітаець, вітаець,
Цёшча вітаець, не знаець,
А Зоечка праўдачкі пытаець:
— З кім ты гэту ночку начаваў,
Каму праўдачку гаварыў?
— Начаваў гэту ночку із богам,
Гаварыў праўдачку мамульцы.
А гэту ночку начаваць буду,
Мая Зоечка, з табою,
З любімаю жаною.

## 407

Ай, з Марфачкаю вы, сястрыцы,
А каля рэчачкі хадзілі,
Зелле, карэнне капалі,

* Кожны радок паўтараецца.

Сёмачку лічынька ўмывалі,
Штоб яго і суроцы не бралі
Ды й на цёшчына вітанне,
А ні дзеваччына ўзіранне.
— А не пі, Сёмачка, падпіўку,
А ўзлей коніку на грыўку.

## 408

Нету, нету купальшага
Над Васількі над старшага.
Пяшком на вулку не выходзіць,
На коніку выязджаець,
Грыўкай ганак высцілаець,
Капытамі камень разбіваець,
Каб яго цешча ўзнала,
Каб яго дзевачка любіла.
А яго цешча даўно знаець,
А яго дзевачка даўно любіць.

## 409

Бразнулі страмяны каля коней,
Паселі малайцы на коней.
Адзін сужанька не садзіўся,
Знаць, яго маманька забаўляець,
Чырвонай калінай умываець,
Каб яго дзеванька спалюбіла,
Каб яго цешча хваліла.
Ужо яго дзеванька спалюбіла,
Ужо яго цешча хваліла.

## 410

Ці не пані твая матачка:
Па пакоях хадзіла,
У сляты дзень нарадзіла.
У мядочку купала,
У ядваб спавівала,
У чужыя людзі выпраўляла:
— Будзь, сынок, вумны-разумны,
Каб цябе людзі хвалілі,
Каб паненкі любілі,
Каб у танцы вадзілі.

## 411

А ў нашага Іванькі
Да сунічнае ліцо.
Да сунічнае ліцо,
Сакалічнае брыўцо.
А знаць, яго матуля
У садочку радзіла.
У садочку радзіла,
У мядочку купала.
У мядочку купала,
У паперкі спавівала.
— Вы, дзевачкі-сястрыцы,
Няпраўды гаворыце:
Радзіла мяне матуля
Цёмнаю цямніцаю.
А купала матуля
Цёплаю вадзіцаю.
Спавівала матуля
У белыя пялёначкі.
Калыхалі сястрыцы
У чатыры вяровачкі.
Забаўлялі брацяткі
Абапал галовачкі.

## 412

Ай, гулі, гулі, гуленькі,
Мар'юшка па вулцы гуляла,
Садовым яблычкам катала,
Шаўковай хустанькай махала,
Усіх дзецюкоў заганяла:
— Усе дзецюкі — дуракі,
Адзін Іванька бел-харош.
Ці не сонца яго радзіла,
Ці не месяц яго гадаваў,
Ці не зоры яго дзяржалі,
Ці не вецер яго калыхаў?
— Няпраўда твая, Мар'юшка:
Радзіла яго матушка,
Гадаваў яго татухна,
Дзяржалі яго сястрыцы,
Калыхалі яго брацелкі.

### 413

Гуляла Галечка, гуляла,
Усім загану давала,
Аднаго Мішачку хваліла:
— Ці не сонца яго радзіла,
Ці не месяц яго згадаваў,
Ці не зоркі гуляць насілі
На шырокую вуліцу,
На зялёную травіцу?
— Няпраўда твая, Галечка,
Радзіла мяне мамачка,
Узгадаваў мяне татачка,
Насілі гуляць сястрыцы
На шырокую вуліцу,
На зялёную травіцу.

### 414

А гулі, гулі, Ганначка
Па вуліцы хадзіла, гуляла,
А ўсіх малодцаў вадзіла,
Аднаго ўзлюбіла:
— Ці не сонца яго радзіла,
Ці не месяц яго гадаваў,
Ці не зоры яго трымалі,
Ці не ветры яго калыхалі?
— Няпраўда твая, Ганначка,
Радзіла яго мамухна,
Ускарміў, успаіў яго татухна,
Трымалі яго сястрыцы,
Калыхалі яго брацелкі.
Калыхніце яго высока,
Каб ён убачыў далёка —
Цесця і цёшчу на двара,
Маладую Ганначку ў цераме.

### 415

Гулянка наша Танечка.
Па ўсіх вуліцах гуляла.

Па ўсіх вуліцах гуляла,
Усіх рабятак заняла.

Усе рабяты рабаты,
Адзін бел-харош Ванечка.

А ён беленькі, кудрават,
Ён халосценькі, не жанат.

Ці не сонца яго спарадзіла,
Ці не месяц яго ўскарміў?

Спарадзіла яго матушка,
Ускарміў, успаіў бацюшка.

Скалыхалі яго сястрыцы,
Сястрыцы яго родныя.

— Ускалыхніце мяне высако,
Штоб я відзеў даляко,

Дзе мая Танечка гуляець,
Садовыя арэшкі шчалкаець.

Як тыя арэшкі поўненькі,
Так мы з Танечкай роўненькі,

Як гэтыя арэшкі есць будзем,
Так мы з табою жыці будзем.

### 416

— Маладзенькі Ванечка,
Чаму такі харошанькі?
Ці цябе сонца радзіла,
Ці месячык гадаваў?
— Парадзіла мяне маці
На цісовай каравацi,
На пуховай падушачцы,
На шаўковай дзяружачцы.

### 417

Страйнюсенькі, бялюсенькі малады,
Яго матуля ў нядзелю рана радзіла,
А нарадзіўшы, бялюсенька ўмывала,

А ўмыўшы, белай сурвэткай выцірала,
А ўцёршы, харашэнька прыбрала,
А прыбраўшы, ў чужыя людзі выслала:
— Едзь, сыночак, ў чужыя людзі з павагай,
Каб не было мне за табою знявагі.

## 418

— А беленькі, кудравенькі Бронечка,
Хто ж табе гэты кудзеркі зачасаў?
— Паздароў, божа, маю мамухну,
Учора звячора са свячой часала.
Учасаўшы, вуму-розуму наўчыла
І ў добрыя людзі пусціла.

## 419

— А беленькі, румяненькі Іванка,
Хто ж табе бела лічачка ўмываў,
А хто ж табе русы кудзёркі вычасаў?
— Учора звячора мамка лічанька ўмывала,
А раненька сястрыца кудзёркі ўчасала,
На ранняе ўтра братка коніка засядлаў,
Папка ў дарогу выпраўляў.

## 420

Ай, беленькі, кудравенькі Іванька,
А хто ж яго бялёшанька ўмываў,
А хто ж яго белы кудзеркі расчасаў?
Умывалі бялёшанька сястрыцы,
Расчасалі белы кудзеркі брацеткі.
А ў суботу ўвечары ўмывалі,
А ў нядзелю ранёшанька часалі
І ў нядзелю ўвечары паслалі:
— А і едзь жа ты, Іванечка, да не бауся,
Скрозь цёмную, скрозь ночушку прабівайся
І да сваей Гапулюхны дабівайся.

## 421

— А белы, кудравы Міколка,
А хто ж цябе беленька вымываў,
А хто ж твае кудзеркі расчасаў,
А хто ж цябе ў паязды пасадзіў?
— Вымывала бялёшанька вадзіца,
Кудзеркі расчасала сястрыца,
А ў паязды пасадзіла мамухна:
— Едзь-паедзь, мой сыночак, не баўся,
За харошымі, за прыгожымі не ганяйся,
За сваей Нінухнай пытайся.

## 422

Па загор'ейку ўсе красачкі цвіцелі,
За сталом усе сваточкі сядзелі.
На сём, на том — усё шапачка як адна,
На маладзенькім з шчырага сабаля.
Яго матулька сорак ночак не спала,
Пакуль яму гэтую шапку згадала.
Яго матулька сорак свечак спаліла,
То месяцам, то золатам садзіла,
Каб яму ўсю дарожку свяціла.

## 423

Харошанькі, кудравенькі Андрэйка.
Ды хто ж яму гэты кудзёркі расчасаў?
Расчасала яго сястрыца ўчора,
Учора звячора, са свячою седзячы,
Сягоння рана, на зорачку гледзячы.
Сярод шапачкі ясён месяц ушыла,
Ды каб яму дарожачку свяціла.
— Да едзь-паедзь, мой брацетка, нядбая,
Будзець табе дарожачка відная.

## 424

— Беленькі, кудравенькі Валодзька,
А хто ж цябе беленька вымываў,
А хто ж цябе сухенька выціраў?

— Беленька вымывала вадзіца,
Сухехенька выцірала халсціца.
— А хто табе кудзёрушкі завіваў?
— Кудзёрушкі завівала сястрыца.
— А хто ж табе пуць-дарожку ўказаў?
— Пуць-дарожку ўказала мамухна.
— А хто ж цябе з дарожанькі ўстрачаў?
— З дарожанькі ўстрачала Надзенька.

## 425

Ай, наш Іванька каралёў зяць,
Сам ён уабран, конь прыгожы.
Поўна грыванька золата,
Пад капыцікамі серабра.
А вітайце яго, вітайце,
А пытайце яго, пытайце.
Хто ж яму коніка ўвабраў,
Хто ж яму коніка падкаваў?
Даравалі золата каралі,
Падкавалі коніка кавалі
На ўсе чатыры ножанькі
З Надзечкінай косанькі.
На ўсе чатыры капыты
З Надзечкінай красаты.

## 426

А белая лебедзь, белая.
— Хто ж цябе, лебедзь, пабяліў?
— На моры пташачкі ляталі,
Яны пеначку збіралі,
Мяне набялілі.
А ўбраны Мішачка, убраны.
— Хто цябе, Мішачка, так убраў?
— Убрала мяне сястрыца.
А з клеткі ў каморы хадзіла,
Да мяне ўборы насіла,
Так мяне, маладога, убрала.

## 427

— Хто цябе, Ляксейка, хараша прыбраў? *
— Так мяне, малайца, маць радзіла.
Часала галаву, кудравіла
З-пад шапачкі, з-пад ярачкі,
З-пад тае лентачкі шаўковыя,
З-пад тае кістачкі залатыя.

## 428

Не цёсан церам, не цёсан,
Толькі беленька пабелен.
Не вучон Рыгорка, не вучон,
Толькі харашо прыбярон,
А хлебам-соллю блаславён.
І хлебам, і соллю, і добрым здароўем,
Усім дабром і серабром.

## 429

А хто ж у нас, хто ў нас
Так харашэнька гуляець.

Яго мамачка,
Ў доме седзячы, гадаець:

— У каго, ў каго
Мой сыночак удаўся?

У чыё, ў чыё
Срэбра-золата убраўся?

— У цябе, ў цябе,
Мая мамачка, удаўся.

У тваё, ў тваё
Срэбра-золата ўбраўся.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 430

Ды харошы малойчык,
Ды ў каго ён удаўся:
Ці ў месяц, ці ў зорачку,
Ці ў яснае сонейка?
Месяц свеціць усю ночку,
Сонца грэе ўвесь дзянёк,
А ты, малойчык, на часок.
На часок, на гадзінку
Ды на адну вечарынку.

## 431

Да ўдаленькі, кудравенькі жанішок,
Да ўдалася Ганначка ўся ў мяне.
Да калі ж яна ўдалася ўся ў мяне,
Куплю ж я ёй чаравічкі-гаплічкі,
Яшчэ к таму рукавічкі на ручкі.

## 432

Красачка хараша — каліна ў лоззі,
Крашы таго — Ванечка жаніцца едзець.
Расчасаў валасы да павіў кудры.
Усе яму баяры дзіваваліся,
Што ў яго кудры завіваліся.
— Дзівіцеся, пышныя вы баярачкі,
Так мяне матушка парадзіла,
Добрага молайца-чалядзіна
У дальнюю дарогу справадзіла.

## 433

Над варотамі месяц
Усю ночку ясна свеціць.
Дзяцінка выбіраецца —
На ім шапачка ззяе,
Як белы мак зацвітае.
Яго конік гуляе,
Як саколік лятае.

434

— У каго ў нас на дварэ зазерылася?
— У Івана.
Знаць, яго бацька багат:
Купіў яму залаты каўпак,
Купіў — надзеў, на куце пасадзіў,
На яго паглядзеў.

435

Край поля шырокага,
Сярод мора глыбокага
Мак-рожа зацвіцела,
Макаўка паспела.
Цвітуць кудры ў молада Янкі,
Кала шапачкі пуховай,
Кала пояса каванага,
Кала ботаў казловых. (2)

436

Ай, на кім, на кім
Саболля шапка. (2)
Ай, на кім, на кім?
У Ванюткі саболля шапка,
На шапачцы цвяточкі,
А цвяточкі розныя.
На цвяточках пташачкі,
А пташачкі дробныя,
А пяюць песні розныя.

437

Эй, Янутка, паглядзі сам на сябе,
Што надзета на табе.
Эй, Янутка, баброў каўнер на плячох,
Эй, Янутка, па галоўцы шапухна,
Эй, Янутка, на шапухне кветачка,
Эй, Янутка, на кветачцы салавейка,
Эй, Янутка, пяець песні розныя,
Эй, Янутка, нясець весткі добрыя.

## 438

А ці мак, ці рожа зацвілі прыгожа?
— А не мак, не рожа зацвілі прыгожа,—
Зацвілі кудзеркі маладзецкія,
Маладзецкія — маладога Сяргейкі
А з-пад шапачкі, з-пад бабровае,
З-пад вяночка, з-пад чырвоненькага.

## 439

На тым, на сім тонкая бялёная кашулька,
А ў Антоські танейшая і бялейшая.
— Да хто ж табе гэту кашульку вышываў?
— Паздароў, божа, маю родную сястрыцу.
Учора звячора са свячою пашыла,
А вышыўшы, на мяне, маладога, надзела,
А надзеўшы, у добрыя людзі пусціла.

## 440

На кім, на кім тонка кашулька хараша?
На Сцёпачку ўся шоўкам вышыта.
А хто яму гэту кашульку вышываў?
А вышывала яе родная мамулька,
Пры цёмнай ночы, пры яснай свячы седзючы.
Рад золата, рад серабра страчыла,
У каўнярочак ясну зорачку ўшыла,
Каб яна яму ўсю дарожачку свяціла.
— Свяці, свяці, ясна зорачка, да свету,
Пакуль я да сваёй Лідачкі даеду.
Свяці, свяці, ясна зорачка, да канца,
Пакуль я прыеду з Лідачкай да вянца.

## 441

Па загор'ейку сінія краскі сіняцца,
Па застоллейку пышныя баяры садзяцца.
На ўсіх рубашачкі бяленькія,
На нашым жа сужаньцы
Ўся шоўкам шытая.

— А хто табе гэту рубаху вышываў?
— Мая матушка ўсю ночку не спала,
Мне, маладому, усё рубаху вышывала,
Цёмнай ноччу [illegible] яснай свячы седзячы,
А днём к яснаму сонцу гледзячы.

## 442

Галасён, галасёнак лугавы салавейка,
Разгаласіў, разгаласіў лугі й зялёныя дубровачкі
Рознымі галасамі з дробнымі пташачкамі.

Вясёл, весялёнак Мацейка ў ойчанькі,
Разгаласіў, развесяліў сяло й падвор'ейка сваё
Скрыпкамі й музычкамі з краснымі дзявічкамі.

## 443

— Каліна, не стой, распукайся
Да ў белы цвет раскладайся,
Да на цвяток да бялюсенькі,
Да на квяток да драбнюсенькі.
Да, Хвядорка, не сядзі, да размысляйся,
Да чы сваты ты пашлеш,
Да чы сам да паедзеш.
— Сваты пашлю, не прычакаю,
Сам паеду, то пагуляю.
Сват паедзе да зап'еццa,
Ён праўданькі не спытаеццa.
Сват паедзе, лгацi будзе,
Потым міла плакаць будзе.

## 444

— У дарожаньку прыбірайся.
Ці да караля сам паедзеш,
Ці да цясця́ паслы пашлем?
— Я да караля й паслы пашлю,
А да цясця́ сам паеду.
Бо й у караля штодня вайна,
А ў цясця́ да жана й мая.
Ой, у караля б'юць, страляюць,
А ў цясця п'юць, гуляюць.

Там мяне паджыдаюць:
Вароцечка адчыняюць,
Століі засцілаюць,
Кубачкі да наліваюць.
Століі да цісовыя,
Абрусікі да бялёвыя,
Кубачкі да мядовыя.

### 445

— Да радуйся, жанішок:
Ад караля лісты прышлі,
Ад цесця другія.
— Да караля служкі пашлю,
А да цесця сам пайду,
Бо ў караля сечуць да рубаюць,
А ў цесця п'юць да гуляюць.
У караля мёд да гарэлка,
А ў цесця харошая дзеўка.

### 446

— Зялёны дубочак,
Ты не стой, развівайся.
Малады малойчык,
Не сядзі, размышляйся:
Ад караля лісты прыйшлі,
Ад цесця — другія,
Ад дзевачкі — трэція.
— Каралю ліст напішу,
Да цесця паслы пашлю,
Да дзевачкі сам паеду.
Цераз сад ехаць буду,
Вішанькі шчыпаць буду,
Дзевачцы даваць буду.

### 447

А па чым увазнаць
Сватні двор?

А зялёны ягор у варот,
Чырвоная каліна пасярод.

Зялёны ягор — Колечка,
Чырвоная каліна — Полечка.

Ой, не стой, ягор'я,
Ды расступайся.

Не сядзі, Колечка,
Ды раздумайся.

### 448

— Маладзенькі Мішачка,
Куды цябе мамка строіць?*

Ці-ў госці, ці ў дарогу,
Ці да боскага дому?

— Я і сам не ведаю,
Куды мяне мамка строіць:

Ці ў госці, ці ў дарогу,
Ці да боскага дому.

Мусіць, мяне мамка строіць
Да цесцевага дому.

### 449

Кляновенькі лістоньку,
Куды цябе вецер коціць?
Ці на гору, ці ў даліну,
Ці ў зялёну дуброву?
Калі на гору, сухі будзеш,
Калі ў даліну, мокры будзеш.
Маладзенькі Іванка,
Куды цябе бацька радзіць?
Ці на вайну, ці да цесценька?
На вайне сякуць, рубаюць,
А ў цесценька п'юць, гуляюць.
На вайне з бычыкамі,
У цесценька з музыкамі.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 450

Ці ў моры гуслікі граюць,
Ці ў лузе салавей шчабеча?

Не ў моры гуслі граюць,
Не ў лузе салавей шчабеча.

А плачаць, плачаць Васілька,
У канцы століку стоячы.

У канцы століку стоячы,
Родную мамульку просячы:

— А мамулька мая родна,
Я ў етых дарожках не бываў.

Я ў етых дарожках не бываў,
Па цёмных начах не язджаў.

— Не клапаціся, Васілька,
Я ж цябе аднаго не пашлю.

Пашлю я с табою дружыну,
Усю матулькіну радзіну.

А ў падбратнічкі братулькі,
А ў сваценкі сястрыцы.

За маршалачку дзядзечку,
Адзін музыка найманы.

## 451

Не гусі іграюць на моры,
Не дзеўкі пяюць у каморы,
А плачыць, плачыць Іванька,
За часовым сталом седзячы,
На сваю матульку гледзячы:
— А матулечка родная,
А нашто жэніш маладога?
Я ў гэтым дзеле не бываў,
Па цёмных ночках не язджаў,

На белых ручніках не сядзеў,
Залатых пярсцёнкаў не мяняў.
— Не плач, сыночак, не плач,
Я ж цябе аднаго не пушчу,
Я й з табой дружыну выпраўлю:
Роднага дзядзечку — сваточкам,
Родную сястрыцу — сваццейкай,
Родных швагрочкаў — дружочкамі.

## 452

— А галоўка мая бедная,
А мамулька мая родная,
Нашто мяне, маладога, жэніце?
Я ў гэтым дзеле век не бываў.

Я ў гэтым дзеле век не бываў,
А ў гэту дарогу не ездзіў.
— А дзіцятка маё дарагое,
Я ж цябе аднаго не пашлю.

Пашлю ж я з табою дружыну,
Усю тваю верную радзіну.
А па правай руцэ братцы твае,
А па левай руцэ сястрыцы твае.

## 453

У нядзельку рана свет рассвітае, раненька, *
Малад Лёнечка каня сядлаець, раненька,
Каня сядлаець, сільненька плачаць, раненька.
Прышла да яго, ў яго маманька пытаець:
— Чаго, Лёнечка, чаго, дзіцятка, так плачаш?
— А як жа ж мне, маладзенькаму, не плакаць?
А я ж яшчэ ў даўгіх дарожках не биваў,
А я ж яшчэ па цёмных ночках не ездзіў.
— А не бядуй, маё дзіцятка, не бядуй:
А я цябе аднаго ў дарожку не адпраўлю.
А выпраўлю я старшага свата напярод,
Цябе, Лёнечка, з роднай сястрыцай пасярод.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Да стаіць дубочак да над ракою,
На Дунай нахіліўся,
На ціхі нахіліўся,
На ціхі нахіліўся.

Сядзіць Сярожка ды за столікам,
У дарожку залажыўся,
У вялікую залажыўся,
Слёзкамі абліўся.

— Да з кім, ойчанька,
Да з кім, родненькі,
У дарожку выпраўляеш,
У дарожку выпраўляеш?

— З богам, Сяргейка,
З богам, маё дзіцятка,
З божым благаслаўленнем
Да з маім дазваленнем.

## 455

Зелен яварка, зелянесенькі
На Дунай нахіліўся,
Малады Іванька, маладзесенькі
Ў дарогу нарадзіўся.
Дзержыць хустаньку ў правай ручаньцы,
Слёзанькі ўціраe,
Свайму баценьку, свайму роднаму
Да ножак прыпадае:
— Мой баценьку, мой родненькі,
Вырадзь мяне ў дарогу.
— Мой сыночку, мой родненькі,
Я даўно цябе выраджаю:
Наварыў табе дзевяць бочак піва
Ля твайго сваццця гучнага,
А дзесятае медзяное
Ля цябе, маладога.

## 456

Стаіць дубок зелянёсенькі,
На Дунай нахіліўся.
Сядзіць Цімошка маладзенькі,
Да цесця нарадзіўся:
— Выпраўляй мяне, мацелька,
У вялікую дарогу,
Да цесця на размову.
— Ужо я такое, дзіцятка,
Даўно выпраўляю:
Спякла табе дзевяць боханаў
Для тваей дружынанькі,
Дзесятага пшанічнага
Для цябе, вялічнага.
Залажылі табе дзевяць конікаў
Для твае дружынанькі,
Дзесятага варанога
Для цябе, маладога.

## 457

Ішоў Васілька цераз сені,
Цераз сені да каморы,
Бразнуў у дзверы, як у звоны.
Нагневаўся на бацяньку,
Што не вараныя коні запрог,
Што не вараныя — чырвоныя:
— Табе, бацянька, нішто ў доме,
А мне на чужыне сорам будзе.
Сорам будзе, даганенька,
Ад чужых людзей нясдавенька.
Ішоў Васілька цераз сені,
Цераз сені да каморы,
Бразнуў у дзверы, як у звоны.
Нагневаўся на матуньку,
Што не смачнага хлеба спякла,
Не смачнага — разовага:
— Табе, матушка, нішто дома,
Мне на чужыне сорам будзе.
Сорам будзе, даганенька,
Ад чужых людзей няславенька.

458

Пісарэ-пісароньку,
Запішы гаспаданьку:
Для конікаў — стаеньку,
А для баяраў — святлоньку.
Конікам — аброк, сена,
А баярам — мёд, віно.

459

Сабіраліся добры людзі ў дарогу,
Ай, дайце ім гарнец піва, два — мёду,
Штоб не памёрзлі добры людзі ў дарозе.
А ў дарозе, на люценькім марозе.

## 460

Не гарох па дарозе каціўся —
Ясенька ў дарогу радзіўся.
— Баценьку, куды мне ехаці?
— Едзь, сынку, шырокім гасцінцам,
Завярні конікі да сяла,
Там твая Ганулька весяла.
Усё, ідучы з каморы, танцуе,
Свае падружачкі частуе:
«Гуляйце, падружачкі, гуляйце,
Гуляйце і о ніц не дбайце,
Бо ўжэ маё гуляне мінае,
Ясенька вяночка здымае,
Коніку на грыву ўкладае.
У коніка грыўка плецена,
Ганулька з Ясенькам злучана».

## 461

На полі дымы дымяць,
На дварэ шатры стаяць.
А пад тымі шатрамі
Да Ягорка з сястрамі.
— Сястрыцы-парадніцы,
Парайце парадачку:
Ці мне лепей жаніціся,
Ці на вайну пусціціся?
— Брацетка наш родненькі,
Лепей табе жаніціся,
Чым на вайну пусціціся:
На вайне вайна будзець,
На вяселлі гульня будзець.
На вайне — ваяваць,
А на вяселлі — пагуляць.

## 462

Ой, у бару салавей гудзе,
Па свяцёлцы галасок гудзе.
Іванка ўбіраецца,
Маманькі да й пытаецца:
— Мая маманька родна,
Чы мне сесці да к абеданьку,
Чы ехаці да й па дзеваньку?
— Мой сыноньку родны,
Сядзь сабе к абеданьку,
Ідзі сабе па дзеваньку.
Ў дарожаньку шчасную
Да па дзеваньку красную.

## 463

У суботаньку звячораньку,
У нядзелю параненька
Там маці сына выражала,
Выражаючы, навучала:
— Не едзь, сыноньку, да дзявонькі,
А ўпярод пайдзі да царкоўкі.
Як выслухаеш абеданьку,
Тады пойдзем да дзеванькі.
— Быстрага, матанька, каня маю,
На павадах не ўтрымаю.
Шаўковы павады парывае —
Так да дзеванькі паспяшае.

## 464

А ў нядзелю рана
Поп к абедні звоне,
Іванечка па двару ходзе,
З татухнам гавора:
— Татухна мой, да ты родненькі,
Парадзь і мне ты парадачку,
Не малую, не вялікую:
Ці к абедні мне іціць,
Ці баяр сабіраць?
— З богам, сынку, з богам.
Памаліў бы ся богу,
З баярамі ў дарогу.

## 465

Стаіць дубочак, як арабочак,
На Дунай пахіліўшысь,
Малады Андрэйка да Марысі
Харашэнька ўбраўшысь.
У правай ручаньцы хустачку носіць
І слёзанькі ўцірае і бацяньку просіць,
Што ў дзеўкі гаварыці.
— Не гавары, сынку, нічога.
Ёсць у цябе дружанька да тога,
Будзе ведаці, што гаварыці
За цябе, маладога.

## 466

Ідзе месячык да зоркі,
Ідзе Сцяпанька да дзеўкі
Да пытаецца свайго баценьки,
Што дзеўцы каза[ці].

— Не кажы, сынку, нічога,
Ёсць сванечкі для тога.
Ой, адкажуць, адгавораць
За цябе, маладо[га].

## 467

Маладзенькі Ванечка,
Будзеш ехаць жаніціся,
Не забудзешся скланіціся.
Будзеш ехаць каля саду
Ды заедзеш у садочак,
Вышчыпні кветачку чырвоную,
Заткні за шапачку,
Каб твая шапачка ззяла,
Каб цябе цешча пазнала,
Мілым зяцем назвала,
Віном-мёдам напаіла
І Марыяй надарыла.

## 468

— А ў дарогу, мой брацетка, у дарогу,*
Бяры сабе злота-серабра памногу.
Да й будзець табе тры прычыначкі ў дарозе:
Адна прычына — вараных конікаў супудзяць,
Друга прычына — дружыначку абгудзяць,
Трэцяя прычына — табе Ганульку не дадуць.
— Я й за конікаў чырвонцамі адсыплю,
Я й за дружыну паклонамі адаб'ю,
А я й Ганульку у цешчанькі забяру.

## 469

— А ў дарогу, мой брацятка, у дарогу,*
Набірай сабе злота-серабра памногу.
А будзе табе тры прычыначкі ў дарозе:
Адна прычына — тваю дружынку разаб'юць,
Другая прычына — твайго коніка забяруць,
Трэцяя прычына — табе дзевачку не аддадуць.
— Я за коніка злотам-серабром адсыплю,
А за дружыну гарэлкаю адлію,
А за дзевачку нізкім паклонам адаб'ю.

## 470

— А ў дарогу, мой брацюлечка,
Ў дарогу,

Бяры сабе злота-серабра
Памногу.

А будзець табе тры прыгодачкі
У дарозе:

Адна прыгода — сівога каня
Падкавацъ.

А другая — нада сваячкоў
Частаваць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А трэцяя — нада дзевачку
Выкупаць.

— Не туж, не бядуй, мая сястрыца,
Па гэтым.

Сівога каня ў сваім двара
Падкую,

А дзеля сватоў віна-мёду
Набяру,

А за дзевачку паклонамі
Адаб'ю.

## 471

Едзьце, сваты, прыбірайцеся ў дарогу,
Не забудзьцеся ды перапой з сабою.
Будуць жа вас у вароцечках сустракаць,
Будуць жа вас перапою пытаць.
Што вы будзеце старшаму свату казаць?
Ці вы скажаце: вяліка дарога — прапілі,
Ці вы скажаце, што вы з дому забылі.

## 472

Ды паедзем, мой брацятка, ў дарожку,
Ды насыпім поўны кішанькі гарошку.
Там будуць жаночкі спяваць,
А мы будзем па зярнятку кідаць.

## 473

— Не забывай, сужанька,
Што ацец гаварыў —
А не выязджай у поле без стрэлкі,
Пастаіш у сценкі без дзеўкі.
— Хаця ж я пастаю гадзіну,
То выведуць ка мне чалядзіну.
Хаця ж і пастаю другую,

То выведуць ка мне маладую.
Хаця ж я пастаю трэцюю,
То выведуць ка мне вечную.

### 474

Не едзь, сватухна, позна ў дарогу,
Будзеш начаваці ў зялёненькай дуброве,
Пасцілку слаці з зялёнага зелля,
Падушачкі класці з павінага пер'я.
Не станавіся пад ядлінаю,
Бо ядліна — дзерава нешчасліваe,
Нешчаслівае і неўрадлівае:
З кораня яго та вада падмыла,
З сярэдзіны яго жаўна прабіла,
А зверху яго хваля зламіла.
Стань сабе, сватухна, пад сасонкаю,
Сасніна — дзерава шчаслівае,
Та шчаслівае, та ўрадлівае:
З кораня яго чорныя саболі,
З сярэдзіны яго баравыя пчолы,
А зверху яго райскія пташкі.
Чорныя саболі пасядзеці хочаць,
Баравыя пчолы паляцеці хочаць,
Райскія пташкі та заспяваці хочаць.

### 475

Што ў цераме ціхенька да пагуркаець,
Міхалку матушка да навучаець:

— Паедзеш, сыночак, да жаніцца,
Не станаві коніка пад калінóю.

Каліна — дзерава нешчасліва:
У карані каліну да вадою мыець, у карані.

Серадзі каліну чарвяк точыць, серадзі,
У цвяту каліну дзеўкі ламалі, у цвяту.

У цвяту каліну дзеўкі ламалі,
Ягаду каліну птушкі клявалі, ягаду.

Ты станаві коніка пад яварам.
Ой, явар — дзерава шчаслівае, ой, явар:

У карані явара конь собаліў, у карані,
У серадзі явару да ярыя пчолы, у серадзі.

У серадзі явару ярыя пчолы,
У вярху явару звонкія гуслі, у вярху.

## 476

Зайгралі гармоні каля коні,*
Паселі малойцы ўсе на коні.
Адзін жа Пецечка не садзіцца.
Знаць, яго мамачка навучаець,
У доўгую дарогу выпраўляець:
— Едзь-паедзь, Пецечка, жаніціся,
Не стаўляй коніка пад калінкаю,
А стаўляй коніка пад явораю.
Каліна — дрэўца нешчаслівае:
А з камлёў каліны рэкі йдуць,
А зверху каліну пташкі клююць.
Явар — дзераўца шчаслівае:
А з камлёў явара мяды цякуць,
А зверху явара салаўі пяюць.

## 477

Едзь-паедзь, сыночак, жаніцца
Да не стаў коніка пад рабінай,
А рабіна — дзераўца нешчаслівае:
Зверху рабіну пташкі клююць,
А пасярод рабіны чэрві точуць,
З камля ў рабіны кроў цячэць.
Едзь-паедзь, сыночак, жаніцца
Да пастаў каня пад яворай.
А явора — дзераўца шчаслівей таго:
Зверху ў яворы пташкі пяюць,
А пасярод у яворы пчолкі звіняць,
А з камля ў яворы мядок цячэць.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 478

Да паедзеш, Трахімка, жаніціся
Да не стаў конікі пад калінаю,
Бо каліна — дзерава няшчаснае.
Да пастаў конікі пад яваром,
Бо явар — дзерава шчаслівае:
Да наверсе ў явары сіні саколік,
Пасярэдзіне ў явары роевыя пчолкі,
А ў комлі ў явары чорныя бабры.
Чорныя бабры — на шапачку,
Роевыя пчолкі — на прывіванне,
А сіні саколік — на вянчанне.

## 479

Хто там у нас у цераме ціха гаворыць?
Сястра брата навучаець:
— Пойдзеш ты, бра́халька, жаніціся,
Едзь ты, едзь, Сапронька, не стой,
У цябе конічак чужы, не свой.
Не станаві коніка пад рабінай,
Рабіна — дзерава нешчаслівае:
З-пад комля рабіну вадой мыець,
Пасярод рабіны чэрві точуць,
А з макушкі рабіны пціцы клююць.
А станаві конічка пад ягорай,
Ягора — дзераўцо шчаслівае:
З-пад камля ягора сытой мыець,
Пасярод ягоры пчолкі бруюць,
А з макушкі салаўі пяюць.

## 480

Да паедзеш, панічыку, жаніціся,
Не стаў коніка пад калінаю,
Бо каліна — дзерава нешчаслівае:
Вясною каліну дзеўкі ломяць,
Увосень каліну пташкі зобляць.
Пастаў коніка пад яварам,
Явар — дзерава шчаслівае:
У яварным камлі чорныя бабры,

У явары ў сярэдзіне райскія пчолкі,
У явары ўвярху сівыя сакалы.
Чорныя бобрыкі — добрыя на боцікі,
Райскія пчолкі — салодак мядок,
Сівыя сакалы — да на пагулянне.

## 481

Ды не стаў, Юліська, коніка пад рабінаю,
Рабіна — дзераўца нешчаслівае:
Рабіну з вярхоўкі птушанькі клююць,
Рабіну з карэння чэрві точуць.
А стаў, Юліська, коніка пад бярозаю,
Бяроза — дзераўца шчаслівае:
На бярозе пташухны-салаўі пяюць,
У бярозе сучанькі сувіваюцца,
У бярозе лісценькі зліпаюцца,
Маладому Юліську дзеванькі ўкланяюцца.

## 482

Ды на небе зорачкі заззялі,
Сястрыцы брацika ўбіралі.
Сястрыцы брацika ўбіралі,
Убіраючы, пыталі:
— А куды, брацейка, паедзеш?
— Паеду, сястрыцы, ў чужы край.
— Ды ты, брацейка, розум май.
Ой ты, брацейка, розум май,
Поўнага кубачка не выпівай,
Бо там чужая старана,
Беражыся, брацейка, сарама.

## 483

Ты-ж паедзеш, мой браханька, ў людзі,
Набірайся ж-тко людскосці.
Будуць цябе ды сваточкі вітаці,
Будуць цябе зялёным вінoм упіваці.
Налей, брацятка, да чарачкі аж да дна
Да вылі сваму коніку на грыўца,
Каб твой konічак пляснiў быў,
Каб цябе з чужых людзі дамоў ўнасіў.

## 484

Маці сына выправаджала,
Яна яго ды навучала:
— Не пі, сынку, першае чаркі,
А вылі каню на грываньку,
Каб грыванька ды дубам стала,
Цешча зяця ды не пазнала
Ды панічкам назвала:
«Я думала, што паніч едзе,
Аж гэта мой зяцюхна».

## 485

Не пі, Івасю, первага прывету,
Бо першы прывет ліхі.
Дай старшаму свату, роднаму брату.
Ой, няхай вылье коніку на грыву,
Ой, із грываньні на капыцечкі,
А з капыцечка на сыру зямлю.

## 486

Рана, рана да нешта ў лесе звінела,
Не звінела, да гаварыла.
Рана, рана да маці сына навучала:
— Да рана, рана, мой сыночку Іванка,
Як паедзеш ты жаніцца,
Стане цябе цешча вітаці,
Першы кубак наліваці,
То не пі кубка першага,
Злі конічаньку на грыўку.
Стане тая грыўка калясцом,
Стане наш Іванка малайцом.

## 487

Ой, у каморы свечы гарэлі,
Да не самі яны гарэлі,
Маці сыночка радзіла,
З калень на каня садзіла:

— Да паедзь, сыночку, да цесця,
Будзе цябе цесценька вітаці,
З поўна кубачка даваці,
Да не пі кубачка да днечка
Да злей коніку на грыўку,
Стане тая грыўка калечкам,
А сам маладзенькі паночкам.

## 488

Да ці ведаеш ты, Мішачка,
Што табе мамачка казала?
Што табе мамачка казала
Першае чарачкі не піці.
І першае чарачкі не піці,
Да коніку на грыўку узліці.
Будзе цябе цешчухна вітаці.
Будзе цябе цешчухна вітаці,
А ты будзеш ціха стаяці.

## 489

Не забывай, Андрэйка,
Што табе мамачка казала.
Што табе мамачка казала,
Як на коніка саджала,
Як запісачку пісала:
Штоб не піў першага кубачка,
А каб ліў коніку на грывачку,
Каб была грывачка расяна,
Каб была дзевачка слухмяна.
Расяна грывачка ад расы,
Слухмяна дзевачка ад гразы.

## 490

Не забывайся, жанішка,
Што табе мамачка казала,
Як на лісточку спісала:
Не пей першага кубачка,
Узлей коніку на грыўку,

Каб была грывачка кудрава,
Каб была дзевачка слухмяна.
Кудрава грывачка, як калясо,
Слухмяна дзевачка — та й харашо.

## 491

Не забывайся, мой братка,
Як цябе мамачка вучыла,
Калі на коніка садзіла:
— Ды не пі першага кубачка,
Узлей яго коніку на грыўку,
Каб яго грывачка гарэла,
Каб цябе дзевачка жалела.
Каб была грывачка кудрава,
Каб была дзевачка слухмяна.
Кудрава грывачка, як віхла,
Слухмяна дзевачка, як мятла.

## 492

Не забывай таго, Толечка,
Што цябе мамка вучыла:

Не садзіся ўзадзе,
А садзіся ўперадзе.

Узадзе будзе загана,
Уперадзе будзе сустрэча.

Будзе цябе цешча сустракаць,
З горкаю гарэлкаю вітаць.

Первай чаркі не выпіваць,
Коніку на грыўку выліваць,

Каб была грывачка румяна,
Каб была дзевачка паслухмяна.

### 493

Свяціла зорка, свяціла,
Мама сыночка вучыла:
— Не едзь, сыночак, напярод,
А едзь, сыночак, пасярод.
Там цябе цешча чакае,
Салодкім віном вітае,
Салодкім віном на стале,
Горкай гарэлкай на возе,
Каб цёпла было ў дарозе.

### 494

Да мацi сына навучала:
— Не пі, сыну, старшага першага кубанька,
Да злей коню на грываньку,
А сам сабе на чупрынаньку,
Штоб твая грыванька да гары шла,
А штоб дзяўчына да нас шла.

### 495

Не пі, жанішок, поўны чары,
Выліваӣ каню ў грыву,
Каб ў каня грывачка шатром стаяла,
Каб цябе, малайца, журба не брала,
Каб твая нявеста з другім не стала.

### 496

Будзець цябе, Іванька, цешча вітаці,
Ой, не пі, Іванька, першае чары,
Ой, вылі, Іванька, коніку на грыўку,
Каб у каня грывухна да пазалацела,
Каб твая Полечка да памаладзела.
Каб у каня грывухна калясом стала,
Каб твая Полечка харашо ўстала.

## 497

А ў месяца, а ў яснага два ражкі,
Два ражкі.

А ў Мішачкі ў маладзенькага два браткі,
Два браткі.

Адзін братка каня варанога сядлае,
Сядлае.

Другі братка маладога Мішу навучае,
Навучае:

— Не пі, братка, з першае чаркі гарэлкі,
Гарэлкі.

Да вылі ж ты на конікаву грывачку,
Грывачку.

Каб у коніка ўся грывачка стаяла,
Стаяла.

Каб весела ўся радзіначка гуляла.

## 498

У нас у полі, у шырокім раздоллі,
Там стаяла дрэва, дрэва не простое,
Дрэва не простое, лістом шыракое.
Саляталісь пташкі, дробныя касаткі,
Сямёнавы брацця, Палагеіны сёстры.
Брат брату гаворыць:
— Паедзем, мой брацец, заўтра ка тсцю ў госці.
Не пей, не пей, брацец, не пей, мой радзімы,
Не пей, мой радзімы, да первую чару.
Вылі, вылі, брацец, вылі, мой радзімы,
Дабру каню ў грыву,
Штоб ета грыва шатром не стаяла,
Шатром не стаяла, к каню прылягала,
К каню вараному, к сядлу залатому.
На етым сядзельцы Сямёну жаніцца,
Сямёну жаніцца, Палагеі бадрыцца.

## 499

А наш сватка да разом, да разом,
Да разумнай маткі.
Як выпраўляла ды й казала:
— Будзь, сынок, разумнёнькі,
Налівай чарачкі ды й кілішачкі,
Каб былі ўсе паўненькі,
Ды й пой дзевачкі да малодачкі,
Каб былі ўсе п'яненькі.

## 500

А ў месяца два ражкі і зара,
А ў Міколкі два брахнейкі і сястра.
Адзін коніка сядлае варанога,
Другі брахнейка навучае маладога:
— А будзь вумным, будзь разумным, Міколка.
Дадуць табе кубачак віна — ты не пі,
Дадуць табе маладзеньку Анечку — ты бяры.

## 501

Ты едзь, мальчышка, не станавісь,
Не станоў коніка ля карчомкі,
Ты пастаў коніка ля святліцы,
А ў святліцы тры дзявіцы.
Не абірай, мальчышка, што ў серабры,
Не абірай, што ў золаце,
А выбер, мальчышка, што ў розуме.
Золата-серабра абатрэцца,
А наша Ганутка вуму набярэцца.

## 502

А будзь, браточак, вумен-разумен, *
А мы паедвем у чужыя людзі,
Нам там паставяць да тры талеркі,
Нам там пасадзяць да тры паненкі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Не бяры тую, што ў аксаміце,
Не бяры тую, што ў золаце,
А бяры тую, што ў розуме.
Мы аксаміту больш дастанем,
А золата ж свайго мы маем,
А розуму ж мы свайго не ўставім.

## 503

Разлажыўся клён-дзерава да долу, *
Сабірайцеся, мае братачкі, да столу.
Да вып'ем мы па чарачцы гарэлкі,
Будзем выбіраць прыгожыя паненкі.
Не будзем мы браць, што ў золаце галоўка,
Да будзем мы браць, што з розумам галоўка.
Мы золата сярод Вільні дабудзем,
А розуму ў галовачцы не будзе.
Мы золата сярод Вільні дастанем,
А розуму ў галовачцы не ўставім.

## 504

Сокал, сокал на вылёце,
Красна сонца на выкаце,
Андрэйка на выездзе.
Сёстры яго правадзілі
І з ім гаварылі:
— Андрэйка, наш брацец,
Пойдзеш жаніціся
Каля саду зялёнага,
Каля піру вясёлага.
Выйдзець к табе танок дзевак,
Выйдзець і другі танок:
Адзін танок у золаце,
Другі танок у серабрэ.
Ты на золата не галься,
А на серабро не квапся.
Твая дзеўка знакомая,
На ёй сукня зялёная,
На галоўцы пярлоў венчык,
На ручаньцы золат персцень.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 505

Ванечка коніка сядлае,
А ў яго мамачка пытае:
— Куды ж, сынок, паедзеш,
Ці ў чужыя людзі?
Выведуць табе там тры дзеўкі:
Первую дзевачку ў золаце,
Другую дзевачку ў серабры,
Трэцюю дзевачку ў кажусе.
Не бяры, мой сынок, у золаце,
Не бяры, мой сынок, у серабры,
А бяры, мой сынок, у кажусе.
Калі на цябе гаспод бог загляне,
Дык на ёй золата заззяе,
На яе радзінка паглядзіць,
Яна яе, маладу, пазалаціць.

## 506

У месяца два беражкі крутыя,
А ў Яначкі два брацейкі радныя:
Адзін брацейка каня сядлае варанца́,
А другі брацейка навучае малайца:
— Як паедзеш, мой брацейка, ў новы двор,
Паставяць табе трох дзевачак на выбор.
Адну дзевачку ў аксаміце, брацейка,
А другую дзевачку ў золаце, брацейка,
А трэцюю дзевачку ў розуме, брацейка.
Не бяры тую, што ў аксаміце, брацейка,
Не бяры тую, што ў золаце, брацейка,
Ды бяры тую, што ў розуме, брацейка.
Мы аксаміту свайго накупім, брацейка,
Мы золата свайго паложым, брацейка,
А розуму свайго не ўложыш, брацейка.

## 507

Ды ў месяца два ражочкі востранькіх.
Адзін ражочак зялёну ваду асвяціў,
Другі ражочак на небе звёзды сулічыў.
Ды ў Андрэйкі два брацяткі родненькіх.

Адзін брацятка яму коніка сядлаець,
Другі брацятка яго, маладога, навучаець:
— Як паедзем, мой брацятка, жаніцца,
Пасадзяць табе тры паненкі на выбор:
Адну паненку ў золаце, раненька,
А другую ў серабры, раненька,
А трэцюю ў разуме, раненька.
Не бяры тую, што ў золаце, раненька,
Не бяры тую, што ў серабры, раненька,
А бяры тую, што ў разуме, раненька.
Мы на яе сваё золата ўзложым,
А мы ж ёй свайго разуму не ўложым.

## 508

Ды ў нашага месяца тры рогі залатыя,
Тры рогі залатыя — усе яснюсенькі.
Ды ў нашага Антоські тры браты радныя
Да ўсе разумны, усе раднюсенькі.
А найменшы брацятка Антоську навучаець:
— Антоська мой, брацятка, набірайся розуму,
Набірайся розуму, каб не было сораму.
Ты паедзеш у чужыя людзі,
Пасадзяць цябе за столікам,
Ля цябе пасадзяць тры паненкі:
Да адна паненачка — уся ў золаце,
Другая паненка — уся ў аксаміце,
Трэцяя паненка — ды ўся ў розуме.
Не бяры ты той, што ў золаце,
Не бяры і той, што ў аксаміце,
Ды бяры ты тую, што ўся ў розуме.

## 509

Ой, у месяца да тры зораньkі,
Ой, рана-рана, да тры зораньkі. *
Ой, перша заронка да вячэрняя,
А друга заронка да паўночная,
А трэця заронка да світальная.
А ў малойчыка да два брацейкі,
А трэцяя сястроначка.

---

* Прыпеў «Ой рана-рана» паўтараецца пасля кожнага радка.

Першы братка вазы высцілае,
Другі братка коні закладае,
А сястронка яго навучае:
— Будзь ты, братка, вумны і разумны.
А ў малойчыка да тры паненкі:
Адна паненка да й у золаце,
Друга паненка да й у саміце,
Трэця паненка да й у розуме.
Мы золата лічыць не будзем,
Мы саміту насіць не будзем,
Мы розуму да не прыкупім.

## 510

У яснага месяца тры зораньκі:
Первая зоранька светавая,
Другая зоранька вячэрняя,
А трэцяя палуношніца.
У нашага Грыгоркі тры сястрыцы:
Первая сястрыца кудры часала,
Другая сястрыца ўбірала,
А трэцяя навучала:
— Паедзеш ў Ноўгарад жаніціся,
Паставяць табе трох паненак:
Первая паненка ў золаце,
Другая паненка ў серабры,
А трэцяя ў чорным шоўку.
Не квапся, Грыгорка, на золата, на серабра,
А квапся, Грыгорка, на чорны шоўк.
Золата-серабра паламаецца,
Чорнаму шоўку змены нет.

## 511

У месяца два беражочкі роўныя,
Ёсць у мяне два браточкі родныя.
Адзін брацятка каня сядлаець варанца,
Другі брацятка яго навучаець, малайца:
— Ты паедзеш, мой брацятка, жаніцца,
Паставяць табе трох дзевак на выбор.
Не бяры тую, што ў золаце — хвастліва,
Не бяры тую, што ў аксаміце — ляніва,

Да бяры тую, што ў розуме — шчасліва.
Мы золата самі паложым на яе,
Мы аксаміты самі пакупім для яе,
А розуму мы не ўложым у яе.

512

Ды ў месяца два ражочкі роўныя,
Ды ў Юзэфа два браточкі родныя.
Адзін браточак каня сядлае варанца,
Другі браточак намаўляе малайца:
— Ды едзь, браточак, праз тры полі ў новы двор,
Дадуць табе трох дзевачак на выбор.
Не бяры тую, што ў золаце, брацейка,
Не бяры тую, што ў серабры, брацейка,
Бяры тую, што ў беленькім, брацейка.
Што ў золаце — шляхцяначка, брацейка,
Што ў серабры — гультаечка, брацейка,
А ў беленькім — рабацяечка, брацейка.

513

А на небе дзве зары,
А ў сужанька дзве сястры.
Адна сястра хусту качае,
А другая канчае:
— Паедзеш, братка, у людзі,
Выведуць табе дзве панны.
Адна панна у розуме,
А другая панна у золаце.
Не бяры, братка, у золаце,
А бяры, братка, у розуме.
Мы золата самі дакупім,
А розуму самі не прыставім.
А золата адпадзе,
Без розуму прападзе.

514

У месяца два рожкі,
А ў жанішка два браткі.
Адзін браток каня сядлае,

А другі павучае:
— Не бяры, браток, што ў золаце,
А бяры, браток, што ў розуме.
Мы золата прыкупіма,
А розума не зложыма.

А на небе дзве зоркі,
У дзеванькі дзве сястрынкі.
Адна сястра хусткі качае,
А другая павучае:
— Не йдзі, сястрынка, што ў золаце,
А ідзі, што ў розуме.
Мы золата прыкупіма,
А розума не ўложыма.

## 515

У месяца два ражочкі крутыя,
А ў Кастуські два брацяткі родныя.
Старшы брацятка коніка сядлаець,
Малодшы брацятка ў каморцы намаўляець:
— Як паедзеш, наш брацятка, у людзі,
Як пасадзяць трох дзяўчат у радзе,
Не бяры тую, якая злота, позненька,
Не бяры тую, якая срэбра, раненька,
А бяры тую, якая разум маець свой.
Бо мы на яе злота-срэбра наложым,
Толькі ж мы ей свайго розуму не ўложым.

## 516

У месяца тры рагі крутых,
А ў Сымонкі тры браты родных.
Адзін брацетка коніка сядлаець,
Другі навучаець:
— Не бяры, брацетка, багатыркі,
А едзь, брацетка, да бедненькай.
Багатырка худабырка будзець праклінаці,
А бедная лябёдачка будзець паважаці.
Не бяры той, што ў золаце,
Але бяры тую, што ў розуме.
Золата самі на яе ўложым,
А розуму не ўложым.

## 517

У месяца тры зорачкі ясненькі, *
І ды было тры брацяткі радненькі.
І адзін брацец каня сядлаець, радненькі,
Другі брацец праваджаець, радненькі,
І трэці брацец навучаець, радненькі:
— Не бяры, брацец, што ў золаце, радненькі,
А бяры, брацец, што ў розуме, радненькі.
А мы золата сабе дабудзем, радненькі,
А мы розуму самі не ўложым, радненькі.
На дураку і золата абсмяюць,
На разумнай сярмяжачка лялеець.

## 518

Да што там у стайні стучэла?
Звінела кола, звінела.
Малады Янка каня сядлае,
Яго татачка пытае:
— Куды ж ты, сынку, паедзеш —
Ці ў вёску, ці ў мястэчка?
Не едзь, сынку, у мястэчка,
Бо там дзяўчаты лянівы:
Высока ржышча зжынаюць,
А рэдка копы стаўляюць.
Да што там у стайні стучэла?
Звінела кола, звінела.
Малады Янка каня сядлае,
Яго татачка пытае:
— Куды ж ты, сынку, паедзеш —
Ці ў вёску, ці ў мястэчка?
Да едзь, сынку, у вёску,
Там дзевачкі рабочы:
Нізка ржышча зжынаюць,
Густа копы стаўляюць.

## 519

Ціханька ў цераме гаворана. *
Мамачка сыночка навучала:

* Кожны радок паўтараецца.

— Паедзеш, сыночак, у чужыя людзі,
Пасадзяць, сыночак, за сталочак,
Пасыплюць, сыночак, табе серабра,
Пасадзяць, сыночак, табе дружынку.
Не глядзі, сыночак, на серабро,
Не глядзі, сыночак, на золата,
Паглядзі, сыночак, на дружынку,
Якава, сыночак, твая дружына.
Прыехаў сыночак з угляд двору.
Стала ў яго мамачка выпытаці:
— Якава, сыночак, твая дружына?
— На ліцо, мамачка, бела, румяна,
На хадню, мамачка, скора ходзіць,
На работу, мамачка, людзі хваляць,
На нароў, мамачка, сам не знаю.

## 520

Паедзеш ты, чада мой,
Паедзеш ты ў суглядзі,
Не глядзі ты, чада мой,
Ні на золата, ні на серабро,
Паглядзі на Манечку:
На ліцо яна бялёшанька,
На стан станавёшанька,
На работу людзі хваляць,
Пра абычай бог знаець.

## 521

Ой, тонка, тонка сасонка
Ішла дарожкай, шумела.

Ішла дарожкай, шумела,
Прышла ў вароты ды стала.

Прышла ў вароты ды стала,
Малайца дзіцяткам назвала:

— Ой, ты малойчык, дзіцятка,
Ды калі будзеш жаніцца.

Ды калі будзеш жаніцца,
Не выбірай жонку на рынку.

Не выбірай жонку на рынку,
А выбірай жонку на ніўцы,

Што часта жменькай махае,
Густа снапочкі складае.

Густа снапочкі складае,
Табе, маладому, спрыяе.

## 522

А над лесам сонейка іграе,
Там мой брацейка коніка сядлае,
У яго мамулька пытае:
— Куды, мой сынку, паедзеш?
— Я ж паеду, мамулька, жаніцца.
— Не выбірай, мой сынку, у карагодзе,
А выбірай, мой сынку, у агародзе.

## 523

Ой, лесам, лесам сонейка йграецъ,
Рана, рана. *
Сымонка спяшыцъ, каня сядлаецъ,
Яго матулька яго пытаецъ:
— Куды ж ты, сынку, куды ж ты паедзеш?
— Да я паеду, матулька, жаніцца.
— Не выбірай, дзіцятка, не выбірай на йскрыпцы:
На йскрыпцы, дзіцятка, дзеўкі хваслівы.
Выбірай, дзіцятка, выбірай на ніўцы:
На ніўцы, дзіцятка, дзеўкі руплівы.

## 524

Паехаў Хвядорка дзеўкі любіці,
За ім баценька з ім гаварыці:
— Не любі, сынку, дзеўкі ў таночку,

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Но любі, сынку, на заганочку:
Каб яна заганец хуценька жала,
Каб яна снапкі туга вязала,
Каб яна копы шчытненька клала.

## 525

— Не глядзі, Іванька, на намётачку,
Паглядзі, Іванька, на работачку:
Ці ўмеець Полечка тонка прасці,
Ці ўмеець Полечка часта ткаці,
Ці ўмеець Полечка бела бяліці,
Ці ўмеець Полечка харашо пашыці.
— Не клапаці, Іванька, я ўсё ўмею,
Калі будзець у цябе дабро ў клеці,
Буду ж я, малада, да ўсё ўмеці:
Мне пшонка напрадзець тонка,
Мне ячмень-шасцярон часта вытчэць,
Грачыха чорная бела выбеліць,
А авёс-кудравёс, да пашыўшы, прынёс,
А крупы да сала ўсяму памагала.

## 526

— Не глядзі, Іпаліцька, на бела лічка,
Папытай, Іпаліцька, ці работніца:
Ці ўмее малада часта ткаці,
Ці ўмее малада тонка прасці,
Ці ўмее малада бела бяліці,
Ці ўмее малада харашо пашыці.
— Ой, ячмень-шасцярон тонка прадзе,
Пшаніца-ярыца часта вытчэ,
А жыта, а жыта бела выбеліць,
Ай, гарох-вінагрох трубкі качаў,
Авясец, авясец і, пашыўшы, нясець.

## 527

Не бяры жонку багатую,
А бяры харошую.
Дзеньгі коткія, раскоцяцца,
А з харошай жонкай жывеш
І яшчэ хочацца.

## 528

Ажаніся, сынку, вазьмі сабе жонку,
Вазьмі сабе жонку хоць удавіну доньку.
Толька самавольніцы не бяры
І нашай хаты не разары.
А бяры ты работніцу,
Катарая б дом свой шанавала,
Дом свой уберагала,
А не то, штобы спіной угол падпірала
І нас, старых, за варатнік
На бел свет вытаўкала.

## 529

У нядзелю рана да па саду хаджу,
Да па саду хаджу, да прысаду саджу.
Я ў свайго бацюшкі нежанаты хаджу.
— Да жаніся, сынку, да бяры дзяўчынку,
Да не бяры ўдовы, бо не дасць бог долі.
Бо у ўдовы сэрца, як зімою сонца,
А ў дзеўкі сэрца, як вясною сонца.
Да вясною сонца, хоць яно хму́рненька,
Хоць яно хму́рненька, да калі це́пленька.
А ў зімою сонца, хоць яно я́сненька,
Хоць яно ясненька, ды яно зі́мненька.

## 530

Зялёны дубочак з пажару нахіліўся,
Малады Паўлючок ў дарожку снарадзіўся.

З левага боку вецер павявае,
З правага боку матуля навучае:

— Ой, сынку, сынку, едзь сабе па жонку,
Ля мяне па нявестку.

Ой, глядзі, сынку, навучай жонку,
Каб мяне шанавала.

Каб мяне шанавала,
У чужых людзях мамаю называла.

## 531

Села маці блізко дзіцяці,
Ціхенька навучае:
— Паедзеш, сынок, родно дзецятко,
Па сваю міленькую.
Ой, скажы ты ёй, прыкажы ты ёй,
Каб мяне паважала.
Я ж муляла ручкі аб вяровачкі,
Як цябе калыхала.
Спаліла свечку не раз васковую,
Пакуль гадавала.

## 532

Жаніся, верабейка, жаніся,
Не бяры сабе жонкі-варонкі.
Вазьмі сабе жонку-сінічку,
Вераб'іную сястрычку.
Яна ўмее зімку зімаваці,
Па застрэшшайку начаваці.
Жаніся, Петрычак, жаніся,
Не бяры жонкі ад маткі.
Вазьмі сабе жонку-сіротку.
Яна ўмее гора гараваць,
Позненька легчы, а рана ўстаць,
Дробненькія дзеткі гадаваць,
Цябе, маладога, шкадаваць.

## МАЛАДЫ З БАЦЬКАМІ ЗБІРАЕ ДРУЖЫНУ

### 533

А ў нядзелечку да сонца
Сядзеў Жэнечка ля плата.
Ён са сваім татачкам рады браў,
Каторых конікаў запрагаць,
Каторых малойцаў выпраўляць.
— Запрагом конікаў вараных,
Выправім малайцоў маладых.
Прывязём сабе дружачку,
Табе, татулька, служачку.

### 534

Ва суботачку па сонцу
Стаяў хлапчышка ў аконца.
Ён пытаецца ў свайго татачкі:
— Чы многа баяр брацi,
Чы многа сабіраці?
— Бяры, мой сыночак,
Сколька табе бог паможаць.
— Добрая наша парадачка
З табою, мой татачка,
З табою, мой родненькі.

### 535

Выражаўся кавалер
Сваго роднага баценька:
— Чы многа баяр брацi?
— Бяры, сынаньку, сто вазовых,
А пяцьдзесят конных.
— А любая параданька,
Мой баценька, з табою.

## 536

А ў суботу да сонца
Стаяў Ванька ля ўслонца.
Ён у мамачкі пытаецца,
А каго ў дружкі браці.

— А бяры, сынок, бяры,
А бяры, каго хочаш:
А ці блізкага суседа,
А ці роднага брата.

## 537

Па каморы галубок гудзе,
Па святліцы галасок ідзе.
Там дзяцінка ўбіраецца,
У бацюшкі ён пытаецца:
— Бацюшка мой родненькі,
Колькі ж вяліш да сватоў сазваць?
— Дзіця ж мае родненькае,
Едзь сабе да на Украіну,
Сазві сабе і ўсю радзіму
І па пуховую пярыну,
Па маладую княгіню.
Пярынаю засцілаць будзеш,
Княгіняю пасылаць будзеш.

## 538

У сенях галубок гудзе,
А ў хаце галасок ідзе.
Там Міша прыбіраецца,
У свайго бацюхны пытаецца:
— Бацюхна мой родненькі,
Сколькі мне да сватоў садзіць?
— Садзі ўсю радзімачку,
Едзь на Украіначку,
Вазьмі чужаземачку.
Чужаземачка да ці не дзевачка?
Табе будзе жоначка.
Табе будзе пасцель слаць,
А мяне будзе паважаць.
Кланяйся, Міша, старому й малому,
Каб табе бог даў добру долю.

## 539

Да й у сенях галубок гудзе,
А на хату галасок ідзе,
Жанішок бацюхну
Да да ног падзе:

— Мой бацюхна родны,
Збірай маю радзінаньку,
Блізкую й далёкую,
Багатую й убогую.

Багатую да папіціся,
А бедную парадзіціся.
Багатая на славаньку,
А бедная на параданьку.

## 540

А ў сенечках галубы гудуць,
А ў святліцы адзываецца,
Адзываецца.

А ў святліцы адзываецца,
Там Валодзька прыбіраецца,
Прыбіраецца.

Там Валодзька прыбіраецца,
У сваёй мамкі да пытаецца,
Да пытаецца.

У сваёй мамкі да пытаецца:
— А мамачка ж мая родная,
Мая родная.

А мамачка ж мая родная,
Сколькі мне да сватоў садзіць,
Садзіць.

Сколькі мне да сватоў садзіць?
— А садзі, сынок, чалядзіначку,
Чалядзіначку.

А садзі, сынок, чалядзіначку,
Садзі ўсю сваю радзіначку,
Усю радзіначку.

Садзі ўсю сваю радзіначку,
Бедную й багатую,
Багатую.

Бедную й багатую.
Багатая пышавань будзе,
Пышаваць будзе.

Багатая пышаваць будзе,
Бедная да гуляць будзе,
Да гуляць будзе.

### 541

Сужанька па сенях пахадзіў,
Свайго бацюшку пабудзіў:
— А бацюшка родненькі,
А парадзь жа мне раду,
А многа мне сватоў садзіць?
— А сыночак-чалядзіну,
Садзі сваю ўсю радзіну,
Худую і багатую.
Багатая пышаваць будзе,
А худая гуляць будзе.
Багатая напышаецца,
А худая нагуляецца.

### 542

У нядзельку вечарком
Усе сталы да кругом,
Сталі за тымі сталамі
Костуська з сватамі.
У дарожку выбіраецца,
У матушкі пытаецца:
— Матушка мая родная,
Да каго мне ў сваты садзіць?
— Костуська, маё дзіцятка,

Саджай сваю усю радзіначку,
Худобую і багатую.
Багатая пыхаваць будзе,
А худобая ўспамінаць будзе.

## 543

— Ах, Іванку-чалядзіначку, *
Садзі сваю ўсю радзіначку,
Ўсю радзіначку.
Садзі сваю ўсю радзіначку —
І ўбогую, і багатую.

Багатую па застоллейку,
А ўбогую па заслупейку.
— На параду, маманька,
На параду.
Ці ўся мая радзіначка да й ў раду?

Родная цётухна да набоку.
Не журыся, цётухна,
Не журыся,
Блізка ж кала мяне
Садзіся.

## 544

У сенечках галубок гудзе,
У каморку галасок ідзе.
Там Іванка убіраецца,
Свайго бацюхну пытаецца:
— Колька мне сватоў садзіць?
— Сыночку мой, чалядзіначку,
Садзі сваю ўсю радзіначку,
Сперва на покуце,
Маладыя кругом сябе.

## 545

У новенькай горніцы
Суженька з атцом гаворыць:
— Ой, парадзь, парадзь, мой бацюшка,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ці многа сватоў садзіць?
— Садзі, [Іванька], нямнога,
Табе гасподзь бог намога.
Ой, вокала чужыну,
А пасрадзіне радзіну.
Чужына будзець смяяцца,
Радзіна будзець ўцяшацца.

## 546

А ў нядзельку да сонца,
Стаіць Несцерка ля століка.

І ўмываецца і ўціраецца,
У татачкі пытаецца:

— Скажы, скажы, мой татачка,
Ці вялікую дружынку садзіць?

— Не садзі, сынок, чужыну,
Не гняві сваю радзіну.

Чужына будзе за сталом,
А радзіна будзе за стаўпом.

Чужына будзе мёд-віно піць,
А свая радзіна будзе слёзкі ліць.

## 547

О, мой моцненькі божа,
Сонейка ў абедзе —
Конікі не сядланы,
Дружкі не збіраны.
Аказаўся татулька:
— Не журыся, малойчык,
Я табе падпамагу:
Коні пасядлаю,
Дружкі збяру.

## 548

Пасадзілі дзяцінку
Да пад кутнім аконцам.
Яна сядзіць-пасядае,
На мамачку наракае:

— А мамачка родная,
Няма ў цябе парадачку:
Конікі не сядланыя,
Дружынка не збіраная.

— А дзіцятка мілае,
Не турбуй галовачкі:
Конікі пасядлаюцца,
Дружынка пазбіраецца.

## 549

А конічак на стаенцы застукацеў,
Ванюшанька па сенечках пахадзіў.
Ён свайго бацюхна пабудзіў:
— Устань, устань, бацюхна, годзе спаці,
Пара мяне ў дарожаньку выправаджаці,
Да ў тую дарожаньку шчасную,
Да па тую Алёнку красную.

## 550

Пецечка па сенях пахадзіў,
Ён свайго братачку пабудзіў:
— Уставай, братачка, доўга спіш,
Хаця мне ночачку паслужы,
Хаця мне сваточкаў сабяры,
Хаця мне конікаў запражы.
Запражы конікаў на выезд,
Усадзі сваточкаў, сколькі есць.

## 551

Да хто ў нядзельку рана ўстаў,
Па новых сенях пахадзіў,
Залатым ключыкам пазваніў
Да сваю матульку пабудзіў?

— Да ўстань, матулька, да не спі,
Пазбірай маю ўсю дружынку:
Пазбірай мужыкоў-ігракоў,
Пазбірай дзевачак-спявачак,
Пазбірай жаночак-звоначак,
Да няхай мужыкі зайграюць,
Да няхай дзевачкі запяюць,
Да няхай жаночкі зазвоняць,
Да няхай сэрданька разжаляць,
Няхай малада дзяўчынка заплача.

## 552

Конічак падкоўкай пазваніў,
Малойчык па сенцах пахадзіў,
Ен свайго брацейку пабудзіў:
— Уставай, брацейка, досыць спаць,
Памажы дружынку сабіраць.
Памажы дружынку сабіраць,
Памажы конікаў асядлаць.
Дайце мне музыку-іграку,
Дайце мне свашачку-пяюху.
Музыка прыдзе — зайграе,
Свашачка прыдзе — запяе.
Свашачка прыдзе — запяе,
Геленку да жалю давядзе.

## 553

Не конь капытом пазваніў,
То Іванка па сенях пахадзіў,
Сваго бацcraзеньку прабудзіў
І так яму гаварыў:
— Ўстань, баценьку, доўга спіш,
Мяне ў дарогу не радзіш.
— Ой, ты, мой сынку-казачку,
Выбірай сваньку-спявачку,
І старасту старога,
І надружка ўмнога,
Штобысь не меў сарама,
Бо там чужа старана.

## 554

Конь капытом пазваніў,
Князь па сенях пахадзіў,
Свайго бацюхну пабудзіў:
— Устань, бацюхна, не ляжы,
Збірай бяседу да й вадзі:
Садзі старасту мавісту,
Дружку рачысту,
Сваткі пеўчыя,
А музыкі галасістыя.
Там чужа старана́,
Не дастаць бы нам сарама́.

## 555

Пятрушка па сянёх хадзіў,
Свайго бацюшку папрасіў:
— Стань-ка, бацюшка, ачніся,
Сабірай мяне ў дарогу,
Дай мне конікаў у падмогу,
Дай мне скакунцоў маладых,
Дай мне свашак-пявунняў.
Скакунцы-маладцы — братцы мае,
Пявунні-свашачкі — сястрыцы.

## 556

Да не конь капытцам пабрадзіў —
Жанішок па сенях пахадзіў,
Свайго баценьку прабудзіў:
— Устань, баценька, не ляжы,
Па маёй радзіне прабяжы,
Да бяры ж музыкі-рэзаты,
Збірай свашкі-спявашкі,
Да бяры дружчатка-скакунца,
Штоб мы дзе сталі — зайгралі,
Штоб мы дзе селі — запелі,
Бо там чужая старана,
Штоб не было сарама.

## 557

То не конь капыцечкам пазваніў,
Маладзенькі там Іванка па сенечках пахадзіў,
Ён свога бацюхна папрасіў:
— Устань, бацюхна, годзе спаць,
Час-пара мяне, маладога, ўпраўляць.
Садзі сватове-гардове,
Да садзі музыкі-разакі,
Да садзі маршалкі-гукуны,
Да садзі свашачкі пышныя,
Штоб пелі песенькі слышныя,
Бо там чужая старана,
Штоб нам не дайці сарама.

## 558

А не конь капытом зазваніў, *
Іванька па двару пахадзіў,
Ён свайго татухну пабудзіў:
— А ўстань, татачка, не ляжы,
Ты ж сваё вяселле садружы,
Сабірай музыкаў-ігранцоў,
Сабірай малайцоў-скакунцоў,
Сабірай свашачак-пяюнняў.
Ой, то ж чужая старана,
Каб нам не было сарама,
Каб полем ехаць — не стаяць,
А ў сяло ўехаць — не драмаць,
На двор уз'ехаць — не маўчаць.
Хоць там чужая старана,
Да не будзець жа нам сарама.

## 559

Ванечка па сенях пахадзіў,
Ён свайго татачку пабудзіў:

— Ды чаму ж ты, татачка, позна спіш,
Ды чаму ж ты рады не радзіш?

* Кожны радок паўтараецца.

Ды чаму ж ты рады не радзіш,
Ды чаму ж ты сватоў не садзіш?

Садзі музыкаў-ігракоў,
Садзі сваццечак-дзевачак.

Каб мы, дзе сталі,— зайгралі,
Каб мы, дзе селі,— запелі.

Каб нам не было сорамна
Вывесці Манечку з церама.

З таго церама новага,
Ад свайго татачкі роднага.

### 560

Шахуйцеся-рахуйцеся, сваточкі,
Запрагайце маляваныя вазочкі,
Выбірайце сабе конікаў вараных,
Выбірайце сабе свашачкаў маладых.
Выбірайце сабе скрыпачку-ігруллю,
Выбірайце сабе свацейку-пяюллю.
Каб мы, дзе селі,— запелі,
Каб мы, дзе сталі,— зайгралі,
Каб нашы конікі заржалі,
Каб нам не было сорама
Вывесці дзевачку з церама.
З таго церама новага,
Ад яе татачкі роднага.

### 561

Не конь капытом пазваніў,
Хлопчычак па сенях пахадзіў,
Ён сваю мамачку й разбудзіў:
— Уставай, мамачка, да ўжо свет,
Да паймай музыкаў і разакоў,
Да садзі сваццяйкаў і спевакоў,
Каб не было сорама
Вывозіць дзевачку з церама.
А каб, дзе сталі,— й загралі,

Ой, каб, дзе селі,— і запелі.
Ой, із якога церама —
Да із новае хатачкі,
Ад яе роднае мамачкі.

## 562

А не конь капытом зямлю б'е —
Сужанька па сенях пахадзіў,
Свайго бацечку пабудзіў:
— Устань, бацюхна, доўга спіш,
А ўжо на дварэ не рана,
Яшчэ наша дружына не збірана.
— А збірай, сыночак, дружыну,
А садзі музычкаў-разачкаў,
А садзі свашак пяўчыстых.
Ой, там чужая старана,
Каб нам не было сарамá.
Каб мы, дзе сталі,— зайгралі,
Каб мы, дзе селі,— запелі.
Там тваёй дзевачкі род-племя́,
Каб нам не было сарамá.
— Не бойся, бацюшка, не бойся,
Выдзе мая дзевачка з церамá,
А выведзе нас з сарамá.

## 563

Ды не конь капытком пазваніў —
Ды хлопчык па двару пахадзіў.
Ды хлопчык па двару пахадзіў,
Ды свайго бацюхну пабудзіў:
— Устань, бацюхна, годзе спаць,
Ды пара музыкі нанімаць.
Ды пара музыкі нанімаць,
Ды пара сватове выпраўляць.
Ды бяры музыкі-рызыкі,
Ды бяры свахначкі пеўчыя.
Каб мы, дзе сталі,— зайгралі,
Каб мы, дзе селі,— запелі.
Бо там чужая старана,
Каб мы не дайшлі сарама.
Бо там жа чужыя людзі,
Каб мы не дайшлі агуды.

## 564

— Жаніся, жаніхна, жаніся,
Выбірай старосты пышныя,
Наймай маршалкі-казакі,
Наймай музыкі-разáкі
І садзі свашанькі-спявахі.
Бо паедземо пад Люблін,
Будземо ехаці сорак міль,
Штоб, як дзе сталі,— загралі,
А як дзе селі,— запелі.

## 565

А ці конь капытом зазваніў —
Сяргейка па сянёх пахадзіў
Ды сваю матульку пабудзіў:
— Устань, мая матулька, ачхніся,
На ж табе вадзіцы, умыйся,
На ж табе ручнічок, ўватрыся,
На ж табе яблычка, пахмяліся.
Сабірай, матулька, дружыну
Ды ўсё родную радзіну,
Ды дванаццаць каней верхавых,
Ды восем каней вазкавых,
Ды два музыкі ігрыстых,
Ды два маршалкі мавістых,
Ды тры сваццейкі-пяюнні.
Паедзем, матулька, у чужую сторану,
Каб нам не было сораму.

## 566

Ці не конь капытом зазваніў — *
Генечка па двару пахадзіў,
Ён сваю матульку пабудзіў:
— Уставай, матулька, досыць спаць,
Пара мяне ў дарожку выпраўляць.
Выпраўляй скрыпачку-ігруллю,
Выпраўляй сваціцу-пяюллю.
А каб і скрыпачка іграла,

* Кожны радок паўтараецца.

Каб мая сваціца пяяла,
Каб мае конікі не сталі,
Каб мае сваточкі не спалі.

## 567

Да не нудзі, малады횟Яначка, не нудзі,
Ідзі ў каморку роднага татачка пабудзі.

— Устань, устань, мой татачка, досыць спаць,
Дапамажы мне дружыначку ўсю сабраць.

Трэба дзесяць конікаў вараных
Да трэба дзесяць малайцоў удалых.

Трэба восем дзевачак маладых
Да шчэ трэба пяць музыкантаў вясёлых.

Я паеду ў чужую зямлю ваяваць
Да там буду з сабой Галечку забіраць.

## 568

Не арол пад сені падляцеў —
Ванька па сенях пахадзіў,
Свайго бацюшку пабудзіў:
— Устань, мой бацюшка, прачніся.
Устань, мой бацюшка, прачніся,
Саражай мяне ў дарогу.
О, дай мне людзей ў падмогу,
Дай мне малайцоў-скакунцоў,
Дай мне свашачак-пявунняў,
Дай мне скрыпіцы-ігрыцы.
Мы станем палком пад дварком,
Мы праб'ём сцяну камянну,
Вазьмём Праскуту маладу.

## 569

Да не конь капытцом пазваніў —
Януська па двару пахадзіў,
Сваго бацюхна пабудзіў:

— Устань, бацюхна, не ляжы,
Збірай збор на свой двор
Да садзі дружыну на прыбор:
Да садзі сватове-панове,
Да садзі старастаў-мавістаў,
Да садзі свашачкі-спява́шкі,
Да садзі музыкі-іграчы́,
Да садзі маршалкі-скакунцы́,
Запрагай конікі-бегунцы́.
Шчоб мы, дзе сталі,— зайгралі,
Шчоб мы, дзе селі,— запелі,
Бо там чужая старана,
Штоб не было нам сарама.

## 570

Да не конь капытом пазваніў —
Андрэйка па сянёх пахадзіў,
Роднага брацятку пабудзіў:
— А ўстань, брацятка родненькі,
Выбірай конікаў ўпарыстых,
Выбірай сваточкаў мовістых,
Выбірай дудачку-ігруллю,
Выбірай свацiцу не гуллю.
Ды й там чужая старана,
Каб нам не было сарама́.
Іграй, дудачка, з сёл да сёл,
Каб мой брацятка быў вясёл.

## 571

Ай, ночы, ночы, сабірайцеся, сваточкі, *
Вы ж запрагайце маляваныя вазочкі,
Вы ж запрагайце вараных каней рысістых,
Вы ж выбірайце маладых сваццей фарсістых,
Каб вашы звонка скрыпачкі ігралі,
Каб нашы добра сваціцы пялі.
І-х!..

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 572

— Ну-тка ты, Колечка, не сядзі,
А сваю мамачку пабудзі.
Колечка па сенях пахадзіў,
Ён сваю мамачку пабудзіў:
— А ўставай, мамачка, даўно спіш.
А не тая пара, што спаці,
А тая пара, што ўстаці,
А пара радзіну сабіраці.
Трэба ў дарогу адпраўляцца.
— Едзь жа ты, Колечка, не баўся,
Ужо ж твой сцятачка прыбраўся,
Цісовы столікі засланы,
Любыя госцейкі зазваны,
Залатыя кубачкі наліты,
Без цябе, маладога, не піты.

## 573

Устаў раненька малады Васілька,
Па сенях пахадзіў,
Сваю мамку пабудзіў:
— Ўставай, мамка, не ляжы,
Ты мне гэту ночачку паслужы.
Наймай музыкі рэзкія,
Заві свахначкі пышныя,
Каб пелі мне песні чэсныя,
Каб не было нам сарама.
А не будзе сарама, хоць да караля.
Калі наш Васілька, як паняня,
Перад кролем стаў, шапку зняў,
Кроль яму коніка дараваў,
Каб ён, малады, войска зняў.
— Кролю, кролю, бацька мой,
Мне гэтага войска не зняці,
А трэба мне Параску ўзяці.

## 574

Ну-ка, ну-ка, мае любыя сваточкі,
Запрагайце маляваныя вазочкі,
Выбірайце сабе конікаў наравістых,

Выбірайце сабе свашачкаў хварсістых.
Паедзем у тое сяло, дзе мёд п'юць,
Пойдзем у тую хату, дзе нас ждуць.
Татулька стары каля стала стаіць —
Усё нас жджэць.
Матулька старая ля печы стаіць —
Усё нас жджэць.
Маладая дзевачка у вакно глядзіць —
Усё нас жджэць.

### 575

Выбірайцеся, выбірайцеся, сваточкі,
Запрагайце маляваныя вазочкі
Ды бярыце тую скрыпачку-ігрушку,
Ды бярыце тую дзевачку-пяюшку.

### 576

Конічак па стаенцы патрапіў,
Іванечка па сенечках пахадзіў,
Ды стаў сваю маманьку будзіці:
— Ды й уставай, маманька, доўга спіш,
Чым ты мяне маладога ўрадзіш?
— Я ж цябе, сыночку,ураджу,
Чорную шубаньку налажу.
Чорную шубаньку налажу,
Я ж цябе да шлюбу выправаджу.

### 577

Не гуляй, Данілка, не гуляй,
Ты сабе бруснічка выбірай.
Выбірай бруснічка маладога,
Надзявай прыборы красівы,
Будзе табе ў дарозе шчасліва.
Будзе цябе цешчухна сустракаць,
Новыя вароты адчыняць.
Будзе цябе, маладога, пазнаваць,
Цісовыя столікі засцілаць,
Залатыя кубачкі наліваць,
Будзе цябе, маладога, частаваць.

## 578

— Чаго сядзіш, што ты думаеш,
Міколка?

А хто ж з табою ў сватачкі
Паедзе?

— Паедзе са мною родны братачка
З сястрою.

Будуць сядзець за цісовым сталом
За мною.

Будуць піць мёд-гарэлачку
Са мною.

## 579

— Чаго сядзіш, чаго думаеш, Іванка,
Іванка?

Хто за табою ў свашачкі паедзе,
Паедзе?

Сястрыца твая, родная твая не хоча,
Не хоча.

— Ой, выкачу бочку мёдачку, віна дзве,
Віна дзве.

Перапрашу свае сястрыцы к сабе,
К сабе:

— Паедзь, паедзь, мая сястрыца, за мною,
За мною.

І за мною, за дзявоцкаю красою,
Красою.

## 580

— Чаго сядзіш, што думаеш, хлопчычак,
Хто за табою ў сванечках паедзе?
Сястрыца твая, родная твая не хоча.

— Да пускайце мяне, маладога, з застолля,
Да пайду я варанога каня сядлаці,
Да паеду сваю сястрыцу прасіці:

— Паедзь, паедзь, сястрыца мая, за мною,
Да не будзеш, сястрыца мая, у нявазе,
Да будзеш, сястрыца мая, у павазе.

## 581

— Маладзенькі служачка,
Хто з табой старшай сватачкай паедзе?
Сястрыца родная твая не хоча,
Выйдзе на вулку, з хлопцамі рагоча.

— Вылезу я з-за століка
І пайду сваю сястрыцу прасіць:
— Паедзь, паедзь, мая сястрыца, за мною,
Там табе зняважачкі не будзе,
Пасадзяць цябе на куце вышэй мяне.

## 582

— Чаго сядзіш, што ты думаеш, Васілька,
Хто за табою ў сваначках паедзе?
Сястрыца твая, родная твая не хоча.
— Ой, пусціце мяне, маладзенькага, з застолля,
Да пайду я сваёй сястрыцы прасіці:
— Паедзь, паедзь, сястрыца мая, за мною,
Не забудземся узяць каравай з сабою.
Да будуць нас у варотачках стракаці,
Да будуць у нас каравая пытаці.

## 583

Ці не конь капытом пазваніў —
Лёнечка па сянёх пахадзіў,
Ён сваіх сястрыцаў пабудзіў:
— Сястрыцы мае родныя,
Уставайце вы раненька,
Умывайцеся бяленька,

А ўчашыцеся слізенька,
Надзявайцеся сціпненька.
А паедзем жа мы ў чужы край,
А й там чужая старана,
Каб жа нам не было сарамна.

## 584

А на моры белы лебядзёк купаўся,
А ў каморы молад Ванечка ўмываўся:
— Умывайся, мая сястрыца, са мною,
А паедзем ў чужыя людзі з табою.
А паедзем у тое сяло, дзе нас ждуць,
А паедзем у тую хату, дзе мёд п'юць,
А яны нам сваю Ганначку аддадуць.

## 585

Вымываецца белы лебядзёк на моры,
Прыбіраецца молад Віцечка ў каморы:
— Прыбірайся, мая сястрыца, са мною,
Паедзем у чужыя людзі [redacted] табою.
Будзеш мяне, мая сястрыца, навучаць,
Як жа мне сваю Танечку к сабе ўзяць.
— Сядзь, сядзь жа, мой брацейка,
блізенька,
Вазьмі яе за ручачку ціхенька.

## 586

Па цёмным бару кляновы лісток паслаўся, *
Млады Ванечка ў дарожачку сабраўся:
— Сабірайся, мая сястрыца, са мною,
А мы паедзем у чужыя людзі з табою.
А ты ж мяне, мая сястрыца, будзеш вучыць,
А як жа мне сваей цешчаньцы ўгадзіць.
— Пад'едзь, пад'едзь пад ганачак блізенька,
Пакланіся сваей цешчаньцы нізенька.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 587

— Браценька родненькі, сядлай коніка,
Сястрыца родная,канчай хустачку,
Сваценька мілая, завівай кветачку.
— Віла, віла, усе звёздачкі садзіла,
У сярэдзінку заранaчку пусціла,
Штоб майму брацятку відна дарожку свяціла,
Шырокую, далёкую — да цясця,
Вузенькую, блізенькую — да вянца.

## 588

Каб я знала, што я сваццiцай паеду,
Я ж бы сягоння ўсю ночку не спала,
Для брацятка я свечачку сучыла.
— Свяці, зорачка, да канца,
Пакуль я даеду да вянца.

## 589

Каб я знала, каб я ведала ды й тое,
Што за брацяткам, што за сваццiцай паеду,
Устала б я ў нядзельку раненька
Ды прыбрала б сваю долечку бяленька,
Пасадзіла б ля брацяткі блізенька.
Сама пайшла б у парожак глядзеці,
Ці прыгожа майму брацятку сядзеці.

## 590

Каб я знала, што за сваццітку паеду, *
А я б сабрала краўцоў-шаўцоў дадому,
Я б пашыла сабе шубаньку дадолу,
Я б паехала з сваім брацяткам ў дарогу.
Лясамі ехаў, лясы ад яго шумелі,
Лугамі ехаў, лугі ад яго зелянелі,
Садамі ехаў, сады ад яго цвіцелі,
На двор уз'ехаў, людзі ж яго гукалі:
Харошанькі, прыгожанькі Васечка,
Знаць, яго мамка ў нядзельку рана радзіла,
А спарадзіўшы, светлай калінкай амыла.

* Кожны радок паўтараецца.

## 591

А паедзем, мой братачка, з табою,
А паедзем, мой братачка, з табою,
Станем мы ў чыстым полі сцяною.
Праб'ем мы сцяну камяну страхою,
А возьмем мы гэту вумніцу з сабою,
А пусцім мы гэту вумніцу па клеці,
Ці не будзе яна нашага дабра глядзеці,
Ці не будзе яна нашай хаце прыяці.

## 592

Над Няпром і над вольхамі,
Ой, зышло два месяцы,
Ды абое ясненькія.
А ў Януська два дзядзюхны,
Ды абое родненькія;
Ды радзяцца-паражаюцца
За Януськом з сватамі.

Над Няпром да над вольхамі
Да і зышло два месяцы,
Ды абое ясненькія.
А ў Януська два брацейкі,
Ды абодва родненькія;
Да радзяцца-паражаюцца
За Януськом з маршалкамі.

Над Няпром да над вольхамі
Ды зышло дзве зырначкі,
Ды абедзве ясненькія,
А ў Януська дзве сястрыцы,
Ды абедзве родненькія;
Ды радзяцца-паражаюцца
За Януськом з свашачкамі.

## 593

Салавей на вылёце,
Сеў ён на вароцях,
Стаў ён шчабятаці:
— А вы, пташачкі мае,
Сабірайцеся ка мне,

А палецім мы туды —
У шчырыя бары.
Колечка на выездзе,
Сеў ён за столікам,
Стаў ён гаварыці:
— А вы, дзевачкі мае,
Сабірайцеся ка мне,
А паедзем мы туды,
Дзе нас ажыдаюць,
Столікі засцілаюць,
Мёд-віно наліваюць.

## 594

Саколька на вылеце,
Сеў на вароціках,
Крыллейкамі махае,
Пташачак сабірае:
— А пташачкі мае,
Сабірайцеся ка мне,
Палячу я з вамі ў шчырыя бары
На жоўтыя цвяты,
На салодкія мяды.
Васілька на выездзе,
Сеў за сталамі,
Хустачкай махаючы,
Свашачак сабіраючы:
— Сваточкі мае,
Сабірайцеся ка мне,
Я паеду з вамі ў чужыя людзі
Па тую чужаначку,
Па красную дзевачку.

## 595

Саколік на вылёце,
Сядзіць ён на вароцях.
Крыллейкамі махае,
Усіх пташачак збірае:
— А пташачкі вы мае,
Паляцім мы ў шчыры бары,
Там жа нам харашо будзе:

З лісціначкі паіць будуць,
А калінай карміць будуць.
Пецечка на выездзе,
Сядзіць ён за столікам,
Хустачкай махае,
Сваіх свашачак збірае:
— А свашачкі ж вы мае,
А паедзем жа мы ў людзі,
Там жа нам харашо будзе:
Нас вінком паіць будуць,
Мядком карміць будуць.

## 596

Стаіць дуб у гародзе,
Стаіць дуб у гародзе.

Стоючы, скалыхнуўся,
Стоючы, скалыхнуўся.

Стоючы, скалыхнуўся,
На бакі агляннуўся.

Ці ўсё дуб'ё пры мне,
Густое і зялёнае?

Сеў Васечка за столікам,
Сеў Васечка за столікам.

На бакі агляннуўся,
Ці ўся радня села.

Ці ўся радня села,
Блізкая, далёкая.

Блізкая, далёкая
І сястрыца родная?

Сеў брацятка пад рукою,
А сястрыца пад другою.

## 597

Ходзіць, ходзіць наш Іванька па двару
Да збірае маршалачкі па аднаму.
— Збірайцеся, маршалачкі, к абеду,
А паабедаўшы, да да цесця паедам.
А ў цесценька ўсе прыяцелі на двары.
Замкнулася наша Галюхна ў каморы
Да мне кроіць падарачкі шаўковы,
Кланяецца свайму бацэньку ў ногі:
— Не аддай, аддай, бацэньку, ты мяне,
Я пералетую гэта лецечка яшчэ ў цябе.
— Як мне, дочачка, не аддаці,
Прыехалі дарагія госці ўзяці.

## 598

Да зелен баркун зялёненькі ў садку,
Ой, молад Тамаш маладзенькі ў вянку.
Ой, прыбіраўся да да Марылькі ехаць,
Сорак фляжак зялёнага віна выпіваці:
— Ой, збірайцеся, ўсе суседзі, на мой двор,
Штоб вас было сорак і пяць малайцоў.
Свеціць месяц да й свеціць ясна над намі,
Пачувайцеся вараныя конікі пад намі,
Да будзем ехаць да чатыры мілі барамі,
А пятую да зялёнымі мастамі.
Ой, мы станем сваім палком пад тынком,
Будзем біці крамяную сценку тым вянком
Да застанем млоду Марыську за замком.

## 599

Ой, расхадзіўся ясны месячык па небу,
Да збіраючы зорначкі ў грамаду:
— Да збірайцеся, зорначкі, у грамаду.
Да засвецьмо усе разам па небу.

Ой, расхадзіўся малады паночак па роду,
Да збіраючы род пры род к застоллю:
— Ой, збірайцеся, род пры род, к застоллю.
Ой, паедземо к майму цесценьку на вайну.

Ой, паедземо к майму цесценьку на вайну
Да зваюемо ў майго цесценька, што ў даму.
Да мы праб'емо камяну сцяну да замку,
Да мы возьмемо маладу дзеваньку, што ў вянку.

## 600

Расхадзіўся ясны месяц па небу,
Збіраючы ясны зоры ў грамаду:
— Пойдземо да пана-бога на раду.
Будземо бога прасіці,
Жэб нам пазволіў цэлу ноч свяціці.

Расхадзіўся малады Андрусё па дварцах,
Збіраючы сваты-баяры да столу:
— Бо паедземо да цясцёвага двору.
Будземо ехаці чатыры мілі вазамі,
А пятую мілю кованымі санямі.

## 601

Крыкнуў баравік па бару: *
— Сабірайцеся, грыбочкі, на вайну,
Паедзем ваенку ваяваць,
Будзем сураежачак выбіраць.

Крыкнуў Іванька па двару:
— Сабірайцеся, сваточкі, на вайну,
Будзем ваенку ваяваць,
Будзем сабе дзевачак выбіраць.

## 602

Па двару, па двару
Да па ровенкам,
Да па мураве па зялёненькай,
Там Пілiпка ходзіць
А зялёны сад садзіць
Да зялёны арэшнік.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А не ёсць то дубочкі,
А не ёсць то дубочкі —
Маладыя сваточкі.
А не ёсць то бярозкі,
А не ёсць то бярозкі —
Маладыя свáтачкі.

## 603

— Чаму ты, Аўрамка, невясёл,
Чы ў цябе дружына з сямі сёл?
— А ў мяне дружына — радзіна,
А маршалачкі — дзядзечкі,
А намеснічкі — брацеткі,
Няюля — свацюхна-сястрыца.
Іграла дудачка нанята.
— Іграй, мая дудачка, з сяла да сяла,
Каб мая дружына весела была,
Бо там чужая старана,
Не было [redacted] нас сарамá.

## 604

Ды не сядзі, Валодзечка, ды не сядзі, *
А выйдзі ды па падвор'ейку пахадзі.
Ці ўсе твае вараны коні гатовы,
Ці ўсе твае родны брацяткі здаровы?
— А ўсе мае вараны коні гатовы,
А ўсе мае родны брацяткі здаровы.
Мае конікі, як гаголікі на дварэ,
Мае брацеткі, як саколікі ля мяне.
Мае конікі, як гаголікі 'брок ядуць,
Мае брацеткі, як саколікі мядок п'юць.

## 605

— Не сядзі, Ванечка, а ў бяседзе, *
Сабірай свадзебку вясёлую.
— А ўжо мая свадзебка сабраная,
А ўжо мае дружочкі зазваныя,

* Кожны радок паўтараецца.

А ўжо мае сваточкі запрашаныя,
А ўжо мае вазочкі завернутыя,
А ўжо мае конікі запрэжаныя,
Толькі сесці ды паехаць да дзяўчыны.
Пад'ехаў к варотам, стукнуў ботам:
— Ці зусім, дзевачка, сабраная?
— А ўжо цябе, Ванечка, заждалася.
— Добра табе, дзевачка, у свае маткі,
Худа мне, малайцу, у чыстым полі:
Конь копытам дарогу рассякаець,
У вазку палоззе прымярзаець,
Скрыпачкі й дудачкі заклінаюць,
Маладыя сваточкі пець кідаюць.

## 606

А хто ў нас маладзенькі, слаўны пан?
Млоды Колечка — маладзенькі, слаўны пан,
Сабраў сабе дружыначку, як і сам.
Купіў сабе сем конікаў вараных,
Пасадзіў сабе сем сваточкаў маладых.
Наняў сабе скрыпачку-іграчку,
Пасадзіў сабе і свашачку-спявачку.
Даў сватачцы сівога каня падзяржаць,
А сам пайшоў млоду Верачку пабуджаць.
Струкнуў-грукнуў ботам у дзверы:
— Выйдзі, выйдзі, мая Верачка, у сені.
— Пастой, Колечка, пастой, малады, гадзінку,
Пакуль я пасабіраю сваю радзімку.

## 607

Зялёны явор па панадвор'ю сцелецца,
Малады Стасенька ў дарожку строіцца.
І да выбраў ён сабе сваціцу-пяюху,
Да выбраў ён сабе скрыпачку-ігруху,
Выбраў ён сабе сем конікаў вараных,
Выбраў ён сабе шэсць малойчыкаў маладых,
І паехаў ён да Бронічкі ў сваты.
Ехаў ён чатыры мілі барамі,
А пятую зялезнымі мастамі,
А шостую зялёнымі садамі,

А сёмую — к цясцю на двор,
Цясцю ў ногі, а цёшчухна — мёду.
Скоранька з варанога каня садзіцца,
Сваёй цёшчухне ў ногі кланіцца.

## 608

Сеў Васілька за столікам, слічны пан,
Дабраў сабе дружыначку, які сам.
Дабраў сабе сем сваточкаў маладых,
Дабраў сабе і сваціцаў-пяюлляў —
Не стыд будзіць на цясцёў двор уз'ехаць.
Як уз'ехаў на цясцёў падворак —
Даў сваточку свайго коніка падзяржаць,
А сам пайшоў сваю Ніначку намаўляць.
— Ой, абажджы, мой Васільку, гадзіну,
Пакуль збяру я ўсю сваю дружыну,
Пакуль збяру, пасаджаю ля сябе,
Тады выйду, мой Васільку, да цябе.

## 609

Прыбіраўся наш Ігналька жаніцца,
Прыбіраўся не адзін дзень, прыбіраўся сем
нядзель,
Да ўмыўся, да ўбраўся ў адзін дзень.
Умыўшыся, убраўшыся, за стол сеў.
За стол сеўшы, ў роднага таткі спытаўся:
— Ці ўсе мае вараныя коні сядланы,
Ці ўся мая дружыначка сабрана?
Выбраў сабе падмалодага смялнога,
Выбраў сабе ён сваточка вумнога.
Выбраў сабе ён свашачку-пяюшку,
Выбраў сабе ён скрыпачку-ігрушку.
Борам едзець — бор зелянеецъ ад яго,
Лугам едзець — луг палягаець ад яго,
Полем едзець — поле лялеець ад яго,
Садам едзець — сад расцвітаець ад яго.
Ён дваром едзець — двор распіраюць перад ім,
Ён сялом едзець — мужы шапкуюць перад ім.
Бог таму даець, чый то сын едзець жаніцца.

## 610

— Чаго сядзіш, што думаеш, Колечка?
Ці ўся твая дружыначка сабрана,
Ці ўсе твае вараны коні гатовы,
Ці ўсе свае дарожачкі ты знаеш?
— Уся наша дружыначка сабрана,
Усе мае вараны коні гатовы,
Усе свае дарожачкі я знаю
І цяпер я сваю дзевачку узнаю.

## 611

Збіраўся наш Касцюшка сем тыдняў,
Выбраў сабе сем конікаў вараных,
Выбраў сабе сем хлопцаў маладых,
Выбраў сабе і сваценьку-пяюшку,
Выбраў сабе і казакове маладушку.

## 612

Тонка, тонка сасоначка
Ў бары стаяла, шумела.
Увашла ў вароты ды й стала,
Краснага малойца шукала.
Слаўны малойчык Міхаська
Па месяцы каня сядлае,
На зары дружынкі збірае.

## 613

Да стаў сабе Алёшка да ў радок,
Да ў радок.

Клікнуў сваю радзіну і на парадак,
І на парадак:

— Да міла мая ўся радзіна,
І ўся радзіна.

Да датуль конікі ж карміце,
І карміце,

Як не маеце і найміце,
І найміце.

Што са мною ў дарогу ж да паедзьце,
Да паедзьце.

Што ў тую дарогу да бітую,
Да бітую.

Да па тую Танечку запітую,
Запітую.

Да й у тую дарогу крамяністу,
Крамяністу.

Да па тую Танечку наравісту,
Наравісту.

## 614

У нядзелю ў пара́ну
Гукнуў Нікіпарка на параду:
— Парада мая, суседае,

У каго коні — карміце,
А ў каго няма, то найміце,
Мне, маладому, паслужыце.
Маю Гапку прывязіце,
Ей месца ўкажыце
Пад тую горку крутую,
У тую свяцёлку віднýю.
І к той свякрусе, к сакатусе,
І к дзеверам-жаўнерам.
І к тым ятроўкам-саратоўкам,
І [redacted] залвіцам-лебядзіцам.

## 615

Да раду, баяры, да раду,
Да збірайцеся ў грамаду.
Вараныя конікі карміце,
Да ў каго нету — найміце,
Мне маладую прывязіце.
Прывязіце хоць не ў атласе —
У сярмязе.

## 616

Як сеў Іванька за сталом,
Напісаў пісьмо двум братом:
— Цяпер вы мне, братцы, памажыце,
Дванаццаць каней запражыце,
З'ездзіце Манечку прывязіце.
А мая Манечка лягенька:
Дванаццаць коней чуць вязуць,
Каваны калёсы чуць кацюць,
Сырая зямелька чуць дзяржыць.

## 617

Гатуйце коні, гатуйце,
Васільку ў дарогу рыхтуйце.
У каго конь ёсць — карміце,
У каго нету — купіце.
Васільку ў дарогу служыце,

Яму яго дзевачку сышчыце
З высокага церама,
З вялікага племяня.
Высокі церам — святліца,
Вялікае племя — матулька.

## 618

А гадуйце ж каней, гадуйце,
А ў дарожачку гатуйце.
А ў каго конь ёсць — карміце,
А ў каго няма — купіце,
Іваньку ў дарожачку служыце.
Пад маладога — варанога,
Пад маладую — вараную.
Пад нас, сватачак, — ляную,
Каб наш конічак не нёсся,
Каб наш галасочак не тросся.
Нясецца конічак, нясецца,
Трасецца галасок, трасецца.

## 619

Стаіць дубочак, стаіць зялёны,
На Дунай нахіліўся.
Сядзіць Сенечка маладзесенькі,
У дарогу нарадзіўся.

Трымае хустачку ў правай ручаньцы,
Слёзанькі выцірае,
Свайму бацуньку, свайму роднаму
Да ножак прыпадае:

— Выраджай мяне, ты мой бацэнька,
У вяліку дарожаньку.
Дай мне дзевяць коней пад маю дружынаньку,
А дзесятага варанога.

А дзесятага варанога
Пад мяне, маладога,
Адзінаццату жарабіцу
Пад маю маладзіцу.

## 620

Радуйце конікаў, радуйце:
Пад маладога — гнядога,
Пад брата яго — варанога,
А пад свашачак — пляснівых,
Штоб была дарога шчаслівa.
Сам бог дарожку перайшоў
Са прачыстаю святою,
Са нікольскаю свячою.

## 621

Нуце, нуце, раду радуйце,
Штоб было знаці, кім каго зваці,

Дзе дружачкі-маршалачкі,
Дзе свахначкі-спявачачкі.

Да не кладзіце золата на свае жоны,
Да куйце падковы пад вароны коні.

Да будзем ехаці каменным борам,
Будзе бор шумеці, а камень звінеці.

А вы, людзі, не дзівуйце,
Таке дзіцятка сабе згадуйце.

## 622

Разгуляўся конік па шырокім полі,
Да вышаў хлопчычак, да ён засмяяўся:
— Да чаго, мой конік, рана разгуляўся?
Конік бушуе, ён дарожку чуе,
Ён дарожку чуе, дома не начуе.
— Ой, сядзем, паедзем да к цесцю на абед жа,
Да не так на абед жа, як на сняданне,
К маладой дзевачцы да на прывітанне.
Трэба павітаці ды з сабой узяці,
Каб была маладая гаспадыня ў хаце.

## 623

Да выйду я за варота —
Шаўковае балота.
А ў тым балоце
Вараное стада.
У той жа стадзе
Да Іванкаў конік.
Лавілі хлопцы,
Да не ўлавілі,
Толькі майго коніка
Вы мне ўтамілі.
Да вышаў Іванка,
Да абазваўся:
— Чаго ж ты, мой конік,
Так разгуляўся?
А сам цябе спаймаю
Да і асядлаю,
Сяду і паеду
К цешчы к абеду.
Не так к абеду,
Як к сваей цешчухне на пераведу.
Ці жывы-здаровы
Усе ў вас,
А шчэ мая Алёнка
Ці у вас?

## 624

У садзе, садзе
На зялёнай руце,
Там гуляў конік
У шаўковым пуце.

Лавілі малайцы,
Ён ім не даўся.
Прышоў малады хлопчык,
Ён засмяяўся:

— Чаго ж ты, мой конік,
Так разгуляўся?
Я ж цябе паймаю
Ды й засядлаю.

Паедзем, коську,
Ў вяліку дарожку,
К майму цясцятку
Да на пагулянне.

К майму цясцятку
Да на пагулянне,
К маладой дзевачцы
Да й на прывітанне.

## 625

Ой, выйду я за варота,
Зірну-гляну на балот[а],
...лота.
Й а на тым балоце стада коней ходз[іць],
Ходзіць.
Паміж таго стада невучоны конь ходз[іць],
Ходзіць.
Да лавілі, лавілі, дай не спайма[лі],
...малі.
Да прыйшоў Васілька да й рассмяяў[ся],
...яўся.
— Да чаго ж ты, конічак, так і разгуляў[ся]?
...ляўся.
Я ж цябе паймаю, я ж цябе сядла[ю],
...лаю.
Да паеду, паеду к цесценьку к абе[ду],
Абеду,
А к сваей цешчухне на снедайнень[ка],
...ненька,
А к сваей дзевачцы на пагуляйнень[ка].

## 626

За варотамі крута гара,
А на той гары — шаўкова трава,
А на той траве стада коней ходзіць.
Хлопцы лавілі, ды не злавілі,
А Толік прыпаў — коніка паймаў.
Да сеў і паехаў к новаму двару,
К новаму двару, к цесцейку свайму.

А цесцейка кажа:— То сокал ясны.
А дзевачка кажа:— То Толік мой.
Вазьміце каня у стаеньку
Ды дайце каню сена й аброка,
А маладому Толіку — мёду і віна.

## 627

Пад белым бярэзнічкам
Начавалі начлежнічкі.

Начуючы, пагукваюць
І Валодзьку папытваюць:

— Да, Валодзька, наш браце,
Няма твайго каня ў стадзе.

Няма твайго каня ў стадзе
І дзяўчыны ў хаце.

— Не журыцеся, мае браткі,
Да я каня шчэ падлаўлю.

Да я каня шчэ падлаўлю
І дзяўчыну ў бацькі вазьму.

Да пабег мой конічак
Па залаты пярсцёначак

І па белу пярыначку,
Па дзяўчыну-княгінечку.

## 628

З-пад саду,
З-пад вінаграду
Бяжыць конік,
Да не сіў, не палоў.

Да не сіў, не палоў,
Золатам падкован.
Да за ім Ясенька
З залатымі ўхналямі.

Да за ім Ясенька
З залатымі ўхналямі.
Да за ім ойчанька
З вялікімі просьбамі:

— Ясенька-сынку,
Пастой гадзінку,
Да няхай конік
Пайграе, паскача.

Да няхай конік
Пайграе, паскача,
Няхай Марыся
Да па касе паплача.

— Ой, не дам я, не дам
Коніку скакаці.
Не дам, не дам
Маёй Марысі плакаці.

## 629

У садзе, у садзе
Да ў зялёнай руце
Скача конічак
У шаўковым пуце.

Ехаў Язэпка,
Засмяяўся:
— Чаму, мой конічак,
Разгуляўся?

Няхай мой кося
Па расе паскача,
Няхай малада Адоцька
Па касе паплача.

Няхай мой конік
Па расе гарцуе,
Няхай дзевачка
Па касе бядуе.

## 630

Бягіць конічак
Сіў, мал, невялічак.

За ім Піліпка
З каванаю уздою,

А за ім матушка
З вялікаю просьбаю:

— Няхай конічак
Па расе паходзіць,

Няхай Аніська
З маткаю пагаворыць.

— Было гаварыць
Учора звячора.

— Учора звячора
Галаву часала.

А сягоння зрання
Ліцо ўмывала.

## 631

З-пад цёмнага лесу
Туманок выступае.
З-пад таго туманка
Сівы конь выбягае.
На тым кані
Іванка выязджае.
Іванка выязджае,
Коніка напасае.
Няхай жа мой конь
Па расіцы паходзіць,
Няхай жа мая Ганначка
З мамачкай пагаворыць.

## 632

Ой, куры, куры, не пейце рана,
Не пейце рана, не будзіце пана.
Не пейце рана, не будзіце пана,
Наш пан Іван з вайны прыехаў,
Папускаў коней на пастаўніцу.
Хай мае конікі па расе паходзяць,
Хай мая дзевачка мяне пачакае.
Хай мая дзевачка косачку ўчэша,
Хай мая дзевачка слёзачкі паліча.
Хай мае конікі па расе паскачуць,
Хай мая дзевачка па мне паплача.
Хай мае конікі яшчэ пагарцуюць,
Хай мая дзевачка ў мамачкі начуе.

## 633

У нядзелю да параненька
Два конікі да ваду пілі,
Самі з сабой гаварылі:
— Сягоння паша наша,
А заўтра ў дарожку
З сенатарскага двара,
Па сенатарскае дзіця.
Чым яна да сенатарачка?
Русая каса да да паяса,
Сукенка да да расіцы,
А расіца да да соўнейка.

## 634

Да ў нядзельку рана
Два конікі да воду пілі,
Самі сабе гаварылі:
— Сягоння да наша паша,
А ў заўтра да ў дарожаньку
Да каралеўнага двара,
Па пакорнае дзіця.
Чаму ж яно пакорнае,
Чаму ж яно спакойнае?
Русая каса да да пояса,
Сукенка да дадольная,
Тым яно супакойнае.

## 635

Із суботы ды на нядзелю
Там конікі да воду пілі,
Самі з сабою да гаварылі:
— Сягоннячы да суботанька,
А ў заўтра ды нядзеленька,
Паспела нам дарожанька
Да з унеральскага двара,
Па каралеўскае дзіця.
Каралеўскага дзіцяці так не ўзяці,
Без мёду саладзенька,
Без віна зеляненька.

## 636

Два кані ваду пілі
Да, піўшы, гаварылі:
— Сягоння паша наша,
А заўтра дарожачка
На ружнэ краіны
Да млодай дзяўчыны
Па зялёную скрыню,
Па тонкія падарачкі,
Па доўгія паясочкі.

## 637

У новым калодзежы
Тры кані ваду пілі.
Тры кані ваду пілі,
П'ючы, гаварылі.
П'ючы, гаварылі:
— Сягоння наша паша,
А заўтра на Украіну.
А заўтра на Украіну
Па скрыні, па пярыну,
Па мёд, па гарэлку.
Не па мёд, не па гарэлку,
А па красную дзеўку.

## 638

Пад чырвонай калінай
Бегла коней чатыры.
Бягучы, гаварылі:
— Сягоння паша наша,
А заўтра ў дарожачку
Па маладую малодачку,
Па маладую дзяўчыну,
Па залацістую скрыню.
Скрыня мая з талярамі,
А дзяўчына з наравамі.
Таму скрыню адмыкаць будзем,
А дзяўчыну навучаць будзем.

## 639

Ды ў вінным калодзезі
Два кані ваду пілі,
Піючы, гаварылі:
— Сягоння наша паша,
Заўтра рана дарожачка,
Бітая, таптаная,
Дзе наша каханая.
Ды паедзем, паедзем
Ды на Русь, на Украіну
Па маладую дзяўчыну.
Там жа нам добра будзе,
Ля коней аброк будзе,
А для нас чэсць будзе.
Чэсць будзе — гарэлачка,
Дар будзе — паненачка.

## 640

А на ціхім Дунаі
Два кані ваду пілі.
Два кані ваду пілі,
Ды, п'ючы, гаварылі:
— Сягоння паша наша,
А заўтра дарожанька.
Паедзем на Ўскраіну

Па зялёную скрыню.
Па зялёную скрыню,
Маладую дзяўчыну.
— А ляціце, конікі,
Да з гары на даліну.
Да з гары на даліну,
Не ўдарцеся ў каліну.
Не ўдарцеся ў каліну,
Не здрыгніце дзяўчыну.
Дзяўчына ў жалобе
Да па русай касіцы.
Да па русай касіцы,
Па шаўковым заплёце,
Па шаўковым заплёце,
Па дзявоцкім залёце.

## 641

І да на моры, на моры,
На сіненькім возеры,
Два кані ваду пілі,
А п'ючы, гаварылі:
— Сягоння паша наша,
А заўтра дарожачка.
А заўтра дарожачка,
Цяжкая павозачка.
Паедзець каралевіч
Да на Русь ваяваць.
Да на Русь ваяваць,
У пушчу паляваць.
Увідзеў каралевіч
Падалянку на ганку:
— Падаляначка мая,
Да ці будзеш ты мая?

## 642

Да чые ж бы то конікі
У золата плота стаялі?
І вады не п'юць, бялкамі б'юць,
Бо дарожаньку чуюць.

643

Ой, стукнулі коні,
Забрашчалі падковы.
Чуюць сабе дарожаньку
Шырокую да далёкую.

644

А стук, стук па сенях,
А стук, стук па новых.
— А хто там ходзя?
А каго ён водзя?
— А братачка ходзя,
А братачку ён водзя.
— А ўстань, братачка родны,
Асядлай мне каня варанога,
Паедзь, братка, у доўгу дарогу.
У доўгу дарогу, у чужы людзі,
А ў чужыя людзі, к майму цясцятку.
У майго цясцяткі трое варот.
У первыя вароты — сонейка грэя,
У другія вароты — месячык свеця,
А ў трэці варота — суджаны уз'едзя.
Месячык свеця — відненька будзя,
Сонейка грэя — цёпленька будзя,
Суджаны уз'едзя — ціха не будзя:
Скрыпачкі заграюць, сваццi запяюць,
А дзевачка ў каморы заплача.

645

Сыпце пшаніцу ў новае карыта,
Карміце коні ў вялікую дарогу.
Да паедзе хлопчык сабе долі шукаці,
Да просіць бацьку каней закладаці:
— Да няхай мой конік на двары пастаіць,
Пакуль мой бацька мяне паблагаславіць.

## 646

Сыпце пшаніцу ў новыя карыты,
Карміце коні ў вялікую дарогу,
Бо мы будзем ехаць і полем і борам,
Да борам-карэннем, а полем-каменнем.
Бор будзе шумець, а камень звінець,
Бо мы будзем ехаць праз тры вароты.
Першыя вароты, што месяц узойдзе,
Другія вароты, што сонейка прыгрэе,
Трэція вароты, што малады ўз'едзе.
Месячык узойдзе — відненька будзе,
Сонейка прыгрэе — цёпленька будзе,
Мілы прыедзе — добранька будзе.

## 647

Насыпайце аўса ў новае карыта,
Карміце каня ў вялікую дарогу.
А на той дарозе агародзец трое,
А ў тым агародзе вароцец трое,
А ў тых вароцечках ды дзвярэй трое.
А ў адные вароцечкі месячык засвеціць,
А ў другія — сонейка засвеціць,
А ў трэція — Сцяпанка ўз'едзе.
Месячык засвеціць — відненька будзе,
А сонейка ўзойдзе — цёпленька будзе,
А Сцяпанка ўз'едзе — вяселенька будзе.

## 648

Да сячыце-рубайце да новае кары[та],
...рыта.
Сыпце пшаніцу у новае кары[та],
...рыта.
Карміце коні у вялікую даро[гу],
...рогу.
Бо едзе Іванька да новага ро[ду],
Роду.
А у новага роду трое варот нов[ых],
Новых.
Першыя вароты, што сонейка ўзойд[зе],

Узойдзе.
Другія вароты — месячык засвец[іць],
Свеціць.
Трэція вароты, што Іванька уз'ед[зе],
Уз'едзе.
Ой, сонейка узойдзе — цёпленька буд[зе],
Будзе.
Месячык засвеціць — відненька буд[зе],
Будзе.
А Іванька уз'едзе — весяленька буд[зе].

## 649

Сыпце пшаніцу ў новыя карыты, *
Карміце коней у далёкую дарогу.
У далёкую дарогу да гарадзечка,
А ў гарадзечку трое вароцечак.
У першых варотах месячык свеціць,
У другіх варотах сонейка грэе,
У трэціх варотах Іванька едзе.
Едзе Іванька із дружынаю,
У цесця на дварэ астанавіўся,
У цесця на дварэ з цесцям гаворыць:
— Ой, цесцю, цесцю, што двор не весел?
Як я прыехаў, весяленька стала.
Стаяць дзевачкі а ў тры радочкі,
Адна хараша, друга хараша,
Мая Стасечка усіх найхарошша.

## 650

Сыпце пшаніцу ў новыя карыты,
Ой, сыпце пшаніцу.

Да й карміце коні ў вяліку дарогу,
Да й карміце коні.

У вялікай дарозе трое вароцец,
Ой, трое вароцец.

---

* Кожны радок паўтараецца.

У адных варотцах месячык свеціць,
Ой, да месячык свеціць.

У другіх варотцах сонейка грэе,
Ой, да сонейка грэе.

У трэціх варотцах жанішок едзе,
Ой, да жанішок едзе.

Ой, месячык свеціць, відненька будзе,
Відненька будзе.

Сонейка грэе, цёпленька будзе,
Цёпленька будзе.

А жанішок едзе, вяселлейка будзе,
Вясселейка будзе.

## 651

Сыпце пшаніцу ў новае карыта,
Карміце коні ў вяліку дарогу.
У вяліку дарогу, у зялёну дуброву,
А ў той дуброве стаіць горад новы,
А ў тым горадзе трое варот новых.
У першых варотах сонейка грэе,
У другіх варотах месячык свеціць,
У трэціх варотах жанішок ідзе.
Месячык свеціць — відненька будзе,
Сонейка грэе — цёпленька будзе,
Жанішок едзе —вяселенька будзе.

## 652

Хадзіла варона каля возера крычучы,
Хадзіў Грыша каля коніка плачучы.
— На каго ты, молад Грыша, жаль маеш?
— Я жаль маю на роднага татку свайго,
Што не напаіў варанога каня ўчора,
Не паклаў мурагу-сена ў павозку,
Не выправіў мяне, маладога, у дарожку.

653

Жанішок сена косіць,
Да стаенкі носіць:
— Ешце, конікі мае,
Но бо паедзем на вайну.
Будзем цесця ваяваці,
Сабе дзеваньку браці.

654

Да Іванечка койла косіць
Да ў стаеньку й носіць,
Да конічанькаў просіць:
— Ешце, канічанькі, койла,
Бо ў дарожаньку пайдземо,
У дарожаньку шчасну
Да па мілую красну,
У дарогу камяную
Па мілую маладую.

655

За ціхім Дунаем
Жанішка сена косіць,
Цераз Дунай-рэчку носіць.
Ён у яселькі кладзе,
Конікам есці дае:
— Ешце, конікі, сена,
Каб жа вы дужы былі,
Цераз Дунай-рэчку плылі,
Вялікія вазы везлі.
Везлі скрыню, пярыню,
Маладую княгіню.

656

За белым бярэзнікам
Нічыпар пойму косіць
Да ў стогеньку носіць,
Да канька ён корміць:

— Пойдзем ў дарогу пабітую
Па Гапачку запітую,
У дарогу у шчасну
Да па Гапку красну.

## 657

За гумном, за новенькім
Цвіце рамонак зеляненькі.
Там маладзенькі да каня пасе,
На коніка выражаецца,
У дарожку выбіраецца.

## 658

Ой, у бору, бору пад сасною,
Пад беленькаю бярозаю,
Аж там жаніхна каня пасе
І з канём размаўляе:
— Ой, коню, коню вараненькі,
Не маю слугі вярненькае.
Некаму даці цесцю знаці,
Ці ўжо дзеванька нараджона,
Ці на пасад да й пасаджона.
Ой, вяселле ж, маё вяселле
Звесяліла ж яно два двары.
Ой, адзін жа дварэц баценькаў,
А другі дварэц свякроўкаў.

## 659

З віднóга калодзежа
Усе сваты ды коні поюць.
Коля свайго не поіць,
Бо з конікам ён гаворыць:
— Ой, конічак мой вараненькі,
Ды не пі ты вады дома,
Ды напійся ў цесця на двары.
— У цесця вада ды паганая,
У цесця Каця нехарошая.
— У цесця вада ды крынічная,
Мая Каця сімпатычная.

## 660

З-пад дуба, з-пад кораня,
Там вада ручаём цячэ.

Там вада ручаём цячэ,
Там хлопчанька каня поіць.

Там хлопчанька каня поіць,
Конь яго вады не п'е.

Конь яго вады не п'е,
Ён яго ў галованьку б'е.

— Не бі мяне ў галованьку,
Бяры мяне за грыванньку.

Вядзі мяне памаленьку,
Да вядзі мяне да цесця.

Цесць будзе нас вітаці,
А мы будзем прыступаці,

Каб віна не разліці,
Каб цесця не ўгнявіці.

Выльема — не падыймема,
А ўгневіма — не ўпросіма.

## 661

З-пад крыніцы да вада цячэ халодная,
Конь тае да вады не п'е,
Сідорка маладзенькі ў галоўку б'е.
— Сідорка маладзенькі,
Не бі мяне ў галованьку:
Буду табе ў адгоданьцы,
У вялікай дарожаньцы.
Будзе цябе цесць вітаць,
То я буду прыступаць.
Каб кубка не схіліць
І віна не разліць,
А цясця не ўгнявіць.

## 662

Ля новага калодзезя Лёнечка каня паіў,*
Лёнечка каня паіў, конь яго вады не піў.
Конь яго вады не піў, ён яго ў галоўку біў.
— Лёнечка маладзенькі, не бі мяне ў галовачку,
Я табе знадоблюся, як будзеш цешчу вітаць.
Як будзеш цешчу віцаць, я буду ціха стаяць.
Я буду ціха стаяць, хвосцікам не махну,
Галоўкай не крану, чаркі не разлію.

## 663

Для новага калодзезя
Іванька каня поіць.
Ён у яго вады не п'ець,
Ён яму галоўку гнець.
— Іванька, дзіцятачка,
Не гні маю галовачку,
Я табе спадаблюся:
Як будзеш ■ цесцю ехаць,
Сакалом на двор ўзляту.
Як будзе цешча вітаць,
Буду ціханька стаяць,
Каб кубачкі не пабіці,
Мёду-віна не разліці.

## 664

У вінном калодзезі
Васілька каня пое.
Конь таей вады не п'е,
А ён яго па галоўцы б'е.
— Васілька-панічыку,
Не бі мяне па галоўцы,
Ды гладзь мяне па грываньцы.
Я табе буду ў адгадуньцы.
Як паедзем да цешчы,
Дык будзе цябе цешча вітаць.
Я табе буду ціха стаяць,

* Кожны радок паўтараецца.

Каб ні ножкай не тупнуць,
Ні галоўкай не скіўнуць,
Каб віна не разліці
І кубачкаў не пабіці,
Каб цешчы не ўгнявіці
І паненкі не разжаліці.

### 665

Між гор, між даліны,
Туды цяклі ручаіны,
Там Генечка каня паіў.
Той конь сапе, храпе
І тае вады не п'е,
А ён яго па галоўцы б'е.
— Не бі мяне па галовачцы,
Шануй мяне ў дамовачцы,
А я цябе — у дарожачцы.
Будзе цешча вітаці,
Буду ціха стаяці,
Каб воза не скрануці,
Каб вінца не разліці,
Каб кубачка не разбіці.

### 666

З-пад дуба, з-пад кораня
Вадзічка ручаём бяжыць,
Там Валера каня поіць.
Конь вады не п'ець,
Ён яго па галоўцы б'ець.
— Не бі мяне па галованьцы,
Я буду табе ў прыгоданьцы,
Як уз'едзеш на цесцеў двор.
Як уз'едзеш на цесцеў двор,
Я буду наравіці,
Каб кубка не разліці,
Маладую не абліці.

## 667

На дварэ ды ручай цячэ,
За варотамі ручаінка ідзе,
Там Лёнечка да каня поіць.
Конь тае вады не п'е,
Ён яго па галоўцы б'е.
— Хлопчычак-чалядзіначка,
Не бей мяне па галовачцы,
Шануй мяне ў дамовачцы,
А я цябе ў дарожачцы,
Каб воза не шыбнуці,
Каб віно не праліці,
Каб цешчы не ўгнявіці.
Каб на табе шубка ззяла,
Каб цябе цешча пазнала
Да і любым зяцем назвала.

## 668

На дварэ ды калодзезі,
А ў тых калодзезях ды вады няма.
Там Пятруська ды й каня паіў,
Конь яго ды й вады не піў,
Ён яго ды па галованьцы біў.
— Не бі мяне, Пятруська, ды па
галованьцы,
Я ж табе буду ў адгоданьцы.
Як ты будзеш жаніціся,
Я ж табе буду мёд-віно везці,
Пад гору ды памаленьку,
А з гары ды паціхеньку,
Каб мёду-віна не разліці,
Маладога Пятруську не ўгнявіці.

## 669

А ў нядзельку рана
Васечка каня поіць.
Конь вады не п'ецъ,
Васечка па галоўцы б'ецъ.
— Васечка, мой родненькі,

Не бі мяне па галовачцы,
Не бі мяне па галовачцы,
Шануй мяне ў дамовачцы,
А я цябе — у дарожачцы.
Як будзе цешча вітаць,
Я ж буду ціха стаяць,
Каб галоўка не схілілася,
Каб чарачка не разбілася.
Каб чарачкі не разбіці,
Мёду-віна не праліці.
Мёду-віна не праліці,
Каб цешчу не ўгнявіці.

### 670

Па бруку, па каменнях
Быстра рэчка цячэ,
Мішачка да Манечкі
Да мячом сячэ.
Кубачкам да віно бярэ,
Ён свайму да каню дае.
Конь яго да віна не п'е,
Ён яго да ў галоўку б'е.
— Мішачка мілюсенькі,
Не бі мяне ў галаваньку,
Скажу табе ўсю праўданьку:
Будзем ехаці на цесцяў двор,
Цесць будзе ў полі вітаць,
А мы будзем хораша ступаць,
Каб вінца не разліць,
Цесцейкі не ўгнявіць.

### 671

А ў нядзельку рана
Поп у цэркаўку звоніць.

Поп у цэркаўку звоніць,
Валодзічак да каня поіць.

Конь яго да вады не п'е,
Ён яго ў галоўку б'е.

— Не бі мяне ў галовачку,
Буду табе ў прыгодачку.

Як будзеш к цесцю ехаць,
Буду памаленьку ступаці.

Буду памаленьку ступаці,
Каб кубкаў не пабіці.

Каб кубкаў не пабіці,
Каб віна-мёду не разліці.

## 672

Сівы конь да вады не п'е,
Жанішок па галоўцы б'е.
— Ой, не бі ж мяне па галованьцы,
Буду табе ў прыгоданьцы,
Як будуць страляці-цаляці
Яблычкам у акенечка,
Чы не выйдзе цешчанька,
Чы не выйдзе дзеванька?
— І сама ж я не выйду,
І дзеванькі не вышлю,
Вышлю я перапёлачку,
Перапёлачку на юшачку,
Пер'ечка на падушачку.
А на той жа да падушачцы
Да сядзіць дзве душачкі.
А адна душка — жанішок,
А другая — дзеванька.

## 673

З Вільні ручэй цячэ,
Там Ясенька мячом сячэ,
Кубачкамі віно чэрпае,
Свайго коніка поіць.
А той конік вінца не п'е,
А ён яго ў галоўку б'е.
— Ой, панічу-каролiку,
Не бі мяне ў галованьку,

Я табе наравіць буду:
Праз тын пераскочу,
Чацвертае частаколле
Да цесцяткі на падвор'е.

## 674

Ой, з-пад саду-вінаграду,
Там вінны ручай цячэ,
Малойчык мячом сячэ,
Мячом сячэ, каня поіць,
Каня поіць, з ім гаворыць.
Яго конік віна не п'е,
А ён яго па галоўцы б'е.
— Малады малойчычак,
Не бі мяне па галовачцы,
А бі мяне па ножачках —
А я ж цябе узвялічу:
Праз тры тыны пераскочу,
Праз чацвёртае частаколле
Да дзевачкі на падвор'е.

## 675

За гарой, за камяной
Біў, казніў Якушка каня варанога.
Як стаў жа конь вараны гаварыць:
— За што, Якушка, ты б'еш, казніш?
А я табе ў ставанькі прыгажуся,
Капытом ўвесь двор саб'ю,
Хвастом ўвесь двор змяту,
Грывай ўвесь двор усцялю,
Тваю Варутуньку са двара звязу.

## 676

Пад кім, пад кім вараны конік гаворыць?
Пад Антосікам, як салавейка, шчабечыць:
— Не бі мяне, Антоська, па галоўцы.
Я ж табе надобен буду ў дарожцы.
Я ж цябе перад цесціткам узвялічу,

Я цясцёву вулку хвосцікам вымету,
Я цясцёвы вароцікі ножкамі адчыню,
Я цясцёў дварочак капыточкамі ўтапчу,
Я вушкамі далёка войска пачую,
Я вочкамі на небе зоркі палічу,
Я цясцёў ганачак грыўкай накрыю,
Бокам пад ваконца падыйду,
Я губкамі кубачкі віна перайму,
Я сілкай тваю дружынку павязу.

## 677

Стучыць-гручыць у стаенцы
Раненька.
Мы думалі, піўныя бочкі качаюць
Раненька.
Ажно моладзец добра каня абучаець
Раненька.
Каня абучаець, з канём гукаець
Раненька.
— Не бі мяне, шануй мяне
Ў дамочку,
А я цябе на цясцёвым
Дварочку.
Я капытком цясцёў ганачак
Папішу,
Я грыўкаю падстрэшшайка
Абатру,
Я табе, маладзенькаму, угаджу,
Угаджу.

## 678

Стучыць-гручыць у Колечкі пад акном.*
Мы думалі, вінныя бочачкі качаюць,
Ажно Колечка свайго коніка абучаець.
— Не бі мяне, шануй мяне, Колечка,
А й я табе на цясцёвым дварку дам слаўку.
Я й капыткамі цясцёў ганачак падаб'ю,
Я й грывачкай цясцёву стрэшку пакрыю,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Я й хвосцікам цясцёў дварочак падмяту,
Я й вочкамі цясцёў дварочак асвячу,
Я й вушкамі далёка вайну пачую.

## 679

Стучыць-гручыць у новенькай стаенцы:
Я думала, у свірне бочкі качаюць —
Молад Іванечка сівога каня абучаець,
А з ім конік шчырую праўду гукаець:
— Шануй мяне, гадуй мяне ў доме,
А [redacted] цябе прышаную ў дарозе.
А ў дарозе на цясцёвым дварочку
Я хвасточкам цясцёў дварок падмяту,
Я капытком цешчын ганачак выпішу,
Я вочкамі на небе звёзды палічу,
Я вушкамі за морам вайну пачую.

## 680

То пад тым, то пад сім конь харош,
Пад нашым Лявонькам лучшы ўсіх.
Капытом дарожку ён сячэць,
Хвастом слядочкі замяцець,
Грываю поле ўкрыець,
Вушкамі неба дастанець,
Вочкамі зоркі палічыць,
Сілком Евачку прывязець.
А не так жа сілком — за грошы,
Калі наш Лявонька харошы.

## 681

А ў полі дубок, ён тонак, высок,
А на тым дубку сядзіць галубок.
Хадзіў малады стралок, ён цэліць, цэліць,
Ён цэліць, цэліць галубка стрэліць.
— А не бі мяне, не страляй мяне,
Будзеш жаніцца, я прыгажуся табе.
Будзеш жонку брадь за ракою,
Не будзе табе ні пераходу, ні пераводу.

Я цябе, малайца, пад права крыло,
Тваю дзеваньку я пад левае,
Тваю дуданьку я ў дробаньку,
Тваю сваценйку на шэры хвасток.

## 682

У чыстым полі стада коней ходзіць,
Між тымі коньмі сівы конь гаворыць:
— Як я бываў пад татарынам,
Пад татарынам, пад паганінам,
То мая галоўка штодзень пабіта,
То мая грыванька кроўю абліта,
То мае капытцы каменем пабіты,
А цяпер пад маладым Петручком.
То мая грыванька шоўкам абшыта,
То мая галоўка півам абліта,
То мае капытцы жалезам падбіты.

## 683

А ў полі гай зелянеець,
Пад тым гаем коні стада,
А ў тэй стадзе конь гаворыць,
Конь гаворыць, няпраўду кажаць:
— Каб жа я быў пад маршалкам,
Грыўка мая смалой зліта,
Смалой зліта, вадой змыта.
А ў полі гай зелянеець,
Пад тым гаем коні стада,
А ў тэй стадзе конь гаворыць,
Конь гаворыць, праўду кажаць:
— Каб жа я быў пад Барыскам,
Грыўка мая мёдам зліта,
Мёдам зліта, віном змыта,
Віном змыта, хустай накрыта.

## 684

Бягуць, бягуць вароны коні ад вады,
Шумяць, шумяць шаўковы павады,
А за імі Мікітка ў пагоні:

— Стойце, пастойце, вароны коні,
І я з вамі паеду чатыры мілі барамі,
А пятую — жалезнымі мастамі,
А шастую — сваю дзеваньку дастану.

## 685

Хто за двадом, хто за новым
Там пастукваець?
Маладый Ванюшка коніка навучаець:
— Конік мой добры вараный,
Слухай мяне на чужой старане,
А я цябе ў сваём доме.
Полем бяжы ты іграючы,
Дзярэўняй — капытам сякі,
А цясцёў двор пад нагамі тапчы,
Грывай сваёй ты павець мяці.

## 686

А хто там за сянём пастукаець?
Андрэйка коніка там сядлаець,
Андрэйка коніка навучаець.
— Кося мой вараненькі, не выдай мяне,
Не выдай мяне на чужой старане,
Пераскоч чэраз трое варот.
Первыя вароты ад роднага таткі,
Другія вароты ў чыстае поле,
Трэці вароты к цясцю на двор.
Цешчухна-мамухна па сенях ходзіць,
Белага лебедзя на руках носіць,
Красную ягадку — у кубочку.
Беленькі лебедзек — Андрэюхна,
Красная ягадка — Ганухна.

## 687

Ой, у полі да чарэшынка,
Нова поле да вылягае.
З-пад гэтай да чарэшынкі
Сівы конік да выбягае.

Сівы конік да выбягае,
Іванка да выязджае:
— Ой, коню, мой коню,
Ты хваліўся ўчора,
Пахваліся цяпера:
Пераляці да вароцечкі,
Да ўдар да капыцечкамі,
Да пабі да тыя вербы,
Што ў цешчы да на двары,
Да пабі да тыя лозы,
Што ў цешчы да на парозе.

## 688

З-пад ельнічку,
З-пад бярэзнічку
Сівы конік да выбягае.
Сівы конік да выбягае,
На ім хлопец да выязджае.
На ім хлопец да выязджае,
Да коніка размаўляе:
— Ой, коню мой сівы,
Ой, хвалонька мая,
Вы́хваль мяне перад цесценькам,
Перад родным баценькам.
Няхай цешчанька чуе,
Што яе зяць ваюе.
Зваяваў да дзявок танок,
Выбраў сабе дзевачку.
Выбраў сабе дзевачку
У вішнёвым садочку,
У пярловым вяночку.

## 689

Як за гарой, гарой крученькай,
Як за сцяной, сцяной каменнай,
Там наўчаў Іванька свайго коніка:
— Выхваль мяне, коня мой, у цесця на дварэ,
Уссякі, коня мой, усей двор капытом.
Размяці, коня мой, усей двор хвосцікам,
Усцялі, коня мой, усей двор грывушкай,

Узвесялі маладую Мар'ечку ў цераме.
Як выйшла Мар'ечка ды на ганачкі,
Пытала Іванькі варанога каня:
— Дайце каня, каня варанога,
Дайце вазок, вазок крашаны,
Маладога Іваньку на звошчыкі.

## 690

За лесам, лесам сонейка йграе,
Малады Зэнуська каня сядлае.
Не так сядлае, як павучае:
— Да будзь ты, конік, вумны-разумны,
Бо ты паедзеш у чужыя людзі.
Там цябе, конік, пужаць будуць,
Пад твае ножкі страляць будуць.
Падымай ножкі вышэй дарожкі,
Падымай вушкі павышай дужкі,
Каб не папала стрэлам у вушкі.

## 691

За лесам, за лесам сонейка зэяе,
Малады Іванька коніка сядлае:
— Будзь жа ты, кося, вумны-разумны.
Будзеш ты, кося, праз палі скакаці,
А там цябе, кося, пужаці будуць,
А ты ж, кося, не пужайся,
Па чысту полю стралою імчыся.

## 692

Што й за гарой, гарой круценькай,
Там наш Мішачка ды й каня вучыў,
Вучыў каня ды й прыгаварываў:
— Не спазор, воран конь, у вытая на дварэ.
У вытая на дварэ, ў цця ў цераме.
Выстаў, конь, слядзіна вароты,
Капытом, конь, увесь двор уссякі,
Хвастом, конь, увесь двор умяці,
Грывай, конь, увесь двор усцялі,
Вушамі, конь, усіх баяр уцішы.

## 693

Гаварыў Іванушка з вараным канём: *
— Конь, мой конь, конь мой, конь вароненькі,
Не зняваж ты мяне на цясцёвым двару.
— Не бойся, Іванушка, не зняважу цябе.
На цясцёў я на двор арлом узлячу,
А сваей грывушкай цясцёў двор украшу,
А сваім капытом цясцёў двор уссяку,
А сваім хвосцікам цясцёў двор замяту,
А тваю суджаную з табой павязу.

## 694

Якушка коніка ды засёдлываець,
З вараным конікам разгаварываець:
— Коня мой, конь вараненькі,
Не спазор ты мяне і на цүёвым двару.
— Не хлапатай, Якушка, ты аб гэтым,
Не спазору я цябе, я на цүёвым двару.
Я цүёў двор шырокі капытом ссяку,
Новыя вароты я груддзю разапру,
Я церам высокі грывай сакрушу,
Маладую Дарутку да цябе ў двор прывязу.

## 695

Лянуў саколік чэраз тры лясы,
Чэраз тры лясы, чэраз чатыры,
На пятым лесе паў на арэшша.
Паў на арэшша, з лесам гаворыць:
— Ой, лесу, лесу, чом ты не шуміш,
Чом ты не шуміш, чаго ціх стаіш?
Чэраз цябе ляну, крыльцам не цяну,
Крыльцам не цяну, перцам не рухну.

Ехаў Іванка чэраз тры сялы,
Чэраз тры сялы, чэраз чатыры,
На пятым сяле застанавіўся,
Застанавіўся ў цесценька на двары,

---

* Кожны радок паўтараецца.

У цесценька на двары, на вараным кані:
— Ой, коню, коню, грай пада мною,
Вазвялічай мяне перад цесценькам,
Перад цесценькам, як перад баценькам.

### 696

З-пад белага бярэзнічка
Да сівы конік выбягае.
Да не сам жа ён бяжыць —
На ём жаніхна сядзіць.
Ён коніка да паганяе,
Ён з конікам да размаўляе:
— Коню мой, сівы коню,
Пахвалён жа ты мною,
Пахвалі ж і ты мяне
Перад цясцёвым дваром.
Пераскоч да вароцечка
Да не выбі білечка,
Да не зварушы капыцечка,
Да не дай цесцю знаці,
Што мы едзем да ваяваці,
Што мы двор ізваюем,
Камору ізрабуем.

### 697

На дварэ стучыць-грачыць, божа, божа.*
Міцька каня вучыць,
Каб стройна галоўку нёс,
Каб добра Ленaчку нёс,
Каб русых кос яе не растрос.
Леначка маладая,
Яе галоўка залатая.

### 698

Што за стук, што за грук на канюшаньцы?
Ванечка коніка павучаець.

* «Божа, божа» паўтараецца ў канцы кожнага радка.

Ванечка коніка павучаець:
— Паедзем, коня мой, у заручынкі.

Паедзеш, коня мой, у заручынкі —
Там табе, коня мой, сена ў яслях.

Там табе, коня мой, сена ў яслях,
А мне, маладцу,— сыру ў масле.

Там табе, коня мой, авёс таўчоны,
А мне, маладцу,— гусь пячоны.

## 699

— Ой, кось, мой кося,
Чаму смутны, невясёлы?
Ці ж я табе цяжак,
Ці ж сядзёлка залатое?
— Ні ты мне цяжак,
Ні сядзельца залатое.
Ой, цяжка мне, цяжка
Гэта цёмная ночка,
Гразная дарожка.
Ты сам сядзеш за столікам,
Мяне прывяжаш ля коліка.
Ты п'еш він-мядочак,
А мне нету саломінкі.
А як сядзеш-паглянеш,
На мяне й не падумаеш.
А я бягу, пабягаю,
Твой сорам пакрываю.

## 700

Каба хто ў нас сянне
Усіх раньшы ўстанець,
Устанець раненька
І ўмыецца бяленька?
Наш Сямён ўставаў раненька,
Умыўся бяленька.
Ён мыўся-бяліўся, (2)
Ён богу маліўся.

Пашоў на новы сені,
Узяў узду нову.
Узяў узду нову,
Пашоў ў канюшню,
Стаў каня братаці,
А конь — уздыхаці.
— Што ж ты, мой коня,
Што ж ты, мой вароны,
Што ты ўздыхаеш?
Ай, я табе цяжак,
Ай, я табе важак?
— Ні ты мне цяжак,
Ні ты мне важак,
Ні твая нявеста.
Не то та мне цяжка,
Не то та мне важка:
Начная запрожка,
Дальняя дарожка,
Яшчэ круты горы.
Яшчэ круты горы,
Частыя падсцёбы,
Рэдкія астановы.

## 701

З-пад высокага церама
Расла траванька зеляна.
На той траваньцы конь вараны,
А на тым коніку сядзельца,
На тым сядзельцы Нікіпарка.
Расіцай коніка абмываець,
Каня праўданькі пытаець:
— Ці маеш, кося, ў ножках моц,
Паеду на табе на ўсю ноч.
— Хоць маю не маю — ступаю
Пад тыя гарады далёкі,
Пад тыя церамы высокі.
Дзе баярачкі мяды пьюць,
Там нам дзевачку выдадуць,
За праву ручаньку выведуць.
Выведуць яе з таночку
За нашага Нікіпарачку-паночка.

## 702

Прыплыла прыплыўка к беражку,
На прыплыўцы мураўка,
На мураўцы конічак,
На коніку сядзельца,
На сядзельцы Іванька.
Хустай коніка сціраець,
Ён у коніка пытаець:
— Ці маеш, кося мой, у ножках моч?
Паедзем з табой на ўсю ноч
У той жа горад у новы,
У той жа церам высокі.
А й дзе баярачкі віно п'юць,
А й дзе сваццюхны чапец ш'юць,
Там жа нашу Мар'юшку выдаюць.

## 703

З-пад высокага церама
Расла траванька зялёна,
На той травіцы конь вараны,
На тым коніку князь малады.
А князь маладый Іванька
Расою коніка ўмываець,
А ў каня праўды пытаець:
— А ты кося мой буланы,
Ці будзеш пада мной удалы?
Ты маеш у нагах крэпкую моц,
Ці паедзеш са мной на ўсю ноч?
А ў той гарадок далёкі,
А ў той церамок высокі,
А ў тую вуліцу цесную
Па маю Хрысцінку вечную.

## 704

У нядзельку парана
Прыплыла прыплыўка з Дуная,
А на тэй прыплыўцы мураўка,
А на тэй мураўцы конічак.
Для таго коніка Ясенька

Расіцай коніка змываець,
Шаўковай хустачкай сціраець,
У коніка праўду пытаець:
— Ой, косю, косю пляснівы,
Чы чуешся на сіле,
Чы ўзвязеш мяне на гару,
А на тую гару крутую,
Дзе мая дзевачка вянкі ўець,
Да мяне, маладога, паслы шлець?
— Пісала б лісточкі — не ўмею,
Паслала б паслочкі — не смею,
Пашла б я сама — баюся.
Стаіць у полі бяроза,
На бярозе старожа,
Тая мяне старожа паймаець,
Па русай касе спазнаець,
Па руцвяным вяночку,
Па дзявоцкім станочку.

## 705

Некаванае калясо пакацілася даляко *
І ўкацілася ў зелен сад.
У зялёным саду травіца,
На тэй травіцы расіца,
На тэй расіцы конікі,
Між тых конікаў Колечка.
Расою каня змываець,
У каня праўды пытаець:
— Конічак ты мой шэранькі,
Ці спадзяешся на сілу,
Ці звязеш маю дружыну?
Мая дружына лёгенька.
Шэсцера конікаў томяцца,
Тваё калясо зломіцца.
Шэсцера конікаў стамілася,
Тваё калясо зламілася.

## 706

Ля высокага церамá
Парасла трава зелянá,

* Кожны радок паўтараецца.

А на той траве конь вараны,
Ля таго каня князь малады.
Маладзенькі князёк Коленька
Платочкам расіцу збіраець,
Ён свайго коніка ўмываець,
У яго праўданьку пытаець:
— А ці маеш, кося, у ножках моц,
Ці паедзеш са мной на ўсю ноч?
— Маладзенькі князёк Коленька,
Накармі мяне бруквою,
Напаі мяне вадою,
Паеду на ўсю ноч з табою.
Капыткамі дарожку выпішу,
Вушкамі лясочак выслушу,
Хвасточкам дарожку замяту,
Сілкаю Анечку прывязу.

## 707

Што ў полі, ў полі ўсе коні,
Між тых конікаў Пеценька.
Хустаю коніка сціраe,
У каня праўдзечкі пытае:
— Ой, коню, мой конь, конь вараны,
Паедзем з табой на ўсенач.
На тую дарожку шчасную,
Па сваю Валечку красную,
Па яе лічанька белае,
Па яе косачку русую.
Ужо ж яе косачка сатрэцца,
Дзявоцкае гулянне мінецца.

## 708

А й чый жа то конь
На стайні стаіць,
Сам сабе гаворыць:
— Чаму мая стаенька
Не падмецена,
Чаму мая грывачка
Не расчэсана,
Чаму мае ножачкі

Не падкованы?
— Мішачкаў конь
На стайні стаіць.
— Да не куй, Мішачка,
Стальнога нажа,
Падкуй, Мішачка,
Варанога каня.
Паедзем борам, барамі
Па сырых карэннях.
Бор будзе шумець,
Камень — звінець.
Людзі пачуюць,
Дзівіцца будуць.
Цешча пачуе,
Гатавацца будзе.
Дзевачка пачуе,
Прыбірацца будзе.

### 709

Паедзем борам, барамі,
Бор будзе шумець,
Падкоўкі звінець.
Зачуюць людзі,
Дзівіцца будуць.
Зачуе цешчухна,
Гатавацца будзе.
Пачуе Ганначка,
Прыбірацца будзе.
Іван едзе —
Поле стогне.
Едзе хлопчычак
На свой дар.
А яго ж то дар —
Дарагі тавар,
Куплёны, злюблёны.

### 710

Вараныя конікі на стайні стаяць,
На стайні стаяць, между сабой гаворадь:

— Добра вам, конікі, на стайні стаяць,
А мне, вараному, ў дарогу ступаць.

Як зачуў жа тое малады Іванька:
— Ты не бойся, конік, не бойсь, вараны.

Ё ў мяне пры дарозе залатая кузня,
Што ў той жа кузні маладыя кавалі.

Яны табе ножачкі ўсе чатыры падкуюць,
Яны табе грывачку шоўкам абаўюць.

Да будам мы ехаць борам зяляным,
Да борам зяляным, мостам жалезным.

Конічак тупне, падкоўка бразне,
Вараненькі тупне, залатая бразне,

Цешчухна пачуе — гатавацца будзе,
Маладая пачуе — прыбірацца будзе.

## 711

Ой, няма, няма да дзяцінкі ўдома,
Ды паехаў дзяцінка да й у горад-места.
Да й у горад-места купляці жалеза,
Жалеза купляці, конікі каваці.
Да будзем ехаць дарогі,
Сем міль барамі, сем міль барамі,
Полем, крамянямі, да борам, каранямі.
[Да борам, каранямі], а полем, краменнем.
Будзе бор шумеці, краменне звінеці,
Будзе тое баяр'е ды на нас глядзеці.
Бог таму дае, чый то сын едзе,
Яшчэ ж найлепей, чым зяцем будзе.

## 712

Да й няма хлопчыка,
Да й ні тута, ні дома.
Да паехаў хлопчычак
Да да места Ільмова.

Да паехаў хлопчычак
Да да места Ільмова

Срэбра купаваці [illegible]
Да да цесця слаці.

— Да не купляй, хлопчычак,
Залатога срэбра.
Да купі, хлопчычак,
Сіняга жалеза.

Падкуй конічка,
Як саколічка.
Бо будама ехаці, ехаці
Да баром-барамі.

Да баром-барамі,
Полем-палямі.
Да полем-палямі,
Да па каменнейку.

А борам-барамі
Да па карэннейку.
Будзе бор шумеці,
А камень брашчаці.

Будзе бор шумеці,
А камень брашчаці,
Залатыя падкоўкі
Звонка звінеці.

## 713

А ў нашага Віцечкі кавалі на дварэ,
Куюць яны сталяныя нажы.
— Ой, не куй, Віцечка, сталянога нажа,
Падкуй, Віцечка, варанога каня.
Сталяному нажу на стале ляжаць,
Вараному каню ў дарогу ступаць.
Каб вараны конічак не падбіўся,
Каб Віцечка да цешчы не спазніўся.
А то яго ж цешча грозненька —
Не пускае на двор позненька.

## 714

А ў каго ў нас кавалі на дварэ,*
Кавалі на дварэ, нажы на стале?
У Самуткі ў нас кавалі на дварэ,
Кавалі на дварэ, нажы на стале.
Не куй, Самутка, залатога нажа,
Падкуй, Самутка, воранога каня.
Залатому нажу ў столі ляжаць,
Вараному каню ў дарожку бяжаць.
Не полем ехаць, а ўсё й па бару.
Бор будзець шумець, падкоўкі — звінець,
Людзі пачуюць — дзіваваццца будуць,
Цёшча пачуець — гатаваццца будзець,
Галінка пачуець — прыбірацца будзець.

## 715

У нашага Лёніка кавалі на дварэ **
І куюць, і льюць сталяныя нажы.

— Не куйце, кавалі, сталяныя нажы,
А падкуйце, кавалі, варанога каня.

Сталяному нажу на стале ляжаць,
Вараному каню ў дарогу ехаць.

Вараному каню у дарогу ехаць.
Бор будзе шумець, падковы звінець.

Таня пачуець, сабірацца будзець,
Сабірацца будзець, сталы засцілаць.

Сталы засцілаць, гасцей сустракаць.
Госцікі на двор — усе людзі за стол.

## 716

У нашага Іванькі кавалі на дварэ,
Кавалі на дварэ ножыкі куюць.
— А не куй, Іванька, залатога нажа,

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Падкуй, Іванька, варанога каня.
Залатому нажу на стале ляжаць,
Вараному каню у дарогу ехаць.
Ой, будзем ехаць борам, барамі,
Борам, барамі, шырокімі мастамі.
Бор будзець шумець, падкоўкі звінець.
Цёшча пачуець, гатавацца будзець,
Дзеўкі пачуюць, прыбірацца будуць,
Людзі пачуюць, нам слава будзець:
— Ці не пан то едзець, ці не паню вязець?
— Іванька едзець, Полечку вязець.

## 717

Не куй, Васілька, залатога нажа,
Да падкуй варанога каня.

Залатому нажу ў стале ляжаці,
Вараному каню ў дарогу ступаці.

Конічак тупне — падкова бразне,
Вараны тупне — золата бразне.

Чужым людзям дзіўна будзе,
Нашым баярам пахвала будзе.

Нашым баярам пахвала будзе,
А табе, маладому, падружка будзе.

## 718

Да не куй, стараста, залатога нажа,
Падкуй, стараста, варанога каня.
Бо будам ехаць борам камяным,
А лугам зеляным.
Бор будзе шумеці, а камень звінеці.
Да зачуюць людзі, ім дзіва будзе,
А нам слава будзе.
Зачуюць лепшай, то ім будзе дзіўнейшай,
А нам будзе слаўнейшай.
Бог таму даў, чый ён зяць будзе,
А таго дальнейша, чый ён муж будзе.

## 719

Ой, броду, броду на ясным лёду.
Там Колечка конікі куе.
Дзе ён, малады, падкоўкі бярэ?
Яму сястрынкі даюць пярсцёнкі
З правае ручкі на падковачкі,
З левае ручкі на падбіеначкі.
— Куй, браток, коні
На ўсе чатыры ногі.
Будзем ехаць борам, краменнем,
Борам, краменнем, лесам, каменнем.
Будзе лес шумеці, камень брышчэці,
Будуць нам людзі завідваці:
— Добра таму, чый то сын ідзе,
А таму лепей, чый то зяць будзе.
— Дзіўныя людзі, нам не дзівуйце,
Нам не дзівуйце, сваіх гадуйце.
Бо нас маценка выгадавала,
Цёмнае ночы не дасыпала,
Яснае свечы не загашала,
З гу́сілачак ножак не вынімала.

## 720

Не надзься, жанішок, вялікай дарогі,
Падкуй коніка на чатыры ногі,
Да будзем ехаць борам-карэннем,
Да будзем ехаць полем-каменнем.
Бор будзе шумеці, крэмень — звінеці.
Чужым жа людзям за дзіва будзе,
Майму бацэньку ўцеха будзе,
Мне, маладзенькай, славанька будзе.

## 721

Не ваксуй, Пецечка, боцікі,
А падкуй лучшы конікі.
А будзем ехаць барамі,
А барочкі будуць шумеці,
А падкоўкі будуць бражджэці,
А людзі будуць пытаці:

— Ці не пан там едзець, паню вязець?
— А не пан там едзець — Пецечка,
А не паню вязець — Раечку.

## 722

А не куй, Сідорка, ножыка,
Падкуй варанога коніка.

А будзеш барамі ехаці,
А будуць барочкі шумеці.

А будуць барочкі шумеці,
А будуць падкоўкі звінеці.

А будзе цешчухна слухаці,
Ці не зяць мой едзе каханы.

Ці не зяць мой едзе каханы,
Ці не пояс вязе каваны.

Каханы зяценька — шасць на двор,
Каваны паясок — бразь на стол.

## 723

Сыпце пшаніцу ў новыя карыты,
Карміце коні ў вялікую дарогу.

Карміце коні ў вялікую дарогу,
Паедзе Колечка к Мане на размову.

Да будзе пытаці:— Што табе купляці:
Ці сяло з дзяўкамі, ці руму з вянкамі?

— Не купляй, Колечка, ні сяла з дзяўкамі,
Не купляй, Колечка, ні руму з вянкамі.

А купі, Колечка, сініга жалеза,
Падкуй коніка на чатыры ножкі.

Будзем ехаць цераз поле, поле будзе блісцеці,
Павыходзяць людзі ды будуць глядзеці,

Чый гэта сын едзе, чый гэта зяць будзе,
Шчаслівая Манечка, што за яго пойдзе.

### 724

Зажурыўся дзяцінка ў дарозе,
Што не кован яго конік ў возе.
Да зачула тое дзяўчынка:
— Да не журыся, дзяцінка.
Ёсць у мяне залатыя пярсцёнкі,
Будуць твайму коніку падкоўкі.
Ёсць у мяне, маладой, плётачкі,
Будуць тваяму коніку вожжычкі.

### 725

У дарозе сванька, у дарозе.
— Ці каван конік, што ў возе?
— Што вам, свашкі, да таго,
Падкую каня сам свайго.
Ё ў маей дзевачкі пярсцёнкі,
Да будуць коніку падкоўкі.
Ё ў маей дзевачкі каралі,
Да будуць коніку ухналі.
Ё ў маей дзевачкі вяночак,
А будзе коніку хамуточак.
Ё ў маей дзевачкі істужкі,
Да будуць коніку падгузкі.
Ё ў маей дзевачкі ўплёты,
Да будуць коніку аброты.

### 726

У дарозе Пятрочак, у дарозе,*
Да не кован конік у возе.
Да не буду коніка каваці ў возе,
Ё ў мяне кавалі ў дарозе,

* Кожны радок паўтараецца.

Падкуюць конікі й ў возе.
Ё ў маей Мар'ечкі касцічкі,
То ж майму коніку павадкі.
Ё ў маей Мар'ечкі пярсцёначкі,
То ж майму коніку падковачкі.
Ё ў маей Мар'ечкі каралькі,
То ж майму коніку ўхналькі.

### 727

Чый гэта конічак пад борам
На чатыры ножкі падкован?
Так хто ж вам коніка падкаваў,
Хто ж вам золата надаваў?
Падкавалі коніка кавалі,
Надавалі золата каралі.
Ёсць у маей дзевачкі пярсцёнкі,
То майму коніку падкоўкі.
Ёсць у маей дзеўкі паяскі,
То майму коніку падаскі.
Ёсць у маей дзеўкі вяночак,
То майму коніку хамуточак.

### 728

Слаўнае места Львова,
Масціце масты да яго
Із каменя дарагога,
Із пярсценя залатога.
І ты, рэчанька Дунаю,
Прыбівай з жамчугою да краю.
Нам тая жэмчуга патрэбна
Старосты конічанька кавці,
У дарожаньку выязджаці.
У дарожаньку шчасную,
Па дзеваньку красную.

### 729

На брадку, на яснаму лядку
Стараста конічанька куе.
Дзе ён падкоўкі бярэ?

Сваціанька пярсцёнкі дае.
Чэраз места, чэраз Ільвова,
Тудыма ехаў малады жаніх
І к цесценьку на вячэру.
Устрачае яго кіеўскі ваявода:
— Просім цябе, хадзі да мяне
Вячэру вячэрацї.
— Дзенькую табе, некалі мне
Вячэру вячэрацї.
У майго цесценька,
У майго пышнага
Вячэра гатовая
І дзеванька маладая.

## 730

У дарожку, Іванку, у дарожку,
Не кавалі коніку ножку.
Прышлі падкавалі каню ножку,
Адправілі Іванку ў дарогу-дарожку.

## 731

Удалы Барыська, ўдалы,
Сам жа ён удаўся — конь лепшы:
Каля капыта золата,
Каля грывачкі серабро.
Хто ж яму золата надаваў,
Хто яму коніка падкаваў?
Давалі золата каралі,
Кавалі коніка кавалі,
Чатыры кавалі кавáлі,
Адзінаццаць малайцоў дзяржалі.
Варанога коніка падкавалі,
Барыську ў ручкі аддалі,
У доўгую дарожку паслалі.
У тую дарожку шчасную
Па сваю дзевачку красную.

## 732

Ай, чый то конік пад борам
На чатыры нагі ўкован?
Восем кавалёў кавала,
А дванаццаць малайцоў дзяржала.
Сяргейкаў конь пад борам
На чатыры нагі ўкован.
Восем кавалёў кавала,
Дванаццаць малайцоў дзяржала.
Укавалі коніка-варанца
Сяргейку ехаць да вянца.

## 733

А чый то кося пад борам,
А ўвесь золатам акован?
Якушкі кося пад борам,
А ўвесь золатам акован.
А хто яму золата надаваў,
А хто яму коніка падкаваў?
Давалі золата каралі,
Кавалі коніка кавалі.
А яго татанька хваcліў быў,
Ён свайго Якушку выхваляў,
Каралям, кавалям плаціў.
Кавалям, каралям ўся плата,
Гэта майму татаньку ўсё ўтрата.

## 734

Чый то конік пад борам
Увесь золатам укован?

Іванькаў конік пад борам
Увесь золатам укован.

Хто ж яму золата надаваў,
А хто ж яму коніка ўкаваў?

Надавалі золата каралі,
Укавалі коніка кавалі.

Каралі, каралі — братцы яго,
Кавалі — шваграчкі.

Укавалі коніка ў каваля
На ўсе чатыры ножанькі.

На ўсе чатыры ножанькі,
Каб не баяўся ночанькі.

На ўсе чатыры капыты,
Каб не баяўся слізгаты.

Укавалі коніка ў каваля,
Не стыдна ехаць да караля.

Не сорам узяць каралеўну,
А з высшага гонару — царэўну.

## 735

Чый жа конічак уборан,
На чатыры ножачкі падкован?
Брат у браткі пытае:
— Чыйго ты коніка падкаваў?
— Што табе, братка, да таго?
Падкаваў я коніка ды свайго,
Паеду да сцяткі да свайго.
Поўна грывачка рэмяньһкоў.

## 736

На дварэ позненька, да не раненька,
Вот Якушкіны конікі не седланы.
— Брацец мой, сядлай каня.
— Брацец мой Якушка, коні седланы,
Пад ганкі, пад крыльцо падведзены,
Залатымі гразіламі замузданы.
Сесць ды паехаць,
Быструю рэчаньку пераехаць,
Маладую Мар'ечку перамысліць.

## 737

Ой, над ракою, над вадою,
Над вадою

Стаялі коні чарадою,
Чарадою.

Ой, толькі сесці, паехаці,
Паехаці.

У Крываносах дзеўку засватаць,
Засватаць.

У Крываносах дзеўкі багатыя,
Багатыя.

У іх падаркі рагатыя,
Рагатыя.

А ў Пругах дзеўкі ўбогія,
Убогія.

У іх падаркі шаўковыя.

## 738

А чые ж гэта конікі рана ў луг папушчаны, *
Рана ў луг папушчаны, чорным шоўкам папутаны,
Чорным шоўкам папутаны, серабром пазамузданы?
Ай, Самуткіны конікі рана ў луг папушчаны,
Рана ў луг папушчаны, чорным шоўкам папутаны,
Чорным шоўкам папутаны, серабром пазамузданы.
Толькі сесць да й паехаць па сваю раджоную,
Па сваю раджоную, Аляксандру суджоную.

## 739

— А чые ж гэта конікі
Каля вароцейкаў стаяць —
Сівыя, буланыя,

* Кожны радок паўтараецца.

У дарожку сабраныя?
А чые ж гэта свацейкі
За столікамі сядзяць —
Белыя, румяныя,
У дарожку сабраныя?
— Малойчыкавы конікі
Каля вароцейкаў стаяць —
Сівыя, буланыя,
У дарожку сабраныя.
Малойчыкавы свацейкі
За столікамі сядзяць —
Белыя, румяныя,
У дарожку сабраныя.

## 740

На панадворы зялён явар сцеліцца,
Наш малады ў дарожку строіцца.

Яго коні вараныя пад акном,
Яно нявеста маладзенькая за сталом.

Яго коні вараныя авёс ядуць,
Яго госцечкі дарагія гарэлку п'юць.

## 741

А ў каго ж то ў вароціках?
Ў Міхалкі у вароціках
Чатыры коні запрэжаны,
Пяты анёл асядланы,
Асядланы і замузданы
Колечку ехаць жаніціся
За рэчачку па дзевачку.
Дзеўку вязуць, цымбалы б'юць,
Гуслі іграюць, дзеўкі гуляюць.
Там яго дзевачка напярод ходзіць,
Колечку за ручку водзіць.

## 742

Добра табе, Нікіпарка,
Маладзенькаму жаніцціся:
Ёсь у цябе бацюхна,
Ёсь каму журыцціся.
Коні запрага́ны,
Слугі наніма́ны.
Добра табе, Нікіпарка,
Маладому жаніцціся:
Ёсь у цябе матачка,
Ёсь каму журыцціся.

## 743

За лесам калясом соўнейка йграе,
Малады дзяцінка да жаніцца едзе.
Татачка родненькі верачкі не йме,
На выбар, на выбар коніка дае.

За лесам калясом соўнейка йграе,
Малады дзяцінка жаніцца едзе.
Мамачка родная верачкі не йме,
На выбар, на выбар сарочку дае.

За лесам калясом соўнейка йграе,
Малады дзяцінка жаніцца едзе.
Сястрыца родная верачкі не йме,
На выбар, на выбар шырынку дае.

За лесам калясом соўнейка йграе,
Малады дзяцінка жаніцца едзе.
Брахненька родненькі верачкі не йме,
На выбар, на выбар шапачку дае.

## 744

Мітрушка да жаніцца едзець,
Матушка верушкі не ймець,
На выбар кашулю даець.

Мітрушка да жаніцца едзець,
Дзядзюшка верушкі не ймець,
На выбар коніка даець.

Мітрушка да жаніцца едзець,
Сястрыца верушкі не ймець,
На выбар хустачку даець.

Мітрушка да жаніцца едзець,
Брахненька верушкі не ймець,
На выбар сядзельца даець.

## 745

А мне вера не верыцца, што Ванюшка ажэніцца.*
— Калі вы мне не верыце, вы паверце бацюшку,
Вы паверце бацюшку, распрасіце ў матушкі.
У маёй у матухны пірагоў многа напечана,
У майго ў татухны многа піва нагнатага.
У маіх у сястрычак столікі пазасланы,
Столікі пазасланы, а скацёркі набіраны.
У маіх у брахалькаў пара коней засёдлана,
Пара коней засёдлана, пад крылечка падведзена.
Толькі сесць і паехаць пад сваю суджоную,
Пад сваю суджоную, пад Манечку раджоную.

---

* Кожны радок паўтараецца..

### 746

На дварэ дробны дожджык пабарабаніваець,
Янка з бацюшкай разгаварываець.
— Куды ты, Янка, збіраешся?
— Татанька родненькі, насміхацца паеду,
Татанька, у чужую старану.
Я ў чужой старане жаніцца буду.
— А ў чужой старане бальшакі шырокі,
Бальшакі шырокі, церамы высокі.
Церамы высокі — мужыкі-ведзьмакі.
— Бальшакі шырокі капытамі ссяку,
Мужыкоў-ведзьмакоў я віном напаю.
Церамы высокі я ключом адамкну,
Я сваю Вараньку да сябе вазьму.

### 747

Шалён-малён па падвор'ю каціўся,
Малады Янка на заручыны строіўся,
Малады Янка на заручыны строіўся.
Выйшла да яго матуля яго:
— Дзе, сынку, ад'язджаеш?
— Ой, паеду я, матуля мая,
Сабе мілае іскаць.
Як добра будзе, як добра будзе,
То я й сам забаўлюся.
Як кепска будзе, як кепска будзе,
Назад зара вярнуся.
У правай ручаньцы хустачку дзяржыць
Слёзанькі уціраці,
У левай ручаньцы канчука дзяржыць
Конікі паганяці.

## 748

За лесам сонейка йграець,
Іванка коніка сядлаець.
Мамушка ў Іванка пытаець:
— Куды, куды, Іванка, паедзеш?
Цяпер ночушкі цёмныя,
Цяпер вулушкі гразныя.
— Не клапаціся, мамушка.
Цёмныя ночушкі прысвячу,
Гразныя вулушкі намашчу,
А ўсё сабе Зянутку прывязу.
Мая Зянутка лёгенька:
Дзевяць канёў не вязець,
А дзесяты конь чуць-чуць ідзець.

## 749

— А едзь, Колечка, не пазніся,
А цяпер ночанькі цёмныя,
А цяпер рэчанькі быстрыя.
— Я ж вам, дзевачкі, прызнаюся:
Цёмнае ночанькі не баюся,
Быстрае рэчанькі сцеражуся.
Цёмную ночаньку я й канём,
Быструю рэчаньку я й чаўном,
Дастану Валечку за сталом,
За поўнай чаркай, за вiном,
За салодзенькім мядочкам
У пярловенькім вяночку.

## 750

Паехаў Валодзя жаніцца,
Аб ім маманька клапаціцца,
Што цяпера ночушкі цёмныя,
Што цяпера вулушкі гразныя,
Што цяпера конікі шальныя.
— Не клапаціся ж ты, мамухна,
Цёмныя ночачкі прыўсвячу,
Гразныя вулушкі прыўмашчу,
Шальных конікаў я здзяржу,
Ўсё сваю Тамарку прывязу.

## 751

А на дварэ дожджычак ідзе, макрота,*
Нашаму Міколку жаніцца ехаць ахвота.
Яго татулька ў варотах стаіць — не вяліць:
— Не едзь, не едзь, а мой сыночак, у гэткі дождж,
Ты там свае дарагія шаты памочыш,
Ты там сваіх вараных конікаў патоміш,
Ты там сваіх маладых свацеек паморыш.
— Не журыся, а мой татулька, ты па мне,
Есць у майго сцяткі зялёны явар на дварэ,
Есць у майго сцяткі ядрона пшаніца ў гародзе,
Есць у майго сцяткі сцюдзёна крыніца ў вароцях.
Я там свае дарагія шаты пасушу,
Я там сваіх вараных конікаў напасу,
Я там сваіх маладых сваццеек папаю.

## 752

Ой, дождж ідзе, раса падзе, плюхота,
Случылась маладому Ванечку дарога.
Яго мамка ля варот стаіць, гаворыць:
— Не едзь, не едзь, мой сыночак, у дарогу,
Бо ты свае вараныя коні патоміш,
Бо ты свае дарагія шубы памочыш.
— Ой, паеду, мая мамка, паеду,
Ой, паеду, мая мамка, я к цешчы.
У мае цешчы да тры явара на дварэ,
Пад яварамі высокая трава парасла.
На высокай траве вараныя коні папасу,
Пад яварамі дарагія шубы пасушу.

## 753

Па лузе зялёны рамон паслаўся,
Па лузе зялёны рамон паслаўся,
А куды, куды наш Ванечка сабраўся?
Яго мамачка ля стала гавора,
Яго мамачка ля стала гавора:
— А не едзь, не едзь, мой сыночак, за мора,

* Кожны радок паўтараецца.

Бо там свае вараны коні паморыш,
Ты там сваё ўбраннейка замочыш.
— А не бядуй, мая мамачка, аба мне,
А не бядуй, мая мамачка, аба мне —
У майго цесця тры садочкі на двару.
Я ў адным садзе свае конікі напасу,
Я ў адным садзе свае конікі напасу,
У другім садзе сваё ўбраннейка пасушу,
А ў трэцім садзе з сваёй Манечкай
пахаджу.

## 754

А на двары дождж ідзе, слякота,
Нашаму Ванечку па дзеўку ехаць ахота,
Яго мамка ля варот стаіць — не вяліць:
— Не едзь, не едзь, мой сыночак, дождж
ідзець,
Там ты свае кованыя колы паломіш,
Там ты сваю дарагую сукню памочыш.
— А не бядуй ты, мая мамачка, па мне,
Ёсць у майго цесця клетка-паветка для мяне:
Там я свае кованыя колы пастаўлю,
Там я сваю дарагую сукню пасушу,
Адтуль я табе работніцу прывязу.

## 755

У нядзелечку чуць зара
Хлопчык скокнуў на каня.
Яго мамачка ў варот стаіць
Ды яму не вяліць:
— Не едзь, не едзь, мой сыночак, у слякоту.
Ды ты свае вараныя коні патоміш,
Ды ты свае вараныя коні патоміш,
Ды ты свае дарагія шубы памочыш.
— А я заеду к свайму цесцю ў госці,
Да ён жа мне вараныя конікі накорміць,
Да ён жа мне вараныя конікі накорміць,
Да ён жа мне дарагія шубачкі пасушыць.

## 756

Зялён-малён па балоцiку паслаўся,
Малады Колечка да ў дарожаньку сабраўся.
Яго матка ў вароцечках стаяла,
Свайго сыночка ў дарожаньку не пускала:
— Не едзь, не едзь, да маё дзiцятка, ў дарогу,
Там ты свае конi вараныя патопiш,
Там ты свае дарагiя шубы памочыш.
— Пераеду рэчку Дунаю, перайду,
Там я свае конi вараныя папасу,
Там я свае шубы дарагiя пасушу.

## 757

— А куды ты, молад Iванька, паедзеш?*
А ты сваю баброву шубу памочыш,
А ты сваiх вараных коней паморыш,
А ты сваiх маладых сваццей пасорыш.
— Няхай iдзець, як дзень, як ноч са неба,
I мне да Манечкi i паехацi ўсё трэба.

## 758

— Не едзь, Андрусю, бо балота.
— Як жа не ехацi, калi залота.
— Не едзь, Андрусю, бо залява.
— Як жа не ехацi, калi казала.
— Не едзь, Андрусю, бо iз стрэх капцiць,
— Як жа не ехацi, калi як мёд пахцiць.

## 759

Ай, на дварэ снягi, дажджы, нягода,
Нашаму сужаньку жанiцiся ахвота.
Ахвотачка хужы няволi — я й мушу.
Я свае сярдзейка перастанавiць не мушу,
Калi ўпала красна дзевачка мне ў душу.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 760

За лесам соўнышка іграець,
Іван коніка сядлаець,
У яго матушка пытаець:
— Куды ты, сыночак, паедзеш?
— Паеду, матушка, на ахоту.
Ой, дайце ж вы мне падмогу:
Сорак чалавек верхавых
Да дзве свашачкі маладых.

## 761

За лесам соўнышка іграець,
Ванечка коніка сядлаець,
У яго бацюшка пытаець:
— Куда ж ты, сыночак, паедзеш?
— Паеду, бацюшка, у поле паляваць.
— Да ці маеш, Ванечка, конічка?
— Я маю каня, як арла,—
Не стыдна ехаць пад караля,
Не стыдна ўзяць каралеўну.
Ой, кароль, кароль — Ванечка,
Каралеўна — Дунечка.
Ой, кароль наш каралюець,
Каралеўначка гаруець.

## 762

Поле, поле, полечка,
— Ці маеш, Ягорка, конічка?
— Ой, маю каня, як арла,—
Не стыдна ехаць пад караля,
Не стыдна ўзяць каралеўну.
Ой, кароль, кароль — Ягорка,
Каралеўначка — Мар'юшка.
Ой, кароль, кароль ваюець,
Каралеўначка гаруець.
Ой, кароль, кароль мяды п'ець,
Каралеўначка слёзы льець.
— Ці не поўна, кароль, ваяваць,
Каралеўначка — гараваць.
Ці не поўна, кароль, мяды піць,
Каралеўначка — слёзы ліць?

## 763

Ай, поле, полечка.
— А ці маеш, Грышка, конічка?
— Ай, маю каня, як арла,—
Не стыдна ехаць да караля,
Не стыдна ўзяць каралеўну.
Каралёва дачка — Полечка,
Каралёў сын — Грышачка.
Не стыдна перад каралём стаць,
Шапку здзецъ,
А перад каралеўнай пакланіцца.

## 764

А ўсё на дварэ зараець,*
Ляксей коніка сядлаець.
У яго бацюшка пытаець:
— Куды, сыночак, паедзеш?
— Паеду, бацюшка, поле паляваць,
Паляўшы поле, куню сачыць.
Прысачу куньку к дзераўцу,
Звязу Марфачку з церама.

## 765

На небе месячык іграе,
Да Колечка коніка сядлае.

Да й у яго бацюхна пытае:
— Да куды ты, дзіцятка, паедзеш?

— Да паеду, бацюхна, паеду,
Да сачыў я куначку на бару.

Да сачыў я куначку на бару,
Да паеду, бацюхна, улаўлю.

— Да не ўловіш, дзіцятка, не ўловіш,
Толькі коніка натоміш.

* Кожны радок паўтараецца.

— Да што табе, бацюхна, да таго,
Утамлю коніка то свайго.

Утамлю коніка то свайго,
Улаўлю куначку то сабе.

### 766

За лесам сонейка йграецъ,
Васілька коніка сядлаецъ,
А яго мамка пытаецъ:
— Куды ты, сынок, паедзеш?
— Паеду, мамка, у дровы,
А не так у дровы, як у ловы.
За ляском салоўка йграецъ,
Там тая нявестачка гуляецъ.

### 767

А паедзем жа мы на ўловы
А ў зялёныя дубровы.
А ўловім жа мы белачку —
Свайму сужанаму дзевачку.
А ўловім жа мы ў ламочку —
Свайму сужаньку ў вяночку.

### 768

А паедзем жа мы на ўловы
А ў зялёныя дубровы.
А асочым жа клён на дзераве,
Маладую Маланку ў цераме.
А белую белачку з хартамі,
Маладую Маланку з сватамі.

### 769

За лесам соўнышка іграецъ,
Дзяцінка коніка сядлаецъ,
А ў яго мамачка пытаецъ:
— Куды ты, сыночак, паедзеш?
— Паеду, мамачка, поле палявацъ,
Поле палявацъ, куначку сачыцъ.

Асачыў кунaчку на дзераве,
Завідзеў дзевачку ў цераме.
Не асачыць кунaчку без хартоў,
Не ўзяць дзевачку без сватоў.
Асачыў кунaчку з хартамі,
Я ўзяў дзевачку з сватамі
І з маладымі свашкамі.

### 770

Ой, у полі садочак не мяцён,
Залатою рутаю апляцён.
Да на небе зорачка зірае,
Да Іванька коніка сядлае,
Да ў яго бацюхна пытае:
— Нашто, Іванька, коніка сядлаеш,
Да куда, дзіцятка, паедзеш?
— Да паеду, бацюхна, на Дунай:
Прысачыў вутачку — улаўлю,
Я ж табе, бацюхна, прывязу.
Будзе табе служачка шчыранька,
А мне будзе жоначка верненька.

### 771

За лесам соўнейка гуляе,
Там Сяргейка коніка сядлае.
— Куды ты, сынку, едзеш? — татка пытае.
— Ой, што табе, да татка, да сяго,
Я сядлаю коніка не твайго.
Да паеду да цесця да свайго,
Да буду арэшкі цатаці,
Да буду дзеўку Кацярыну сватаці.
Ой, ці цот, ці лішок — арашок,
Будзе табе, Кацярына, жанішок.

### 772

Ой, на гарэ новы двор,
Да ў том дварэ Антоська.
Ён коніка прыбірае
Да думанькі думае:

— З кім мая панна гуляе
Да гарошкамі цаляе,
Да з панічамі жартуе?
Прыехаў Антоська з паўночы,
Застаў паненку не сплючы,
Тонку кашульку шыючы.
Панна кашулі пашыла,
Антоську на шлюб злажыла.

## 773

На небе месячык іграець, *
Іванька коніка сядлаець,
Яго мамухна пытаець:
— Куды, сыночак, паедзеш?
— Паеду, мамухна, у лясок,
Зачую Ніначкін галасок.
Там мая Ніначка гуляець,
Белы ручачкі ламаець
І ў арэшкі цатаець.
— А ці цот ці лішка, Ніначка?
— У правай ручцы цаточак,
А ў левай ручцы лішачка.
— Гэты арэшкі паўненькі,
Мы з табой, Ніначка, раўненькі.
Гэты арэшкі біць будзем,
Мы з табой, Ніначка, жыць будзем.

## 774

Пад борам соўнейка йграець,
Мацей коніка сядлаець,
А ў яго татанька пытаець:
— Куды ты коніка сядлаеш?
— А што табе, татанька, да таго,
Сядлаю каня не твайго
І паеду да роду сваяго,
Да сваей цешчанькі ласкавай,
Да сваей дружыны добранькай.

* Кожны радок паўтараецца.

## 775

Сужанька коніка сядлае,
А ў яго татачка пытае:
— Куды ж ты, сыночак, паедзеш?
— Што ж табе, татачка, да таго,
Сядлаю каня я свайго,
Паеду да сцяткі да свайго.
А ў майго сцяткі на дварэ
Павыша каня агонь палае.
Там мяне цешчухна дажыдае,
На здароўейка пытае.

## 776

Васечка коніка сядлае,
А яго мамачка пытае:
— Куды, сынок, коніка сядлаеш?
— Што табе, мамачка, да таго?
Сядлаю коніка сам свайго.
Паеду к Манечцы з поўначы,
Застану яе не сплючы,
За новым сталом седзячы,
Тонкія падаркі рэжучы:
Таней лісціны, што ў клёне,
Бялей бумагі, што ў краме.

## 777

На дворыку скрыпачка йграе,
А Валодзька коніка сядлае.
Выйшаў яго бацэнька да й пытае:
— Ой, куды ж ты, сыночак, паедзеш?
— Што ж табе, бацэнька, да таго,
Сядлаю коніка не тваго
Да паеду да цесця сваго.
Там у майго цесценька вянкі ўюць
Да й па залатому прадаюць,
А мне, маладому, дарма даюць.

## 778

На дварэ драбён дождж барабаніваець,
Якубка з бацюшкам разгаварываець:
— Ты куды, Якубка, збіраешся?
— Паеду, бацюшка, на гуляннечка,
Усё к сваей Дарутке на свіданнечка,
Я з сваей Даруткай павідаюся,
На залатыя пярсцёнкі памяняюся.

## 779

На дварэ нярана, смяркаець,
Ляксейка коніка сядлаець,
У яго татанька пытаець:
— Зачым ты коніка сядлаеш?
— Што ж табе, татанька, да таго?
Сядлаю коніка не твайго,
Сіўца-варанца сам свайго.
Паеду ў дарожку торную,
Па сваю Настульку ўборную,
Паеду ў ночаньку начную,
Па сваю Настульку вечную.

## 780

А на дварэ дудачка іграе,
А хлопчычак каня сядлае,
У яго татачка пытае.
— А што табе, мой татка, да таго?
Я сядлаю коніка не тваго,
Я сядлаю коніка сам сваго.
Для таго я зімачку гадаваў,
Штоб я сюю ночачку пагуляў,
Штоб я сабе дзевачку ў двор узяў.

## 781

На зарэ сонейка гуляець,
Іванка конейка сядлаець,
А яго мамулька пытаець:
— Нашто ж ты конейка сядлаеш?
— Што табе, мамулька, да таго?

Сядлаю конейка сам свайго —
Па друга свайго вернага,
Па слоўца яе шчырае,
Па пасцелечку мяккую,
Па пярыначку цёплую.

### 782

За лесам соўнышка іграець,
Ванечка коніка сядлаець.
А ў яго мамухна пытаець,
Куды ён коніка сядлаець.
— А што табе, мамушка, да таго,
Сядлаю каня сам свайго.
Паеду ў ночаньку начную
Пад сваю Валечку вечную.
Ай, вечна, вечна, сардэчна,
Ой, так хараша, як душа,
Ой, так прыгожа, як рожа.

### 783

За лясом сонейка іграець,*
Сашачка коніка сядлаець,
А ў яго мамачка пытаець:
— Нашто ж ты коніка сядлаеш?
— А што ж табе, мамачка, да таго,
Сядлаю коніка я свайго,
Паеду ў дарожку шчасліву
Па сваю Манечку красіву.
А буду ехаць к свайму двару,
Ты мяне, мамачка, спытаеш,
Я ж табе, мамачка, атвечу.
А дзе ж я, мамачка, пабываў
І каго ж я, мамачка, там узяў.

### 784

За лесам соўнышка іграець,
Коніка Стахванька сядлаець,
А ў яго татулька пытаець:

* Кожны радок паўтараецца.

— Куды ты, Стахванька, паедзеш?
— Што табе, татулька, да таго,
Сядлаю коніка не твайго.
Сядлаю другога гнядога,
Сядлаю трэцяга лепшага.
Паеду ў дарожку ў шчасную
Па сваю дзевачку красную.
А красна, красна, як вясна,
Багата, багата, як восень,
Прыгожа, прыгожа, як рожа,
Грамуча, грамуча, як зямля,
Вяліка, вяліка, як Дунай.

### 785

На дварэ дудачка іграе,
Там Валодзька коніка сядлае.

Там Валодзька коніка сядлае,
Ой, да ў яго бацюхна пытае.

Ой, да ў яго бацюхна пытае:
— Куды цябе, сыночак, бог нясе?

— А што табе, бацюхна, да таго?
Сядлаю я коніка не твайго.

Сядлаю я коніка не твайго,
Не проч паеду — ў дарогу.

Не проч паеду — ў дарогу,
Па сваю Аленку здарову.

Па сваю Аленку здарову,
Паеду ў дарогу на быку.

Паеду ў дарогу на быку,
Па сваю Аленку маладу.

### 786

На небе месячка іграе,
Васілька коніка сядлае.

У яго татачка пытае:
— Чыйго ты коніка сядлаеш?

— Сядлаю коніка твайго,
Паеду да сцяткі да свайго.

Сцілкавы вароты пад замком,
Маладая дзевачка пад вянком.

Уехаў на двор, як жаўнер,
Схапіў дзевачку за каўнер.

Не так за каўнер, як за брыжы:
— Ты, мая дзевачка, не дрыжы.

Ты, мая дзевачка, не дрыжы,
А майго коніка падзяржы.

— Ты ж, Васілька, невялікі пан,
Калі маеш каня, дзяржы сам.

## 787

Узвіўся рой за гарой,
Ляцець хочаць. (2)

Прыбраўся Ванечка,
Ехаць хочаць. (2)

Расчасаў бел хахол,
Пазавіў кудры. (2)

Каб яго цешчанька не ўзнала,
Каб яго Надзенька спадабала.

## 787

Што й у садзе да на вішанні
І звіўся раёчак у залаты клубочак.

І звіўся ў садзе да на вішанні,
Хоча паляцеці із бора ў дуброву.

Выбраў сабе сосну тонкую да высокую,
Кудравую, кучаравую.

Сабраўся Данілка з сваёю раднёю,
З большаю сястрою.

На каня хоча сесці
Да паехаці к цесцю.

Абабраў сабе дзеўку
Красную да харошую.

Харошую да прыгожую
Маладую да Адарачку.

## 789

Ўзвіўся рой, паляцець хочаць
У шчыр бор, у салодкі мёд.

Зладзіўся Іванька, ехаць хочаць,
А ў тую дарожку таптаную,
Па сваю Гапульку каханую.

А ў тую дарожку убойную,
Па сваю Гапульку любоўную.

## 790

Звіўся рой, ляцець хочаць,
А ў шчыр бор па салодкі мёд.

Прыбраўся Хвядорка, ехаць хочаць,
А ў тую дарогу шчасную.

А ў тую дарогу шчасную,
Па тую дзеваньку па красную.

У тую дарожаньку вядомую,
Па тую дзеваньку суджоную.

## 791

Злятаўся раёк, ляцець хочаць,
Зладзіўся Якушка, ехаць хочаць.

У тую дарожку гразнівую
Павязець Ганутку шчаслівую.

У тую пагоду мязурную
Павязець Ганутку разумную.

## 792

Ўзвіўся рой за гарой, ляцець хоча.
Сабраўся Ванечка, ехаць хоча.

А ў тую дарожку камяністую,
Па сваю Зосеньку ганарыстую.

А ў тую дарожку ўбойную,
Па сваю Зосечку прыборную.

## 793

Звіўся рой, звіўся рой да ляцець хочаць,*
Сабраўся Славічак, ехаць хочаць
На ту вуліцу, на шырокую,
Па сваю Галечку па харошую.
На ту вуліцу выбіваную,
Па сваю Галечку выбіраную.

## 794

Звіўся рой пад гарой, а ляцець хочаць
У цёмны лес а па жоўты воск,
У шчыры бор па салодкі мёд.
Сабраўся Лявонька, ехаць хочаць
У чужы бок па чужую,
Па сваю Евачку й маладую.

## 795

Разлятаўся рой па чыстаму полю,
Хоча ён паляцець ды ў шчырыя бары.
Раз'ездзіўся Валодзька ўсё па таткаваму двару,
Хоча ён паехаць да цешчы жаніцца,
Па чужаніцу, па сваю сем'яніцу.

---

* Кожны радок паўтараецца.

796

Разлётаўся рою *
Усё па чыстаму полю.

Усё па чыстаму полю
Хоча рой паляцеці.

Хоча рой паляцеці
А й у шчырыя бары.

А й у шчырыя бары,
А на жоўтыя цвяты.

А на жоўтыя цвяты,
На салодкія мяды.

А сабраўся Віталік
Са ўсяею раднёю.

Са ўсяею раднёю,
З беднаю, з багатаю.

З беднаю, з багатаю
Хоча ён паехаці.

Хоча ён паехаці
А цесця зваяваці.

А цесця зваяваці,
А Настачку к сабе ўзяці.

Яго татачка просіць:
— А сыночак Віталька.

А сыночак Віталька,
Не ваюй ды вайною.

Не ваюй ды вайною,
Прасі цесця просьбаю.

Вайною не зваюеш,
Просьбаю перапросіш.

Просьбаю перапросіш,
Настачку к сабе возьмеш.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 797

Да звіўся раічок
У жанішка на столічак,
Да хоча паляцець у шчырыя бары,
Да на бітыя шляхі,
На салодкія мяды,
Да на жоўтыя цвяты.
Там ліпка стаяла,
Жоўтым цветам цвіла,
Шырокім лістом пала.

## 798

Ой, звіўся раёчак пакрай вароцечак,
Хоча ён паляцеці
Ды на шырокі бары, на пахучыя сады,
На салодкія мяды.
А сабраўся Мішачка са сваёй дружынай,
Мамчынай радзінай.
Хоча ён паехаці цесцечку зваяваці,
Дзевачку к сабе ўзяці.
Сем год ваявалі, сем год ваявалі —
Дзевачкі не давалі.
А на восьмым гадочку шабелькі
паламалі —
Дзевачку к сабе ўзялі.

## 799

Зыграўся рой па шчыраму бору,
Хоча ён паляцеці ў шчырыя бары
На жоўтыя цвяты да на салодкія мяды.
З'ездзіўся Іванка па бацькаму двору,
Па бацькаму двору да на вараным коню.
Хоча ён паехаці цесця зваяваці,
Цесця зваяваці, сабе дзевачку ўзяці.
Сабе дзевачку ўзяці і камору зграбаваці:
Із скрыні пярыны і карову з адрыны,
І зброю залаценьку, Марыльку маладзеньку.

## 800

Завіўся раёчак, завіўся *
У вішнёвым саду
На зялёным тыночку.
Да не хоча сядзеці,
Да хоча ён да паляцеці
У шчырыя бары
На салодкія мяды.

Сабраўся Іванька
Са ўсею да радзінаю.
Да не хоча ён гуляці,
Да хоча ён да паехаці
Цесцюхна зваяваці,
Сабе Адарку ўзяці.
— Не ваюй, да зяцю, мною
Да ваюй да маім дваром,
Бяры маю дачку здароў.

## 801

На зарэ месяц ясніўся,*
Колечка ў татулькі прасіўся:
— Пусці мяне, татулька, на адну ночку,
А я доўга там не буду,
Заўтра к абеду прыеду.
Прывязу табе паслужку,
Сабе прывязу жанушку,
Табе, мамулька, падмену,
Сабе мяккую пасцелю.

## 802

Па небе зорачка коціцца,
Колечка мамулькі просіцца:
— Пусці мяне, мамачка, на адну ноч,
К заўтраму к абеду вярнуся.
Прывязу сабе дружачку,
А табе, мамулька, служачку.
Табе, мамулька, піць падаці,

---

* Кожны радок паўтараецца.

А мне, маладому, пасцель слаці.
Загадай, мамуленька, што хаця,
І пажалей яе, мамачка, як дзіця.
— І не пажалею, маё дзіцятка, як дзіця,
І не загадаю я ёй работачку, як хаця.

## 803

На ўсходзе соўнышка іграець,*
А Коля каня сядлаець.
Родная маменька пытаець:
— Куды Коля коніка сядлаець?
— Пуць-дарожаньку дальнюю,
Прывязу і мамушцы падменушку,
А сабе, малайцу, слаць пасцелюшку.

## 804

За лесам сонейка іграець,
А яго мамулька пытаець:
— Куды ж ты, сыночак, сядлаеш?
— А што табе, мамулька, да таго,
Сядлаю коніка сам свайго,
Паеду па друга па свайго.
Прывязу табе, мамулька, служачку,
А сабе дружачку.
Табе, мамулька, піць падаць,
А мне, мамулька, пасцель слаць.
А загадай жа ёй, як і мне,
А жалей жа яе, як і мяне.

## 805

Каціўся месячык, каціўся,
Грыгорка ў таткі прасіўся:
— Пусці мяне, татка, на ўсю ноч,
Заўтра к абеду прыеду,
Прывязу скрыню й пярыну
І маладу Сахвейку.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Табе, татухна, паслужка,
А мне, татухна, жанушка.
Табе будзець піць падаваць,
А мне будзець пасцельку слаць.

## 806

Па небу месяц коціцца,
Сын у татулькі просіцца:
— Пусці мяне, татачка, на адну ноч,
Заўтра к абеду прыеду,
Прывязу скрыню і пярыну,
І маладзенькую княгіню.
А скрыню, пярыну — да клеці,
Маладую княгіню — да печы.
А скрыню, пярыну — пасцель слаць,
З маладой княгіняй век векаваць.

## 807

Па небу месячык каціўся
Сяргейка ў мамкі прасіўся:
— Пусці мяне, маманька, на адну ноч,
Я заўтра к абеду прыеду,
Прывязу сабе дружачку,
А табе, маманька, служачку:
К вясне-красне кросны ткаць,
К цёпламу лецечку жыта жаць,
К халоднай восені плаццЯ праць.

## 808

Колечка каня сядлаець,
Яго мамачка пытаець:
— Куда, Колечка, паедзеш?
— Паеду, мамачка, ў лясок,
Пачуў там Анечкін галасок.
Заўтра к абеду прыеду,
Прывязу скрыню і пярыну,
Яшчэ маладую княгіню.
Табе, мамачка, служачка,
А мне, малайцу, дружачка.
Заві, мамачка, як хацЯ,
А любі, мамачка, як дзіцЯ.

## 809

За гарой сонца іграець,
Валодзя коніка сядлаець,
А ў яго маманька пытаець:
— Чыйго ж ты коніка сядлаеш?
— Сядлаю коніка сам свайго.
Паеду ночаньку-начную
Па сваю Валечку вячную.
Прыеду заўтра к абеду,
Прывязу сундучок з замочкам
І сваю Валечку з вяночкам.

## 810

На дварэ бел сняжок папырхіваець,
Якушка ў таткі папытываець:
— Пара, пара, тата, каня сядлаць,
Пара, пара, тата, з двору з'язджаць.
Паеду, тата, у начную,
Прывязу, тата, маладую,
Табе, тата, ў наслужку,
А сабе, тата, на падружку.

## 811

Іпалітка ў мамачкі прасіўся:
— Пусці мяне, мамачка, на адну ноч,
Я заўтра к абеду прыеду.
А прывязу скрыню і пярыну
А й маладую княгіню.
Хоць мая княгінька невяліка —
Шэсцера конікаў ледзьве йдуць,
Малявану скрыню ледзь вязуць.

## 812

Мішачка па дварэ ходзе,
Ў руках шапачку носе.

У руках шапачку носе,
Сваю мамачку просе:

— А мамачка родная,
Не ўсыпай цёмнай ночкай.

Не ўсыпай цёмнай ночкай,
Ідзі ў садочак.

Ідзі ў садочак,
Накапай бур'яночак.

Накапай бур'яночак,
Навары вячэрачку.

Навары вячэрачку,
Пасцялі пасцелечку.

А я заўтра к абеду
З дзевачкай прыеду.

### 813

На дабранач, да мая маці,
Да не лажыся спаці.

Да не лажыся спаці,
Я не буду да начаваці.

Я к свету дамоў буду
Вячэрняю й зарой.

Вячэрняю й зарою
З маладой жаною.

Вячэрняю зарніцаю
З маладою маладзіцаю.

### 814

Не спіце ў доме, не спіце,
Не вячэрайце — нас жджыце.
А ў нас чужая старана
Нам вячэраці не дала,
А за вароцечкі вывела,

А дубовым кіем набіла.
Нам дарожачку указала,
А ў тое сяло, дзе мёд п'юць,
А ў тое падвор'е, дзе нас ждуць,
Там нам Маруську аддадуць.
З-пад залатога слупочка,
З-пад руцьмянага вяночка.

## 815

У панядзелак рана *
Усе сталы кругом сталі.
Паміж тымі сталамі
Жанішок між сватамі,
Малады між сватамі
У дарогу ўбіраецца,
Свайго бацэнька пытаецца,
У роднага пытаецца:
— Ці вяліш начаваці,
Ці дадому ехаці?
— Маё дзіцятка роднае,
Не вялю й начаваці,
Та дадому ехаці.
Ці ў ночы, апаўночы,
Ці к беламу свету,
Ці к позняму абеду.
Нявесту прывязіце,
Вяліку, як яліну,
Чырвону, як каліну.

## 816

У нядзелечку рана
Вакруг сталы стаялі.

Вакруг сталы стаялі,
А за тымі сталамі,

А за тымі сталамі
Мішачка із сватамі.

---
* Кожны радок паўтараецца.

Да на двор выбягае,
У мамачкі пытае:

— Ай, мамачка родная,
Ці мне там начаваці?

Ці мне там начаваці,
Ці дадому прыязджаці?

— Ай, дзіцятка, ай, Мішачка,
Не начуй у дарозе.

Не начуй у дарозе,
Прыязджай дамоў нанач.

Прыязджай дамоў к ночы,
Хоць і к паўночы.

Прыязджай дамоў к сонцу,
К майму шчыраму слоўцу.

## 817

Хлопчык выбіраецца,
Ў сваёй мамкі пытаецца:

— Мамачка мая родная,
Ці мне там да начаваці?

Ці мне там да начаваці,
Ці дамоў да прыязджаці?

— Сынок, маё дзіцятка,
Не давай ганьбы дому.

Не давай ганьбы дому,
Прыязджай ты дадому.

Прыязджай ты дадому
З маладою жаною.

Табе жонка да пасцель слаці,
А мне служка да пасылаці.

Табе жонка будзе мілая,
А мне служка будзе верная.

818

Ой, з высокага ганку
Да вялікага замку
Сакол да вылятае,
Іванка ды выязджае.
Іванка ды выязджае,
У мамачкі пытае:
— Мамачка мая родна,
Ці начаваці мне ночачку,
Ці прыязджаці дадомачку?
— Дзіця маё маладое,
Пераначуй хаця ночачку
Ды прывязі мне нявестачку.

819

Маладзенькі Ўладачка
Пытаецца ў татачкі:
— Татачка мой родненькі,
Ці мне там начаваць,
Ці дадому прыязджаць?
— А Ўладачка, мой сыночак,
Табе ні там начаваці,
Трэба дамоў прыязджаці.
Хоць ночы, апаўночы,
Хоць жа яснаю зарою —
З маладою жаною.

820

— А куды ж ты, салавейка, паляціш?
— Я палячу праз тры бары ў чацвёрты.
Там мяне ўсе пташачкі пярэймуць,
Яны ж мяне на калінцы пасадзяць,
Яны ж мяне ягадкамі накормяць,
Яны ж мяне крынічнай вадой напояць.

— А куды ж ты, малады Раманка, паедзеш?
— Я паеду праз тры двары ў чацвёрты.
Там мяне ўсе дзевачкі пярэймуць,
Яны мяне за столікам пасадзяць,
Яны мяне, маладога, віном пачастуюць,
Яны мяне Анечкай падораць.

## 821

Да й цёмная асенняя ночанька,
Затужылася салаў'ёва матанька:
— Куды ж, куды, мой салавейка, паляціш?
— Я палячу цераз тры бары ў зялёны сад.
Да там мяне ўсе пташанькі любілі,
На каліну-маліну садзілі,
Салодкімі ягадкамі карміді,
На вылятанне шэру зязюлю дарылі.

Да й цёмная асенняя ночанька,
Да затужылася Пятрусёва матулька:
— Куды, куды, мой сыночак, паедзеш?
— Ды я паеду цераз тры полі ў новы двор.
Ды там мяне ўсе дзеванькі любілі,
За столічак, за цясовы садзілі,
Віном-мёдам паілі,
На выязджанне маладу Марылю дарылі.

## 822

— Куды-пакуды, шэры салавейка, паляціш?
— Я палячу праз тры бары ў зялёны сад.
Там мяне ўсе птушачкі злюбілі,
Яны мяне на вішаньку садзілі,
Яны мяне з лісціначкі паілі.

— Куды-пакуды, малады Лёнечка, паедзеш?
— Я паеду праз тры сялы ў чацвёртае.
Там мяне ўсе дзевачкі злюбілі,
Яны мяне за столічак садзілі,
Яны ж мяне віном-мёдам паілі,
Яны мяне з маладой Галечкай злучылі.

## 823

— Куды, куды, салоўюшка, паляціш?
— Палячу я чэраз поле ў садок.
Там мяне ўсе пташкі ўлюбілі,
Прамеж сябе ў серадочку садзілі

23. Зак. 1454

І краснымі ягадамі кармілі,
Салодкай сыціцай паілі
І шэрую зязюльку ўдарылі.

— Куды, куды, жанішок, паедзеш?
— Я паеду чэраз горад да й у сяло,
А там мяне ўсе дзевачкі ўлюбілі,
Прамеж сябе ў сяродку садзілі
І п'янымі напіткамі паілі,
Сахарнымі закускамі кармілі
І красную княгініхну ўдарылі.

## 824

На небе месяц нараджаецца,*
Славачка ў дарожку сабіраецца,
У яго мамухна пытаецца:
— Славачка, дзіця маё, куды ладзішся?
— Матухна родная, к цешчы на абед.
— Славачка, дзіця маё, жджы майго абеду.
— Мамухна родная, некалі ждаць.
Ужо мае конікі настаяліся,
Ужо мая музыка найгралася,
Да мая дружына нагулялася,
Да мяне Танечка праждалася.

## 825

На небе веташок нараджаецца,*
У дарогу Мішачка сабіраецца,
А ў яго мамулька пытаецца:
— Сыночак Мішачка, куды ладзішся?
— Мамулька родная, к цешчы на абед.
— Сыночак Мішачка, пагадзі майго.
— Мамулька родная, не ўрэмя маё.
Ужо мае конікі запражоныя,
Ужо мая дружына снаражоная,
Ужо мая Валечка надзялёная.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 826

Мамачка Сідарку вячэрацЬ дае.
— Не хачу, мамачка, я вячэры твае,
Паеду я, мамачка, да цёшчы свае.
Там мая вячэра на стале стаіць,
Там мая Ганначка на пасадзе сядзіць.
Там мая вячэра парахом запала,
Там мая Ганначка даўно праждала.

## 827

Мамачка Мішачку а вячэрацЬ дае.
— Не хачу, мамачка, я вячэры твае,
Паеду, мамачка, я да цешчы свае.
Там мая вячэра на стале стаіць.
Каб мая вячэра парахом не запала,
Каб мая Надзечка з другім не стала.
— Ды не бось, не стане — ды задатак мае,
Небальшы задатак — залаты пярсцёнак.

## 828

Вячэрай, Колечка, вячэрай,
На цешчыну яечню не спадзявайся.
Цешчыны яешні не пад'ясі,
Толькі чырвонец аддасі.

## 829

Ой, не радуйся, Пецечка,
А ўсё цёшчухнай яешняй,
Не столькі яешні пад'ясі,
Колькі чырвонцаў аддасі,
Не столькі яешні нажарэшся,
Колькі сораму набярэшся.

## 830

Прыляцеў ясён сакол з арэхаў.
— Ці ты яшчэ, маладзы Андрэйка, не ехаў?
— Я не ехаў, дзевачкі мае, не ехаў:
Учора звячора музыканцікаў нанімаў,
Сягоння зрання вас, дзевачак, пазбіраў.
А цяпер жа я, дзевачкі мае, паеду.

## 831

І, ай, едзь, Шурачка, не пазніся,
І на чужым полі не станавісь,
І на чужых дзевак не заглядай,
На маладу Любачку не забывай.

## 832

Едзь, Цімошка, ў жаніхі,
Не заглядайся на дзеўкі,
На чужыя маладкі.
Твая Матронка маладая,
Па плечах коска русая,
Па ліцу слёзка дробная.

## 833

— Харошанькі-прыгожанькі Іванька,
Хто табе русы кудзёры расчасаў?
— Расчасала мая мамачка ў нядзелю,
Расчасала да й за Мар'ечкай паслала:
— Едзь-паедзь, мой сыночак, не баўся,
Скрозь ночаньку, скрозь цёмную прыймайся.
На горкую гарэлачку не квапся.

Прывязі мне пераменачку ў атласе,
Не ў атласе, хоць у харошай павазе.
А ў атласе да цэркаўкі хадзіць,
А ў павазе свякровушку павазіць.

## 834

А беленькі, кудравенькі Іванька,
А хто яму і кудрыкі расчасаў?
Расчасала яго матулька родная.
У суботачку ўвесь дзянёчак часала,
А ў нядзелечку па нявестачку паслала:
— Ды едзь-паедзь, маё дзіця, не баўся,
Прывязі мне нявестачку ў атласе,
Хоць не ў атласе, дык ў беленькай сярмязе.
У атласе па пакоях хадзіць,
А ў сярмязе работачку рабіць.

## 835

— Ты беленькі, кудравенькі Іванька,
А хто ж табе да русыя кудры расчасаў?
— Расчасала мне матушка ў суботу,
А ў нядзельку паслала рана па дзеўку:
— Ай, едзь, паедзь, маё дзіцятка, не баўся,
Скрозь ночачку ў дворушку прабірайся,
На гарэлачку, маё дзіцятка, не квапся.
Прывязі ж ты мне пераменушку ў атласе,
Ці ў атласе, ці ў беленькай сярмязе,
Ці ў чаравічках, ці ў лапатках — дык наша.
Была б мне на работушку ўдалася.

## 836

Ой, паедзь, паедзь, а мой сыночак, не баўся,
А прывязі мне нявехначку ў атласе.
Хоць бы ў атласе, хоць не ў атласе — быць наша.
Ой, каб яна на тры дзелы ўдалася:
Первае дзела — вясне-красне кросны ткаць,
Другое дзела — цёплым лецечкам жыта жаць,
Трэцяе дзела — студзёнай зімой плацце праць.

## 837

Ай, беленькі, кудравенькі Віцечка,*
А хто ж яму бела лічанька ўмываў,
А хто ж яму русы кудзеркі расчасаў,
А хто ж яму варанога коніка асядлаў,
А хто ж яго ў дарожку выпраўляў?
Умывала бела лічанька матулька,
Расчасвала русы кудзеркі сястрыца,
Асядлаў варанога коніка братулька,
Выпраўляў у дарожку татулька:
— А едзь-паедзь, мой сыночак,
А едзь-паедзь, мой Віцечка,
А едзь-паедзь, не баўся.
Прывязі ж ты мне нявестачку,
Прывязі ж ды ў атласе.
Хоць ў латах, а не ў атласе,
Хоць ў латах, абы наша,
Абы ж яна на работу ўдалася.

## 838

Да добрая да гадзіначка настала,
Матка сынка па нявехначку паслала.
Паслала сем казачэнькаў, восьмы воз,
Каб жа мне нявехначку да прывёз.
Дала, дала сем белых сыроў на стра́ву,
Каб прывязлі мне нявехначку на славу.
Дала, дала сем таляроў на піва,
Каб прывезлі мне нявехначку на дзіва.

## 839

Матка сына радзіла,
Месяцам абгарадзіла,
Зоркаю падперазала,
Дарожку ўказала:
— Едзь, маё дзяцятка,
Па сваю суджоную,
Па маю радзоную.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Прывязі нявесту дольную,
З натураю добраю.
Узяла наравы ў рукавы,
Кінула наравы за хлявы,
Добрую натуру ў рукавы.

### 840

Маці сына выражала,
Месяцам аперазала,
А зоркаю засцягнула,
Доляю агарнула:
— Да шыруй, сынку, шыруй,
Назад конікі вярні,
Сабе Ганначку бяры.

### 841

На дварэ вечарок.
— Едзь, не бауся, мой сынок.

Будзе табе дарога шырока,
Будзе табе дзевачка далёка.

— Не бядуй, мамачка, не бядуй,
Я гэту дарожачку павужу.

Я гэту дарожачку павужу,
Я гэту дзевачку пабліжу.

Зраблю дарогу, як стужачку,
Прывязу мамачцы служачку.

### 842

Ой, вечар, вечар вечарэ,
Да й не пазніся, мой сынок.
Да не пасі коніка ў сенажаці,
Да не кладзі галоўкі у краваці.
Да пасі коніка ў даліне,
Да кладзі галоўку ў пярыне.

## 843

— Не вечарыся на дварэ,
Ай, не пазніся, Ванечка.
Не пасі коніка ў лузе,
Не вешай узды на кусце,
Не кладзі сядла пад кустом,
Паспявай к цешчухне к абеду.
— А я к абеду не еду,
А к вячэры, як тут быў.
У абедзе даруюць хусткамі,
У вячэру даруюць дзеўкамі.
Спазніўся, цешчухна, спазніўся,
Пакуда ў банюшкі памыўся,
Бяленек, цешчухна, бяленек,
Тваяму дзіцяці міленек.

## 844

А ўжо вечар-вечарок,
Вечарок.
Едзь, не пазніся, мой сынок,
Мой сынок.
Да не рабі начлега на дарозе,
На дарозе.
Не прывязвай коніка к бярозе,
К бярозе.
Вырві з бярозкі тры розкі,
Тры розкі.
Да секані коніка пад ножкі,
Пад ножкі.
Да бяжы, бяжы, конічак, па расе,
Па расе.
Штоб досталі Евачку ў касе,
У касе.
Да не так у касе — ўпляце.

## 845

— Не вечарыся, соўнейка,*
Не пазніся, Архіпка.
Твая дарога шырока,

* Кожны радок паўтараецца.

Твая Рыпіна далёка.
— Будзе дарога ўзенька,
Будзе Рыпіна блізенька,
Ой, бліжэй ўсіх дзевачак.

### 846

Хлопчыка маці радзіла,
Месяцам абгарадзіла,
Зарой падперазала
І дарожку указала:
— Ой, хлопчычак, не стой,
У цябе коні найманыя
І баяры праханыя.
Ужо коні патаміліся,
І баяры падбіліся,
І музычанькі перайграліся,
А сваточкі пераскакаліся.

### 847

Едзь, Міхейка, не стой,
У цябе konічак не свой,
Дарожка няпэўная,
Дружына няверная:
Сваццюнька — не сястрыца,
Маршалкі — не брахнейкі,
Падружнічкі — не дзядзенькі.

### 848

— Не стой, малады, не стой,
У цябе конік не свой.

Дарожка невядомая,
Паненка незнакомая.

— Я дарожкі папытаюся,
З паненкай прывітаюся.

## 849

Едзь, едзь, Ванечка, [не стой],
Бо ў цябе конічак чужы, не свой.
Начавацьмеш ночку ў дарозе,
Прывязаўшы коніка к бярозе.
— Бяроза ж ты мая белая,
Галоўка ж ты мая бедная,
Хто ж майго коніка напасе,
Да новай стаенькі давядзе?
Абазвалася Манечка ў саду:
— Я твайго коніка напасу.
Мы ж яму аброку-пшаніцы,
Мы ж яму вадзіцы з крыніцы.

## 850

Паедзь, паедзь, малады мальчышка, да вянца,
Там твая цясцёхна надзялёная,
Там твае вароцікі расчыненыя,
Там у тваей дзевачкі коскі расплецены.
А хто коскі расплятаў? — Сястрычкі.
А хто ўкосьнічкі падбіраў? — Брацюткі.

## 851

— Ой, ідзі, Колечка,
Цябе цесцейка чакае.
— Няхай чакае, я й буду,
Я да яго на вячэру прыбуду.
Прыехаў, за вароты схваціўся,
Свайму цесцейку
Нізкім паклонам скланіўся.

## 852

Да едзь-паедзь, малады Яначка, не баўся,
Твой цясцютка, твой родненькі праждаўся.
Ужо сабраліся любыя госці, піва п'юць,
Цябе там, маладога, даўно ждуць.

## 853

У дарогу, сваточкі, ў дарогу
Цераз зялёную дуброву.
Да будзе тая дуброва шумець,
Да будзе цешча зяця глядзець,
Да ці не бяжыць той конь вараны,
Да ці не едзе той зяць малады.

## 854

Шаўковая нітачка к сцяне б'е,
Іванька, твая Мар'ечка даўно жджэ.
Былі ўсе ксянжата, панята,
Яна, малада, ўсімі імі згардзіла,
Цябе, Іванька, палюбіла.
Па тваім коніку вараным,
Па тваім лічаньку румяным,
Па тваім вочку саколім.

## 855

Не вечарыся на дварэ,
Не пазнісь, Максімка, у дварэ.

А то цябе Вуллянка даўно жджэць,
А то цябе Вуллянка даўно жджэць,

За варотамі стоючы,
Поўны кубачкі дзержачы.

Паўнейце, кубачкі, паўнейце,
Не млейце, ручачкі, не млейце.

А ўжо ручачкі замлелі,
Чаравічкі ножкі сціснулі.

Залатыя пярсцёнкі з рук спалі,
Пакуль Максімкі даждалі.

## 856

Не вечарыся на дварэ,
Едзь, не пазніся, Андрэечка.
Там цябе Аўдотка даўно жджэць;
У варотах стаячы,
Новыя кубачкі дзержачы.
— А наллю кубачкі — не наллю,
А жду Андрэйкі — не дажду.
Ужо мае кубачкі спаўнелі,
Ужо мае ручухны замлелі.
Ай, кубак віна зялёнага
Для цябе, Андрэйкі, маладога.

## 857

Не вечарыся на дварэ,
Не пазніся, Мікітка, ў дварэ.
Там цябе Матронка даўно жджэць,
За табой, маладым, паслы шлець,
Мядовыя кубачкі налівaець,
Бялёвыя скацеркі засцілаець,
Нас, любых гасцей, дажыдаець.

## 858

Па надвор'ю зялёны явор паслаўся,
Ды едзь-паедзь, мой сыночак, не баўся,
Там цябе твой родны цясцёчак праждаўся,
Тры румачкі крышталовага віна п'ець,
А чацвёрта залацюсенька цябе жджэць.
Ды паедзем, мае сваточкі, гуляя,
Ды будзець нам гэтая ночка відная,
Ды будзець нам ясён месяц свяціць,
Ды будзець нам заранaчка служыць.
— Свяці, свяці, ясён месяц, да свету,
Пакуль жа я да цясцёчка даеду.

## 859

— Ой, вечар, вечар, не вечарыся,
Ды едзь, Мішачка, ды не пазніся,
У паўдарожкі не станавіся.
Твая вячэрка пылам запала,
Твая Верачка другому стала.
— Жоначкі мае, няпраўда ваша:
Мая вячэрка накрыта стаіць,
Мая Верачка за сталом сядзіць.
За сталом сядзіць, сільненька плачаць,
Сільненька плачаць, цяжка ўздыхаець.
Цяжка ўздыхаець, мяне дажыдаець.

## 860

— Едзь, едзь, Ванечка,
Да не абаўляйся.
Да ўжо ў цябе дома
Да няма нікога.
Да ўжо новая патрава
Да пылам запала,
Да ўжо твая Надзечка
І з іншым стала.
— А я тую патраву
Ды параскрываю,
Я сваю Надзечку
Між усіх узнаю:
У мае Надзечкі па плечкі коскі,
Пад вачыма слёзкі.
На плечках коскі, як лён бяленькі,
Пад вачыма слёзкі, як мак драбненькі.

## 861

— Ой, вечар, вечар, не вечарыся,
Едзь, едзь, малойчык, ды не спазніся,

Каб твая патраўка
Парахом не пала,

Каб твая дзевачка
За другім не стала.

— Ля маей патраўкі
Стаяць кухаркі,

Ля маей дзевачкі
Стаяць бальшанкі.

## 862

Ой, вечар, вечар, не вечарыся,
А едзь, малойчык, едзь, не пазніся.

Твая дарожка пылам запала,
Твая дзяўчына вышла за пана.

Вышла за пана, цябе не ждала,
Цябе не ждала, ў шлюбе стала.

## 863

Вечар, вечар, не вечарыся,
Не вечарыся.

— Едзь, едзь, Яначка, не станавіся,
Не станавіся.

Каб твая патраўка парашком не пала,
Парашком не пала.

Каб твая паненка другому не стала,
Другому не стала.

— Мая патраўка шатром пакрыта,
Шатром пакрыта.

Мая паненка за мной запіта,
За мной запіта.

А не так запіта, як заручона,
Як заручона.

Не так заручона, як савянчона,
Як савянчона.

## 864

— Ай, вечар, вечар, не вечарыся, раненька, *
Едзь, Ванька, у дарожку ды не пазніся, раненька.
Твая вячэра пылам запала, раненька,
Твая Маруська на пасад села, раненька.
— А я з вячэркі пыл платком зганю, раненька,
А я Маруську з пасаду вазьму, раненька.

## 865

— Едзь, едзь, Колечка,
Да не вечарыся,
Да ў паўдарожкі
Да не станавіся.
Каб і твая патрава
Да пылам не пала,
Каб і твая Галечка
Другому не стала.
— Я сваю патраву
Да перцам прыпраўлю,
Я сваю Галечку
К сабе перабаўлю.

## 866

— Ляці, салавейка, да не пазніся,
У цёмным лесе не станавіся.
— Ужо мая зазулька падстралёная.
— Едзь, Цімошка, не абаўляйся
І на чужыя дзевачкі не заглядайся.
— Хоць спазнюся, я не баюся,
Ўжо мая Матронка заплачоная
І за мяне заручоная.

## 867

Ляці-паляці, ясны сокале,
У поле.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ідзі, паглядзі сваёй чырачкі
У гняздзечку.

У тваёй чырачкі
Трусовыя пер'ечкі,

У цябе, саколе,
Яснае пер'ейка.

Паедзь, малады Яначка,
К цесцю на двор,

Ідзі, паглядзі сваей Марыські
У вяночку.

Усё на русай касе
Вяночак,

У цябе на правай ручцы
Персцянёчак.

## 868

— Ляці, салавейка, да не залятайся,
На чужыя пташачкі да не заглядайся.
Ужо тваю зязюлю пташкі абселі,
Пташкі абселі, салаўі апелі.
Едзь, едзь, сужанка, да не заязджайся,
На чужыя дзевачкі да не заглядайся,
Ужо тваю дзеваньку дружкі абселі,
Дружкі абселі, сванькі апелі.
— Няхай абсядаюць, як самі знаюць,
Я сваю дзеваньку між усіх пазнаю.
У мае дзеваньки па плячах коскі,
Па плячах коскі, па ліцу слёзкі.
Ручнічок у ручках таненек, бяленек,
Таненек, бяленек, ад слёзак макрэнек.

## 869

— Леці, саколік, да не залятайся,
Ой, рана-рана, да не залятайся, *
Ты свае саколікі да не забывайся.
Ужо тваю саколку сакалы абселі,
Пташачкі апелі.
— Няхай абсядаюць, як самі знаюць,
Я сваю саколку між іх пазнаю.
У мае саколкі да рабое пер'е,
Залатыя крылца.

— Ой, едзь, малойчык, да не заязджайся,
Ты свае дзявонькі да не забывайся.
Ужо тваю дзявоньку малайцы абселі,
Дзевачкі апелі.
— Няхай абсядаюць, як самі знаюць.
Я сваю дзявоньку між іх пазнаю.
У мае дзявонькі коскі над плячамі,
Дробны слёзкі пад вачамі.

## 870

— Да ляці, саколік, да не пазніся:
Ужо тваю цяцёрку пташкі абселі.
— Да няхай абсядаюць, я сабе не дбаю,
Я сваю цяцёрку між імі пазнаю.

— Едзь, жанішок, да не абаўляйся:
Ужо тваю дзеваньку дзеўкі абселі.
— Да няхай абсядаюць, я аб тым не дбаю,
Я сваю дзеваньку меж імі пазнаю:

Бо ў маёй дзеваньскі па плячах коска,
Па плячах коска, а па лічку слёзка,
У руках хустанька без ветру мае,
Без ветру мае, без сонца ззяе.

## 871

— Ляці, салавейка, ды не абаўляйся:
Ужо ж тваю зязюльку салаўі абселі,

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка з яго апошнімі словамі.

Салаўі абселі, песенькі апелі.
— Няхай абсядаюць, ды я тым не дбаю,
Я сваю зязюльку між усіх пазнаю:
Да ў мае зязюлькі да рабое перца,
Да рабое перца, залатое крыльца.
— Да едзь, дзяцінка, ды не абаўляйся:
Ужо ж тваю дзевачку дружачкі абселі,
Дружачкі абселі, песенькі апелі.
— Няхай абсядаюць, да я тым не дбаю,
Я сваю дзевачку між з усіх пазнаю:
Да ў мае дзевачкі расплецена каса,
Расплецена каса, заплаканы глаза.

## 872

— Пара, пара, шэры салавейка, вылятаць. *
Ці заспееш сваю зязюлю ў гняздзечку?
— Хоць заспею не заспею — паляту,
Я сваю зязюлю па пер'ейку пазнаю:
У маёй зязюлі пер'ейка шарэнька,
У маёй зязюлі на галоўцы чубочак.
— Пара, пара, млоды Пецечка, выязджаць.
Ці заспееш сваю Тамарку за сталом?
— Хоць заспею не заспею — паеду,
Я сваю Тамарку па плаццейку пазнаю:
Ў маёй Тамаркі плаццейка бяленька,
Ў маёй Тамаркі на галоўцы вяночак.

## 873

— А й лець-палець, ясны саколе, ў поле, **
Да заставай сваю чырачку ў гняздзечку.
— Хоць застану, а не застану — спазнаю:
У маёй чырачкі сізенькія крылачкі,
У маёй чырачкі залатая галоўка.

— А едзь-паедзь, млоды Колечка, паскарэй,
Да заставай сваю Ніначку за сталом.

* Кожны радок паўтараецца.
** Кожны радок, акрамя чацвёртага, паўтараецца.

— Хоць застану, а не застану — спазнаю:
І ў маёй Ніначкі на галоўцы вяночак,
І ў маёй Ніначкі заплаканыя вочкі.

## 874

Вылець, вылець, сізы галубочка, рана з дому,
Каб заспеў шэру зязюльку ў бару.
— Ці заспею не заспею — палячу,
Ды я яе хоць у якой стадзе пазнаю:
Сама шэрая, пер'я дробныя на ёй.

Выедзь, выедзь, малады Янечка, рана з дому,
Каб заспеў маладу Ганьку за сталом.
— Ці заспею не заспею — паеду,
Ды я яе хоць у якой грамадзе пазнаю:
Сама малада, вянок зялёны на ёй.

## 875

— Лець-палець, ясен сакол, на мора,
Заспей, заспей сваю чырачку у гняздзечку.
— Хоць заспею, хоць не заспею — палячу.
Я сваю чырачку на палёце разышчу.
— Едзь-паедзь, Ясенька, к цёшчухны,
Заспей, заспей сваю нявестухну ў каморы.
— Хоць я заспею не заспею — паеду,
Я ж яе па паходах узнаю:
У яе паходы ціхусенькі,
У яе уклоны нізюсенькі.

## 876

— Едзь, едзь, Іванка, не станавіся,
Пад таею калінаю спаць не лажыся,
Бо тую каліну пташкі ж аб'елі,
Бо ўжо тваю Галечку дружкі аселі.
— Да няхай асядаюць, як самі знаюць,
Я ж сваю Галечку між усіх пазнаю:

Бо ў маёй Галечкі па плечах коскі,
Па плечках коскі да па валасочку,
А па лічкам слёзкі да па гарашочку.

## 877

Па панадвор'ю кляновы лісток паслаўся,
Млоды Юзючок у дарожаньку сабраўся.
Сеўшы за сталом, зялёна віна напіўся,
Ён жа у сваю ды дарожаньку спазніўся.
— Ой, ці спазніўся, ці не спазніўся — не дбаю,
Сваю Ганульку паміж дзевачак пазнаю:
У мае Ганулькі чырвоны каснік у касе,
У мае Ганулькі руцяны вянок у руцэ,
У мае Ганулькі залаты персцень на руцэ.

## 878

А ў агародзе гардоўнічак паслаўся.
А куды ж ты, млоды Мечык, сабраўся?

А ў агародзе гардоўнічак шырокі,
Наш Мечык малады гасцёк далёкі.

Пакуль жа ён віна-мёду напіўся,
Ён жа да сваей Волечкі спазніўся.

## 879

Едзь, едзь, Іванька, едзь, не пазніся, *
У паўдарожкі не станавіся.
Прыедзеш к варотам, а стукнеш ботам:
«Цёшча, мацъ мая, адчыняй вароты,
Цёшча, мацъ мая, я твой зяць буду,
Я ж тваю дачушку шанаваць буду:
То кнутам, то прутам, то дубінкаю,
Штоб была яна ў доме гаспадынькаю».

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 880

— А й едзь, Геначка, не пазніся, *
Бо твая дарога доўгая,
А твая цешчухна гордая.
Яна цябе ў паўночы не прымецъ
І вароцечкаў не адчынецъ,
Яна табе дзевухну не пакажацъ.
А хоцъ пакажацъ — не тую,
Выведзецъ з церама другую.
— Пышную цешчухну уегнаю,
Я сваю Валюхну пазнаю:
Па белых плечках коска ляжыцъ,
Па румяным ліцу слёзка бяжыцъ,
Па белых плечках коска растраплёная,
Па румяным ліцу слёзка разліёная.

## 881

— Едзь жа, Юзенька,
Бо ўжо позненька,
Бо твая цёшчухна грозненька,
Паставіла на цябе тры старожанька:
Першая старожа ў вароцейках,
Другая старожа пасярод двара,
Трэцяя старожа на ганачку.
А сама цёшчухна па сенях ходзіцъ,
Белага лебедзя на руках носіцъ,
Чырвоную ягаду ў залатым кубку.
Беленькі лебядок — то Юзютачка,
А чырвоная ягада — Уляначка.

## 882

Цёмная ночка нявідна,
Доўгая дарожка грудліва.

Вараны конік падбіўся,
Малады Іллючок спазніўся.

---

* Кожны радок паўтараецца.

А яго цешчухна гордзенька,
Не ўпусцецъ на двор позненька.

А я сваю цешчухну перапрашу,
Чырвонца паклон палажу.

Я сваю цешчухну з'яднаю,
Выведу дзевачку, спазнаю.

## 883

Грудліва дарога, грудліва,
Варанога каня падбіла,
Маладога Івана спазніла.
Яго цешчухна гордая,
Не пусціць на двор позненька,
Сабалямі вароты завяжыць,
Карагод дзевачак паставіць.
— Я тыя сабалі развяжу,
Карагод дзевачак развяду.
Выведу дзевачку маладу,
Пастаўлю з сабой у раду.

## 884

Да Колічак бацьку просіць:
— Да бацюхна мой родненькі,
Да бацюхна мой родненькі,
Не пазні мяне позненька.
Не пазні мяне позненька,
Выпраўляй мяне раненька,
Бо й у мяне сціла горды,
Да не пусціць мяне на двор.
Ні коніка вараненькага
Да ні мяне, маладзенькага,
Ні дружачкі мае
Да не аддасць дачкі свае.
— Да Колічак, маё дзіцятка,
Сцілятку да пакарыся.
Сцілятку да пакарыся,
Нізенька пакланіся.
То ён цябе на двор пусціць,

І дружыначку тваю.
І дружыначку тваю
Да й аддасць дачку сваю.

### 885

Над варотамі месяц
Цэлую ночку свеціць.
Іванка па дварэ ходзіць,
У руках шапачку носіць,
Свайго татачку просіць:
— Татачка родненькі,
Выпраўляй мяне борздзенька,
Бо мая цешча горда,
Не пусціць на двор борзда.
Пусціць пастаяўшы,
Слоўцамі наказаўшы,
Маладым зяцем назваўшы.

### 886

Жанішка па двару ходзя,
А ў руках шапку нося,
Свайго татку простя:
— Выпраўляй, татка, у дарогу,
Выпраўляй, да не забывай:
Мой цятачка горды.
Ён мяне ў двор не пусця,
Ні мяне ў двор не пусця,
Ні радзіначкі маёй.

### 887

Гарнастай наш Ванечка, гарнастай,
Кругом століка ходзіць,
Сваю мамачку просіць:
— Не пазні, маці, не пазні,
Не пазні, маці родная.
Мая цёшчухна гордая,
Позна на двор не пускаець,

Ды вароцікі замыкаець,
А хоць пусціць — намарозіўшы,
Аддасць дачку — ды налаяўшы.

## 888

Гарнастай наш Іванька, *
Па застоллейку ходзіць,
У руках шапачку носіць,
Свайго брахненьку просіць:
— Да не забаўляй мяне, брахненька,
Мая цёшчухна горда.
Яна не пусціць на двор позна,
Яна не аддасць свае дачкі,
Свае дачкі да каханачкі.
Вароцейкі замыкаець
То ў тры замкі, то ў чатыры,
А й у пяты залаты.

## 889

Колечка па сенях пахадзіў,
Сваю родну мамачку пабудзіў:
— А ўстань, родна мамачка, з ложку,
Выпраўляй мяне ў дарожку.
А мая дарожка доўгая,
А мая цешчухна гордая.
Яна мяне позненька не прымець,
На замкі вароцікі зачынець.
— А ты вазьмі, мой сынок, войструю меч,
Секанеш па замках — замкі прэч.
А зачула ж тое цешчухна:
— Не рысуй, мой зяцёк, не рысуй,
Залатыя замкі мне не псуй.
Не для цябе вароты стаўляны,
Не для цябе замочкі купляны.
Вароты стаўляны — для двара,
Замочкі купляны — ад вара.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 890

Да не выпівай кубка да дзянца,
Да выпраўляй мяне да вянца.
А прамі цёплую шубу,
Да выпраў мяне да шлюбу,
Бо ў мяне мой цесць горды,
Да не пусціць на двор скора.
Да ні каня варанога,
Да ні мяне, маладога.
Ні дружыначкі мае,
Да не аддасць дачкі свае.

## 891

— Не раньса, вечарок, не раньса,
А едзь, Колечка, не бауся,
Бо твая дарога доўгая,
Бо твая цешчухна гордая.
Яна цябе ўпоўначы не прымець
І вароцікі не адчынець,
Яна табе Валечку не пакажаць.
— Адчыніць вароты конь вараны,
Спазнаю Валечку сам малады.
Па белых плечках коска ляжыць,
Па румяным ліцу слёзка бяжыць.

## 892

Да маладзенькі малойчык
Да прасіў сваёй мамачкі:
— Мамачка мая родная,
Не пазні мяне позненька,
Выпраўляй мяне борздзенька.
Мой цясцятка гордзенькі
Да не пусціць на падвор'е
Да ні мяне, маладога,
Ні каня варанога.
— Дзіця маё ды маладое,
Ты ж малады розум маеш.
Разгані ж ды каня з гары.
Конь прыляціць у вароцейкі,

Ударыць ды капыцікам:
«Адчыніся, цясцятка,
Адчыніся, гордзенькі.
А калі ты не адчынешся,
Дык выпраў мне праваднічку —
Маладую дзевачку».

## 893

Герасімка брахнейку перапрашаваў:
— Брахнейка родненькі, ды не баў жа мяне.
Мне ж нада ехаць цёмныя ночы,
Паказаць мне свае яркія вочы.
Мне ж нада ехаць па каменнейку,
Вывезці Дар'ечку з пакаленнейку.
Мне ж нада ехаць каля броду,
Вывезці Дар'ечку з вялікага роду.
Мне ж нада ехаць са свячамі,
Вывезці Дар'ечку са слязамі.

## 894

Ай, ну, ну, мамуленька, а не баў ты нас.
Нам нада ехаці ў чужыя людзі.
Нам нада ехаці а каля гароду,
Нада ўзяць Евачку вялікага роду.
Нам нада ехаці лашчынкамі,
Нада ўзяць Евачку з пасцілкамі.
Нам нада ехаці гарушкамі,
Нада ўзяць Евачку з падушкамі.

## 895

Да ну-це, сваты, прыбірайцеся, паедзем.
Да будзем ехаць чатыры мілі барамі,
Да пятую да жалезнымі мастамі,
Пастанем усе радком пад тынком
Да выб'ем крамяну сцяну да вянком,
Да возьмем красну дзевачку за замком.

## 896

Да паехаў Нікіпарка купцаваць,
Да пытаўся бацюхну, што купаваць:
Ці купіць поле з вішнямі,
Ці купіць места з панамі,
Ці купіць сяло з дзяўкамі?
Чырвонае поле ад вішань,
Багата места ад паноў,
Да вясёлае сяло ад дзевак.

## 897

Ехала сванечка гарою,
Вязла жанішка з сабою:
— Што ж табе, жанішок, купіці:
[Ці купіці поле з снапамі],
Ці купіці места з царквамі,
Ці купіці сяло з дзяўкамі?
Дарагое поле з снапамі,
Слаўнае места з царквамі,
Вясёлае сяло з дзяўкамі.

## 898

Іван к торгу збіраўся,
У сваёй Мар'ечкі пытаўся:
— Што табе, Мар'ечка, старгаваць?
— Купі мне поле з вішнямі,
Купі мне места з панамі,
А купі мне сяло з дзеўкамі.
— Не разумна ты, мая Мар'ечка.
Вішні у полі паадпадуць,
Паны з места выедуць,
Усе дзеўкі замуж папайдуць.
Не будзець поле красіва,
Не будзець места багата,
І не будзець сяло вясёла.

## 899

Бразнулі калаколы ў вараных коней:
— Сядайце, малайцы, ўсе й на коні,
Паедзем мы з вамі ў новы горад.
А ў новым горадзе дзяльбу дзеляць:
То таму, то сяму а па коніку,
Нашаму Лявоньку із сядзельцам.
То таму, то сяму а па дзевачцы,
Нашаму Лявоньку ў вяночку.

## 900

Ударылі ў званы, у калакóлы:
— Садзіцесь, баяры ўсе на коні,
Паедзем, баяры, у новы горад.
А ў новым горадзе канямі дорацъ:
То таму, то сяму ды па коніку,
Нашаму Ванечку што найлучшага.

Ударылі ў званы, у калаколы:
— Садзіцесь, баяры, усе на коні,
Паедзем, баяры, у новы горад.
А ў новым горадзе хусткамі дорацъ:
То таму, то сяму ды па хустачцы,
Нашаму Ванечку што найлучшую.

Ударылі ў званы, у калаколы:
— Садзіцесь, баяры, усе на коні,
Паедзем, баяры, у новы горад.
А ў новым горадзе дзеўкамі дорацъ:
То таму, то сяму ды па дзевачцы,
Нашаму Ванечку што найлучшую.

## 901

Ударылі ў званы-калаколы:
— Садзіцесь, баяры, ўсе на коні,
Паедзем у новы горад.
Пад'ехаўшы пад гарадок, паслухаем,
Што ў новым горадзе, што дзеецца.
А ў новым горадзе суды судзяць,

Суды судзяць — каней дзеляць:
І таму, і сяму па коніку,
А нашаму Варывоньку самага лучшага,
вароненькага.

Ударылі ў званы-калаколы:
— Садзіцеся, баяры, ўсе на коні,
Паедзем у новы горад.
Пад'ехаўшы, паслухаем,
Што ў новым горадзе, што дзеецца.
А ў новым горадзе суды судзяць,
Суды судзяць — дзевак дзеляць:
А й таму, а й сяму па дзевушцы,
А Варывоньку самая лепшая, Хадоранька.

902

Ударылі ў звоны, у калаколы:
— Узлязайце, баяры, ўсе на коні,
Паедзем, паедзем у стаўлен горад.
У стаўленым горадзе коні многа:
То таму, то сяму па коніку.
Нашаму Іваньку што найлучшанькі,
Лучшага, лепшага, варанейшага.

Ударылі ў звоны, у калаколы:
— Узлязайце, баяры, ўсе на коні,
Паедзем, паедзем у новы горад.
А ў новым горадзе вазкоў многа:
То таму, то сяму па вазочку,
А нашаму Іваньку маляваненькі.

Ударылі ў звоны, у калаколы:
— Узлязайце, баяры, ўсе на коні,
Паедзем, паедзем у красны горад,
А ў красным горадзе дзевак многа:
То таму, то сяму па дзевачцы,
А нашаму Іваньку што найлепшая,
Лепшая, лепшая, прыгажэйшая.

## 903

Бразжалі два званы-калаколы:
— Садзіцеся, баяры, усе на коні,
Паедзем у новы горад,
Дзе баяры мёд-віно п'юць,
А баярачкі вянкі ўюць.
Там нам Варутаньку дадуць.

## 904

За лесам, за лесам сонейка іграе,
Ой, рана, рана. *
Там жа Ванечка коніка сядлае,
Слёзненька плача і цяжанька ўздыхае.
Прышла мамухна ў яго пытаць:
— Чаго, Ванечка, чаго дзіцятка,
Слёзанька плачаш, цяжанька ўздыхаеш?
— Як мне не плакаць, як мне не ўздыхаць?
Бяру паненку не к сабе раўненьку,
Ні [redacted] людзям прыстойна,
Ні к сям'і прылежна.
— Не плач, Ванечка, не плач, дзіцятка,
У нас пабудзе, такая будзе,
К людзям прыстане, такая стане.

## 905

Малады й Ванюшанька
На коніку йграе,
На коніку йграе,
Сільненька плача.

Прышоў да яго
Бацюхна яго:
— А чаго ты, Ванюшанька,
Сільненька плачаш?

— Як жа мне, маладому,
Сільна не плакаць?

---

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

Што ўзяў каралёўну
Не сваю роўню.

Па двару пойдзе,
То я яе баюся.
Чаравічкам тупне,
То я ўлякнуся.

— Не плач, Ванюшанька,
Не плач, маладзенькі,
Пералетуй лета,
Перазімуй зіму,
Будзе гэта каралёўна
І з намі роўна.

Будзе твой канчучок
Да й угору лятаць,
Будзе твая каралёўна
Цябе саколікам зваць.

906

Свет расцвітаець,
Зара займаець,
Млоды Іванька
Каня сядлаець.

Каня сядлаець,
Сільненька плачаць.
Як выйшла маці
Ў яго пытаці.

Як выйшла маці
Ў яго пытаці:
— Чаго, сыночак,
Сільненька плача?

— Як мне не плакаць,
Як не тужыці?
Бяру крулёўну
Сабе не роўну.

Ключамі бразнець —
З каня звалюся.
Сукенкай шаснець —
Я аж злякнуся.

— Не плач, сыночак,
Не плач, мой родны,
У нас пабудзець,
На ўсё забудзець.

Мы гэты ключыкі
Цесненька звяжам,
Мы гэты сукенкі
Шчытненька зложым.

Мы гэты сукенкі
Шчытненька зложым,
А гэту крулёўну
Зробім сабе роўну.

## 907

За лесам, лесам сонейка іграе,
Малады малойчык коніка сядлае.
Коніка сядлае, цяжка ўздыхае,
Цяжка ўздыхае, сільненька плача.
Прыйшла да яго матулька яго:
— Чаго, сыночак, цяжка ўздыхаеш,
Цяжка ўздыхаеш, сільненька плачаш?
— Матулька мая, як мне не ўздыхаць,
Як мне не ўздыхаць, сільна не плакаць.
Бяру каралёўну — сабе не роўну:
На двор уз'едзе — увесь двор асвеце,
У сені ўвойдзе — чаравічкам стукне,
У хату ўвойдзе — шубачкаю шасне,
За столікам сядзе — ключыкамі ляснe.
Шубачкаю шасне — я спалахнуся,
Ключыкамі лясне — з ложка звалюся.
— Пакінь, сыночак, пакінь думацi:
Шубачку зносіць, к мамцы ходзячы,
Чаравічкі стопча, ваду носячы,
Ключыкі згубіць, хату мыючы,—
Гэта каралёўна будзе з намі роўна.

908

Ці свет світаець, ці зара займаець,
Ой, рана, рана, ці зара займаець. *
Ні свет світаець, ні зара займаець —
Там Паўлічка каня сядлаець,
Каня сядлаець, крэпка плачаць.
У яго матухна ды ў яго пытае:
— Чаго, Паўлічка-дзіцятка, чаго крэпка плачаш?
— Матулька мая, што ў мяне пытаеш,
Калі сама добра знаеш.
Бяру паненку — не роўну з сабой,
Яе шаты шумяць — я ўлякнуся,
А ключыкі зазвіняць — я і з каня звалюся.
— Не пужайся, Паўлічка, не пужайся, дзіцятка.
У яе шаты ўсе пазычаныя,
У яе ключыкі слесаровыя,
Яе славечкі неўлякнёныя.
Яна шаты здзеніць, ў скрыню паложыць,
А ключыкі цесненька звяжыць.

909

За лесам, лесам сонейка грае,
Хлопец каня сядлае.

Каня сядлае, слёзкі выцірае,
Яго маці пытае:

— Чаму, сыночак, горка плачаш?
— Родная маці, як жа мне не плакаць?

Узяў сабе жонку, жонку не раўню,
У маей жонкі златыя кольцы.

У маей жонкі златыя кольцы,
У маей жонкі шаўковыя плацці.

А маці кажа:
— Як у нас пабудзець, кольцы пагубіць,
Як у нас паходзіць, шоўкі паносіць.

* Прыпеў «Ой, рана, рана» паўтараецца в другой частцы кожнага радка.

## 910

За лесам, лесам сонейка йграець,
Там Іванька каня сядлаець.

Не так сядлаець, як сільна плачаць,
Прыйшоўшы да яго, маці пытаець:

— Чаго й, Іванька,
Чаго й, сынок, так моцна плачаш?
— Нашто ж пытаеш, калі не знаеш?

Нашто ж пытаеш, калі не знаеш?
Бяру паненку не сабе раўненьку.

У яе шаты па пяты,
У яе ключы залатыя.

— Не плач, сынок, ў нас пабудзець —
такая будзець:
Шаты паносіць, а ключы паложыць —
Такая й будзець.

## 911

За лесам, лесам соўнейка іграець,
Ай, рана, рана, соўнейка іграець. *
А там Андрэйка коніка сядлаець,
Не так сядлаець, як сільна плачаць.
Прышла матулька, яго пытаець:
— Чаго, мой сынку, так сільна плачаш?
— Як жа, матулька, як мне не плакаць?
Узяў нявесту павышы сябе.
Павышы сябе, паніжы бога.
Як шаснець глазамі, я ж сулякнуся,
Як бразнець ключмі, з каня валюся.
— Не плач, мой сынку, не плач маладзенькі,
У нас пабудзець, гэтага не будзець.
Таўкучы, мелючы, шаты пабадзяець,
Па ваду ходзячы, ключы пагубляець.

---

* Прыпеў «Ай, рана, рана» паўтараецца в другой часткай кожнага радка.

## 912

Князь Хведарка каня сядлаець,
Каня сядлаець, так ціха плачаць.

Прышла матулька ды ў яго пытаецца:
— Чаго, Хведарка, так сільна плачаш?

— Мая матулька, мая родная,
Нашто пытаеш, калі не знаеш?

Бяру дзевачку павыша сябе:
На двор уз'едзець — шаты зашумяць,

На ганачак ступніць — чаравічкі стукнуць,
У сені ўвойдзець — ключыкамі бразнець.

— Не бойся, Хведарка, не бойся, дзіцятка,
Я шаты у яе пазычу.

У нас паходзіць — чаравічкі зносіць,
У нас пабудзець — ключыкі згубіць.

## 913

За лесам, лесам сонейка зззяе,
Малады хлопчычак коніка сядлае.

Коніка сядлае, цяжка ўздыхае,
Цяжка ўздыхае, сільненька плача.

Прышоў да яго татачка яго:
— Чаго ты, сыночак, так сільненька плачаш,
Так сільненька плачаш, цяжка ўздыхаеш?

— Як жа мне не плакаць, цяжка не ўздыхаць?
Бяру каралеўну не па сабе роўну.

Чаравічкамі тупне:— Адступіся, глупне!
Ключыкамі бразне:— Адступіся, блазне!

— Не плач, сыночак, не плач, маладзенькі,
Мы яе ключыкі перагартуем.

Мы яе ключыкі перагартуем,
Мы яе норавы перамуштруем,—
Будзе каралеўна і з намі роўна.

## 914

Ой, за лесам, лесам, за белым бярозам
А ні месяц свеціць, а ні сонца грае.

Там маладзеніца коніка сядлае,
Коніка сядлае, цяжанька ўздыхае:

— Узяў каралеўну, да не сваю роўню.
Па двару ходзіць, ключыкамі дзвоніць.

У хатку ўвойдзець —
Ўся дружына ўстанець.

Уся дружына ўстанець
І шапкі знімае.

— Сядзь, сядзь, каралеўна, з намі, хлопамі,
Пі, пі, каралеўна, піва-водку з намі.

Чаравічкамі тупне:— Адступіся, глупне!
Ключыкамі бразне:— Адступіся, блазне!

## 915

А ў лужку, ў лужку да ў зялёненькім,
А там Іванька коніка пасець.

Прышоў да яго татухна яго:
— Чаго ты, сыночак, сільненька плачаш?

— Як мне не плакаць, як мне не тужыць?
А ўзялі каралеўну са мною няроўну.

— Маўчы, сыночак, маўчы, дзіцятка,
Пражывём зімухну, дажджом лецечка.

Пражывём зімухну, дажджом лецечка,
Будзець яго каралеўна із намі роўна.

Будзем пасылаць, куда самі знаць,
Будзеш тое рабіць, й дзе дзела стаіць.

## АД'ЕЗД МАЛАДОГА З ДРУЖЫНАЙ

### 916

На дварэ ясен месяц іграе,
Малады Васілька варанога каня сядлае:

— Прыступ, прыступ, вараны конь, блізенька,
Пакланюся сваёй мамачцы нізенька,

Што яна мяне, маленькага, гадавала,
Трыццаць ночак цямнюсенькіх не спала.

І сорак свечак яснюсенькіх спаліла,
Пакуль мяне, маладзенькага, ўзрасціла.

А ўзрасціўшы, ды к работушцы прыўчыла,
А прыўчыўшы, ў чужыя людзі пусціла.

### 917

Ды на небе месяц світае,
Там Яначак свайго коніка сядлае.
Асядлаўшы, родную мамку ззываець:
— Ты прыйдзі ж, мая мамка, да мяне,
Пакланюся нізюсенька я табе,
Што ты мяне, маленькага, расціла,
Сорак ночак цямнюсенькіх не спала,
Пакуль мяне, малойчыка, даждала.

### 918

Зялёны явар па двару паслаўся,
Малады Янка ў дарожачку сабраўся
Ды стаў жа ён ля возіка прашчацца:
— Ды падыйдзі ж, мой татачка, да мяне,
Ды падыйдзі ж, мой татачка, да мяне блізенька,
Да багаславі, мой татачка, шчыранька.

## 919

Благаславі, маці,
Сваяму дзіцяці
Ў дарогу ехаці
Да па мёд, па гарэлку,
Да па красную дзеўку.

## 920

Зялёны дубочак, зелянюсенькі
На мора нахіліўся,
Ванечка маладзюсенькі
У дарожку паманіўся.
— З богам, дзіцятка, з богам, мілы.
Дарожка вялікая, конь пад табою,
Конь пад табою,
А дружына ўслед за табою.
З правага боку пужачка ў руку
Коніка паганяць,
А з левага боку платочак у руку
Слёзкі выціраць.

## 921

А паехаў Лёнечка жаніціся,
А забыўся мамульцы скланіціся,
А вярнуўся Лёнечка з паўдарожкі,
А скланіўся мамульцы нізка ў ножкі:
— А мамулька родная, блаславі мяне.
— Дзіцятачка Лёнечка, бог благаславіць.

## 922

Спазніўся Колечка, спазніўся,
Вялікай радзіне кланіўся.
Вялікай радзіне кланіўся.
А роднай мамульцы забыўся.
— Устань, мая мамуленька, вышэй усіх,
Пакланюся табе ніжэй усіх.

## 923

Груклiва дарожка, груклiва:
Вараны конiчак падбiўся
Да Ванечка да шлюбу спазнiўся.
Да ўсёй радзiме кланiўся,
Да роднай мамачцы забыўся.
Выехаў за вароты — успамянуў,
Зняў шапачку ды махнуў.
— Да сватове мае маладые,
Сунiмiце конiкi вараные.
Я i сам, маладзенькi, вярнуся,
Роднай мамачцы скланюся
Да ўсёй радзiме на пахвалу,
Роднай мамачцы на славу.

## 924

Ў дарогу, Колечка, ў дарогу,
Бяры пана бога з сабою.

Бяры пана бога з сабою,
Бог табе дарожку перайшоў.

Бог табе дарожку перайшоў,
Там прачыстая стаяла.

Там прачыстая стаяла,
Яна табе дарожку казала.

## 925

Як жа я яшчэ маленькi быў,
Тады мяне госпадзь бог благаславiў,
Прачыстая пiрагi пякла ў дарогу,
Ангелы свечы палiлi й свяцiлi,
Святы Юры буланага каня асядлаў,
А Мiколка вароцiкi адчыняў,
Сам гасподзь бог у дарожку выпраўляў.
Сам гасподзь бог i ў дарожку выпраўляў:
— У дарожку, малады жанiшка, ў дарожку,
Падкуй конiку шчырага золата пад ножку.

926

Пабіраецца, уладжаецца
Іванечка ў дарогу.
Прасіла ж ся прачыстая:
— Вазьмі мяне з сабою.
То я ж пайду да папераду
Да варот адчыняці
І з доляю шчасліваю
Буду ж цябе сустракаці.

927

Ішоў дзяцінка цераз сад
Да сустрэў яго госпад сам.
Ён жа, стаўшы, шапку зняўшы,
У бога да долі просіць.
— Тагды я табе долю даў,
Як цябе на свет нараджаў,
Едзь жа сабе хоць уноч,
Хоць уночы, хоць упаўночы,
Буду табе да да памочы.

928

Борам, дружанькі, борам,
З нашага двору з богам.
Прасі, дружаньку, бога,
Каб шчасліва дарога:
Не краменная, не пясчаная,
Каб уся раўненькая,
Да хаты відненькая.

929

Маці сына да выражала, *
Месяцам уперазала,
Зоркаю зацянула,
Доляю абярнула.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Да борам, сынку, борам,
Да ціхесенька з богам,
З бацькавым благаславеннем.
— Да благаславі, маці,
Да сваё міла дзіцяці
У дарожаньку шчасну
Да па дзеваньку красну.
Да ў дарожаньку шчасліву,
Да па дзеваньку ўрадліву.

930

Маці сына выражала,
Месяцам аперазала,
Зоркаю засцягнула,
Доляю абгарнула.
Доляю шчасліваю,
Дружынаю зычліваю.
— З богам, сынку, з богам
У вялікую дарогу.
Спашчасці табе божа
У вялікай дарозе,
У цесценькі на парозе.

931

Ой, у пана Фёдара на дварэ
Да стаяла вішанька ў цераме,
Голлейка ўсцілала да долу.
Час-пара Фёдару ў дарогу.
Да на той часочак і пару
Узышоў месячык і зара.
— Ой, месячык, свяці мне,
А зоранькі, пляшыце,
А любыя суседзі,
На майго Фёдара глядзіце.
А ў каго мой Фёдар удаўся,
Што па пояс у золата ўвабраўся?
Ой, сам ён ўвабраўся, каня не:
Поўна грывачка зельечка,
Поўныя капыцічкі крэменейка.
Няма грабянца расчасаці,
Няма каваля падкаваці.

— Не журыся, мамачка, аба мне,
Ёсць у мяне каваль на дварэ,
Падкую коніка ў сядле.
Ёсць у мяне грабёначка ў возе,
Расчашу грывеньку ў дарозе.

### 932

Ясная зорачка свяціла,
Сужаньку мамачка радзіла,
З прыпала на каня ўссадзіла.
Не дала ветрыку павеяць,
Не дала сонейку засвяціць,
Ні благім людзям ўзглянуць.
— Ясныя зоркі, свяціце,
Добрыя людзі, глядзіце.
Добрыя людзі, глядзіце,
Куды маё дзіцятка паедзе:
Ў чыстае поле з свячамі,
К цесцютку на двор з сватамі.
Ў чыстае поле з яснымі,
К цесцютку на двор з краснымі.

### 933

Колечкава мамачка
Хадзіла па сенях, як пава,
Радзіла Колечку, як пана.
З прыпала на каня ўссадзіла,
Да не дала ветрыку дыхнуці,
Не дала дождживку капнуці,
Да не дала і злым людзям зірнуці.
— Да павейце, ветры цёплыя,
Да пайдзіце дажджы дробныя,
Да глядзіце, людзі добрыя,
Куды мой сыночак паедзе:
Ці ў чыстае поле па елку,
Ці к сцятку на двор па дзеўку?
Ці ў чыстае поле з свячамі,
Ці к сцятку на двор з сватамі?

## 934

Саколіку да на каліку,
Іванечка да на коніку.

Саколіку да на вылеце,
Дзяцінaчка да на выездзе.

Памажы ж яму, божа,
Ў пуці, ў дарозе, ў вялікім абозе.

## 935

Да сокал вылятаець,
Сваточкі выязджаюць,
Сакол — на калочку,
Сваточкі — на канёчку.
Да, татулька родненькі,
Параедзь дарожачку
Бітую, таптаную
Дзіцяці каханаму.

## 936

Да ў дарогу, Ванечка, ў дарогу,
Папрасі свайго бацюхну ў падмогу.
— Да памажы, бацюхна, памажы,
За вароты конікі правядзі.

## 937

Стаіць дубок зелянюсенькі,
На мора пахіліўся.
Сядзіць Федзечка маладзюсенькі,
У дарожку павадзіўся.
Дзяржыць хустачку бялюсеньку,
Слёзачкі ўціраець,
Свайму татульку, свайму роднаму
Да ножак прыпадаець:
— Татулечка мой, родненькі мой,
Адчыні вароцікі,
Благаславі мяне на дарожачку,

У чужую староначку.
— Табе дарожачка благаслаўлёна,
Вароцікі адчынёны.

## 938

Сястра брату каня з двара звяла,
Добрую долю дала:
— Вот табе, братка, дарожка,
Як дошка,
Каляінка, як стрэлка.
Едзь, мой ты братка,
Як дзецка.

## 939

— Ой, варогі, варогі,
Не перахадзіце ж дарогі.
Няхай пярэйдзе радзіна,
Штоб дарожанька шчасліва.
Да ніхто ж таго не ведае,
Куды Іванечка паедзе.
Толькі знае да ведае
Яго родны татачка:
— Едзь жа, сынку, хоць сярод ночы,
Бог жа табе да памочы.
Да ніхто ж таго не ведае,
Куды Іванечка паедзе.
Толькі знае да ведае
Яго родная мамачка:
— Едзь жа, сынку і г. д.
У нашага Іванечкі чорныя вочы,
Не баіцца ён ехаць у цёмнае ночы:
— Ой, чаго ж бо мне, маладзенькаму, баяціся?
Конь пада мною, бог нада мною,
Уся ж мая радзіначка едзе за мною.

## 940

Ой, да аступайцеся, варогі,
Да не пераходзьце нам дарогі,
Бо наша дарога шырока,
Бо наша Ніначка далёка.

## 941

А Іванькавы вочанькі
Не баяліся ночанькі,
Ані быстрае рэчанькі.
Цёмную ночаньку — я й канём,
Быструю рэчаньку — я й чаўном.
Увіджу Манечку за сталом,
За поўным кубачкам, за віном,
У пярловенькім вяночку,
У шаўковенькім платочку.
Па белых плечаньках косанька,
Па румяным ліцу слёзанька.
Па белых плечаньках коска ляжыць,
Па румяным ліцу слёзка бяжыць.

## 942

У нашага браценька чорныя вочы,
Ён не баіцца цёмнай ночы.
Ой, як маю ночы баяціся:
Конь пада мною, а бог нада мною,
Гостранькі мечык ў мяне пад рукою.
Се добра судашу, бога папрашу,
А се якое коп'ем разнашу,
Коп'ем разнашу, мечам рассяку,
А сам, маладзенькі, дадому ўцяку.

## 943

Цвіла каліна трыма цвятамі,
Ехаў Амяльянка трыма вазамі:
На першым возе сам гасподзь едзе,
На другім возе — божая маці,
На трэцім возе — малада сванечка.
Сам гасподзь едзе ля спамагання,
Божая маці — ля ўпавівання,
Малада сванечка — ля спяваннечка.

## 944

Садзіся, мой братачка,
Ужо твая сястра села,
Як мак зацвіцела,
Як званочак зазвінела.
Цвіцець яна, як мачынка,
Шчабечыць, як ластаўка,
Хочыць яна паляцець —
Братовачку паглядзець.

## 945

Не стойце, конікі, ў сад галавою,
А пастаньце к парогу.
Да паедзем у дарогу,
Да й у дарожачку часну,
Да па дзевачку красну.

## 946

А Васенька-кролік,
Пад ім вараны конік.
На каня садзіцца,
Конік весяліцца.
Коніка сядлаець,
Конічак іграець.

## 947

Зялёная грушынка,
Зялёная грушынка.

З-пад тае грушынкі
Сівы конь выбягаець.

Не сам жа выбягаець,
Казімірка выязджаець.

Казімірка выязджаець,
Пад ім конік броіць.

— Не брой, косю, не брой,
Зямлі капытом не крой.

— Кроіцца маё сэрца —
Малады ажаніўся.

Не піўшы, не гуляўшы,
Хораша не схадзіўшы.

## 948

Да й хто ж там вылятаець
Да й з зялёнага гаю?
Саколік вылятаець з зялёнага гаю.
Да й ён сам малюсенькі,
На ім пер'я драбнюсенька.
Да й хто там выязджаець
З багатага двору?
Іванька выязджаець з багатага двору.
Да ён сам маладзенькі,
Яго конік вараненькі.
Да ён сам, як мак цвіціць,
Яго конік, як жар гарыць.
Яго служкі ў атласе.
Ён сам за столікам,
Яго служкі пры століку;
Ён сам мёд-віно п'ець,
Яго служкі — гарэліцу.

## 949

Не дым, не дым, не тая мгла, што ў полі,—
Стаяць сваты ў частажкорах на конях.
Адзін Піліпка ў шчыранькім золаце
Выбіраецца да цесценька на абед,
На абед, на салодкі мёд, на віно.
У маго цесця залаты шацёр,
Кала шацёра скрыпкі-музыкі іграюць,
Кала шацёра сына за зяця ваююць,
І дочкі й нявесткі танцуюць.

## 950

Да ў полі курна-дымна,
Да нічога ж не відна.
Толькі да відаці:
Сівы конь выбягае,
Рыгорка выязджае
Са сваёй свацiцай
І з роднай сястрыцай.

## 951

З-за гаю зялёнага,
З-за саду вішнёвага
Не сакол вылятае —
Сівы конь выбягае,
Сванечка выязджае
З хлябамі пшанічнымі,
З горкаю гарэлкаю.
— Паедзем за дзеўкаю,
Каб сем сёл аб'ехаці,
У восьмаму начаваці,
У дзевятым дзеўку ўзяці.

## 952

Свяціў месячык над ракой, *
А каб жа к яму да другі,
Асвяціў бы рэкі ўсе, лугі
І ўсе крутыя берагі.
Як сеў Андрэйка на каня,
Каб жа к яму брат яго,
Ён жа б паехаў на вайну,
Заваяваў сяло із сялом,
Прывёз бы ён дзеўку із вянком.

## 953

Свяціў месячык над лугам, *
А каб жа к яму да другі,
Асвяціў бы бары, усе лугі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ехаў Іванька праз сяло,
А каб жа к яму брат другі,
Аб'ехаў сяло із сялцом,
Застаў Алёнку пад вянцом.

## 954

Із-пад млына, із-пад новага
Выплывае сіў селязень,
А за ім плыве раба вутанька:
— Зажджы, пажджы, сіў селязень,
Размаю табе тває пер'ечка.
— Ой, вярніся, раба вутачка,
Размае мне да быстрая вада,
Быстрая вада і ціхі Дунай.
Із-пад места Дабраслаўкі
Да выязджае малады жанішок,
А за ім бяжыць яго матанька:
— Зажджы, пажджы, маё дзіцятка,
Расчашу табе тває кудзеркі.
— Ой, вярніся, мая матанька,
Расчэша мяне мая цесценька,
Да не так цешча, як малада дзеванька.

## 955

З-пад ракіты зялёнае
Выплывае сівы селезень.
— Папраўлю тває пер'ечка,
Не так пер'ечка, як крыллечка.
Вярніся, рабая!
— Паправіць мне пер'ечка
Вадзічанька-крынічанька.

З таго двара новенькага,
Ад таго бацькі багатага
Выбягае вараны конік.
Не сам ён выбягае,
Петручок выязджае.
За ім мамка ў пагон бяжыць:
— Пастой, пажджы, маё дзіцятка,
Папраўлю тває шубанькі.

Не шубанькі, то хоць кудзеркі.
— Вярніся, мая маценька,
Паправіць мая цесценька,
Не цесценька, то Матронка.

### 956

Гуркала галубушка з галубом,
Ой, лелі-лялюшанькі, з галубом. *
Прагуркала два марозы, трэці снег,
Чацвёртую халодную зімушку.
Сазнабілі дружылушку ў абозе,
Не ў абозе — у шыроканькай дарозе.
Выхадзіла ранняя сваха на зары,
Вынасіла стакан мёду, два віна,
Напаіла дружылушку дап'яна:
— Паязджай, паязджай, дружылушка, не бойся,
Не будзе табе ні мяцеліцы, ні дажджу.
Свецел месяц дарожаньку абсвеціць,
Буён вецер вароцічкі растворыць.

### 957

Хоць я свашка маленька,
Абы я разумненька.
Слала бор белым радном,
Дарожаньку — палатном,
Каб у бары не ўрасіўся,
У дарожаньцы не ўпыліўся,
Да Надзечкі не спазніўся.

### 958

Да з высокае клеці
Да далёка відаці,

Дзе Іванька выязджае,
Пад ім конік гуляе.

---

* Прыпеў «Ой, лелі-лялюшанькі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Іванка сакала́ просіць:
— Ты саколе, саколе.

Ты саколе, саколе,
Прасвішчы мне дарожаньку.

Прасвішчы мне дарожаньку,
Невяліку сцежаньку,

Штоб мой конь не ўтаміўся,
Штоб я, малады, не ўпыліўся.

Штоб мая улачка ззяла,
Штоб мая цёшча пазнала.

Штоб мяне цёшча пазнала
І родным зяцем назвала.

На покуці ды пасадзіла,
Віном з мёдам напаіла.

Віном з мёдам напаіла,
Сваім дзіцем падарыла.

Віном-мёдам саладзюсенькім,
Сваім дзіцем маладзюсенькім.

959

Ой, з высокага ганку
Да з вялікага замку
Саколя да вылятае,
Колечка да выязджае.

— Ой, саколе, саколе,
Прасвішчы мне дарожачку.
Прасвішчы мне дарожачку,
Хоць невялічкую сцежачку,

Каб мой конь не ўтаміўся,
Каб я сам не ўпыліўся,
Каб мая шапачка ззяла,
Каб мяне цешча пазнала.

Каб мяне цешча пазнала
Да віном-мёдам ўстрачала.
Да віном-мёдам ўстрачала,
Да мілым зяцем назвала.

## 960

З харошага сяла,
З багатага двара

Не сакол узлятае,
Да Іванька ўязджае.

Пад ім конік гуляе,
На ём шапачка ззяе,

Каб яго цёшча пазнала,
Родным зяцем назвала.

Віном-мёдам напаіла
І дачкою надзяліла.

## 961

Коўдраю калясачку заслалі,
Папераду саколіка паслалі.
— Ляці, ляці, саколіку, у церам-бор,
Да заляці, саколіку, у цесцяў двор,
Да накажы нявесце тры весці:
Няхай сталы цісовыя засцілае,
Няхай мяне, маладога, дажыдае,
Няхай мяне, маладога, сустракае.

## 962

З'язджаў Іванька са двара,
Выпускаў сокала з рукава:
— Ляці, мой саколка, к цешчы ў двор,
А лятай, мой саколка, ля вакон.
Скажы маёй Галі добру рэч,
А няхай яна мяне доўга жджэць.

Цесныя вулачкі памяцець,
Каб было дзе мне конікі ўдзець,
А маім баярам пагуляць,
А мне, маладому, паязджаць,
На цябе, маладую, паглядзець.

## 963

З'язджае Іванька са двара,
Пушчае сакала́ з рукава:

— А ляці, мой саколка, к цясцю ў двор,
А дай цясцю ведама,

Каб дзе было стаць, коні ўняць,
Маладым прыданкам пагуляць.

А дзе мы сталі, заігралі,
Шапачкі нікому не знялі.

А толькі таму, хто ў даму,
А старшаму гаспадару.

## 964

Сярожка са двара з'язджае,
Сакала з рукава пускае.
— Ляці, мой сакол, к сцятку ў двор
Ды дай сцятачку ведама,
Каб дзе было стаць, коні ўняць,
Маладым баярам пагуляць.
Вараным конікам — стайніца,
Баярам маладым — святліца.

## 965

Паехаў Іванка да сваго цесценька,
Паслаў пасланькі ўпярод сябе ад сваго
баценька.

Няхай цесценька запасы мае,
На дварэ варота паадчыняе.

На дварэ варота паадчыняе
І новыя стайні паадмыкае.

Ў жалабы аўса панасыпае,
Крынічнай вады паналівае.

У мяне конікі ўсе румакі,
Не кажу хадзіці па паплаванцы.

Не кажу хадзіці па паплаванцы,
Кажу стаяці ўсім на стаянцы.

Кажу ім даці голага аўса,
А піці ім дайце крынічнай вадзіцы.

У мяне сватове ўсе баярове,
Не кажу хадзіці па падвор'ечку.

Не кажу хадзіці па падвор'ечку,
Кажу сесці усім на застоллечку.

Кажу ім есці даці пшанічнага хлеба,
А піці дайце зялёнага віна.

## 966

Да выехаў Сцяпанка вельмі п'ян,
Вельмі п'ян.

Пад ім конічак да разыграў,
Разыграў.

Ён сялом бяжыць, не ўдзяржаць,
Не ўдзяржаць.

А на сяле людзей семдзесят,
Семдзесят.

Да каторы будзе тварыш мой,
Таварыш мой.

Майго коніка сунімець,
Сунімець.

Да маёй Волечцы накажаць,
Накажаць.

Калі яна спіць, не будзіце,
Не будзіце.

А калі ў саду, сам найду,
Сам найду.

Выйду ў садочак памаленьку,
Памаленьку.

Разбуджу Волечку паціхеньку,
Паціхеньку:

— Да ўставай, Волечка, годзе спаць,
Годзе спаць.

Бо ўжэ сонейка й угрэла,
Угрэла.

Ужэ тваё лічанька загарэла,
Загарэла.

## 967

І са двара Іванька з'язджаець, *
Сакала з рукава пушчаець:
— Не ляці, сакол, пасярод,
А ляці, сакол, напярод.
Не ляці, сакол, дзе мёд п'юць,
А й ляці, сакол, дзе нас ждуць,
Там нашу Манечку аддадуць.

## 968

Са двара Ванечка з'язджаець,
З рукава сакала пускаець:
— Ой, ляці, сакол, к цешчы на двор,
Удар крылушкам па вакну,
Штоб мая Ніначка скучала,
Часценька ў аконца паглядала.

* Кожны радок паўтараецца.

## 969

Ездзіў Грыгорка па луках
А вазіў сокала ў рукавах.
Выпусціў сакала з рукава:
— А ляці ж, мой сакол, як калакол,
А ўдар жа крылом аб вакошка,
Скажы Сахвейцы добрую весць,
Што я на вараным кані гарцую,
З маладымі сваццямі танцую.
— А няхай добр-здароў гуляець,
Пакуль жа мяне не маець.
А калі ён мяне дабудзець,
Тады пра ўсё забудзець
І гарэлкі піць не будзець.

## 970

Ехаў Іванька са двара,
Пускаў сокала з рукава:
— Ляці, мой саколік, [illegible] цесцю ў двор,
А сядзь, мой саколік, на явор,
Удар крыллейкам па ваконцу,
Перадай цесцю нову весць:
А хто ж на дварэ ў яго есць —
На вараным коніку гарцуець,
З маладымі сваццямі танцуець.

## 971

А цвіцеў гарох тры пяры, тры пяры,
Чорвона рожа — чатыры, чатыры.
У жанішкі шапка ліссева, ліссева,
Дай яму, божа, лепшую, лепшую.
І долечку шчасную, шчасную,
І дзевачку красную, красную,
І падушачкі пуховы, пуховы,
І дзяружачкі бялёвы, бялёвы.

## 972

Мікалайка стрэлкі стружае
Да на ваду пускае:
— Плыві, плыві, мая стрэлачка,
Да да маёй Ганначкі.
Няхай яна ўмываецца,
У нядзельку прыбіраецца,
Бо к ёй госці едуць.

## 973

Ездзіў Міколка па рацэ, *
Вазіў сокала на руцэ.
Пусціў сокала з рукава:
— Ляці, мой саколік, к цятку ў двор.
Там сабе па двару палятай,
У вакенца крылцом пастукай.
Скажы маёй Ганульцы добрую рэч,
Што ў яе на дварэ ёсць маладзец —
На вараным кані гарцуіць,
Вострую шабельку шаблюіць.
Дзевачка мамульку прасіла:
— Выйдзі, мая мамулька, скоранька,
Ссадзі майго Міколку з коніка.
А няхай жа па двару не ездзіць,
Варанога коніка не томіць,
Вострае шабелькі не тупіць —
Ён сабе гэткае не купіць.

## 974

Салавейка-пташачка,
Паляці да наперад нас,
Да давай цесцю знаці:
Едзе зяць ваяваці,
Сабе дзеваньку браці.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 975

Пры пуці-дарожаньцы каліна стаіць,
На той на калінушцы салаўе сядзіць.
Міма той дарожанькі Цімох праязджаў,
Сцебануў, махнуў плётачкай па вараным кані,
Махнуў ён шырынкаю па саловушку:
— Ляці ж ты, саловушка, з каліны далоў
Да [redacted] маёй Мар'юшке ва церам дамоў,
Штоб ты, мая Мар'юшка, доўга не спала.
Доўга не спала, платочкі шыла,
Платочкі шыла, дары спраўляла,
Дары спраўляла, свату дарыла.

## 976

Ой, за гарою крамяною
Стаіць жанішок з дружыною.
Некаму даці да цесця знаці,
Каб былі брамы паадмыканы,
Штоб былі сталы пазасціланы,
Штоб былі пляшкі панапусканы,
Штоб былі кубкі паналіваны,
Штоб была дзеванька нараджана,
На пасад пасаджана.

## 977

Баравая пчоланька,
Да не шумі, ляця барамі,
Да не давай цесцю знаці,
Што я еду ваяваці.
Мы зваюем да дзевак танок,
Выберам сабе дзевачку
Высокую, як яліначку,
Чырвоную, як каліначку.
А з рукаўка ветрык вее,
А з ліца сонца грэе,
А што ступіць — не хіляецца,
А што скажа — усё ўсміхаецца.

## 978

Паляцеў саколя, паляцеў, *
Толькі крылушкам зазвінеў.
Паехаў Ванечка, паехаў,
Толькі конікі зарзалі,
У дудкі, у скрыпкі зайгралі,
Маладыя свашкі запелі.

## 979

Паляцеў саколік, паляцеў,
Толькі крылышкам стрыпянуў,
Толькі дзюбачкай засвістаў,
Толькі дзюбачкай засвістаў.

Паехаў Грышачка, паехаў,
Толькі пужкаю сцебануў,
Толькі свашачкі запелі,
Толькі музыкі зайгралі.

## 980

Ой, чуці, чуці,
Калі сокал ляціць:
Паміж яго крылачак
Да званочак звініць.

Ой, знаці, знаці,
Калі хлопчык едзе:
Музычанькі зайгралі
І свашачкі заспявалі.

* Кожны радок паўтараецца.

## 981

Кося, кося, да пярэсты вол,
Вязі мяне на цесцяў двор:
Цесця зваяваці і камору зграбаваці,
К сабе дзевачку узяці.

## 982

Бяжы, бяжы, конічак, падбягай
Да ў тое сяло патрапляй,
Да ў тое сяло, дзе весяло.
Ды на тое падвор'е, дзе нас ждуць,
Ды за тое застолле, дзе мяды п'юць.

## 983

Свістом, коні, свістом,
Штоб не ўпалі лістом.
Да бегам, конікі, бегам,
Штоб не прыпалі снегам.
Сюды з лебядою,
А назад з маладою.
Сюды з прачыстаю,
А назад з нявестаю.

## 984

Разаслаўся хмель па дарозе,
Прывязаў малойчык каня да бярозы.
Конік тапочыць, стаяць не хочыць,
Малады малойчык жаніцца хочыць.
Хочыць жаніцца, дзяўчыну браці.
— Ці ўмееш, дзяўчына, кросны ткаці?
— А што табе ды да мяне?
Не ткала ў мамкі, не буду ў цябе.

## 985

Далёка Ганначка, далёка,
Да ці тым далёка, што ў бацька?
Будзе яна і к свету блізенька.

Выражу тры розгі з бярозкі
Да затну я канічэнька пад ножкі.
Пабяжыць конічак свідзенька,
Будзе наша Ганначка блізенька.
Ой, далей, далей ад бацькі,
Ой, бліжэй, бліжэй к свякратку.

## 986

Ой, борам, борам, лявінцам,
Да ехалі маладыя гасцінцам,
Да на самы перад дзяцінка.
Да выразаў лозку-бярозку,
Стаў ён коніка паганяці,
Да будзе цешчатка частаваці.

## 987

Ехаў суженька цераз цёмны лес,
Выламаў-выразаў тры розачкі,
Сцебануў коніку пад ножачкі:
— Бяжы, кося мой, к цясцютку ў двор,
Стукні капытком у вароціткі,
Каб сталі вароціткі пасярод двору,
Каб выслаў бы цясцютка мяне пераймаць,
Каб вышла дзеванька мяне ўзнаваць.

## 988

Паедзеш, Паўлік, жаніцца праз цёмны лес,
Выламі розачкі з бярозачкі,
Сцебані коніка пад ножкі.
— Бяжы, кося мой, к цесцю ў двор,
Удар капытком у вароцікі.
Вароцікі пахінуліся,
Пасярод дворычка апынуліся,
Каб мая паненка ўлякнулася,
Да мяне, маладога, прыхінулася.

## 989

Ой, мосце, мосце залаты,
Едзе к вам Іванка малады.
Да выламіў тры розгі бярозкі,

Да падкінуў канічэньку пад ножкі:
— Да няхай конь бяжыць падгулья
На майго цесценька падвор'е,
Бо ў майго цесценька п'юць-гудуць,
Там мяне, маладога, даўно ждуць.
Толька ж я на двор з'ехаў,
То ■ ж буду памаленьку йці,
Штоб кубачка не разбіці,
А мядочка не разліці,
А цесценька не ўгнявіці.

## 990

Ой, бродзе, бродзе глыбокі,
Што й па табе масточак шырокі,
Ехацьме Васілька далёкі.
Да й пад'едзе к бярозцы блізенька,
Да й выламіць з бярозкі тры розкі.
Да й выламіць з бярозкі тры розкі,
Да й ударыць канічэнька пад ножкі:
— Бягі, бягі, канічэнька, у падолье,
Да й на маго цесценька падвор'е.
Там у майго цесценька п'юць-гудуць,
Там мяне, маладзенькага, даўно ждуць.

## 991

Да выехаў Іванка з-пад горкі,
З-пад горкі.

Да выразаў з бярозкі тры розгі,
Тры розгі.

Да секануў коніку пад ножкі,
Пад ножкі.

— Бяжы, бяжы, конічак, падбягай,
Падбягай

К майму цесцетку ў зялёны гай,
У зялёны гай.

— Добра табе, Іванка, падбягаць,
Падбягаць;

Бо ты будзеш у цесценькі піць да гуляць,
Піць да гуляць.

А мне, коніку, на дварэ,
На дварэ

Да на зялёненькай мураве,
Мураве.

992

Ой, горка рэдзька ў гародзе,
Сярдзіт дзяцінка ў дарозе,
Верне коніка к бярозе,
Ламаець з бярозкі тры розгі,
Сцёбаець коніка пад ножкі:
— Ступай, мой конічак, шырока,
Да цсцёва двара далёка.
А ў цсцёвым двары дзевачкі гуляюць,
Паміж тых дзевачак — Кацечка.
— Ды ці цот, ці лішка арэшка?
— Арэшкі поўненькі,
А мы з табой роўненькі.
Арэшкі біць будуць,
А мы з табой жыць будзем.

993

Горка рэдзечка ў гародзе, *
Сярдзіт Віця ў дарозе.
Прывязаў коніка к бярозе,
Выразаў з бярозкі тры розкі,
Сцебануў коніка пад ножкі:
— Ступай, мой конік, шырока,
Шчэ ж мая дзевачка далёка.
Ступай, мой конік, вузенька,
Ужо ж мая дзевачка блізенька.
Вой, тута, тута, кала мяне,
У майго татачкі ў дварэ.

* Кожны радок паўтараецца.

## 994

Ай, горка рэдзька ў гародзе,
Сярдзіт Ванька ў дарозе.
Верніць коніка к бярёзцы.
Ламаець ад бярозкі тры розкі,
Збіваець коніка пад ножкі.
— Бяжы, мой кося, на ксцёў двор.
На ксцёвым дварэ паненкі.
Тыя паненкі роўныя,
Адна мая Ганначка вышы ўсіх,
Скланіла галоўку ніжы ўсіх.
Задумала думухну большы ўсіх:
— Чым мне па двару паслаці,
Чым мне свякровачку назваці?
Усцялю дварочак коўдрамі,
Назаву свёкарку татачка,
А свякровачку — мамачка,
А дзевярочка — брахнінька,
А заловачку — сястрычка.

## 995

Грудліва дарожка, грудліва,
Вараны конічак падбіўся,
Колечка ў дарожку спазніўся.
Выламлю з бярозкі тры розкі,
Секану коніка пад ножкі:
— Ці маеш, коніку, у ножках моц?
Паеду на цябе я на ўсю ноч.
Пастаўлю я коніка пры ганку,
Каб заспець Манечку ў вянку.
Пастаўлю я коніка пры плоце,
Каб заспець Манечку ў злоце.

## 996

Прыехаў Іванечка к бярозке,
Ламаець Іванечка ўсё розкі,
Ламаець Іванечка ўсё розкі,
Сячэць коніка пад ножкі:
— Бяжы, мой конік, усё рыссю,
К маёй цешчы бяжы скорасцю.
Цешча міленькая на прывет,
Кацярына мілей на ўвесь век.

## 997

Стучыць-гручыць дарожанька за сялом,
Едзіць-ляціць наш Васечка сакалом,
Хочыць увідзець сваю Анечку за сталом.
А хоць ён яе самую не знаець,
Ён жа яе па галоўцы пазнаець:
Яе галоўка — як садова макоўка,
Яе вочкі — як на небе звёздачкі.

## 998

Цераз рэчку да кляновы мосцік,
Да тудою ехаў маладзенькі госцік.
А рабіну шчыпле да ў кішэню сыпле,
Голлейка ломіць да галоўку клоніць,
У свайго цесця падвор'я просіць:
— Пазволь, пазволь, цесцю, свайго
падвор'я,
Новай стайні і свайго застолля.
Я тваю стайню коньмі ўстаўлю,
Я тваё падвор'е капытамі саб'ю,
Я тваё застолле да мядамі салью.

## 999

Вышай, вышай, малады месяц, над намі,
Да да́лей, да́лей, вараныя коні, пад намі,
Яшчэ ж ехаць да чатыры мілі барамі
І пяту крамяністымі гарамі,
А шосту да жалезнымі мастамі,
А сёму ў цясця на дварэ пастаяць.
Пастанем ўсе радком пад цясцёвым тынком,
Ой, выб'ема крамяную сценку тым вянком,
Ой, знайдзем красну дзеваньку пад замком.

## 1000

Та зялен баркун па дарожцы паслаўся,
Малады Яська да ў дарожаньку прыбраўся.

Ой, прыбраўшыся, зялёнага віна напіўся,
Та за тым жа ён ды й у дарожаньку спазніўся.

— Ой, вы рушайце, вараныя коні, пад намі,
Да будземо ехаць чатыры мілі барамі,

А пятую да жалезнымі мастамі,
Да каб там дзевачку да з пасагам засталі.

Да станемо мы радком пад тынком,
Да выб'емо крамяную сценку із замком.

Да выб'емо крамяную сценку із замком,
Да павязём маладую дзеўку із вянком.

## 1001

Бягуць, бягуць вараныя коні да вады,
Шумяць, шумяць шаўковы павады.
— Станьце, коні, ў тлачыньцы пад намі,
Паедзема чатыры мілі барамі,
А пятую жалезнымі мастамі.
Станемо пад замком,
Выб'ем крамяну сулку вянком,
Выкацім бочкі віна і мёду дзве,
Возьмем маладую Матронку сабе.

## 1002

Па вышыку ветрык вее,
А па далінах вада лялее.
Па дарозе месяц свеціць,
Куды Іванку ехаць.
— Вышэй, вышэй, ясен месяц, нада мной,
Далей, далей, коні вараныя, пада мной.
Да станем мы сваім палком пад замком,
Да разаб'ема сцяну камяную мячамі,
Да возьмема сваю дзевачку з намі.

## 1003

Ой, зора, зора, засвяці ў полі,
Дзе ж наша дзеванька пшанічку поле.
Ой, поле, поле да й перабірае:

— Да кукель-зеллечка, плыві з вадою,
Перабор-пшаніца, да й хадзі са мною.
Да кукель-зеллечка, астанься ў бацькі,
Перабор-пшаніца, да хадзі да свякраткі.
— Ну ж, сватове, сабіраймося,
Каб жа засталі каралеўшчыну на абед.
Хоць застанем не застанем,
Сваю дзевачку між сватамі пазнаем.
Ой, мы станема з сваім палком пад ганком,
Да возьмемо сабе дзеваньку, што з вянком.

## 1004

Свяці, свяці, ясны месячык, над намі,
Іграй, іграй, сівы конічак, пад намі.
Будзем ехаці чатыры мілі лясамі,
А пятую жалезнымі мастамі.
Ой, да станема з сваім палком пад ганком,
Да праб'емо крамяну сцяну кубачкам,
Да возьмемо дзеваньку з венчыкам.

## 1005

Бягуць, бягуць коні вараныя да вады, *
Шумяць, звіняць шаўковенькія павады.

Тарапіцеся, коні вараныя, пад намі,
Будзем ехаць чатыры мілі барамі,

А пятую калінавымі мастамі,
А мы ў свата на фальварку пастанем.

А мы ў свата на фальварку пастанем,
Маладу дзевачку на пасадзіку дастанем.

Станем у свата на фальварку пад тынком
Ды выведзем маладу дзевачку пад вянком.

## 1006

Свяці, свяці, ясны месяц, над намі,
Бо нам ехаць чатырмі барамі,

* Кожны радок паўтараецца.

А пятае ўсё кованымі мастамі,
А шостае да тое сяло, што нам стаць,
А сёмае да тое падвор'е, што нам ўзяць.
Да й пастанем сваім палком пад ганком,
Да й разаб'ём цісову дзверу з замком,
Да й возьмем жа маладую дзеваньку з вянком.

## 1007

Пастанемо мы ж сваім палком
Пад замком.

Разаб'емо сцену камяную
Мячамі

І адмыкнемо да камораньку
Ключамі.

Да возьмемо сваю Манечку
З намі.

Яго цешча іспужалася
Да й да комнаты захавалася.

## 1008

Вышай, вышай, месячык, над намі,
Будзем ехаці чатыры мілі барамі,
А пяту жалезнымі мастамі.
Будзе бор шумеці, а камень звінеці,
Зазнаюць людзі — нам слава будзе,
Зачуе цесценька — будзе нам чэсценька.

## 1009

Белыя бярозачкі,
Не развівайцеся.
Доўгія дарогі,
Не разлягайцеся.

Будзе ехаць Пецечка —
Яно дзіця разумнае:

Сакалом поле зляціць,
Селязнём мора сплыве.

У варот расой падзе,
На дварэ князем стане.
На дварэ князем стане,
За сталом зяцем сядзе.

Частуйце, вітуйце
Нявіданага госця.
Нявіданага госця,
Небывалага зяця.

А не быў, ды прыехаў,
Узяў ды паехаў.

## 1010

Свяці, свяці, ясен месяц,
Над намі.

Будзем ехаць чатыры мілі
Барамі,

А пятую да й жалезнымі
Мастамі,

А шостую да на цесцяў двор —
Да й станем.

Аддай, цешча, свой дар дарагі,
Што ў цябе.

Ужо час-пара аддаці
За мяне.

## 1011

Ці не конь капытом заззаніў, *
Хлопчычак па сенях пахадзіў,
Яснай зорачкі папрасіў:

* Кожны радок паўтараецца.

— Свяці, мая зорачка, да свету,
Да пакуль я к цесцю заеду.
Цесцевы варота замкнёны.
Дык выняў хлопчык востру меч,
Як даў па замках — замкі прэч.
Да выходзіць яго цесцятка:
— Не сячы, не рубай, дзіцятка,
Я ж табе вароты адчыню,
Я ж табе дачушку аддаю.

## 1012

Задумаў Петрычак жаніцца,
Вышаў на зоры дзівіцца:
— Ой, зоры мае вечаровыя,
Свяціце нада мною.
— Тады ж мы свяцілі,
Як цябе маці радзіла,
А цяперака сам прасі бога,
Каб была шчасліва дарога.

## 1013

Хлопец па сянёх пахадзіў,
На небе зорачку папрасіў:
— Свяці, мая зорачка, да свету,
Пакуль я к дзевачцы заеду.
Зорачка хлопцу адказала:
— Я ж табе, малайцу, свяціла,
Як цябе мамачка радзіла,
Купала ў чырвонай каліне,
Спавівала ў пуховай пярыне:
«Каб мой сыночак скора рос,
Каб ён мне нявестку прывёз».

## 1014

Янулька зорачку папрасіў:
— Свяці, мая зоранька, да свету,
Пакуль я да сцілкі даеду.
Зорачка Янульку адказала:
— Тады я табе свяціла,

Як матулька радзіла,
Па новых сенях хадзіла.
Хадзіла па сенях, як пава,
Тады радзіла Янульку, як пана.
Ён, малады, ўдаўся
І ў каліначцы купаўся,
У шырыначку спавіваўся,
У пярыначцы спаць клаўся,
І ў калыбелі калыхаўся,
І з калінкаю абнімаўся.

## 1015

— Свяці мне, зоранька, да свету,
Пакуль я да цешчы даеду.
— Я ж табе свяціла,
Калі цябе мамухна радзіла.
Яна ж па новых сенях хадзіла, як пава,
Цябе насіла, як пана.
Ў чорным рамоне купала,
Раменным паясом спавівала.

## 1016

Паехаў Іванька жаніцца,
Забыўся зораньцы кланіцца.
На яго зоранька дзівіла:
— Я табе, Іванька, свяціла,
Як цябе маці радзіла,
Па сеням хадзіла, як пава,
Радзіла цябе, як пана;
Па сенях хадзіла без паяса,
Радзіла цябе, як паніча;
Па сенях хадзіла, як рася,
Радзіла цябе, як князя.

## 1017

Паехаў Колечка жаніцца,
Забыўся зораньцы скланіцца:
— Пастой, дружына, вярнуся,

Яснай зараньцы скланюся.
Свяці мне, зоранька, да свету.
Пакуль я к Манечцы даеду.
— Я ж цябе, зоранька, свяціла,
Каб цябе маманька радзіла,
Хадзіла па сянёх, топала,
Радзіла Коленьку добрага.

## 1018

Ехаў Трахімка жаніцца,
Забыўся зораньцы скланіцца:
— Свяці, мая зоранька, да свету,
Пакуль я да дзеўкі даеду.
Зоранька Трахімку адказала:
— Я табе, Трахімка, не слуга.
Тады табе, Трахімка, свяціла,
Як цябе маманька радзіла.
Хадзіла па сянёх, як пава,
Радзіла Трахімку, як пана;
Хадзіла па сянёх — мех надуты,
Радзіла Трахімку — сыр наліты;
Хадзіла па сянёх, як пышна,
Радзіла Трахімку, як вішню.

## 1019

У гародзе зялёны буркун паслаўся,
Ой, малады Андрэйка ў дарожку сабраўся.
Сеў за столікам, зялёнага віна напіўся,
Ой, за тым вінам ды ў дарожку спазніўся.
— Пачувайцеся, вараныя коні, пад намі,
Да будзем ехаць чатыры мілі барамі,
А пятую мілю ўсё жалезнымі мастамі,
Каб маладую мы на пасадзе засталі.
— Ой, хоць мы яе не застанем, падаждэм,
Ой, пакуль яна русу косу учэша,
Ой, пакуль яна русу косу учэша,
Ой, пакуль яна бела ліцо ўмые.
Такі ж мы яе русу косу распляцём,
Такі ж мы яе дробны слёзкі разальём.

## 1020

Зялёны явар па падвор'і паслаўся,
Малады Юзючак у дарожку сабраўся.

Сеў за столікам, мёду-віна напіўся,
Вось затое ў дарожку спазніўся.

Ой, нуця, нуця, вараныя коні, пад намі,
Яшчэ ехаць чатыры мілі барамі.

Яшчэ ехаць чатыры мілі барамі,
А пятую да паненкі ў двор сватамі.

Каб мы яе на падвор'і засталі,
Каб мы яе па русай касе пазналі,

Каб мы яе правай ручкай віталі,
Каб мы з ёю залаты пярсцёнак мянялі.

## 1021

Лятуць-бягуць вараныя коні ад вады,
Шумяць, бразджаць шаўковыя павады.
Пачувайцеся, вараныя коні, пад намі,
Бо яшчэ нам ехаць чатыры мілі барамі,
А пятую зялёнымі лясамі,
А шостую жалезнымі мастамі,
А сёмую на падвор'ейка з сватамі,
Каб мы дзевачку ды на пасадзе засталі,
Каб мы яе па русай касе пазналі,
Па русай касе і па шаўковенькім паясе.
Да мы яе русую касу распляцём,
Да мы яе, маладу, з сабой забяром.

## 1022

Свяці, свяці, ясен месяц, над намі,
Яшчэ ехаці чатыры мілі барамі
І пятую жалезнымі мастамі,
Кабы мы дзеваньку да на пасадзе засталі.
Ой, хоць застанем не застанем, не дбаем:

Сваю дзеванъку між дзевачкамі пазнаем.
Па плячах коска, па ліцу слёзка — то вона,
У ручках шырынка тонка, бяленька,
Паперу раўненька.

## 1023

Ды на бару кляновы лісток паслаўся, *
І наш Іванька ў дарожку сабраўся:
— І нуце ж, нуце ж, сівы коні, пад намі,
І яшчэ нам ехаць чатыры мілі барамі,
А пятую і кованымі мастамі,
А шостую татулькавым падвор'ем.
І станьце, пастаньце, усе дзевачкі, пад тынком.
І ці пазнаеце маю Ніначку пад вянком?
— І ды ці знаем, ці не знаем, не дбаем,
Ды мы ж яе па вяночку пазнаем.
І прышпілёны яе вяночак у касе,
І ды надзеты залаты пярсцён на руцэ.

## 1024

Стучыць-гручыць дарожачка за сялом, *
А едзе, ляціць малады Лёнечка сакалом,
Хоча відзець сваю дзевачку за сталом:
— Хоць увіжу, хоць не ўвіжу, спазнаю:
У яе галоўка, як садовая макаўка,
У яе вочачкі, як вішанькі ў садочку.

## 1025

Рушай, рушай, вараны коню, пад намі, *
Ой, пад намі, пад маладымі сватамі.
Будзем ехаці чатыры мілі барамі,
А пятую ўсё зялёнымі садамі,
А шостую каля рэчанькі быстрай,
А сёмую ўсё жалезнымі мастамі,
А восьмую каля горанькі крутой,
А дзевятую каля цэркаўкі святой,
А дзесятую ў цесценька на дварэ.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 1026

Разеляніўся зялён явор у гародзе,
Развесяліўся наш Паўлінка ў дарозе.
На каня сеўшы, зялёнага віна напіўся.
Віна напіўся, у дарожку спазніўся:
— Паступайце, сівыя коні, пад намі,
Многа нам ехаць: чатыры мілі борам,
Пятую — зялёнымі лугамі,
Шостую — зялёнымі мастамі,
Сёмую — чысцюсенькімі палямі,
Восьмую — зялёнымі садамі,
Дзевятую — мяцёнымі вулкамі.
Ён борам едзець — птушкі спяваюць яму,
Ён лугам едзець — луг зелянеець ад яго,
Ён мостам едзець — масты зыблюцца,
Ён полем едзець — поле млееець ад яго,
Ён садам едзець — сад расцвітаець ад яго,
Ён вулкай едзець — людзі гаворуць аб яго.
К цесцюхне чалом — і я на двор,
К тваёй паненцы ў церам.

## 1027

Ай, нуце, нуце, сівыя коні,
Пад намі,
Нам яшчэ ехаць чатыры мілі
Палямі,
А пятую — зялёнымі лугамі,
А шостую — драмучымі лясамі,
А сёмую — імшыстымі лясамі,
А восьмую — вялікімі сяламі,
А дзевятую — тою вулачкай,
Дзе мёд п'юць,
А дзесятую — тою хатачкай,
Дзе нас ждуць.

## 1028

Ай, нуце, нуце, сівыя коні, пад намі,
Да й нам ехаць чатыры мілі барамі,
А пятаю — кляновымі лістамі,

А шостаю — жалезнымі мастамі,
А й сёмаю — ў тое сяло, дзе мёд п'юць,
Штогадзіначку, шточасіначку к вакну йдуць.

## 1029

Да вышай, вышай да ясен месяц над намі,
Над намі.
Да далей, далей і вараныя коні пад намі,
Пад намі.
Яшчэ ж ехаць да чатыры мілі барамі,
Барамі,
І а пятую да жалезнымі мастамі,
Мастамі.
І а шостую к свекру на двор гасцямі.

## 1030

Выехаў Іпаліцька на поле,
Забыўся шабельку ў доме.
Ці слугу паслаць, наняці?
Сам жа я вярнуся — спазнюся,
Будзе мая Маланка плакаці:
«Чаго ты, Іпаліцька, спазніўся,
Ці на мяне, маладую, забыўся?»
Не бойся, Маланка, не забыўся,
А мае сястрыцы гардыя,
А пакуль жа я іх упрасіў,
А зялёна віно разнасіў.
«А ці да абеда лапці плёў,
А ці, пабедаўшы, абуваўся,
Што к цёмнай ночы прыбраўся,
К цёмнай ночы, ка свечы,
К віднаму ранню, к сняданню?»

## 1031

Цёмная ночачка цямліва, *
Шырокая дарожачка грудліва.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Вараны конічак падбіўся,
Малады Ляксандрачка спазніўся,
На сваю Надзечку забыўся.
Не забыў Ляксандрачка, не забыў,
Да пакуль рэчачку пераплыў
Да правозьнічку заплаціў.
— Да перавознічак-галубок,
Да пераврзі мяне на той бок.
Да я ж табе дарэмна не хачу,
Да я ж табе дорага заплачу.
Да за русу касу — тысячу,
Да за сябе, малайца,— чырванца,
Да за сваю радзіну — палціну.

### 1032

Ай, з гары, з гары, з даліны
Бегла конікаў чатыры.
А ўсе чатыры сівыя
Вязлі карэту сінюю.
А ў тэй карэце Лёнечка,
А наш Лёнечка-пісарок,
Бярэць сабе панечку-пісарыху.

### 1033

Ой, рана, рана, на зарэ
Ездзіў Ванечка на кане.
Прыпаў конічак расою,
Сам ён, маладзец,— красою,
Маладзецкай чыстатою.

### 1034

А мы ехалі тры полі і сяло,
Нашы конікі інеем запалі,
Нашы конікі інеем запалі,
А мы, сваценкі,— божаю расою,
А наш Ванечка — маладзецкаю красою,
А наш Ванечка — маладзецкаю красою.

## 1035

Ой, борам, борам баравым
Ляцеў конік вараны,
За ім малойчык малады:
— Пацiша, кося, пацiша,
Паслухай, кося, што ў лесе:
Да два галубы брукуюць,
Да два малойцы гаворуць.
Няхай яны гаворуць, не ўбаюць,
Яны нашай дзеўкі не знаюць.
Пашыбча, кося, пашыбча.
— Будзем у цесцi па чэсцi,
Цябе пасадзяць на куце,
Мяне пастаўяць на дварэ.
Ты будзеш пiцi-гуляцi,
Я буду стаяцi i рзацi.

## 1036

Да ў чыстым у полi, да на бiтаму шляху
Стаўпом пара ўстала з-пад сiвых конiкаў,
З-пад цяжкiх возiкаў.
Забачыла да тое дзiва да дзявончына мацi:
— Божа ж мой, божа мiласцiвы,
Да да мяне вайна едзе,
Маё падвор'е саб'е, маё застолле зап'е,
Маё дзiцятка возьме.

## 1037

Усю дарожку конiк рысаваў,
Пад круту гару шчыра ўзяў,
Залатыя клешчы паламаў,
Шаўковы гужы папарваў,
Белае серабро везучы,
Па чыстае золата едучы.
Белае серабро — Мiшачка,
А чыстае золата — Анечка.

## 1038

Ой, жыпнулі лебедзі, чэраз Дунай плывучы:
— Ці ж усе ж нашы белы лябёдкі Дунай пераплылі?
Азвалася лябёдка да па той бачок Дунаю:
— Я ж, лебедзю, да купалася,
Ад цябе засталася.
Ой, гукнулі сватове
Да чэраз места Ільмова:
— Ці ж ўся ж наша міла бяседанька
Ільмоў пераехала?
Азвалася свашачка да па той бачок Дунаю:
— Я ж, сватухна, убіралася,
Ад цябе засталася.

## 1039

Ой, чые то сваткове
Вялікім радам ехалі
Пад пяром, пад яворам
І пад чорным аксамітам?
Васільковы сваткове
Вялікім радам ехалі
Пад пяром, пад яворам
І пад чорным аксамітам.

## 1040

Не вей, вецер, лугам,
А вей па дарогам,
Некуды ветру веяць —
Ззаду Якубка едзець.
Якубка хусткай махаець,
Палой закрываець,
Ветру напушчаець.
Да разбіў вецер касу
Па аднаму валасу.
Да разліў Якубка слёзы
Па румянаму ліцу.
Пахінуўся зялёны дубок
У шэры барок.

Чый жа то сын
Па полю едзець жаніцца?
На места станець —
Мяшчане глядзяць на яго,
А на двор узʼедзець —
Двор весялеець ад яго.

### 1041

Вяселле праз поле едзе,
Праз поле едзе, аж поле ззяе,
Праз лес едзе, аж лес палягае,
Праз вёскі едуць, людзі дзівуюцца:
— То ж таму добра, хто дачок мае,
Хто дачок мае, вяселле спраўляе.
Таму яшчэ лепі, хто сына жэне,
Яму нявестка, яму пасагі,
Яму пасагі і сын той самы.

### 1042

Бог таму даў, чый зяць едзець.
Лучшы таму даў, чый сын едзець.
Зяць едзець — са двара вязець,
Сын едзець — у двор вязець.
Зяць клеці адчыняець,
Сын клеці насыпаець.

### 1043

Не лякайся, цесцю,
Не ў мнозе твой зяць едзе:
Чэцвера да пяцера
Да ўсіх дзевяцера.
А дзесятая сястра,
Што свечачкі нясла.

## 1044

Ай, не хіліся, чырвоная каліна,
У нашага Васечкі вялікая радзіна.

Семсот казакоў, апроч палякоў,—
Усе за ім.

Семсот казачак, апроч палячак,—
Усе за ім.

Чатыры сваты — родныя браты —
Усе за ім.

Дзве маршалкі гаварлівы —
Усе за ім.

Дзве музыкі ігрышныя —
Усе за ім.

Сем сваццейкаў-пяю́ллейкаў —
Усе за ім.

Полем ехаў — краскі цвіцелі
Ад яго.

Борам ехаў — бары шумелі
Ад яго.

Мостам ехаў — масты лосняцца
Ад яго.

Местам ехаў — мяшчане глядзелі
На яго.

## 1045

Ой, не гніся, не ламайся, калінка,
Невялікая ў Колечкі радзінка:
Семсот жандароў, апроч дзевяроў, у яго,
Семсот ігру́лляў, апроч пяю́лляў, у яго.
Ён полем едзець — поле лялеець ад яго,
Ён лесам едзець — і лес шуміць ад яго,
Ён мостам едзець — масты ломяцца ад яго.

## 1046

Ой, не гніся, не ламіся, каліна,
Не вялікая пад Лявонькам дружына:
Семсот казакоў, семсот палякоў ля яго.
Лесам едзець — лясы шумяць ад яго,
Мостам едзець — масты гручаць ад яго,
Полем едзець — полеззяець ад яго,
Садам едзець — сады цвітуць ад яго,
Сялом едзець — людзі гавораць аб яго:
— А чыя ба тое дзіцятачка прыбрана,
А ў даўгую і дарожачку паслана?
А Наташкіна дзіцятачка прыбрана,
А ў даўгую дарожаньку паслана.

## 1047

Не гніся, не ламіся, каліна,
Не вялікая Івана дружына:
Семсот жаўнераў, апроч кавалераў, ля яго.
Ён полем едзець — поле яміць ад яго,
Ён борам едзець — бор зелянеець ад яго,
Мастамі едзець — масточкі звіняць ад яго,
Ён садам едзець — сад расцвітаець ад яго,
Дзярэўняй едзець — усе людзі глядзяць на яго.
Бог таму даець, хто дачку аддаець за яго.
Ой, рада й рада тая матулька, чый ён сынок.
Ой, радзей, радзей тая цяшчулька, чый ён зяцёк.

## 1048

А хто знае, куды Толечка паехаў?
Борам, борам ды далінаю
Ён са сваёю да радзінаю.
Борам ён ехаў — бары шумелі ад яго,
Полем ён ехаў — палі лялелі ад яго.
У сяло прыехаў — людзі пытаюць аб яго:
— Чыё так дзіцятка прыбрана,
Так раненька ў людзі паслана?

## 1049

Бег заінька па залессю туляся.
Ехаў Мішачка са сваточкамі хваляся.
Ён полем едзець — поле лялеець ад яго,
Мастамі едзець — масты звіняць ад яго,
Садам едзець — сад зацвітае ад яго,
Дзярэўняй едзець — людзі гаворацць пра яго:
— А чыя ж гэта дзіцятачка прыбрана?
Яна ў даўгую дарожаньку паслана.
А рада-рада тая цешчанька, чый ён зяць,
А радзей жа яго маманька, чый ён сын.

## 1050

А хто ж у нас за ўсіх лучша прыбраны,
А ў даўгую дарожачку пасланы?

А наш Колечка за ўсіх лучша прыбраны,
А ў даўгую дарожачку пасланы.

Ён борам едзець — барочкі шумяць ад яго,
Ён полем едзець — поле лялеець ад яго.

Ён мостам едзець — масточкі грučаць ад яго,
Ён сялом едзець — людзі гукаюць аб яго.

## 1051

А хто ў нас харошы, а хто ў нас прыгожы,
Ай, люлі, люлі, а хто ў нас прыгожы?*
Вінцутка харошы, Вінцутка прыгожы.
Ён да стайні ходзіць, коніка выводзіць,
Коніка сядлаець, пад ім конік граець.
На каня садзіцца, аж конь весяліцца.
Ён лугамі едзець — лугі зелянеюць,
Ён барамі едзець — бары разлягаюць,
Ён садамі едзець — сады расцвітаюць,
Ён у двор ўязджаець — Касеньку вітаець.

---

* Прыпеў «Ай, люлі, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 1052

А хто ў нас харошы,*
А хто ў нас прыгожы?

Ванечка харошы,
Ванечка прыгожы.

На каня садзіцца —
Конь пад ім ярыцца.

Конь пад ім бадрыцца,
Паедзем жаніцца.

Пад'язджаем к лугу —
Лужок зеляneeць.

Пад'язджаем к саду —
Садок расцвітаець.

Пад'язджаем к двору —
Дварочак сіяець.

Маладая Галюнька
На крыльцо выходзіць.

На крыльцо выходзіць,
З Ванечкам гаворыць:

— А я цябе ждала,
Пасцелю звязала.

## 1053

А хто ў нас харошанькі, а хто ў нас прыгожанькі?
Гэй, люлі-люлі, хто ў нас прыгожанькі? **
Яначка харошы, Яначка прыгожы.
Ён у стаеньку уходзіць, конік дуб'ю ходзіць.
Ён коніка выводзіць, конік з ім гаворыць.
Ён коніка сядлаець, конік з ім маўляець.
Ён на коніка садзіцца, конік весяліцца.
Ён полем едзець — палі раздаюцца,
Ён лугам едзець — лугі зеляneюцца,

* Кожны радок паўтараецца.
** Прыпеў «Гэй, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Ён борам едзець — зязюлі кукуюць,
Ён каля саду едзець — салаўі шчабечуць,
Ён на двор уз'язджаець — кветкі расцвітаюць.
Ён пад ганак пад'язджаець, Марылька спатыкаець:
— Здраствуй, мой харошы, здраствуй, мой прыгожы.
Даўно цябе ждала, даўно паджыдала.
Даўно паджыдала, сталы засцілала.
Сталы засцілала, кубкі налівала.
Кубкі налівала, Яначку вітала.
Белу пасцель слала, Яначку спаць клала.
Пасцель шаўкова, падушкі пуховы.
Дзеванька высока, не сцялі пасцель шырока,
А сцялі вузенька, штоб спаці міленька.

## 1054

У Зосенькі белявенькі
Яшачка.*

Полем едзець — поле лялеець
Да яго.

Борам едзець — бор зелянеець
Для яго.

У мястэчка ўедзець — скрыпкі-музыкі
Для яго.

Вёскай едзець — дзеўкі-паненкі
Для яго.

## 1055

Ай, бог таму дай да са багатай жаніцца.**
Бог таму даець, хто дачку аддаець за яго.
Ён лесам ехаў — лясы шумелі ад яго,
Ён полем ехаў — краскі цвіцелі ад яго,
Ён сялом ехаў — людзі глядзелі на яго.
К двору пад'яжжаў із вялікаю раднёю,
На двор узышоў а із роднаю сястрою,
За столікам сеў а із вернаю жаною.

* Кожная страфа паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

## 1056

І весяліся, не ламіся, каліна,*
Вялікая Іванькава дружына.
І полем едзець — і палі лялеюць ад яго.
І мостам едзець — масты ламаюцца ад яго.
І ў сяло ўязджаець — цесцятачкі пытаюць
пра яго.
І на двор з'язджаець — і кляновым лістком
сцілаюць.
І ў сенкі ўлазюць — як васілька зацвіцеў.
І ў хату ўлазіць із яснаю свячою,
І за стол залазюць із роднаю сястрою,
І з застолля лезець із вечнаю жаною.

## 1057

Не здрыгніся, сграбраны масток, на вадзе.
Будзе ехаць малады Колечка праз цябе.
Праз масты ехаў — масты звінелі ад яго.
Праз сады ехаў — сады цвіцелі ад яго.
Праз вулку ехаў — людзі глядзелі на яго.
У хату ўвайшоў — Марусечка плача, бо яго.

## 1058

Ой, у лесе, у лесе да на кляновым мосце,
Да тудою ехаў да Іванка ў госці,

Да тудою ехаў да Іванка ў госці.
Як едзе лесам — лес панывае.

Як едзе лесам — лес панывае,
Як едзе полем — поле ззяе.

Як едзе полем — поле ззяе,
А яго чаботкі слуцкае работкі.

А яго чаботкі слуцкае работкі,
А яго шапачка — сонца з месяцам.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 1059

Да не пагібніся, калінавы мосце,
Да тудэма едзе да сужонка ў госці,
Да на ім шапачка да паверх галоўкі,
Да на ёй кветачка з зялёнае руты.

## 1060

А ў лузе, лузе, у калінавым мосце.
Прыехаў малойчык да цесця ў госці.

Пад ім конічак, як матыльчык,
На ім суконькі, як васільчык.

На ім шапачка, як ясен месяц,
На ім паясок, як зора свеціць.

Ён полем едзе — аж поле ззяе,
Ён лесам едзе — лес палягае.

У вулічку ўедзе, людзі дзівуюць:
— А хто ж там едзе, чый зяць будзе,
Чыё дзіцятка шанаваці будзе?

## 1061

Гніся-пагніся, швідовы мосце,
Гніся-пагніся, да не паламіся.

Бо сюдэю ехаці слаўнаму паняці,
Слаўнаму паняці, маладому Януську.

А хто зачуе, то пазавідуе —
Бог таму дае, чый то сын едзе.

[Бог таму дае, чый то сын едзе,]
А палепшай таму, каму зяцем будзе.

## 1062

Не гніся, не гніся, каліновы мосцік,
Там едзе Міхаська да цешчы ў госці.

Як праз поле едзе — ажно поле ззяе,
А як лесам едзе — лес палягае.

А праз вёску едзе — людзі дзівуюць:
— Ото ж таму добра, чый сынок едзе,

Яшчэ таму лепей, чыім зяцем будзе,
Прывязе ён татку нявестку ў хатку.

## 1063

Не гніцеся, кляновыя масты,
Над ракой,*
А там едзець малады Ванечка
З грамадой.
Па лясу едзець — лясы шумяць
Ад яго.
Па лугах едзець — лугі зеляняць
Ад яго.
Па садах едзець — сады цвіцяць
Ад яго.
Праз сяло едзець — людзі гаварацъ
Пра яго:
— Бог таму даець, хто дачку аддаець
За яго.

## 1064

Не пагібліся, смудовы мосце,
Хоць пагібліся, не паламіся на рэчцы.

Тут будзе ехаць малады Міхаська да вянца.
Дзевяцёра коні пад сватамі ідзе.

Дзевяцёра коні пад сватамі ідзе,
Сам маладзенек на дзесятым едзе.

---

* Кожныя два радкі паўтараюцца.

Чэраз пушчу едзе — конік пад нім сурмуе,
Чэраз поле едзе — конік пад ім гарцуе.

Чэраз места едзе — усё места іззяе,
Чэраз сяло едзе — усё сяло дзівуе.
Чэраз сяло едзе — усё сяло дзівуе,
Што малады Міхаська на коніку гарцуе.

## 1065

Сценься, сценься, каліновы мосту,
Хоць сцяніся, анно не ўламіся.
Будзе ехаці вяліка патуга,
Слаўна вяселле, малады жаніхна.
Пад ім конічак малы-невялікі,
Дробна ступае, а далёка стане.
Сам жа ён бяжыць, укола колца звініць.
Да зачуйце, добрыя людзе,
Баяранька едзе, вам славанька будзе.
Бог таму дае, чый то сын едзе,
І таму не зле, чыю дочку возьме.

## 1066

А ў полі, полі,
Да ў густым жыце
Перапёлкі пяюць,
Перапыхаюць.
— Каму ў нас ехаць
Перапёлак лавіць?
— Ехаць не ехаць
Большаму дружку.
Большага дружка
Конік не бяжыць.
Конік не бяжыць,
Яму бог не мажыць
Перапёлак лавіць.

А ў полі, полі,
Да ў густым жыце
Перапёлкі пяюць,
Перапыхаюць.

[— Каму ў нас ехаць
Перапёлак лавіць?]
Ехаць не ехаць
Маладому Івану.
Яго конік бяжыць,
Яму бог памажыць.
Яму бог памажыць
Перапёлак лавіць.

## 1067

Кролік Цімошка, кролік,
Пад ім вараны конік.
Пад сяло пад'язджае,
Перапёлку страляе.
Перапёлкі на юшкі,
Пер'ечка на падушкі,
Галенку на паслушкі.
Падушкі пад бок слаці,
Галенку пасылаці.

## 1068

Якушанька-кролік,
Пад ім воран конік.
Пад сад пад'язджаець,
Перапёлак страляець.
Перапёлкі на ёлкі,
А з ёлкі далоўкі.
Пер'я на падушку,
А мяса ў кадушку.

## 1069

Едуць сваты, едуць,
Ужо недалёчка,
Блізка ля садочка.
Ружжы заражаюць,
Перапёлак страляюць.
Перапёлку ў юшку,
Пер'я на падушку,
Ножкі на панчошкі,
Кішкі на падвязкі.

## 1070

Шум, шум па балоце,
Па дубовай калодзе,
Мішачка бабра ловіць,
Ніначка ў вакно глядзіць.
Судзі, божа, бабра улавіць
Ясну моладцу на шубачку,
Мне, моладзе, на катаначку.
Лапачкі на катаначкі,
Вушачкі на пушачкі,
Хвосцічак на абкладачку.

## 1071

А дзяцінка выязджае,
Пад ім конік гуляе.

Пад ім конік гуляе,
Як саколік лятае.

Як саколік лятае,
Як белы мак зацвітае,

Як чырвоная рожа.
Тая рожа дзеўкам гожа.

А дзявочкам да на вяночкі,
А хлопчыку да на кветачку.

А хлопчыку да на кветачку,
Бо ён паедзе да па дзевачку.

## 1072

Лазянскае сяло на весялосці стаіць.
У нас чыстыя гулачкі,
Там растуць захвяначкі.
Туды ехаў Сцяпанка,
Вышчыпнуў захвяначку,
Затачыў за шапачку:
— Каб шапачка мая зіяла,
Каб мяне цёшча пазнала,
Мілым дзецем назвала.

## 1073

У канцы мосту каліна,
Там ехала дружына,
Пры дружыне Яся малады.
Стаў каліну ламаці
Ды й шапачку ўбіраці,
Каб яго цёшча пазнала,
Маладым зяцем назвала.
Маладым зяцем назвала
Ды за стол пасадзіла.

## 1074

Ехалі, ехалі
Лугамі і берагамі,
Каліну ламалі,
Каліну ламалі,
На шапачку клалі,
На шапачку клалі,
Каб нас людзі зналі,
Каб нас людзі зналі,
Сваточкамі звалі.

## 1075

Чырвоная рожа,
Не стой на дарозе,
Штодзень сваты едуць,
Чырвоную рожу шчыплюць,
За шапкі тыкаюць,
Каб нас людзі зналі
Ды сватамі называлі.

## 1076

З-пад саду-вінаграду
Сівы конь выбягае.
Не сам ён выбягае,—
Жанішок выязджае.
Кала яго сватка гожа,
Як чырвоная рожа.

І выскачыла з воза,
Ускочыла ў садочак,
Вышчыпнула кваточак,
Заткнула да за шапачку.
— Маладзенькі жанішок,
Як табе прыдалася
У бабровы шапаньцы
І ў розавай кветаньцы?

## 1077

Ай, вечар, вечар на гары,
Едзіць Самуська на кані,
А на ём шапачка-ярачка
Із залатою веткаю,
Із чырвонаю лентаю.

## 1078

У чыстым полі пад каліною,
Ой, там Хвядорка сванечку вучыць:
— Ой ты, сванечка, родна сястрыначка,
Хоць маладая, будзь разумная,
Як зайдзем да маго цесценькі.
А ў маго цесценька стаіць каліна,
Стаіць каліна каласістая,
На ёй голлечка пазлацістае,
На ёй ягадкі шчырага злота.
Каб ты, сванечка, не паквапіла,
Тыя каліны не выламала,
Сваёй шапанькі не заквяціла,
Маго цесценьку не разгнявіла.
Бо мой цесценька бардзо гняўлівы,
Як разагнявіцi, то й не перапрасіці.

## 1079

Шагайце, коні, шырока,*
Наша дарога далёка.
Не ў дарозе нам начаваць,

* Кожны радок паўтараецца.

Не калінку ламаць, цяпло класць,
Не шубку здзяваць й падаслаць,
Не ў етай дарозе начаваць.
У нашай дарозе радні нет.

## 1080

А ўзляцеў салавейка
А з зялёнага саду,
А з віннага вінаграду.

А выехаў Амяллянка
А з вялікага сяла
Ды з багатага двара.

А за ім чаляданька,
А, як рой, высыпаець,
Як мак, зацвітаець,
Амяллянкі пытаець:

— Маладзенькі Амяллянка,
А дзе будзем начаваці:
А чы ў лузе, чы ў дарозе?

— Міла мая чаляданька,
А ні ў лузе, ні ў дарозе,
Ні ў зялёнай дубравенцы.

Ёсць у мяне перапуціна,
А цешчухна на дарозе,
А дзевачка ў церамочку.

Вы будзеце ў цешчухны,
А я буду ў дзевачкі.
Вы будзеце гарэлку піць,
А я буду салодкі мёд.

## 1081

У полі дымы дымяць,
На двары шатры стаяць.
А пад тымі шатрамі —
Стаіць брат з сястрамі.
— А парадзьце, сястрыцы,

А што мне рабіці?
Ці ў полі пастаяць,
Ці на двор уз'язджаць?
— А едзь, братка, не стой,
У цябе конік не свой,
Радзіна невядомая,
Дружына незнаёмая.
А цябе цёмна ночка
А з дарожкі звядзе,
А з дарожкі звядзе,
Дружына каня ўкрадзе.

### 1082

Дымна ў полі, дымна,
За туманам не відна.
А хто ў тым тумане?
Васілька з сястрамі
Добрую раду бралі.
— Сястрыцы мае родныя,
А парайце мне раду,
Як роднаму брату.
А ці тут заначуем,
А ці далі паедзем?
— А паедзем мы далі,
Дзе нас наджыдалі,
Сталы засцілалі,
Кубкі налівалі.
Столікі цісовыя,
Скацеркі бялёвыя
І кубачкі мядовыя.

### 1083

Цёмная ночка наступае,
Сон галоўку абдымае.
Дзе ж мы будзем начаваці,
Што ж мы будзем вячэраці?
Начаваці з мілым сэрцам,
Вячэраці рыбку з перцам.
Пушчу каня на даліну,
А сам лягу на гадзіну.
Сплю гадзіну, сплю другую,
Аб конічку не думаю.

### 1084

Ды дымна поле, дымна, (2)
Да нічога не відна.
Не само яно дымна —
Там Пятрочка ваюе,
Па ім матка бядуе.
— Не бядуй, мая мамачка,
Да не адзін я ваюю,
Усё войска ваюе.
Сівы конь пада мною,
Сам гасподзь нада мною,
Ўся дружына са мною;
Да, як рой, высыпае,
Да, як мак, зацвітае,
Як чырвоная рожа.
Памажы яму, божа,
Цесцеў двор зваяваці,
Сабе Марыльку ўзяці.

### 1085

Па полю дым, па дарожцы пыл,
Вой, там наш Сямён ваюецца,
А яго бацюшка дзівуецца,
Як чаданька ваюецца:
Без ружжа, без шабелькі,
Без вянка, без шапанькі.

### 1086

Дзіўна ў полі, дзіўна,
Што нікога не відна.
Адно толькі завідаці
Колечку з сястрынкамі.
— Сястрыцы ды парадніцы,
Ды парадзьце вы бо мне,
Як цесця ваяваці,
Сабе Надзечку браці.
— Ды вадюй, братка, вадюй,
Сівы коні на двор вярні,
Сабе Надзечку бяры.
Бяры яе ды ручэнькамі,
Вязі яе канічэнькамі.

## 1087

А з гары мора вална б'е,
З чужога боку вайна йдзе.
— Не бойся, Манечка, мы не ваяваць,
Мы к твайму татачку піць-гуляць,
Цябе, маладу, к сабе ўзяць.

## 1088

Ой, каліна-маліна,
Да не стой над вадою.

Да не стой над вадою,
Не махай кветанькою.

Не давай цесцю знаці,
Што едзе зяць ваяваці.

Зваюю цесценька
Без ружжа, без шабелькі.

Ціхімі ўходамі,
Нізкімі ўклонамі.

## 1089

Шчабячы, салавей, шчабячы,
Нам дарожаньку укажы
А ў тое сяло бальшое,
А ў тую хатаньку новую.

Шчабятаў салавей, шчабятаў,
Нам дарожаньку указаў
А ў тое сяло, дзе нас ждуць,
А ў тую хатаньку, дзе мёд п'юць.

## 1090

Сватоўе, паноўе
Пад калінай стаялі
І калінку зламалі.

Ім суседкі казалі:
— Ідзіце, сваткі, борам, борам,
Там за борам ваша дзевачка
Тонкі кужаль ткала,
Кужалямі ў бары слала,
Дарожку кітайкаю,
А масты чырванцамі,
Каб борам не ўрасіцца,
Дарожкай не ўпыліцца,
Мастамі не падбіцца.

### 1091

Ды за бор, сваточкі, за бор.
Ды за борам сцежачка,
Там наша Волечка
Сцеле бор кужалямі,
Дарожачку ручнікамі,
Каб палямі не ўпыліліся,
А барамі не ўрасіліся.

### 1092

У полі пад ліпкаю
Стаяць коні вараныя,
Стаяць коні вараныя,
Сваточкі маладыя.
Сваточкі маладыя
Дарожкі не ведаюць.
А Віцькава сястрыца,
Хоць яна маленькая,
Яна ж разумненькая,
З вазочку не злязала,
Дарожку распытала.
— Сюды, братка, сюды.
Братоўка за барамі,
Братоўка за барамі
Сцеле бары кужалямі,
Дарожкі — ручнічкамі,
А сцежачкі — паяскамі.

## 1093

Не гусі гэгалі —
Белы лебедзі.
Сватове галасілі
Ды сяла ўсё прасілі.
Пыталіся сяла,
Новенькага двара,
Надзеччына бацењька.
У майго бацењька
Новенькі двор,
Тынам тынаваны,
Грабелькамі выграбаны.

## 1094

Ехалі сваточкі па загуменню:
— Пакажы, Варутанька, нам дарожаньку.
— Вось гэта дарога к майму татульку,
К майму роднаму.
У майго татулькі тры калодзезі:
Ва 'нным калодзезі зеляно віно,
А ў другім мёд салодзенькі,
А ў трэцім ключавая вада.
Зеляно віно пусь ля госцейкаў,
Салодкі мёд ля нас, маладых,
Ключавая вада ля конікаў.

## 1095

Едземо, едземо,
Ні дарожкі, ні следу.
Ніхто ж нас не знае,
Ні дарогі не ўкажа.
Манечка пазнала
І дарогу ўказала.
Там жа ж мы прыстанем,
Дзе сваё пазнаем.
Там жа мы заначуем,
Дзе сваё пачуем.

## 1096

Ехалі сватове дубняком
Да ламалі дубняк-маладняк,
Да зрабілі жанішку халадок.
Вышла, выбегла дзеванька да яго
Да вынесла цукру ў паперы
І віннае яблычка ў кішэні:
— Устань, жанішок, ачніся
Да ідзі да крыніцы — умыйся,
Дам табе ручнічок — утрыся,
Віннае яблычка — ахмяліся.

## 1097

Полем едзець, дарожачкі шукаець,*
Сялом едзець, хвацерачкі пытаець:
— Ай, дзе, ай, дзе дарожачка торная,
Ай, дзе, ай, дзе хвацерачка верная?
— У полі, ў полі дарожачка торная,
За столікам дружыначка верная.

## 1098

Ай, борам, борам, барамі
Ехалі сваты радамі.
І увідзелі яны чорны пень,
Адзін сват кажыць:— Вунь мядзведзь,
А другі кажыць:— Едзьце, сваточкі,
Не брэшце: гэта не мядзведзь,
Гэта не мядзведзь, а чорны пень.
Гэйны чорны пень аб'едзем,
Да сваёй Ганулькі даедзем.

## 1099

Ехалі сваты барамі,*
Увідзелі сваты чорны пень.
Адзін кажаць сват:— Там мядзведзь.
Другі кажаць сват:— Задзярэць.

* Кожны радок паўтараецца.

Трэці кажаць сват:— Баюся.
Чацверты кажаць сват:— Вярнуся.
Адна сваццейка разумна:
— Дуракі сваты, дуракі,
Ці вы барамі не ездзілі,
Ці вы чорнага пнеўя не відзелі?

## 1100

Ай, борам, борам, барамі
Ехалі сваточкі радамі.
А большы сват напярод,
А меншы сват пасярод.
Большы сват кажаць:— Воўк стаіць,
А меншы сват кажаць:— Тукайце,
А сваценька кажаць:— Едзь, не брэць!
Ці ты па бару не езджываў,
Ці ты пянёўя не відываў?

Ехалі сваточкі па полю.
Большы сват кажаць:— Сыр ляжыць,
А меншы сват кажаць:— Кушайце,
А сваценька кажаць:— Едзь, не брэць!
Ці ты па полю не язджаў,
Ці ты пянёўя не відаў?

## 1101

Ехалі сваты борам,
А ўвідзелі пнеўе.
Адзін кажаць:— Воўк стаіць,
Другі кажаць:— Будзем крычаць.
З імі свацця маленька,
Калі ж яна разумна:
— Едзьце, сваты, не брэдзьце.
Чы вы борам не ездзілі,
Чы вы пнеўя не відзелі?

Ехалі сваты сялом,
А ўвідзелі лазню.
Адзін кажаць:— Цэркаў стаіць,
Другі кажаць:— Ксціцца будзем.

З імі сваццяя маленька,
Да калі яна разумна:
— Едзьце, сваты, не бойцеся.
Чы вы сялом не ездзілі,
Чы вы лазні не відзелі?

## 1102

Ехалі сваткі да царквы,
Прыехалі-прыблудзілі к каноплям.
Сватка кажа:— Тут царква!
Кавалер кажа:— Прыкленчма!
А старша сваццяя, разумніца:
— Вот, вы, сваткі, не дурэйце
Ды гэтыя каноплі аб'едзьце.
Ехалі сваткі да царквы,
Прыблудзілі к кастру дроў.
Сватка кажа:— Тут царква!
Кавалер кажа:— Прыкленчма!
Старша сваццяя, разумніца:
— А вы, сваткі, не дурэйце
Ды гэты касцёр аб'едзьце.
Ехалі далей — бегла гайня.
Сватка кажа:— Пабягу і я!
Кавалер кажа:— Пабягу і я!
Старша сваццяя, разумніца:
— А вы, сваткі, не дурэйце
Ды гэту гайню мінеце.

## 1103

Ехаў хлопчычак цераз бор,
У яго кудзёлкі вышэй броў.
Усе людзі кажуць:— Сын паноў.
А дзевачка кажа:— Мой сакол.
Есць у мяне косачка па пяту,
Я ў яе каснічок запляту.
Прадам русу косачку за шастак,
Бела маё лічайка пойдзе так.
Бела маё лічайка у атца —
Ці такое будзе ў малайца,
Часта па вадзіцу ходзячы,

Цяжкую работку робячы?
Прынясу вадзічкі — пастаўлю,
А памыю ложачкі — палажу,
Дый лютай свякроўцы не ўгаджу.

### 1104

Ехаў Якубка чэраз бор,
Яго кудзёркі чэраз двор.
Людзі кажуць:— Сын папоў,
А Тацюшка кажаць:— Мой сакол.
Прылятай жа ка мне ў мой двор.
На маю вячэрку сладкую,
На маю пярыну мяккую.
Вячэра смачная ў печы,
А пярына мяккая ў клеці.

### 1105

А ў бор дарожка-чарназём,*
Едзець Ванечка чарнаброў.
Людзі казалі:— Сын папоў.
Леначка казала:— Мой сакол.
Едзець ён ка мне ноч паначавяць,
На цісовую кравапь,
На бялявыя дзяружкі,
На пуховыя падушкі.

### 1106

Ехалі сваты дарогай,
Ехалі сваты шырокай.

Спаткалі яны Манечку,
Спаткалі яны маладую.

Сваты кажуць:— Мінайма.
Яська кажа:— Бярыма.

Ехалі сваты дарогаю,
Ехалі сваты шырокаю.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 1107

Сядзіць заінька пад ёлачкай,
Вочкі трэ.

Едзе Мішачка жаніціся,
Зайку б'е.

— За што, за што, малады Мішачка,
Мяне б'еш?

Ці я твае вараныя конікі папудзіў,
Ці тваю маладу Анечку адгудзіў?

А спудзілі тваіх конікаў мядзведзі,
Адгаварылі тваю Анечку суседзі.

А спудзілі тваіх конікаў лісіцы,
Адгаварылі тваю Анечку сястрыцы.

## 1108

Сядзіць зайчык пад ёланькай, вочкі трэць,
Едзець малады Яначка, яго б'ець.
— За што, па што ты мяне б'еш?
Ці я тваіх сівых коняў папужаў,
Ці я тваю сцежку-дарожку пératаптаў,
Ці я тваю маладу Ганьку адмаўляў?
Совы тваіх сівых коняў папужалі,
Шэрыя ваўкі сцежку ператалталі,
Маладыя хлопцы тваю Ганьку адмаўлялі.

## 1109

Ехаў Іванька з-пад горада,
Выгнаў заіньку з-пад груда.
Стаў ён заіньку ганяці,
Стаў яму заінька пініці.
— За што мяне, Іванька, ганяеш?
Ці я табе дарожку перабег,
Ці я табе конікаў папудзіў,
Ці я табе Дар'ечку пагудзіў?
Перабег дарожку шэры воўк,

Папудзілі конікаў жарабцы,
Пагудзілі Дар'ечку малайцы.
— А на што яны гудзілі?
— Самі яны за сябе хацелі.

## 1110

Выехаў Коленька на поле,
А ў яго заінька з-пад коня.
Стаў ён заіньку ганяці,
Жыдкім пруцікам сцябаці.
— За што, Коленька, ганяеш,
Жыдкім пруцікам сцябаеш?
Ці я табе дарожку перабег,
Ці табе конікаў папудзіў.
Ці тваю нявесту пагудзіў?
Перабег дарожку шэры воўк,
Папудзілі конікаў ястрабцы,
Пагудзілі Анечку малайцы.
Тыя малайцы лядзяне,
Яны за сябе не ўзялі,
Яны Колечку аддалі.

## 1111

Сядзіць зайка пад ёлкаю, вочкі трэ,
Разгневаўся на маладу дзяцінка, за што б'е.
— Да чы я твае вараныя коні ўпудзіў,
Да чы тваю маладую дзевачку разгудзіў?
Да ўпудзілі вараныя коні два стральцы,
Разгудзілі маладую дзевачку малайцы.
Упудзілі вараныя коні на моры,
Разгудзілі маладую дзевачку ў каморы.

## 1112

Ой, да бег зайка цёмным лужочкам,
Вочкі трэ.
Ехаў Васілька цераз месцечка,
Зайку б'е.

— Ой, за што, за што, малады Васілька,
Мяне б'еш?
Ой, ці я ж твае вараныя коні
Папудзіў,
Ой, ці я ж тваю маладу Маруську
Пагудзіў?

Ох, папудзілі вараныя коні
Галубцы.
Ох, пагудзілі маладу Маруську
Малайцы.

## 1113

Ехаў жанішок на кані,
Як яму наўстрэчу заінька.
— Дайце мне стралу, я яго заб'ю.
— Пастой, жанішок, не страляй.
Не я табе дарожку перабіў,
Не я тваіх конікаў папудзіў,
Не я тваю княгіньку пагудзіў.
Перабіў дарожку сівы воўк,
Папудзілі конікаў мядзведзі,
Пагудзілі княгіньку суседзі.

## 1114

Ходзіць жанішка па новых сенях, жаль мае,
За ім, за ім родны братачка пытае:
— Чаго, чаго, мой жа братачка, жаль маеш?
Ці я табе варанога каня іспудзіў,
Ці я тваю маладую дзевачку загудзіў?
А перабег да дарожаньку шэры воўк,
А іспудзілі ж і вараных коней мядзведзі,
Загудзілі ж і тваю жоначку суседзі.

## 1115

Да што гэты да конь вараны нарабіў,
Нарабіў.

Завёз мяне ён у зялёную дуброву,
Дуброву.

Што ў той дуброве сухая ёлка стаяла,
Стаяла.

Што пад той ёлкай рудая бялянка гуляла,
Гуляла.

Яна майго каня варанога спужала,
Спужала.

Перабеглі дарожачку два сіўцы,
Два сіўцы.

Пагудзілі дзеўку малайцы,
Малайцы.

Да перабеглі дарожачку мядзведзі,
Мядзведзі.

Пагудзілі дзеўку суседзі,
Суседзі.

## 1116

Ой, блізка мосту
Жарка калінка стаяла.

Пад той калінкай
Біта дарожка ляжала.

Па той дарожцы
Ехаў малойчык жаніцца.

Скочыў з коніка,
Стаў калінцы кланіцца.

Пакланіўшыся,
Стаў калінку ламаці.

Калінка стала
Уся маладзенька гукаці:

— За што, пра што,
Малады малойчычак, ламаеш?

Не дзеля твайго нізкага паклону
Я ўзрасла.

Не дзеля тваіх дробных слёзак
Я расцвіла.

Я ўзрасла
Ўсім пташачкам садзіцца,

Я ўзрасла
Ўсім салавейкам жывіцца.

## 1117

Між гарамі дарога ляжала,
У варот каліна стаяла.
Туда ж ехаў молад [Іванька].
Ўздалёка каня ўнімае,
Із ножан саблю вынімае.
Хочыць ту каліну зрубіць,
У далінaчку збросіць.
Та яму каліна гаварыла:
— Не сячы, не рубі мяне, [Іванька],
Не для цябе каліна саджана,
Не для цябе дзевачка рошчана.
Саджана каліна да для галубоў,
Рошчана дзевачка да для маладцоў.
— Я ж гэту каліну сам садзіў,
Мне гэту дзевачку бог судзіў.
Я ж гэту каліну сам паліваў,
Мне гэту дзевачку бог дараваў.
З варанога каня не злязаў,
Із стрэмені ног не вынімаў,
Пакуда гэту дзевачку к сабе не ўзяў.

## 1118

— Не стой, каліна, на лузе,
Ой, прыступіся к дарозе.

Будзе ехаць Толечка ад вянца,
Будзе цябе, каліну, сеч-рубаці.

Будзе яму каліна прамаўляці:
— Не сячы, не рубай, Толечка.

Не для цябе каліна саджона,
Не для цябе дзевачка рашчона.

— Я гэту каліну сам садзіў,
Мне гэту дзевачку бог судзіў.

Я гэту каліну сам палівау,
Мне гэту дзевачку бог даравау.

## 1119

Ой, відна, відна з-пад зары,
Гарцуець малойчык на кані.
Прыгарцаваўся к даліне,
К чырвоненькай каліне.
Стаў тую калінку сеч-рубаць,
Стала яму калінка адмаўляць:
— Не сячы, не рубай —
Не ля цябе каліна саджона.
Саджона каліна дзеля голубаў,
Хрышчона дзевачка дзеля молайцаў.
Гэту калінку сад садзіў,
Сад садзіў і дождж палівау.

## 1120

Ой, борам, борам, барамі,
Саджана калінка радамі.
Ай, туды ехаў Іванька.
Ён тую калінку стаў рубаць,
Стала калінка з ім гукаць:
— Не рубі мяне, Іванька,
Ай, не ты ж мяне тут садзіў,
Ай, не ты ж мяне палівау.
Ай, садзіў мяне вецярок,
Палівау мяне да й дажджок.

## 1121

Ой, борам, борам, барочкам
Ехалі сваты радочкам,
Молад Васечка наўпярод.
Стаяла калінка ў варот.

Стаў ён яе сеч-рубаць,
Стала калінка з ім гукаць:
— Не ты мяне тут садзіў,
Не ты паліваў.

Не ты мяне тут садзіў,
Не ты паліваў.
Пасадзіў мяне госпад бог,
Паліваў мяне дробны дождж.

## 1122

Да ехаў малойчык
Край бору.

Заваліла калінка
Дарогу.

Стаў тую калінку
Сеч-рубаць.

Стала яму калінка
Праўду казаць:

— Не сячы калінкі,
Не рубай,

Бо мяне, калінку,
Бор садзіў,

А табе дзевачку
Бог судзіў.

Бо мяне, каліначку,
Дождждык паліваў,

А табе дзевачку
Бог гадаваў.

## 1123

Да й уехаў хлопчык з свайго дому,
З свайго дому.

Да й заваліла каліна дарогу,
І дарогу.

— Да вярніся, хлопчык, дадому,
І дадому.

Да вазьмі тапорык з сабою,
Із сабою.

Да пасячы-парубай каліну,
І каліну.

Да стаў жа ён секчы-рубаці,
І рубаці.

Да стала каліна праўду казаці,
І казаці,

Што хлопчычак да й нядбайніца,
Нядбайніца,

Што хлопчычак вялікая п'яніца,
Вялікая п'яніца.

Пракурыў павозку на табак,
На табак,

Да павёз дзевачку на сабак[ах].

## 1124

Ой, каля двора, каля новага
Бітая дарожанька.
Ой, туды ехаў, ой, туды ехаў
Молад Іванка
На вайну ваяваці.
Нахілілася чырвона каліна
Над яго дарожаньку.

Ён выняў меча
З правага плеча,
Стаў каліну рубаці.
Вышаў да яго баярынька
І стаў яго ўмаўляці:
— Прашу я цябе,
Хадзі да мяне
Абеда абедаці.
— Ой, дзякуй табе,
Няма мне калі
Абеда абедаці:
Мая Ганначка расплакалася,
Няма каму уцяшаці.

## 1125

Пры дарозе каліна стаяла,
На дарогу веццейка пушчала.
А туды ж ба ехаў Іванька.
Каліна шапаньку схваціла,
Маладога Іваньку ўсярдзіла.
Ён стаў коніка здзяржаці,
З кармана шабельку вынімаці.
Ён стаў каліну сеч-рубіць,
Стала яму каліна гаварыць:
— Не сякі, не рубі, Іванька,
Не ля цябе каліна саджона.
Есць ля цябе Мар'юшка суджона.
Мяне ж, каліну, бог паліваў,
А ля цябе Мар'юшку бог гадаваў.
Мяне ж, каліну, бог садзіў,
А ля цябе Мар'юшку бог судзіў.

## 1126

Ой, у моста, моста каліна,
Тудою ехала дружына,
А ў той дружыне жанішок.
Паперад коніка ступае,
А ў ручках шабельку трымае.
Да хацеў каліну зрубаці,
Стала яго каліна прахаці:

— Не сячы, не рубай, жанішок,
Бо мяне, каліну, кроль садзіў,
Мяне кроль садзіў, а так бог судзіў.
Да мяне ж, каліну, дождж паліваў,
А табе дзеваньку бог гадаваў.

### 1127

У варот каліна стаяла.
Прыехаў Іванька малады,
Стаў жа ён каліну ламаці,
На цсцёў двор веццу брасаці.
Вой, вышла к яму цешчухна:
— На што ты каліну ламаеш,
На цсцёў двор веццу брасаеш?
Не ля цябе каліна саджона,
Не ля цябе Рыпіна рашчона.
Саджона каліна ля лугу,
Рашчона Рыпіна для друга.
— Ой, тут каліне ці не луг,
А я Рыпіне ці не друг?
Гэта ж каліне лужочак,
А я Рыпіне дружочак.

### 1128

Каля саду біта сцежка ляжала,
На тэй сцежцы калінка стаяла.
Ды будзе ехаць малады Габруська да шлюбу,
Астановіцца тую калінку ламаці.
Не падаецца тая калінка ламацца:
— Не дзеля цябе я, маладога, ўзрасла.
Не для цябе я, маладога, расцвіла.
Узрасла я проці цёплага лецейка,
Расцвіла проці яснага сонейка.

### 1129

Вецер бярозу паваліў,
Сярод дарогі палажыў.

Трэба дарожку прачышчаць,
Вараных конікаў прапускаць.

Вы бяжыце, конікі, на той двор,
Увязіце дзевачку на мой двор.

## 1130

Колечку-саколічку,
Выкрунься на коніку
Ды пабі тыя вербы,
Што ў цесця перад дзвермі.
Паламай тыя лозы,
Што ў цесця на парозе.

## 1131

Што гэта да за разбойніцтва
Да на шырокай вуліцы?

Да на шырокай вуліцы,
Да на зялёнай мураўцы.

Нашы коні супынілі,
У нас перапой адбіралі.

— Ой, дзіўненькія людзі,
Разбою да не рабіце.

Разбою да не рабіце,
Да бярыце перапой, піце.

Да бярыце перапой, піце,
Нам дарогу пусціце.

Нам дарога шырока,
Наша Валечка далёка.

Каб наш конь не ўтаміўся,
Каб наш малады не ўпыліўся.

Каб яго цешча ўвазнала
І ў варот сустракала

Із кубкам паўнюсенькім,
Із вінам саладзюсенькім.

## 1132

На дарозе да на шырокай
Да што гэта да за разбойства?

На дарозе разбой маюць,
Нашых коней сунімаюць.

Нашых коней сунімаюць,
Перапой адбіраюць.

— Да бярыце перапой, піце,
Нам дарожку пусціце.

Нашы сваты ў лесе начавалі,
На верасе расу бралі.

На верасе расу бралі,
Перапой падлівалі.

— Да бярыце перапой, піце,
Нам дарожку пусціце.

## 1133

Ай, борам, борам, барамі
Выбіта дарожка рублямі.
Хто гэту дарожку выбіваў?
Выбіваў дарожку Колечка,
Па сваю Надзечку ездзячы,
Дарагія падаркі возячы:
Першы падарак — званочак,
Другі падарак — вяночак,
Трэці падарак — конь вараны,
Чацверты падарак — сам малады.

## 1134

Ой, борам, барамі
Пабіта дарога каўрамі.
Ай, не каўрамі — канямі.
Хто ж тую дарожку пабіваў?

Пабіваў дарожку конь вараны,
Ой, конь вараны, князь малады,
Ой, конь вараны, князь малады,
Часта к цешчухне ў госці ходзячы,
Частыя падаркі носячы:
Первы падарак — папранік,
Утарой падарак — брус мыла,
Трэці падарак — конь вараны,
Чацвёрты падарак — сам малады.
Салодкі папранік — цешчухне,
А брус мыла — сваякіне,
А конь вараны — шур'яку,
А сам малады — Праскуце.
Салодкі папранік
Цешчухне на прывет,
А маладая Праскутачка
Мне на ўвесь век.

## 1135

А рассцілаўся зялёны клён у гародзе,
А сабіраўся малады Колечка ў дарожку,
Да да сваей младой Нiначкі едучы,
Да дарагія падарачкі везучы.
А яна ягоным падарачкам гардуець,
Седзя ў каморы, шаўкавы платок рубкуець.
Па беражнічкам чорным нітачкам пукуець,
А ў серадзінку ясну заранку ўпусціла,
Каб яна яму ночку цёмную свяціла.

## 1136

Раззеляніўся зялёны садок у гародзе,
Развесяліўся молад Мішачка у дарозе,
А да сваёй да дзевачкі едучы,
Дарагія падарачкі везучы.
Яна яго падарачкамі гардуець,
Сама свае новенькія гатуець.
Яна гатуець сорак саракоў ручнікоў,
Каб было чым падарыці дзевяроў.
Яна гатуець сорак лакотак намётак,
Каб было чым падарыці заловак.

## 1137

Біта, біта дарожачка чэраз бор,
Туды прыехаў наш Ванечка чарнаброў.
А забачыла яго Зосечка з церама:
— Заедзь, заедзь, мой Ванечка, па мяне.
— Ай, рад бы я заехаць па цябе.
А не маю я злота-серабра пры сабе,
А ё яно ў маей мамулькі, не ў мяне.

## 1138

Чэраз поле дарожанька-чарназём,
Туды ехаў Мітрушачка чарнаброў.
Завідзела Тацяначка з церама:
— Заедзь, заедзь, Мітрушачка, ка мне ва двор.
— Не заеду, Тацяначка, к табе ва двор.
Я не йімею злата- срэбра пры сабе,
Нечым дарыць радню тваю і цябе.

Чэраз поле дарожанька-чарназём,
Туды едзець Мітрушачка чарнаброў.
Завідзела Тацяначка з церама:
— Заедзь, заедзь, Мітрушачка, ка мне ва двор.
— Я заеду, Тацяначка, к табе ва двор.
Я імею злата-срэбра пры сабе,
Ёсць чым дарыць радню тваю і цябе.

## 1139

Чэраз бор дарожанька-чарназём,
Там ехаў Іванька чарнаброў.
Увідзела Палагейка з церама:
— Заедзь, заедзь, Іванька, на таржок,
Купі маей мамухны піражок,
Каб была ласкава да цябе,
Каб аддала мяне, моладу, за цябе.
— Я не маю злата-серабра пры сабе,
Толькі маю тры яблычкі ў кішане,
Ета маёй княгіні з пахмелля,
Каб не балела галовушка з вяселля.

## 1140

У бару, бару пад еллю
Спаў сужаны з пахмеллю.

Хмель яму галоўку разабраў,
Конь на ім шубу пападраў.

Затужыўся сужанька, затужыўся:
Не з чаго шубаньку пашыці.

Не з чаго шубаньку пашыці.
Зачула яго дзеванька.

— Не тужы, не бядуй, сужанька,
Ёсь у майго бацэнькі сорак сабалёў.

Сорак сабалёў раблёных,
А чатыры бабры куплёных.

Сышчам краўчыка са двору,
Пашые шубаньку да долу.

Кола вората золата,
Кола падола чорны шоўк,
Насі, міленькі, ты здароў.

## 1141

А борам, борам, барамі
Стаяла каліна радамі.
Ехаў жанішок са сватамі,
Хмель яго галоўку разабраў.
Конь яму шубачку разадраў.
Пачаў жа жанішок тужыці:
— Не з чага шубачку пашыці.
Учула-зачула княгіня:
— Не хлапаціся, малойчык,
Ёсь у майго татунькі
Сем сабалёў бабровых,
Чатыры бобрыкі куплёных.
Пазавём краўчыка дадому,
Пашыем шубачку баброву.
А чорны бабёр на каўнер,
Паедзець жанішок, як жаўнер.

## 1142

Ай, лесам, лесам цямненькім
Ехаў Ігнацька п'яненькі.
Сон яму галаву сукланіў,
Хмель яму сярдзечка разабраў.
Рацівага коніка разагнаў,
Куннюю шубаньку ўсю сцёр-змяў,
Ліссюю шапаньку пацяраў.
Заклапаціўся Ігнацька
А па тэй шубаньцы кунняй,
А па тэй шапаньцы ліссяй.
А зачула б тое дзеванька:
— Не клапаціся, Ігнацька:
Ёсь у майго таткі сем сабалей,
А сем сабалей рублёных,
Восьмы бабёр куплёны.
Сышчам мы краўчыка са двору,
Пашыем шубаньку да долу.
Не трэба лепшага прыбору —
Баброву шубаньку да долу.

## 1143

Ой, борам, борам, барамі
Ехалі сваты радамі.
А ламалі дубнік-маладнік,
Зрабілі сужаньку халаднік.
Хмель яго галоўку разабраў,
Пад ім конік разыграў,
Куннаю шубачку разадраў,
Саболлю шапачку паламаў.
Ой, зажурыўся сужанька
Да па той куннай шубанцы,
Ой, па той саболляй шапачцы.
Ой, зачула тая дзевачка:
— Ё ў майго бацюшкі ў клеці
Дзевяць сабалёў забітых,
А чатыры куны куплёных.
А зазавём краўчыка дадому,
А пашыем шубачку да долу.
Бабровы каўнер абложым
Да на цябе, сужанька, ўзложым.

## 1144

У васкрасенне раненька
Ехаў сужанька п'яненькі,
Хмель яму галоўку разабраў,
Конь яму шубачку разадраў.
Зажурыўся сужанька
Па саболляй шубачцы.
А зачула то дзевачка:
— Не журыся, сужанька,
Ёсць у майго бацюшкі камора,
А ў той каморы сем сабалей і куна,
Саш'ём шубачку, як была,
Бабром абложым
І на цябе, маладога, узложым.

## 1145

Чэраз бор цёмненькі
Ехаў Мяльянка п'яненькі.
Хмель яму галоўку разабраў,
Конь яму шубаньку разадраў,
Пухавую шапаньку растаптаў.
Зачула-пачула дзеванька:
— Не туж, не бядуй, Мяльянка,
Ёсць з чаго шубаньку пашыць,
Ёсць за што шапаньку купіць.
Мы сышчам краўца дадому,
Пашыем шубаньку да долу,
Даўгія рукаўцы да пальцаў,
Бабровы каўнер на плечкі.

## 1146

А разгуляўся вараны конік па полю,
А разадраў Нікіпарка шаўкову шубку да долу.
А затужыўся малады Нікіпарка па шубцы,
А зачула яго дзевачка ў цераме:
— Не тужы, не бядуй, молад Нікіпарка, па шубцы,
Ёсць у майго таткі сорак саболей ра́бленых,
Ёсць у майго таткі а тры бабры ку́пленых,
Сышчыць ён краўчыкаў са двору.
Пашыець шубку мне і табе да долу.
Будзем насіці і бога прасіці з табою.

## 1147

Ой, як з'ехаў да молад жанішок на свой двор,
Разгуляўся пад ім, маладым, сівы конь,
Раздзёр яму яго шубаньку аж да пол.
Як узліўся молад жанішок на каня:
— Не дам табе так аброчыньку, як даваў.
Як учула дзеванька ў каморы:
— Не зліcь, не зліcь, жанішок, на каня.
У маго бацькі два саболікі шчэ й куна́,
Наладзіма тваю шубаньку, як была.

## 1148

Пад сім, пад тым разыграўся сівы конь,
Пад Колечкам разгуляліся разам два.

Падвязлі яго пад новую стадолу,
Падралі яму яго шубачку да долу.

— Ёсць ў мяне шаўцы-краўцы ў возе,
Яны зашыюць маю шубачку ў дарозе.

## 1149

Пад кім, пад кім сівы конічак гаруець?
Ён пад Эдзікам, ён ножачак не чуець.

Падвёз яго й пад новую стадолу
Да парваў жа ясную шубу да долу.

Стала на яго яго мамуська сварыцца:
— У чым паедзеш, маё дзіцятка, жаніцца?

— Зазавём мы краўцоў, шаўцоў дадому
Да й пашыем ясную шубу да долу.

Не будзеш, мая мамуська, сварыцца,
Будзець мне, маладому, у чым жаніцца.

## 1150

Пад тым, пад сім сівы конік гарцуець,
Пад Андрэйкам ён ножачак не чуець.
Паднёс яго пад новую стадолу,
Падраў яму новую шубу да долу,
Ходзіць жа ён, маладзенькі, бядуець.
Як учуў жа яго татулька ды й тое:
— Не туж, не бядуй, маё дзіцятка, па шубе.
Ды прывязём маладых краўцоў дадому,
Ды пашыем саболлю шубу да долу.

## 1151

На дварэ стаіць шацёр новенькі,
А ў тым шатрэ тры краўчыкі.
Туды ехаў малады Міхалка.
— А бог помач тром краўчыкам.
Краўчыкі мае мілыя,
Пашыйце тры сукенькі:
Адну мне самому,
А другую жане маёй,
А трэцюю слузе нашай.
Мне самому — сіненькую,
Жане маёй — чырвоную,
А слузе нашай — зялёную.

## 1152

З гары, з гары брадочак,
У тым брадочку конічак,
На тым жа конічку жанішок.
Сядлаў каня з вячора,
Паехаў да мілай з паўночы,
Застаў мілую не сплючы,
Тонку й кашулю шыючы,
Дробны слёзкі ронячы:
— Каб я гэту кашулю пашыла
Да сваёй свякроўцы ўнаравіла.

## 1153

Пры дарозе, як клён,
Бяроза стаяла,
На той бярозе
Шэрая зязюля кукавала.
Тудою ехаў
Малады Іванька пяючы
Ды зачуў тую
Зязюлечку кукуючы.
— Перастань, перастань,
Шэрая зязюля, кукаваць.
Лепей умее мая Тацянка вышываць
Цёмненькай ночы,
Пры яснай свячы седзячы,
Тонку беленьку
Кашуліцу шыючы.
— Каб я гэту кашуліцу пашыла
У нядзельку рана,
У дарожачку ўлажыла,
Каб свайму свякроўку ўгадзіла.
Да зачуў тое
Малады Іванька ў каморы:
— Угодзіш, мая Ганначка, угодзіш,
Па яго падвор'і паходзіш,
Звонкія ключы паносіш,
Ты маладзенькая яму ўгодзіш.

## 1154

Цераз мой двор дарожка крывая,
А подле той другая такая.
Тудэма ехаў малады Міхаська пяючы:
«Чы не зачую сіняй зязюлі кукуючы?»
Ой, не зачуў сіняй зязюлі кукуючы,
Да зачуў красну Настуську плачучы,
Ля новай каморы пад акенцам седзячы,
Для свякраткі тонку кашулю шыючы
Да з сваёю матуляй размаўляючы:
— Ой, дай божа добры час-гадзіну,
Што б я свякратку тонку кашулю шыць ўгадзіла.
— Не ўгодзіш, маё дзіцятка, не ўгодзіш,
Покі па маім да падворку ты ходзіш.

Да покі ты дзевяць пар ключоў панасіш,
А дзесятую думаньку здумаеш,
Тады свякратку шыць кашулю ўгодзіш.

## 1155

Краем лесам калінанька зацвіла,
Краем лесам чырвоная зацвіла.
Тудыма ехаў пан дружанька пяючы,
Зачуў сівую зазульку куючы.
Ён думаў, што зазулька кавала,
Аж яго ж міла дарагія песні спявала.
Пад аконечкам, на крэслечку седзячы,
Шоўкам, золатам кашульку шыючы.
Судзі, божа, кашульку пашыці,
У нядзельку на дружанька злажыці,
У панядзелачак у людзі пусціці.
Судзі, божа, здароваму схадзіці.

## 1156

Ой, борам, борам, барамі *
Ехала сватоўе радамі,
Старшанькі сваток напярод.
Ён хустай сваёй махаець,
Ён баярак сваіх здзяржаець:
— Станьце вы, баяркі, слухайце,
Ці зязюлька ў бару кукуець,
Ці салавейка шчабечаць?
Не зязюлька ў бару кукуець,
Не салавека шчабечаць,—
Гэта мая дзевачка песні пяець,
Шаўкову шырынку шыець
Кала ваконца проці сонца.
Кала вората — золата,
Кала падалочка — вастрочка.
— Гэта майму міламу сарочка.

## 1157

Ой, борам, борам, барамі *
Ехалі сваты шарамі.
Малады Мішачка напярод,

* Кожны радок паўтараецца.

Махнуў платочкам на народ:
— Стойце, баяры, слухайце.
Ці не голуб гудзіць на вадзе,
Ці не галубка на гняздзе?
Не голуб гудзіць на вадзе,
Не галубка на гняздзе,—
Гэта мая Раечка ў цераме,
Шыючы кашулю сабе й мне:
З белай белявы рукавы,
З белага таночку сарочку,
З тонкай паперы каўнеры.

## 1158

Федзечка са двара з'язджае,
На баяр шапачкай махае:
— Стойце, вы, баяры, слухайце.
Што ў тым цераме звонка гудзе?
Там мая Алечка песні пяе,
Шыючы, кроючы кашулю
З тонкага ўрубку кужалю:
З белае паперы — каўнеры,
З тонкае кітайкі — рукаўкі.
Чырвоным шоўкам строчыць —
Мне, маладому, гатовіць.

## 1159

Ай, борам, борам, барамі
Ішлі дарогі шнурамі.
А ехала казакоў сем палкоў,
А наперадзе сужанька.
Ён хустаю махаець,
Вараных конікаў здзяржаець,
Маладых казакоў пужаець:
— Стойце, баяры, слухайце.
Ці кукушка ў лясу кукуець,
Ці салавей у лазе шчабечаць.
— Не кукушка ў лесе кукуець,
Не салавей у лазе шчабечаць,—
Гэта твая дзеванька песенькі пяець,
У высокім цераме седзючы,
Вузкія намёткі шыючы.

З новага ляночка — сарочка,
З белыя кітайкі — рукаўкі,
З белай паперкі — каўнеркі,
Каля вората — золата,
Каля паясніцы — брушніцы,
Каля падала — шоўк зялён,
Накрухмалена крухмалом,
Каб яно стаяла калясом
Пад сужанькавым паясом.

### 1160

Ой, борам, борам, барамі
Ехалі сваты радамі.
Ой, пafераду сванька (сужанька)
Здаля годзь коніка сунімае,
На баяр хустаю матае:
— Стойце, баяры, слухайце.
Ці не голуб то гудзе на вадзе,
Ці не зязюлечка кукуе?
Гэта мая дзевачка песні пяе,
Шыючы кашулю матцы сваей:
З белага бяльца — рукаўца,
З крамнай паперы — каўнеры.
«Ой, шыла, шыла, не дашыла,
У Дунай іголку ўпусціла.
Трэба гэты Дунай капаці
Да сваёй іголкі шукаці,
Матцы кашулю дашываці».

### 1161

Ай, борам, борам, барамі
Ехалі сватоўя радамі.
Напярод жа ехаў жанішок,
Назад шапанькай махае:
— Стойце, пастойце, сватоўя.
Ці ў бару зязюля кукуець,
Ці ў лазе салавей шчабечаць?
Ета мая дзеванька плачаць,
Тонкую кашулю шыючы,
Яркую свячу палючы,
Цёмную ночаньку просючы:

«Цёмная ночанька, стой, пастой,
Ярая свечанька, пасвяці,
Грыгорку кашульку паспяшы:
Кала вората — золата,
Кала падала — серабра,
Кала каўняра — чорны шоўк».

## 1162

Ехалі сватове чарадом,
Малады Іванька пад перадом.
Здалёк конікі сунімае:
— Стойце, сваты, не пойце,
Ці ў бару зяўзюля кукуе,
Ці мая Адарка галасуе,
Ў вішнёвым саду седзячы
Да мне кашулечку шыючы?
Шые, шые, шлюбу́е
Да мне, маладому, гатуе.
Да годзі, Адарка, вышываць,
Да хадзем са мною шлюбу браць.
Ясныя зорачкі, блясцеце,
Блізкія суседзі, глядзеце,
Куда мае конікі забягуць.
Да забеглі конікі ў падолле,
На цесцюхнава падвор'е.

## 1163

Борам, борам, барочкам
Ехалі сваты радочкам.
Папераду малады Міколка
Паціхеньку коніка паганяе,
На баяр платочкам махае:
— Станьце, баяры, паслухайце.
Ці не голуб гудзе на вадзе,
А ці галубачка на гнязьдзе?
— А не голуб гудзе на вадзе,
І не галубачка на гняздзе,—
Гэта твая Кацечка песні пяе,
У новай святліцы седзячы,
Свёкарку кашулю шыючы.

## 1164

Да ехала сватоўе ўсе ў радку,
Маладзенькі Андрэйка ўперадку,
Уперадку.

Да скінуў шапачку, махае,
Махае.

— Стойце, сватове, слухайце,
Слухайце.

Ці не ў бары зязюлька кукуе?
Кукуе.

Ці не мая Ганначка гуляе?
Гуляе.

Шаўкову хустачку нашывае,
Нашывае.

Шые, ой, мне ўсё дротам,
Усё дротам.

А па беражочку ўсё злотам,
Усё злотам.

## 1165

Ды ехалі баяры радамі,
Напярод баяраў Ванечка.
На баяр хусткаю махаець:
— Стойце-пастойце, баяры.
Не кукушка ў лузе кукуець,
Не салоўюшка шчабешчаць,—
Там мая Мар'ечка песні пяець,
Пад акошачкам седзючы,
Дзіўныя ўзоры шыючы.
— Хто цябе, Мар'ечка, ўчыў-научыў?
— Учыла-наўчыла матушка,
Яшчэ родная сястрыца,
Пры цёмнай ночы, пры свячы,
Пад вакошачкам седзючы.

## 1166

Прыехаў Іванька к варотам,
А ў яго шапачка пад злотам,
А ў яго хустачка пад бокам:
— Пытайце, дзевушкі, пытайце,
Хто гэту хустачку шыў-вышываў.
— Шыла-вышывала Рыпіна
Пры цёмнай начы, пры свячы,
Пад вакошачкам седзючы,
На ясну зару гледзючы.
Як тая зоранька зарала,
Так хустачку вышывала.
Зарала зоранька ясненька,
Вышывала хустаньку красненька.
— Хто ж цябе, Рыпіна, вучыў-навучыў?
— Вучыла-навучыла матушка:
З вечара — рачамі,
К палуначы — з свячамі,
К белу свету — з слязамі.

## 1167

Ехаў Іваначка міма гарада́,
На ём хустачка ды ўся залата́.
Даганяйце яго ды пытайце,
Хто ж яму хустачку вышываў
Ды хто ж яму дараваў.
Вышывала хустачку Адарка
Ды пры цёмнай начы, пры свячы,
І к яркаму сонцу, к ваконцу,
К беламу свету, к абеду.
— А я ж к абеду не еду,
А я к палудню не смею,
К позняму вечару паспею,
Сваю Адарачку заспею
Ды ў арловенькім вяночку,
Ды ў шаўковенькім платочку.

## 1168

Да ехалі сватоўе ўсе ў радку,
Ўсе ў радку.

Да адзін Іванка папярадку,
Перадку.

Скінуў шапачку, махае,
Махае:

— Стойце, сватове, слухайце,
Слухайце.

Што ў бару зязюля кукуе,
Кукуе.

А ў садзе салавейка шчабеча,
Шчабеча.

Там мая Волечка гуляе,
Гуляе.

Садовае яблыка качае,
Качае:

— Пакаціся, яблычка, ў рукаве,
Ў рукаве.

Да майму Іванку ў гасцінец,
Ў гасцінец.

## 1169

А борам, борам, як барком
Ляжала дарожка, як шнурком.
Ехала казакоў сем палкоў,
Малады Іванька напярод.
Здалеку конікаў здзяржаець,
На баяр шапачкай махаець:
— Стойце, баяры, слухайце,
Як мая Анютка песні пяець,
Па шырокаму двару гуляе,
Садовы яблычак качае,
Шаўковай хусценькай махае,
Мяне, малайца, дажыдае.

## 1170

Ой, борам, борам, як дымам,
А дарожачкаю, як шнурком,
Ехала казакоў сем палкоў,
Пасярод казачок Кірылка.
Ён хусткаю на баяр махае:
— Станьце вы, баяры, паслухайце,
Хто ў гэтым цераме звонка пяе,
Шыючы, кроючы кашулю мне,
А й пытаецца: «Ці не па мяне?»
— Па цябе, Аўгінька, па цябе,
Па тваю русую косачку
І па румянае лічыка.

## 1171

— Стойце, пастойце, сваточкі.
А што за шум у садочку?

Ці зязюля кукуець,
Ці салавейка шчабечаць?

— А не зязюля кукуець,
Не салавейка шчабечаць.

Малада Ніна галосіць,
У свае матулі благаславеннейка просіць.

## 1172

Ехаў сужанька ўначы,
Зачуў дзевачку плачучы.
— А не жаль коніка, што бяжыць,
Як жаль дзевачкі, што плачаць.
Няхай жа бяжыць да поту,
Няхай жа плачаць у ахоту.
Няхай жа бяжыць пацея,
Гэтага яна, молада, хацела.

## 1173

Каля саду, каля вінаграду дарожка.
Тудаю ехаў молад Сямёнка.
А прывязаў варанога каня к дубраве,
А сам пайшоў у сад-вінаград слухаці,
А што ў садзе-вінаградзе пташкі пяюць.
Аж яго дзевачка хустачку шыла-рубіла:
— Прынясі, божа, мойго Сямёнка, што люблю,
Дарую яму хустачку, што рублю.

## 1174

Вумненькі да разумненькі дзяціна:
Прывязаў каня к зялёнаму явару,
Сам пайшоў сівой зязюлі слухаці.
— Мне здаецца, сіва зязюля кукуе,
Мая дзевачка хустачку рубіць, спявае:
«Прынясі, божа, таго паніча, што люблю,
Дарую яму гэту хустачку, што рублю».

## 1175

Чэраз гай дарожанька ляжала
І зазуленька кавала.

— Каб жа мне хто зазулю паймаў,
Я б яму сто чырвоных разам даў.

— То, Іванка, не зазулька кавала,
То ж Тацянка ружны песні спявала.

У каморы на прыбою сядзела,
Чорным шоўкам кашулю шыла.

## 1176

Ехалі баяры ў рад,
Малады Ванечка пад перадам,
Зняўшы шапачку, махае:
— Стойце, баяры, слухайце,

Што ў шчырым бары кукуля кукуе,
Там Галечка вянкі ўе,
Да мяне, маладога, пісьмы шле.

### 1177

А ехаў Несцерка кой-куды,
Здалёку коніка сунімаў,
На баяр хустачкай ды кідаў:
— Што ў гэтым бары звонка пяець,
Ці не мая Ганначка вянкі ўець?
Пакідай, Ганулька, вянкі віць,
Нямножачка табе ў таткі быць.
Толькі гэту ночку начавацъ,
А заўтра раненька выязджаць.

### 1178

Ой, у лесе, лесе кудравае дрэва стаяла,
На тым дрэве сіва зязюля кавала.
Тудэю ехаў малады малойчык граючы.
Ой, зачуў, зачуў сіву зязюльку куючы.
— Ой, пакінь, пакінь, сіва зязюлька,
кавацi,
Ці не пакіне мая дзеванька плакаці?
— Ой, не пакіну я, сіва зязюлька, каваці,
Ой, не пакіне твая дзеванька плакаці.

### 1179

Да ехала сватоўе ўсе радком,
Да адзін Колечка перадком.
Да скінуў шапачку, махае,
Ён жа сваё сватоўе сабірае:
— Да пачуйце, сватоўе, дзе зязюлька куе,
Там жа мая Ніначка жыта жне,
А за ёю ў жыценьку ляжыць часты сноп,
А за ёю сем казакоў, восьмы поп.

## 1180

Ляцелі журавы, ляцелі,
Ды адзін журавок ды папераду,
Ды назад крыллейкам махаець,
Ён сваіх журавоў здзяржаець:
— Памалу, журавы, памалу,
Тутацька рэчкі быстрыя,
Тутацька лясочкі цёмныя,
Кабы пер'ечка не ўраніць,
Кабы крыллейка не зламіць.

Ехала дружына, ехала,
Адзін наш Сяргейка ды папераду,
Ён назад хустаю махаець,
Ён сваю дружыну здзяржаець:
— Памалу, дружына, памалу,
Тутацька вулачкі цесныя,
Тутацька дзевачкі ўцешныя,
Тутацька вулачкі бойныя,
Тутацька дзевачкі ўборныя.

## 1181

За гарою, за́ новым местам
Стаіць жанішок з вялікім войскам.
Мовіць дзеванька, мовіць малада:
— Каб я была перапёлкаю,
То б я тое войска пералянула,
Я б тыя казачанькі пералічыла б,
Сваго жанішка вочкам пазрыла,
Я б на ёму шубы аглядала б.
Калі б тонка была, то я б бяліла,
Калі шоўкам не шыта, то я б нашыла,
То б я наняла свае швачкі,
Прамудры дружачкі.

## 1182

Каля краю, каля Дунаю
Ходзіць Цімошка ў жоўтым кажусе.
Маладая Матронка думку думае:

— Каб я была перапёлкаю,
Каб падляцела пад той кажушок,
Каб паглядзела там тонкай кашулі,
Што валынкі пралі, а падалянкі ткалі,
А белыя лебедзі бела бялілі,
Мудры швачкі харашо пашылі.
Як адазваўся малады Цімошак:
— Матронка мая, няпраўда твая.
Яе мая маценька так тонка прала,
А старша сястронка звонка выткала,
А сярэдальша бела бяліла,
А сама найменьша харашо пашыла,
А мая маценька на мяне ўзлажыла.

## 1183

Ой, рана, рана, раненька
Едзе Казюлька на вараным коніку.
На ёй кашулька тонка, бяленька,
З папе́рам раўненька.
Белыя лябёдкі харашо бялілі,
Маладыя малодкі харашо памылі.
Да што кажа Ганулька,
Што кажа малада:
— Ой, што б я мела буславы крылля,
То б я паляцела,
Свайго Казюльку ў белай кашулі
Я б паглядзела.

## 1184

А ў полі, полі пад калінаю
А стаіць сужанька із дружынаю,
Мечам падпёрся, шатром пакрыўся.
А на ём кашуля вельмі дзіўная:
А валынкі пралі, падалянкі ткалі,
А белыя лябёдкі а бела бялілі,
Харошыя швачкі харашо пашылі,
А яго сёстры на яго ўзлажылі.
А зачула тое дзевачка яго:
— А каб я мела а цяцер'я пер'я,
А цяцер'я пер'я, а саколля крылля,
Я б паляцела, я б паглядзела,

Тую кашулю сама зрабіла,
Тоненька спрала, часценька ткала,
Часценька ткала, а бела бяліла,
Харашэнька пашыла й на яго ўзлажыла.

## 1185

Калі б я была шэрай зязюляй,
Паляцела б я Лукашку пад шубачку,
Пагладзіла б а ў Лукашкі кашулечку,
А чы беленька, я чы тоненька ў Лукашкі
кашулечка.

Так тоненька, як кляновая лісцінaчка,
Так беленька, як белая паперачка.

## 1186

З крутых гор ехаў Колечка,
З крутых гор.
Пад ім конічак, як арол,
Ля боку шабелька, як агонь,
На шыі хустачка, як сонца.
Заглянула Манечка ў ваконца.
А вітайце яго, вітайце,
А пытайце яго, пытайце:
Хто яму коніка гадаваў,
Хто яму шабельку шараваў,
Хто яму хустачку вышываў.
Гадаваў коніка татка яго,
Шараваў шабельку братнейка,
Вышывала хустачку сястрыца.

## 1187

А ехаў жанішка цераз бор,
Пад ём конічак, як арол,
На ім шапачка, як агонь.
А ў яго татачка пытае:
— Хто ж табе, сыночак, шапку даў?
— Дараваў мне, татка, рускі цар,
Каб я ў полі войска мятаў,
А белую Літву зваяваў,
Красную дзевачку к сабе ўзяў.

## 1188

Ай, борам, борам, барамі
Ехалі сватове радамі.
А ўсе сватове ў зялёным,
Адзін у чырвоным,
На ём шапанька ярая,
Яна з ярымі цвятамі
І з шаўковымі лентамі.

## 1189

Цвіў гарох у тры пяры,
Чырвона ружа — ў чатыры.
Ехаў Барыска на кані —
У яго конічак вараны,
У яго шапачка лісова,
У яго шубачка кунёва.
Яго долечка шчасная —
У яго Саламейка красная.

## 1190

Сядзіць жа Жэнечка, што князёва дзіця,*
На ім жа шубачка да як жар гарыць.
На галоўцы шапачка да як мак цвіціць,
Пад ім жа конічак да як птах ляціць.

## 1191

Звонка сасонка, што ў бару,
Служыў Іванка каралю.
Выслужыў каня-варанца,
А на тым каню сядзельца,
А ў тым сядзельцу тры свячы.
Ехаў Іванка з паўначы,
Дастаў Манечку не спячы,
Да над машынкай седзячы,
Белу кашульку шыючы.
Ой, шый, шый, гафтуй,
Свайму Іванку рыхтуй.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 1192

А тонка-звонка сасонка,
А рана-рана, сасонка.*
Затое тонка, што ў бару,
Служыў Антонька каралю,
А служыў, служыў да году,
Выслужыў шубу да долу,
А служыў, служыў да канца,
Заслужыў каня-варанца,
А сеў паехаў да вянца.

## 1193

Стаяла сасонка ў бару,
Служыў дзяцінка ў двару.
Выслужыў сабе тры свячы,
Паехаў жаніцца ўначы.
Пад сасонкай станавіўся:
— Сасонка мая зялёная.
Галоўка мая бедная,
Што мае конікі не п'юць, не ядуць,
Толькі стоячы ірзуць.
Зачула, пачула дзевачка:
— Ой, не журыся, дзяцінка.
Я тваіх конікаў напасу
У вячэрняй зары у яры,
А ў ранней зары ў аўсе,
На ціхі Дунай піць зваджу,
Накладу ім сена па пуза,
Насыплю ім аўса па персі.
Калі яны той авёс паядуць,
Тады мяне, дзевачку, павязуць.

## 1194

Заклапаціўся Іванька,
Паўдарожанькі ўехаўшы,
Пад сасоначкамі стаіўшыся:
— А сасонка мая зялёная,
А галоўка мая бедная.

* Прыпеў «А рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

А хто маіх конікаў напасець
Па ранняй зары па расе,
А ў чыстым полі у аўсе?
Адкуль узялась Дарутка:
— Не клапаціся, Іванька.
Я тваіх конікаў напасу
А па ранняй зары па расе,
А ў чыстым полі ў аўсе,
Звяду на Дунай напаю,
Прывяду на стойла, пастаўлю,
Накладу сена па калена,
Насыплю аўса да паяса.
Ешце, мае конікі, не ржыце,
Толькі нас, маладых, вязіце
Пад тую гару крутую,
Пад тую цэркаў божую.

## 1195

Ай, затужыўся старшы брат,
У поўдарожкі ўехаўшы,
Пад сасонкай стоячы:
— А сасонка мая зелена,
А галоўка мая бедная,
Што мае конікі не п'юць, не ядуць,
Не п'юць, не ядуць, толькі рзуць.
А пачула тое малада Праскоўка:
— Не тужы, не бядуй старшы сват.
Я тваіх конікаў напасу
На ранняй расе ў ваўсе,
На вячорнай зарэ ў ячмяне.
Паганю цераз сад-вінаград,
На ціхім Дунаю напаю,
У новую стайню заганю,
Насцялю сена па калена,
Насыплю аўса аброку.
Ядзіце, коні, мой аброк,
А вязіце мяне ў свой бок.

## 1196

Ай, задумаўся Толечка,
Паўдарожанькі ўехаўшы,
Пад сасонкай стоячы:

— Галоўка мая бедная,
Што мае конікі так стаяць,
Не п'юць, не ядуць, а ўсё ржуць.
Зачула-пачула Галечка:
— Не тужы, не бядуй, Толечка.
Я тваіх конікаў напасу
На ранняй расе ў аўсе,
На вячэрняй зарэ ў траве,
На ціхім Дунаі пакупаю,
У новую стаенку завяду,
Насыплю аўса паўпаяса,
Накладу сена па калена.
Ешце, мае конікі, не ржыце,
Маладога Толечку не тужыце.
Малады Толечка загуляўся,
На мяне, маладу, спадзяваўся,
Малады Толечка ўпіўся,
На вас, конікі, забыўся.

## 1197

Заклапаціўся Якубка,
Уехаўшы палову дарогі,
Што коні яго не п'юць,
Не ядуць і не едуць.
Пачуў гэта татанька:
— Не клапаціся, Якубка.
Я тваіх конікаў зберагу,
На новую стаеньку заганю
І насыплю аўса паўпаяса,
І чорным сукном накрыю,
Штоб Якубкі конь значан быў,
Паміж сто канёў паловых
І тысячы вароных,
Штоб Якубкі конь значан быў.

## 1198

Чэраз сад да вішнёвенькі
Бяжыць конь да вароненькі.

Не сам ён выбягае,—
Ванечка да выязджае.

Ванечка да выязджае,
Пад ім конік гуляе.

На ём шапачка ззяе,
Яго цёшча да не ўзнае.

— Манечка да дарагая,
Пераймі каня майго.

Пераймі каня майго,
Развесялі мяне, маладога.

— Рада б я да пераняці,
Не вяліць бацька, маці.

Не вяліць бацька, маці
Твайго каня пераймаці.

— Манечка дарагая,
Не слухай бацька, маці.

Не слухай бацька, маці,
Слухай мяне, маладога.

Слухай мяне, маладога,
Пераймі каня маёга.

Слухай пужачкі-дратаваначкі,
Свякроўкі-мяшчаначкі.

Пужачка дратаваць будзе,
Свякроўка пасылаць будзе.

Свякроўка пасылаць будзе,
Манечка выбягаць будзе.

1199

Зялёнае гарэхаўе
Да на тын палягала,
З-пад таго гарэхаўя
Сівы конь выбягае.

Да за нім жа Іванька,
Хустачкай махаючы.
[Хустачкай махаючы,]
Каня даганяючы.

Да на новым ганачку
Там стаяла Мар'ечка.
— Мар'ечка, душа мая,
Пераймі каня майго.

— Рада б пераняці,
Да баюся мамачкі.
Мамачка ў аконцы сядзіць,
Розачку ў руках дзяржыць.

Канчучок ля парога
Для зяця маладога.
Розачка ў руках
Для каня варанога.

## 1200

Чэраз гай зеляненькі
Ляцеў конь вараненькі,
Павады урываючы,
Сядзёлкі скідаючы.

Міленькі ў пагон ляціць,
Шапачку ў руках дзяржыць.
— Маруся, душа мая,
Пераймі каня майго.

— Рада б я пераняці,
Ды баюся мамачкі.
Мамачка ў акне стаіць,
Розачку ў руках дзяржыць.

— Да Маруська маладая,
Да й не бойся нікога,
Да й не бойся нікога,
Да й мяне, маладога.

## 1201

А цераз гай зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі.
А за канём і шагом, і бягом
Мальчышка маладзенькі:

— Ты дзяўчына і душа мая,
Перайлі каня майго,
Каня майго варанога,
А мяне маладога.

Каня майго за абротачку,
А мяне за ручачку.
Каня майго у стаеньку,
А мяне ў хатачку.
Каню майму сена аброк,
А мне, маладому, вянок.

## 1202

Цераз сад зялёненькі
Бёг конь вароненькі,
А за тым конікам
Жанішка маладзенькі.
А забачыў дзявіцу
На высокім ганачку:
— Дзевачка-панначка,
Перайлі маго каня,
Ці не будзеш ты мая?
— Жанішка маладзенькі,
Рада б я пераняць,
Дык баюся татачкі.
— Дзевачка-панначка,
Не бойся татачкі,
Не бойся татачкі,
Пабойся бога.
Пабойся бога
І мяне, маладога.
Мяне маладога,
Бізунка рамяннога.
— Жанішка маладзенькі,
А яшчэ ж ты не жаніўся,
Бізуном пахваліўся.

## 1203

Цераз бор, цераз бор зелянюсенькі
Бяжыць конь, бяжыць конь варанюсенькі,
А за ім Міхалка маладзюсенькі.
Перад ім Хадоска ваду брала.
— Хадоска, душа, пераймі каня.
— Міхалка, панок мой, не перайму.
Баюся, баюся роднага таткі.
— Не бойся, Хадоска, свайго татунькі,
Пабойся ж мяне, маладога,
Майго кунчука раменнага,
Майго славечка адменнага.
— Яшчэ ж ты мяне, Міхалка, не карміў, не паіў,
Што жы ты мне, маладзе, кунчука пасуліў.

## 1204

Чэраз гай зеляненькі
Бяжыць конь вараненькі,
А за ім сугон погань
Малады Антонечка.
Там дзяўчыненька ваду брала,
На коніка паглядала.
— Дзяўчыненька, душа мая,
Пераймі каня майго,
Майго каня буланага,
А самога каханага.
Майго каня варанога,
Самога мяне, маладога.
Майго каня пляснівага,
А самога мяне, шчаслівага.
— Я не ў бору радзілася,
Не на мяжы паспявала.
Я ў мамулькі радзілася,
У татулькі кахалася,
Антонечку дасталася.

## 1205

Чые гэта конікі
Рана на луг пушчаны,
Серабром падкуты,

Золатам папутаны?
Пецевы конікі
Рана на луг пушчаны,
Серабром падкуты,
Золатам папутаны.
— Ніначка, душа мая,
Пераймі каня майго.
— Рада я пераняці,
Ды баюся мамачкі.
Мамачка ў акне сядзіць,
Розгачку ў руках дзяржыць.

## 1206

Да чэраз гай да зеляненькі
Да бяжыць конь да вараненькі.
Да бяжыць конь да вараненькі
Да без сядла а без аброці,
Да без залатога пуцечка,
Без маладога жанішка.
А за ім малады жанішок, (2)
Ой, канчучком махаючы,
А й галаском склікаючы.
Да забачыў сваю дзевачку
Да й у вішнёвым садочку.
Да й у вішнёвым садочку,
Да й у руцяным вяночку.
— Да дзевачка, да душа мая,
Да пакінь жа вянка віці.
Да пакінь жа вянка віці,
Да памажы да каня ймаці.
Як коніка жнеймемо,
То табе ж вяночка саўемо.

## 1207

Кланялася вольха зялёнай бярозе.
Будзе наш Іванка ў далёкай дарозе,
Не адзін ён будзе — паедзе з гасцямі.
А яго Валечка чакае з дзяўкамі.
То сукенкі гладзіць, то дружочкі садзіць,
На вулачку выйдзе: ці Іванка едзе?
Ой, едзе ўжо, едзе ды Іванка п'яны.

— Ой, пусці на дворык, Валечка, Валіна.
— Не ёсць я Валіна, не буду Валіна,
А пры тваім дому буду гаспадыня,
А пры тваёй клеці ключнічкаю буду,
Табе ж, маладому, навек жаной буду.

## 1208

Борам, борам, баравінаю
Хто там едзе вечарынаю?

Едзе, едзе Цімошка п'яны:
— Адчыніся, Матронка, твой каханы.

— А я не адчынюся, бацькі баюся,
Цябе, маладога, саромеюся.

Цябе, маладога, саромеюся,
Перад табою лістком сцялюся.

— Сцялю сцежачкі між дарожачкі,
Паеду, Матронка, да варожачкі.

Варожка варожа, праўды не кажа,
З кім мая Матронка спаці ляжа:

Чы са мною пад пярынаю,
Чы з казакамі пад ялінаю,

Пад ялінаю шышкі яловы,
Пад пярынаю падушкі пуховы.

Пад ялінаю вецер павее,
Пад пярынаю сэрданька млее.

## 1209

Ой, пад борам, баравінаю
Чый то сын едзе вечарынаю?

Ой, едзе, едзе Іванька п'яны:
— Адчыні, Ганначка, свой двор.

— [Ай,] каханы, я не адчынюся,
Бо бацькі баюся.

— Не бойся бацькі, бойся свякраткі,
Мяне маладога, канчучка драцянога.

Будзе мой канчучок ўгору лятаці,
Будзеш мяне, Ганначка, салавейкам зваці.

## 1210

Ай, борам, борам, баравінаю
А хто ж там едзець вечарынаю,
Вечарынаю із лучынаю?
Ай, едзець, едзець Грышачка п'яны:
— Адчынісь, Маланка, я твой каханы.
— Я не адчынюся, бацькі баюся.
— А не бойся бацькі, а пабойся мяне,
А не так жа мяне — нагайкі мае.
А мая нагайка з шоўку сплецена,
З шоўку сплецена, з дрота здрочана.
А мая нагайка і б'ець і дзярэць,
І б'ець і дзярэць, плакаць не даець,
Плакаць не даець — к сярдзечку гарнець.

## 1211

Ой, борам, борам да барынаю, *
Да хто ж там едзе да вечарынаю?
Ой, едзе, едзе да хлопчык п'яны:
— Адчыніся, дзевачка, я твой каханы.
— А ж не адчынюся, таткі баюся.
— Я твайму татачку нізенька скланюся.
У цябе, маладой, да нанач прашуся.
Ноч начаваці — цябе таргаваці.
За русую касу тры тысячы плачу,
Цябе, маладую, дадому ўзяць хачу.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 1212

Ой, борам, борам, баравінаю
А хто там едзе вечарынаю?

Ой, едзе, едзе малойчык п'яны:
— Адчыні, паненка, я твой каханы.

— Я не адчынюся, бо мамкі баюся.
— Я тваёй маме нізка скланюся,
Я тваёй маме лістом сцялюся.

Да ой, лістом, лістом, лістом кляновым,
Ой, зяцем, зяцем, зяцем дамовым.

## 1213

Борам, борам да баравінаю
А хто там едзе той далінаю?

Едзе, едзе Мікалайка п'яны:
— Адчыніся, Марынка, я твой каханы.

— Не адчынюся, маткі баюся,
Да перад табою лістам сцялюся.

Лістам, лістам, ёй, клянёхенькім,
Перад табою, маладзёхенькім.

Лістам, лістам, усё сінім паперам,
Перад табою, маладым жаўнерам.

## 1214

Ай, борам, борам, баравінаю
А хто ж там едзець вечарынаю?

Ай, едзець, едзець Іванька п'яны:
— Ай, адчыніся, Гапуська-паня.

— Я не адчынюся, мамкі баюся,
Перад табою нізка скланюся.

Перад табою, перад жаўнерам,
Перад жаўнерам, чорным каўнерам.

— Што ж ты, Гапуська, дужа смушчона,
Верна ты, Гапуська, ужо заручона?

Учора была, як рожа цвіла,
Сягоння стала, як мята звяла.

Пайдзем жа, Гапуська, да майго сада,
Дам табе яблыкаў, дам табе грушак,
Дам табе грушак повен хвартушак.

Для цябе святліца ўся гонтам крыта,
Для цябе спадніца ўся злотам шыта.

## 1215

Расшнураваўся ды чаравічак на ножцы,
Збедаваўся ды наш брацейка ў дарожцы.
— Думай, думай, ды наш брацейка, едучы,
Што ж нам казала наша мамачка седзячы.
Яна ж казала адну ночачку начаваць,
А на другую з нявестачкай прыязджаць.

## 1216

Ой, борам, борам, барамі
Ехалі сваты радамі.
Пераехалі шчыры бор,
А заехалі ў вінны двор.
Вінны дварочак Лявонька,
Маладая шынкарка Тацянка.
Віном кубачкі налівала
І сваіх госцічкаў трактавала.

## 1217

Пад'язджаючы пад сяло,
Заіграйце, музыкі, весяло,
Штоб наша Манечка не спала,
У скрыні трубачкі шчытала,

Вешала набожнічкі на бога,
Каб нам не была трывога:
Вараному коніку ў дарозе,
Маладому Пётрачку на куце.

## 1218

Ехалі сваткове цераз бор,
Рубалі дзерава, да ўсё клён.
Цясалі цесенькі тонкія,
Рабілі скрыпачкі звонкія.
Зайграй, скрыпачка, галосна,
Заплач, Матронка, жалосна
Па сваёй касе русай
І па бацькавай раскошы,
І раненькаму ўляганню,
І па позненькаму ўставанню,
І па смачнаму сняданню.

## 1219

Іграйце, скрыпачкі, весяло, *
Пад'язджаючы пад сяло,
Пад тое сяло новае.
Не ўвайціць у яго, не ўехаць,
Не саколікам ўляцець,
Сваёй саколкі паглядзець.
Як выхваліўся Архіпка:
Я ў яго ўвайду і ўеду
І саколікам ўлячу.
Сваей саколкі пагляджу,
Рыпіну за ручку падзяржу.

## 1220

Ой, заржы, заржы, сівы konічак,
Рана на пашу ідучы.
Чы ж не пачуе мая дзяўчына,
У саду вяночкі уючы?
Як пачула, важка затхнула,
Жаласна заплакала.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 1221

Заржы, заржы, вараны каню,
Цераз круту гору йдучы,
Каб зачула сэрца-дзяўчына,
У саду вянка уючы.
Конічак заржаў, аж бор задрыжаў,
Дзяўчынанька пачула.
Як пачула, цяжка ўздыхнула
Ды горка заплакала.

## 1222

Ой, заржы, заржы, сівы конь, *
Ды няхай зачуе свёкар мой,
Ды няхай страчае ў вароцях,
З зялёным віном за дваром,
З шчасцем, з доляй за сталом.

## 1223

Пад'язджалі мы
Пад сяло.
Зайграй, дудачка,
Весяло.

Зайграй, дудачка,
Весяло,
Штоб наша сяло
Весяло было.

Штоб наша сяло
Весяло было,
Штоб наш каравай
Зелен быў.

Штоб наш каравай
Зелен быў,
Штоб наш малады
Весел быў.

* Кожны радок, акрамя першага і апошняга, паўтараецца.

## 1224

Пад'язджаючы пад сяло,
Зайграй, дудачка, весяло.
Умныя рабяты-баяры,
Бярыце ружжы-грамады,
Пушчайце стралу па сялу,
Прабівайце сцяну камяну,
Бярыце Мар'ечку маладу.
Каменная сцяна гніць будзець,
Маладая Мар'ечка жыць будзець.

## 1225

У чыстым полі дарожачка-чарназём, *
А там ехаў молад Пецечка чарнаброў.
Ажыдала яго Надзечка ў цераме.
— Ці заедзець мой Пецечка да мяне,
А ці мае злота-серабра пры сабе,
Ці заплаціць маей мамульцы за мяне?
— А хоць жа я маю злота-серабра пры сабе,
Але ж так вазьму, мая Надзечка, да сябе.

## 1226

Каля саду зямелечка-чарназём, *
А туды ехаў молад Лёнечка чарнаброў.
А як зачула яго Анечка з церама:
— Заедзь, заедзь, молад Лёнечка, ты сюда,
Я найму табе і скрыпачку-ігруллю,
Пасаджу лі цябе адну свацціцу-пяюллю.
Скрыпачка будзець усю ночку іграці,
А свацціца ўсю дарожаньку пяяці.

---

* Кожны радок паўтараецца.

1227

Сонейка-матушка каля лесу йшло,
Бліжэй таго Гануля каля рэчушкі,
Клікала-гукала перавоз сабе:
— Хто гэтай рэчушкі перавоз дзяржыць?
Адклікнуўся-адгукнуўся ей Якушка:
— Я гэтай рэчушкі перавоз дзяржу,
Пагадзі, Гануля, паром-лодку прышлю.
— Я ў бацькі на лодках не езджывала,
Вясёльцаў у руках я не дзержывала.
— Пагадзі, Гануля, калін мост пакладу.
— Я ў бацькі па мастах доўга хаджывала.
— Я табе, Гануля, тройку коней прышлю.
— Я ў бацькі на конях доўга езджывала,
Вожжы ў руках доўга дзержывала.
— Я к табе, Гануля, сакалом прылячу.
— Я к табе, Якушка, перапёлачкай.
Мяціце двор вы мяцёлачкай,
Ляціць сакол з перапёлачкай.

# МУЗЫЧНЫ ДАДАТАК

Запоіны, заручыны, зборы маладога ў дарогу і яго ад'езд да маладой — першыя значныя этапы вясельнага рытуалу, з якіх пачынаецца сцвярджальная роля абрадавых вясельных песень. Напевы гэтых песень розныя па ступені абагульненасці і характару гучання. Але ў цэлым зборы маладога ў дарогу і сама дарога да маладой складаюць святочна-прыўзнятую сферу, запоіны і заручыны — пераважна журботна-лірычную, хаця многае тут залежыць і ад мясцовых песенных традыцый.

У музычным дадатку гэтага тома пададзены асобныя ўзоры такіх мелодый[1], якія складаюць сем тыпалагічных груп рытуальных вясельных напеваў: I — 1—6; II — 7—12; III — 13—14; IV — 15—16; V — 17—19; VI — 20—28; VII — 29—30. Поўны іх звод (з усімі варыянтамі, мелагеаграфіяй, шматпланавымі суаднасінамі з паэтычным бокам песні) будзе змешчаны ў асобным выданні.

Найбольшай абагульненасцю адрозніваюцца тыповыя напевы «як малады збіраецца ў дарогу і едзе да маладой». Для іх характэрна групавое прымацаванне тэкстаў рознага зместу з усіх этапаў вясельнага рытуалу (ад яго пачатку да завяршэння).

Для тыповых напеваў запоін і заручын побач з абагульненасцю ўласцівы ў нейкай меры індывідуалізацыя і спецыфізацыя. Сярод такіх спецыфічных падгруп вылучаецца адна з тыповым паэтычным зачынам-жальбай «Ой, каб я знала, каб я ведала» (№ 29) і напевамі, якія ўяўляюць сабой характэрныя ўзоры традыцыйнай абрадавай лірыкі. Вядома, што на заручынах і запоінах спяваюць таксама лірычныя, у строгім сэнсе слова неабрадавыя песні з вясельнай тэматыкай. Адзін з напеваў такіх песень прыводзім у гэтым музычным дадатку (№ 31) як узор шматгалоснай заручыннай песні больш позняга гістарычнага паходжання.

*З. Я. Мажэйка*

---

[1] Парадкавыя нумары напеваў прастаўлены з левага боку нотнага прыкладу, парадкавыя нумары паэтычных тэкстаў да дадзеных напеваў — з правага.

1 785

♩=66



2 175

♩=69

783

3


♩=80
1. За ля_ сом со_ ней_ ка і_ гра_ ець,


за_ ля_ сом со_ ней_ ка і_ гра_ ець.


2. Са_ ша_ чка ко_ ні_ ка ся_ дла_ ець,


Са_ ша_ чка ко_ ні ка ся_ дла_ ець.


3. А ў я_ го ма_ ма_ чка пы_ та_ ець,


а ў я_ го ма_ ма_ чка пы_ та_ ець.

4 601


♩=73
1. Кры_ кнуў ба_ ра_ вік па ба_ ру,


кры_ кнуў ба_ ра_ вік па ба_ ру:


2.-Са_бі_рай_це_ ся, гры_ бо_ чкі, на вай_ ну,


са_бі_рай_це_ ся, гры_ бо_ чкі, на вай_ну.

5 1157


♩=70
1. Ой, бо_ рам, бо_ рам, ба_ ра_ мі,


ой, бо_ рам, бо_ рам, ба_ ра_ мі


2. Е_ ха_ лі сва_ ты ша_ ра_ мі,


е_ ха_ лі сва_ ты ша_ ра_ мі.

1156

6




1. Ой, бо_ рам, бо_ рам, ба_ ра_ мі,




ой, бо_ рам, бо_ рам, ба_ ра_ мі




2. Е_ ха_лі сва_ тоў_ я ра_ да_ мі,




е_ ха_лі сва_тоў_ я ра_ да_ мі.

8

7




1.(і)Ой, на мо_ ры да й на ка_ ме_ ні,



ой, на мо_ ры́ да й на ка_ ме_ ні




ку_ па_ лі_ ся да два ян_ гол[ы].




2.(і) Ку_ па_ лі_ ся да га_ ва_ ры_ лі,

ку- па- лі- ся да га- ва- ры- лі:

— Па- ля- ці- мо на ва- ру- чын [ы].

8 8

♩=68

1. Ой, на мо- ры на сі- ню- се- н(і) - кім,

ой, на мо- ры на сі- ню- сень- кім,

на ка- ме- ні на бя- лю- сень... [кім].

2. Там ста- я- лі два ян- го- лы,

там ста- я- лі два ян- го- лы,

я- ны ста- я- лі да га- ва- ры... [лі].

9


♩=70
1. Пры_ е_ ха_ лі за_ ру_ чан_ ней_ кі,


ка_ го ж я_ ны за_ ру_ чаць бу_ дуць,


ка_ го ж я_ ны за_ ру_ чаць бу_ дуць.


2. Ма_ не_ чкі до_ ма не_ ту,


Ма_ не_ чкі до_ ма не_ ту,


ў са_ ду ві_ шань_ кі шчы_ пліць,


ў са_ ду ві_ шань_ кі шчы_ пліць.

10 27

♩=80-84



















11 796

♩=68






13

648, 625
















14

1052












2. Ва- не- ч(ы)- ка ха- ро- шы,

Ва- не- ч(ы)- ка ха- ро- шы,

Ва- не- чка пры- го- жы,

Ва- не- чка пры- го... [жы].

405

15

♩=82

1. Ма- мань- ка Ва- сень- ку пры- бі- ра- ла,

ма- мань- ка Ва- сень- ку пры- бі- ра- ла.

2. Гла- дзень- ка га- лоў- ку за- ча- са- ла,

гла- дзень- ка га- лоў- ку за- ча- са- ла.

921


♩=69
1. А па- е- хаў Ле- не- чка


жа- ні- ці- ся,


а па- е- хаў Ле- не- чка


жа- ні- ці- ся.


2. А за- быў- ся ма- муль- цы


скла- ні- ці- ся,


а за- быў- ся ма- муль- цы


скла- ні- ці- ся.

19 662.

♪≈168

1. Ля но_ ва_ га ка_ ло дзе_ зя

Лё_ не_ чка ка_ ня па_ іў.

2. Лё_ не_ чка ка_ ня па_ іў,

конь я_ го ва_ ды не піў.

20 1112.

♪=132

1. Ой, да бег зай_ ка цё_ мным лу_ жэ_ чкам,

во_ чкі трэ,

е_ хаў Ва_сіль_ка (й)це_ раз ме_сяе_ чка

(з)зай_ ку б'е.


2. Ой, за што, за што, ма_ла_ ды Ва_сіль_ ка,


ме_ не б'еш?


Ой, ці я ж тва_е ва_ра_ ны_ я ко_ ні


па_ пу_ дзіў,


ой, ці я ж тва_ ю ма_ла_ду Ма_ рус_ку


(й) па_ гу_ дзіў.

♩=63

1. (і) Зя_ ле_н (ы)-ма_ ле_ н (ы) па ба_ ло_ цей_ ку

па_ слаў_ ся,

2. Ма_ ла_ ды Ко_ ле_ чка да ў да_ ро_ жа_ ньку

са_ браў_ ся.

3. (і) Там я_ го ма_ ту_ ля ў ва_ ро_ ці_ ч(э)_ ках

ста_ я_ ла,

свай_ го сы_ но_ чка у да_ ро_ жа_ н (і) _ку

не пу_ ска_ ла.

24 751

1. А на два- рэ дро- бны дождж і- дзе, ма- кро- та,

і- вань- ку е- хаць у да- ро- жа- чку а- хво- та.

2. Я- го ма- ма- чка у ва- рот ста- іць, не вя- ліць:

—Не едзь, не едзь, мой сы- но- чак, — ма- кро- та.

25 205

♪=142

1. Да ў нас сён- ня ўсе за- по- ві- нкі бы- ва- лі,

да й мы сён- ня да й та- ва- ры- шку пра- пі- лі.

2. Не бу- дзе ль з на- мі па кі- рма- шы- ку ха- дзі- ці:

не бу- дуць я- е ка- ва- ле- ры- кі лю- бі- ці.

872

26

♩=150

1. Па- ра, па- ра, шэ- ры са- ла- вей- ка,

вы- ля- таць,

па- ра, па- ра, (і) шэ- ры са- ла- вей- ка,

вы- ля- таць.

2. (і) Ці за- спе- еш сва- ю зя- зюль- ку

ў гня- здзе- чку,

ці за- спе- еш (і) сва- ю зя- зюль- ку

ў гня- здзе- чку.

27

468


♪=160
1. А ў да- ро- гу, мой бра- це- тка,


ў да- ро- гу,


а ў до- ро- гу, мой бра- це- тка,


ў да- ро- гу.


2. На- бі- рай з са- бой зло- та, се- ра- бра


па- мно- гу,


на- бі- рай з са- бой зло- та, се- ра- бра


па- мно- гу.

28


♩=69
1. А, у на- с(э) дм ў ва- с(э) а за- ру- ча- ні,


бог на- м(ы) даў,


ў на- с(э) да ў ва- с(э) а за- ру- ча- ні,


бо- г(э) на- м(ы) даў.


2. На- ша Зі- на- чка за- ру- ча- ец- ца,


бо- г(э) на- м(ы) даў,


на- ша Зі- на- чка за- ру- ча- ец- ца,


бо- г(э) на- м(ы) даў.

29 193

♪=138
















30 454

♪≈144









# СПІС АСНОЎНЫХ КРЫНІЦ І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ


Адраджэнне — Беларуская этнаграфія. Вясельныя песні.— Адраджэнне. Мн., 1922, № 1.

Аникиевич — А. Т. Аникиевич. Сенненский уезд Могилевской губернии. Опыт описания в географическом, историческом, этнографическом, бытовом, промышленном и статистическом отношениях... Могилев, 1907.

Анимелле — Н. Анимелле. Быт белорусских крестьян.— Этнографический сборник, вып. 2. СПб, 1854.

Бессараба — И. В. Бессараба. Материалы для этнографии Седлецкой губернии. СПб, 1903.

Булгаковский — Д. П. Булгаковский. Пинчуки. Этнографический очерк.— Записки РГО по отделению этнографии, т. 13, вып. 3. СПб, 1890.

Васильева — А. Я. Васильева. Свадебный обряд в районе Грабовской волости Мозырского уезда.— Минские губернские ведомости, 1877, № 32—34.

Гайдук — М. Гайдук. Беларускае вяселле на Беласточчыне.— Беларускі каляндар на 1964 г. Беласток, 1963.

Галубок — Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Склад. Э. В. Галубок, А. К. Калечыц, Н. О. Багдановіч. Мн., 1940.

Гарэцкі — М. Гарэцкі, А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі. Мн., 1928.

Гілевіч, 1973 — Песні сямі вёсак. Традыцыйная народная лірыка Міншчыны. Уклад. і рэд. Н. Гілевіча. Мн., 1973.

Гілевіч, 1974 — Песні народных свят і абрадаў. Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1974.

Гілевіч, 1979 — Лірыка беларускага вяселля. Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мн., 1979.

Гильтебрандт — П. Гильтебрандт. Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае, вып. 1. Вильна, 1866.

Дембовецкий — А. С. Дембовецкий. Опыт описания Могилевской губернии..., кн. 1. Могилев-на-Днепре, 1882.

Дмитриев — М. Дмитриев. Свадебный обряд в деревнях Новогрудского уезда.— Виленский вестник, 1861, № 26.

Добровольский — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. 2.— Записки РГО по отделению этнографии, т. 23, вып. 1. СПб, 1893.

Довнар-Запольский — Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов, собранных М. Довнар-Запольским, вып. 1. Песни пинчуков. Киев, 1895.

Е. П.— Народные белорусские песни. Собраны Е. П. СПб, 1853.

Запольский — М. Запольский. Белорусская свадьба и свадебные песни. Киев, 1888.

